УДК 398(=161.3)
ББК 82.3(4Беи)
К 69

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

Мастацкае афармленне серыі *У. П. Свентахоўскага*

Фота *Т. В. Валодзінай, А. П. Дрыбаса, І. Я. Клімковіч, А. М. Лабады, В. Г. Паўлаўца, Я. М. Сахуты*

**Корсак, В. У.**
К 69 Таямніцы беларускіх абярэгаў / В. У. Корсак. — Мінск : Беларусь, 2013. — 232 с. : іл. — (Серыя «Беларуская гісторыя»).
ISBN 978-985-01-1045-9.

Кніга прысвечана абярэгам — надзвычай цікавай з'яве ў традыцыйнай культуры беларусаў. Іх тэксты даюць магчымасць для вывучэння веры, светапогляду, маралі, каштоўнасцей беларускага народа. У даследаванні аналізуюцца матэрыялы, сабраныя фалькларыстамі за два апошнія стагоддзі на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Асаблівую цікавасць уяўляе раздзел, прысвечаны сучасным абярэгам.

Разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, культуролагаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай культурай.

**УДК** 398(=161.3)
**ББК** 82.3 (4Беи)

**ISBN 978-985-01-1045-9**

© Корсак В. У., 2013
© Выдавецтва «Беларусь», 2013

# ЗМЕСТ









Абярэгі, або апатрапеі, — своеасаблівая фальклорная з'ява, пачатак фарміравання якой адносіцца да часоў глыбокай старажытнасці, пераважна перыяду язычніцтва. Абярэгі настолькі моцна ўкараніліся ў жыццё як старажытных, так і сучасных людзей, што сталі цалкам натуральным яго элементам, падобна да тых патрэб чалавека, якія існуюць на падсвядомым узроўні.

Вывучэнне абярэгаў можа стаць крыніцай найкаштоўнейшых ведаў пра архаічную карціну свету, сістэму ўяўленняў і вераванняў беларусаў. Іх аналіз неабходны для ўзнаўлення цэласнасці жыццёвага ладу беларусаў, у якім яны адыгрывалі значную ролю. Менавіта ў абярэгах перасякаюцца сферы ўяўленняў, вераванняў і сімвалічнай рытуальнай дзейнасці чалавека.

Абярэгі разам з іншымі фальклорнымі з'явамі — неад'емная частка беларускай нацыянальнай традыцыі. Вядомы даследчык славянскага фальклору Ф. Буслаеў пісаў: «У самую раннюю эпоху свайго быцця народ мае ўжо ўсе найгалоўнейшыя духоўныя асновы сваёй нацыянальнасці ў мове і міфалогіі, якія знаходзяцца ў найцяснейшай сувязі з паэзіяй, правам, са звычаямі і нораваміі. Народ не памятае, каб калі-небудзь вынайшаў ён сваю міфалогію, сваю мову, свае законы, звычаі і абрады. Усе гэтыя нацыянальныя асновы ўжо глыбока ўвайшлі ў яго духоўнае быццё, як само жыццё, перажытае ім на працягу многіх дагістарычных стагоддзяў, як мінулае, на якім цвёрда захоўваецца цяперашні парадак рэчаў і ўсё будучае развіццё жыцця. Таму ўсе духоўныя ідэі для народа эпохі першабытнай складаюць яго свяшчэннае паданне, вялікую родную даўніну, святы запавет продкаў нашчадкам» [1].

У наш час прыходзіць разуменне таго, што абярэгі не з'яўляюцца нечым другасным, не вартым увагі даследчыкаў, а ўяўляюць сабой феномен, які ўплывае на фарміраванне светапогляду і менталітэту нашага народа.

# СУВЯЗІ АБЯРЭГАЎ З МІФАЛАГІЧНАЙ І АБРАДАВАЙ СІСТЭМАМІ

Абярэгі займаюць важнае месца сярод магічных рытуалаў. Іх лічаць часткай старажытных абрадаў. Яны маюць у сваёй аснове магічна скіраванае мысленне, веру і перакананне людзей, што з дапамогай пэўных дзеянняў можна паўплываць на ход падзей і аберагчы сябе і тое, што ўваходзіць у жыццёвыя інтарэсы, ад шкоды з боку варожых сіл.

Да абярэгаў маюць дачыненне старажытныя ўяўленні аб усеагульнай сувязі рэчаў і з'яў, а таксама ўяўленні аб пабудове свету, у прыватнасці, яго падзелу на тры ўзроўні. На абярэг як з'яву паўплывалі старажытныя вераванні, асабліва вера ў існаванне звышнатуральных сіл у выглядзе фантастычных істот і вера ў магію рытуалаў.

# МІФАТВОРЧАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Міфатворчасць і рытуальная дзейнасць беларусаў складае вялізны пласт нацыянальнай культуры, моцны ўплыў якой адчувае сучаснае грамадства. Стагоддзямі міфы і абрады рабілі значны ўклад у фарміраванне светапогляду, маралі, каштоўнасных арыентацый, рэгулявалі лад жыцця нашага народа.

Першабытныя вераванні, уяўленні і абрады звязаны з паняццем «язычніцтва». Старажытны чалавек спрабаваў зразумець навакольны свет даступным яму чынам, лічыў сябе неадасобленай яго часткай. Спосабам спасціжэння свету і асэнсавання чалавекам свайго месца ў свеце з'яўляецца міф.

Пакуль няма падстаў лічыць паняцце міфа цалкам вызначаным. Незразумелым дагэтуль застаецца, што такое міф, яго семантыка, сутнасць, функцыі. Па меркаванні Я. М. Меляцінскага, функцыя міфа заключаецца ў падтрыманні сацыяльнага і касмічнага парадку. Навукоўцы пагаджаюцца з тым, што міф уяўляе сабой узор, прыклад, мадэль для чалавечай дзейнасці, у першую чаргу — рытуальнай.

У фальклорных абрадах, рытуалах актуалізуецца касмаганічны міф аб ператварэнні хаосу ў космас, г. зн. неспарадкаванай пустэчы і цемры ў арганізаваную прастору і час.

Вывучэнне народнай міфатворчасці дае падставы даследчыкам гаварыць пра асаблівую свядомасць архаічных людзей — міфалагічны модус думання.

Мысленне першабытных людзей мела канкрэтна-вобразны характар, дзе вобраз (напрыклад, дамавіка, русалкі, чорта і г.д.) лічыўся існуючым, сапраўдным, прымаўся без неабходных доказаў, што стварала глебу для суіснавання ў свядомасці рэальнага і фантастычнага. Усё існае ўспрымалася як усталяванае звонку, першапачаткова і беспаваротна. Э. Б. Тайлар называў міфалагічнае мысленне «дзіцячай філасофіяй чалавечага роду».

Асноўным феноменам міфалагічнага мыслення з'яўляецца **анімізм** — адухаўленне прадметаў і з'яў прыроды. Напрыклад, сон, смерць лічыліся славянамі жывымі міфічнымі персанажамі; хваробы, якія ўзгадваліся ў абярэгах — ліхаманка, воспа, начніцы, крыксы, — часцей за ўсё прымалі аблічча істот жаночага полу. Адухаўляліся, персаніфікаваліся, анімізоўваліся, набывалі вобразнасць нават такія абстрактныя катэгорыі, як шчасце, гора, доля, бяда.

У цеснай сувязі з уяўленнем пра адухоўленасць усяго стаяць такія з'явы, як татэмізм і фетышызм.

**Татэмізм** — гэта вера ў існаванне пэўнай жывёлы ці расліны, якая нібыта з'яўляецца пачынальніцаю рода і ахоўвае яго. У Беларусі найбольш распаўсюджаныя татэмы каня, ваўка, мядзведзя, казы, вужа, бусла. Выбар татэма не быў выпадковым, а вызначаўся гаспадарчымі сувязямі і дачыненнямі людзей да жывёльнага свету. Татэмам пакланяліся, прыносілі ахвяры.











**Фетышызм** — гэта пакланенне неадушаўлёным (прыродным і рукатворным) прадметам, якім прыпісвалася валоданне звышнатуральнымі сіламі. Напрыклад, у жыцці старажытных беларусаў мела месца фетышызацыя зямлі ў выглядзе жмені, горкі і г.д., якія лічыліся святымі, валодаючымі чароўнай сілай, бо ў іх жыве дух боства. Гэтым можна растлумачыць і нашэнне некаторымі сялянамі і старадаўнімі воінамі на грудзях у хусцінках жменькі роднай зямлі ў далёкіх небяспечных падарожжах, сутычках з ворагам.

Анімізм, татэмізм і фетышызм былі першымі спробамі пазнання чалавекам навакольнага свету.

## СУПРАЦЬПАСТАЎЛЕННЕ ДАБРА І ЗЛА

Старажытны чалавек імкнуўся асэнсаваць важныя для яго супрацьпастаўленні (дабро — зло, жыццё — смерць, шчасце — няшчасце), а таксама тыя, у якіх заключаны асноўныя характарыстыкі свету (верх — ніз, правае — левае, поўнач — поўдзень, усход — захад).

Дабро ў асацыяцыях людзей звязвалася са святлом, сонцам, агнём, цяплом, нябёсамі, днём, вясной, летам, наземным жыццём, усімі светлымі і яркімі танамі, чысцінёй. Зло атаясамлівалася з падзямеллем, замагіллем, ценямі, нябожчыкамі, залюстранай прасторай, зімой, холадам, ноччу, цемрай, цёмным колерам, брудам, нечыстотамі. Таму так часта ў народнай творчасці, у прыватнасці ў абярэгах, сустракаецца матыў асвячэння, ачышчэння жыццёвай прасторы.

Супрацьпастаўленні выступалі ў якасці арыенціраў для мадэлявання свету старажытнымі людзьмі. Свае адносіны да свету архаічны чалавек праяўляў тым, што падзяляў прастору на «сваю» і «чужую», перш за ўсё ў гарызантальным вымярэнні.









«Свая» прастора канцэнтравалася вакол самога чалавека. Наладжваючы кантакты з наваколлем, ён засвойваў усё новыя тэрыторыі, якія пашыраліся ад дому, двара, сяла, поля, лесу да сусвету. Пры гэтым дом успрымаўся як цэнтр «сваёй» прасторы.

З іншага боку, сутыкаючыся з варожым для сябе асяроддзем, чалавек вымушаны быў умацоўваць межы засвоеных ім тэрыторый, найперш жыццёва важнай — свайго дому, які ператвараўся ў замкнёную, абарончую прастору. Калі ў выніку дзейнасці варожых сіл межы «сваёй» прасторы парушаліся, галоўным інструментам абароны выступаў абярэг, які прызначаўся дзейнічаць супраць небяспекі.

## ДРЭВА СУСВЕТУ

Да таго, як людзі назапасілі дастатковыя веды ў розных галінах навукі і жыцця і пераканаліся, што свет — гэта планета Сонечнай сістэмы, яны стварылі шматлікія міфы пра яго пабудову. Паводле аднаго, найбольш распаўсюджанага з іх, Зямля ўяўлялася як плоская паверхня пад купалам, што трымаецца на трох чарапахах, якія, у сваю чаргу, стаяць на кіце і г.д.

Накаторыя міфы дэманструюць найстаражытнейшыя меркаванні людзей пра трох'ярусную пабудову свету, дзе ўверсе — недаступнае неба, унізе — таямнічыя нетры зямлі. Але, самае галоўнае, стрыжнем светабудовы з'яўлялася гіганцкае дрэва, карані якога сыходзяць у «ніжні», «той» свет, а галіны — у «верхні», у неба. Гэтая першабытная канцэпцыя існавала яшчэ ў палеаліце і дажыла ў фальклоры да нашага часу.

Сусветнае дрэва — раслінны сімвал, які ўвасабляе ў сабе ўніверсальную карціну свету. Існуюць разнастайныя варыянты дрэва: Дрэва жыцця, Дрэва пазнання, Шаманскае дрэва і г.д.

Шматлікія малюнкі Дрэва сусвету знойдзены навукоўцамі шмат у якіх месцах. Але гэта не быў проста малюнак з натуры,







**Дуб Якуб.**
**Вёска Казлы (Нясвіжскі раён)**

таму што ў такім выпадку карані былі б схаваныя пад зямлёй. Гэта відарыс не расліны як такой, а свяшчэннага аб'екта, вынiку ўяўленняў чалавека. Вельмі важнымі часткамі гэтага вобраза з'яўляюцца крона і карані, якія сімвалізавалі сабой тыя сферы, якія былі непадуладны чалавеку.

На некаторых старажытных малюнках бачна, як чалавек узбіраецца па ствале незвычайнага дрэва наверх. Відаць, у зніклых старажытных міфах быў распаўсюджаны сюжэт узнясення на неба шляхам караскання па дрэве. Перамяшчэнні па дрэве з «верхняга» свету ў «ніжні» і наадварот складаюць аснову шматлікіх паданняў і казак.

Верхавінай сваёй Дрэва ўзыходзіць у неба, прадстаўнікамі якога, паводле старажытных паданняў, з'яўляюцца птушкі. Існуюць уяўленні, што ў вышэйшы, светлы,



**Пярун — захавальнік нябеснага агню**

добры свет адлятаюць душы памерлых у выглядзе крылатых істот альбо птаства зносіць туды душы. Птушка, па славянскіх вераваннях, да таго ж магла прыносіць у рэальны свет новую душу — немаўля. «Верхні», нябесны свет людзі ўспрымалі як месца знаходжання найчысцейшых, светлых, напоўненых святасці сіл.

няў, Пярун, галоўны беларускі божыч — валадар грому, маланкі, дажджу, — мае непасрэднае дачыненне да нейкага дуба, які стаіць на гары. Пярун расколвае дуб маланкай, бо ў дупле падчас навальніцы хаваецца чорт...

Дрэва сусвету нібы падзяляецца на зоны існавання чалавека і іншых істот: птушкі







**Дыванок «Алені». 1984 г. К. Русаковіч.**
**Вёска Рухава (Старадарожскі раён)**

Па гарызанталі Дрэва сусвету мадэлюе прастору, якая арыентавана па баках свету. Адпаведна ў розных мадэлях прысутнічаюць пяць дрэваў: адно — у цэнтры і чатыры па галоўных кірунках; або дрэва атачаюць чатыры жывёлы, чатыры боствы і г.д. Малюнак Дрэва сіметрычны: карані вельмі нагадваюць крону. На Дрэве і вакол яго здзяйсняюцца вельмі важныя падзеі: на ім жывуць душы ці сам Бог. Паводле паданжывуць у галінах, ля ствала — чалавек і капытныя жывёлы (алені, коні), а змеі, краты, чэрві, насякомыя і г.д. знаходзяцца між каранямі, якія сыходзяць у невядомыя глыбіні. Галіны дрэва ў асацыяцыях людзей звязваліся з сонцам, агнём, нябёсамі, а карэнне — з падземным светам.

Увогуле, усе месцы, блізкія да зямлі, «таго» свету, — балоты, ямы, равы, сутарэнні — «насяляліся» варожымі і цём-





нымі істотамі (пякельнік, кладнік, ох, жыж, чорт, праха і інш.). Жыццё ў замагільным свеце магло паўтараць наземнае, але часта ў інверсіі: калі на зямлі дзень — на «тым свеце» ноч, памёрлыя ходзяць дагары нагамі і г.д. Адсюль ідэя перавернутасці (дзеянні наадварот, апрананне не па правілах і інш.), якая часта фігуруе ў абярэгах як спосаб сувязі з іншым светам, да якога ў пэўныя моманты звяртаюцца па дапамогу.

Падземны свет — прыстанак, умясцілішча ўсяго злога, «нячыстай» сілы — быў, паводле старажытных вераванняў, яшчэ і валадарствам мёртвых, якія, як лічылася, мелі велізарны ўплыў на жыццё жывых і якіх прадпісвалася задобрываць, ушаноўваць і, галоўнае, памятаць дзеля захавання роду. Існавалі вераванні ў замагільнае жыццё, у тое, што памерлыя валодалі надзвычайнай сілай і маглі ўплываць станоўчым ці адмоўным чынам на паўсядзённае жыццё людзей.





**Калядныя маскі.**
**Вёска Новіны (Бярэзінскі раён)**

Шанаванню духаў продкаў прысвячаліся адмысловыя абрады і адводзіліся пэўныя даты календара. Вельмі распаўсюджаным у беларусаў быў звычай запрашэння памерлых за стол на Дзяды. Больш за тое, непрыход дзядоў на запрашэнне ўспрымаўся як кепскі знак. З'яўленне ж нябожчыкаў у свеце жывых у неазначаны традыцыяй час, на думку тагачасных людзей, прыносіла вялікую шкоду. Клопаты пра памерлага, неабходнасць забяспечыць яго «на тым свеце» патрэбнымі рэчамі спалучаліся з неабходнасцю зрабіць усё магчымае, каб засцерагчы сябе ад неспрыяльнага ўздзеяння продкаў.

Усё кепскае, што здаралася на зямлі, тлумачылася ўплывам сіл зла. У пэўныя моманты (уначы, адмысловыя каляндарныя даты — Каляды, Купалле і інш.) адбываецца актывізацыя «таго» свету. Яго

насельнікі бесперашкодна трапляюць у свет жывых, каб здзяйсняць сваю нядобрую місію (нябожчыкі, чэрці, мерцвякі і іншыя прадстаўнікі нячыстай сілы).

З семантыкай смерці былі так ці інакш звязаны ўсе «нячыстыя» персанажы: чэрці, ведзьмы, лесавікі, русалкі і г.д. Смерць і чорт у народных паданнях нярэдка адыгрываюць тоесныя ролі; ведзьмы ў вёску заўсёды трапляюць з захаду, а захад у старажытнасці асацыяваўся са смерцю.

Ствалом міфічнага дрэва з'яўляўся рэальны свет — тое, што людзі бачылі вакол сябе. Усё рэальнае, наземнае, побытавае ўвасаблялася ў вобразе ствала.

Надземны свет — прастора існавання людзей, а таксама духаў — апекуноў пэўных тэрыторый: лесавікоў, багнікаў, дамавікоў, хлеўнікаў, ёўнікаў і г.д. Звычайна яны выступалі як персанажы, якія маглі і дапамагаць, і шкодзіць чалавеку. Людзі намагаліся ўсталяваць добрыя адносіны з гаспадарамі адпаведных прастораў. У прыватнасці, каб дамавік добра ставіўся да жывёлы, імкнуліся, каб набытая скаціна была той масці, якую ён любіць, а каб ён не шкодзіў набытай жывёле, яе аддавалі пад заступніцтва дамавіку, звяртаючыся да яго з формуламі ўлагоджвання.

Сваю хату чалавек асэнсоўваў як частку сусвету: тут існаваў яго род, тут з'яўляліся дзеці і адыходзілі ў «той» свет старыя. Таму ўласны дом — гэта паменшаная мадэль Дрэва сусвету. Падмурак хаты, падлога, падпечак, склеп, сутарэнні (г. зн. карані Сусветнага дрэва) асэнсоўваліся старажытнымі людзьмі як «ніжні», падземны, «той» свет, а дах, абразы, вышкі, гарышча, комін — як верх, нябёсы, галіны Дрэва. Вертыкаль (падлога-дах) у прад-



**Вільчак дома.**
**Вёска Расна (Дрыбінскі раён)**

стаўленні сялян была падобнай на вертыкаль свяшчэннага Дрэва. Гарызанталлю жытла выступае звязка кут — печ, якая адным канцом (чырвоны кут) паказвае на святло, усход, божы бок, а другім — на захад, цемру.

Такім чынам, паняцці старажытнага чалавека пра свет, у прыватнасці пра гарызантальныя, вертыкальныя яго плоскасці і гадавыя цыклы, у аснове сваёй мелі рацыянальны характар, інакш немагчымай была б арыентацыя ў прасторы і часе і мэтанакіраваная дзейнасць селяніна. Усё, што адбывалася з чалавекам і вакол яго, атрымоўвала тлумачэнне на даступным яму ўзроўні; нястача ведаў спрыяла ўзнікненню не аснованых на логіцы форм творчасці.





*Абярэг — гэта «загаворы, зачуранні, словы і абрад ад псоты, сурокаў; нагавор, нашэпты для разбурэння ці недапушчэння шкодных чараў; талісман, ладанка, прывеска ад сурокy, ад агню, вады, змяі, падзяжу, псавання вяселляў, хваробы і інш.»[2].*

*«Абярэгі, кудмені, амулеты, апатрапеі (ад грэч. ἀποτρόπαιος — «адводзіць бяду») — прадмет, выява альбо дзеянне, якім прыпісвалі магічную здольнасць засцерагаць ад няшчасцяў і ад злых духаў. ...Беларусы выкарыстоўвалі шматлікія абярэгі дзеля захавання ад бед саміх сябе, свойскай жывёлы, гаспадаркі, што тлумачылася аграрнай дамінантай у абраднасці» [3].*

## ПАБУДОВА АБЯРЭГА

Для разумення, што такое абярэг, неабходна спачатку вызначыць яго структуру. Вядома, што структура — гэта цэласнасць, якая аб'ядноўвае ў сабе ўсе элементы, з якіх яна складаецца. З чаго ж складаецца абярэг?

Галоўным кампанентам абярэга, дзеля якога ён існуе, з'яўляецца аб'ект, тое, што належыць аберагаць. Але пры вялікай значнасці, якая надаецца ў абярэгах аб'екту, часта ён выконвае пасіўную ролю (даволі рэдка сустракаліся выпадкі, калі аб'ект сам здзяйсняе аберагальныя дзеянні).

Дзейнымі персанажамі абярэга з'яўляюцца:

1) агрэсіўны пачатак (агрэсар), які дзейнічае супраць аб'екта;

2) суб'екты абярэга асобы, якія супрацьдзейнічаюць шкоднаму ўплыву агрэсіўнага персанажа.

Супрацьдзеянне агрэсару ажыццяўляецца шляхам сімвалічнага магічна-рытуальнага дзеяння, што мадэлюе ахову, абарону аб'екта, барацьбу з агрэсіўным пачаткам і г.д.

Любое дзеянне выконваецца з пэўнай мэтай. Мэта апатрапея — аберагчы аб'ект ад небяспекі, агрэсіі. Менавіта мэта з'яўляецца той адметнасцю, якая дазваляе адмежаваць абярэг ад іншых падобных форм. Фармуліроўка мэты — неабходны элемент абярэга да здзяйснення магічнага рытуалу.

Для выканання магічных дзеянняў выкарыстоўваюцца аберагальныя сродкі — рэчы, магічныя сімвалы. Аналіз разгледжаных абярэгаў паказаў, што ім надаецца важная роля. Аднак знойдзены такія абярэгі, якія складаюцца з сімвалічных магічна-рытуальных актаў і ў якіх матэрыяльныя сродкі не фігуруюць, напрыклад, калі прадпісваецца адвярнуцца, стаць на калені, маўчаць:

*«...як малако нясеш — маўчы, бо глаз усякі бываець» [4].*

Трэба адзначыць, што даследчыкі абярэгаў часта перабольшваюць значэнне сродкаў. Між тым цэнтральным кампанентам абярэга з'яўляецца магічна-рытуальнае дзеянне, якое прысутнічае заўсёды і абавязкова, хаця часам ва ўсечаным выглядзе. Да прыкладу: амулет патрабуе прымацавання, нашэння ў пэўным месцы, часта шляхам абкручвання вакол шыі, рукі, пальца, тулава, галавы, што, па сутнасці, уяўляе сабой стварэнне магічнага кола.

Такім чынам, у структуру абярэга ўваходзяць наступныя кампаненты: аб'ект (каго ці што ахоўваюць), агрэсіўны персанаж (злая сіла), дзеянне, накіраванае супраць небяспекі, суб'екты (дзейсныя асобы) і сродкі (з дапамогай чаго здзяйсняецца абярэг). Апошнія тры кампаненты выступаюць на баку аб'екта і з'яўляюцца ўласна апатрапеічнымі. Структура абярэга прадстаўлена на малюнку 1.

Ролі кожнага з кампанентаў выразна прапісаны, але бывае, ролі сумяшчаюцца:

1) суб'ект — аб'ект. Гэта заўсёды чалавек, які ахоўвае сам сябе.

*«Каб хто не ўрок, то трэба свенчану мяту пры сабе насіць» [5];*











***Мал. 1.* Структура абярэга**

2) суб'ект — агрэсар. Калі той, хто зрабіў шкодныя дзеянні, сам выпраўляе сітуацыю.

Замова ад перапуду:

*«...той, хто напалохаў, налівае ў кубак вады і, абышоўшы вакол хаты, праз акно падае з вуснаў гэтай вады напалоханаму» [6].*

## ЭТАПЫ РАЗВІЦЦЯ АБЕРАГАЛЬНАЙ СІТУАЦЫІ

Як узаемадзейнічаюць персанажы ў сцэнарыі абярэга? Паміж кампанентамі абярэга існуюць «адносіны», якія адлюстроўваюць ключавыя моманты ў этапах аберагальнай сітуацыі. Напрыклад, існуюць вясковы статак і воўк, які можа напасці на жывёл. Гэта звязка «аб'ект — агрэсар». Яна толькі паказвае на магчымасць небяспекі для аб'екта. З пачаткам руху агрэсіўнага агента да аб'екта (калі воўк пачынае свой напад) звязка становіцца дзейснай і набывае накіраваны характар: «агрэсія → аб'ект» (агрэсія накіравана на аб'ект, г. зн. воўк — на статак). Наяўнасць агрэсіі ў дачыненні да аб'екта з'яўляецца неабходнай перадумовай здзяйснення абярэга. Але гэтага недастаткова, паколькі «шкодныя дзеянні» ваўка могуць не выклікаць супраціву і аб'ект (статак) будзе знішчаны. Таму азначаны этап можна лічыць дааберагальным.

Аднак агрэсія (напад ваўка) можа стаць пускавым механізмам для супрацьдзеяння, этапа здзяйснення аберагальнай сітуацыі. А для таго каб небяспечная сітуацыя стала такой, неабходна наяўнасць яшчэ трох кампанентаў: суб'екта, магічнарытуальнага дзеяння, аберагальных сродкаў.

*«Кожны пастух абавязкова павінен насіць у кішэні «абыдзённік» (кавалак палатна, вытканы калектыўна жанчынамі сяла на працягу дня — ад усходу да заходу сонца; выконваў функцыю абярэга) і штодзённа аббягаць з ім зранку вакол статка тройчы: тады воўк не падыдзе» [7].*

Дадзены этап пачынаецца з фармуліроўкі мэты («каб засцерагчы статак, трэба...», а ў іншых выпадках «каб не сурочылі...», «каб засцерагчыся ад злога ветру...» і г.д.). Далей адбываецца выбар «паводзін» з набору гатовых «праграм», адступленне ад якіх лічылася недапушчальным (інакш аб'ектам «пагражалі» сур'ёзныя наступствы). У адпаведнасці з абраным варыянтам дзеяння і здзяйсняецца абярэг.

Супрацьдзеянне шкодным сілам залежыць ад набліжанасці небяспекі. Напрыклад, чалавек ці жывёла ўжо пакутуюць ад хваробы, таму абярэг трэба выконваць хутка, неадкладна. Або хвароба можа толькі прагназавацца, таму ад яе можна здзейсніць аберагальнае дзеянне сёння ці потым — нетэрмінова.

З улікам патэнцыйнай небяспекі выдзяляюць два віды аберагальных сітуацый. Першы — пры з'яўленні непасрэднай, рэальна існуючай пагрозы.

*«Калі малако вельмі хутка адкіпае ды псуецца, трэба карове падкурыць вымя свентаянскім (купальскім) зеллем і кажаном» [8].*

Сітуацыі такога роду названы аўтарам актуальнымі.

У сітуацыях другога віду, прафілактычных, абярэг прымяняецца не супраць канкрэтнай, адзінкавай пагрозы, а супраць пэўнага тыпу небяспекі. Асінавае дрэва, паводле вераванняў беларусаў, мае вялікую сілу, якая супрацьдзейнічае нячыстай сіле.

*«Калі ў ноч на Купалу варыць у гаршку асінавыя дубчыкі, то «ведзьмары» і «ведзьмы», якія зрабілі шкоду, прыйдуць прасіцца, каб спыніць гэтую аперацыю, бо яна выклікае ў іх страшэнныя пакуты» [9].*

Выкананне такіх абярэгаў не звязана з канкрэтным небяспечным выпадкам, адбываецца загадзя і прымеркавана да якой-небудзь каляндарнай даты.

У залежнасці ад адлегласці носьбіта небяспекі ў дачыненні да аб'екта вызначаецца аберагальны вектар. Ён паказвае накіраванасць абярэга:

1) на аб'ект з мэтай яго аховы (вектар «магічны рытуал → аб'ект»).

*«Калі жняя баіцца ўрокаў і калі пры тым яна адчувае на сабе пільную ўвагу іншых, то, зрэзаўшы жменьку хлеба і не мяняючы сагнутага становішча, яна павінна перакінуць серп праз галаву назад» [10];*

2) супраць агрэсіўнага персанажа з мэтай абароны ад яго (вектар «магічны рытуал → агрэсар»).

*«На плячах, каб чары не дзейнічалі, лепш насіць штосьці металічнае, хоць бы гузік які» [11].*

У першым варыянце правамоцна казаць: *абярэг каго, чаго*, у другім — *абярэг ад каго, ад чаго*.

Нарэшце, існуе трэцяя, працэсуальная звязка «магічны рытуал ↔ агрэсія». У залежнасці ад актыўнасці агрэсіўнага пачатку чалавек выбірае першы ці другі варыянт дзеяння. Калі абярэг носіць папераджальны, прафілактычны характар, то рытуал папярэднічае агрэсіі. У выпадку барацьбы, змагання са шкоднымі сіламі агрэсія апераджае магічны рытуал. Існуе некалькі варыянтаў дачыненняў агрэсара да аб'екта.

## НЕАБХОДНАСЦЬ ПАДЗЕЛУ АБЯРЭГАЎ

У даследчыкаў дагэтуль не склалася пэўнай думкі, якое кола тэкстаў падпадае пад паняцце абярэга. Адсутнасць бачных аб'яднальных прыкмет, а галоўнае — немагчымасць выдзеліць канкрэтнае, акрэсленае, толькі апатрапею належнае месца









**Дэкор сярпа. 1920-я гг.**

**Вёска Дуброва (Маладзечанскі раён)**



ўнутры культуры рабілі гэты клас тэкстаў няўлоўным для класіфікацыі.

Стварэнне класіфікацыі неабходна для вызначэння паняцця абярэга, усведамлення яго сутнасці, усталявання адзінай апісальнай мовы гэтага фальклорнага феномена. Але, на жаль, да гэтага часу не распрацавана адзіных крытэрыяў, на аснове якіх можна было б пабудаваць такую класіфікацыю. Прадпрымаліся спробы класіфікаваць замовы, а таксама асобныя кампаненты абярэгаў — сродкі і магічна-рытуальныя дзеянні.

У аснову класіфікацый беларускіх абярэгаў могуць быць пакладзены розныя прынцыпы:

• від аб'екта: абярэгі чалавека, жывёл, раслін і пабудоў, рэчаў і г.д.;

• від агрэсара: ад людзей, звяроў, птушак, насякомых, прыродных з'яў, хвароб, цалкам міфічных персанажаў і інш.;

• прымеркаванасць да адказных жыццёвых момантаў: вяселля, цяжарнасці, хрышчэння, провадаў у войска; будаўніцтва новага дома, куплі жывёлы ці рэчы; той ці іншай працы і інш.;

• прысутнасць моўнага кампанента: замовы, рытуалы з маўленнем, рытуалы з неславеснымі гукамі;

• паходжанне аберагальных сродкаў: ад стыхій, расліннага, жывёльнага паходжання і г.д.;

• ступень акультурвання сродку: прыродныя і рукатворныя (жывыя і сухія расліны, часткі жывёл, прадметы, зробленыя з жалеза, тканыя вырабы, стравы і г.д.);

• перавага язычніцкага альбо хрысціянскага пачаткаў: язычніцкія, хрысціянскія, камбінаваныя;

• месца здзяйснення: у храме, доме, двары, гаспадарчых пабудовах, полі, лесе, дарозе і г.д.;



**Інтэр'ер жылля канца XIX — пачатку XX ст.**
**Вёска Забродддзе (Стаўбцоўскі раён)**





• час здзяйснення: калядныя, велікодныя, юр'еўскія, купальскія і інш.; зімовыя, веснавыя, летнія, асеннія; ранішнія, дзённыя, вечаровыя, начныя.

Любая класіфікацыя толькі тады становіцца сутнаснай, калі ў яе аснову пакладзены не вонкавы, павярхоўны, а найбольш грунтоўны прынцып. Такім прынцыпам з'яўляюцца адносіны кампанентаў абярэга ў прасторы і часе, што пакладзена ў аснову створанай класіфікацыі абярэгаў.

Крытэрыі класіфікацыі наступныя:

1) ступень актуальнасці агрэсіі (набліжанасць небяспекі да аб'екта);

2) спосаб супрацьдзеяння агрэсіі (ахова аб'екта, абарона ад агрэсіўнага агента, змаганне з ім);

3) вызначэнне, што здзяйсняецца першым: магічны рытуал альбо агрэсія;

4) месца выканання абярэга (поле аб'екта, па-за яго прасторай).

Разгледзім некаторыя паняцці, якія ўжываюцца ў класіфікацыі.

Размяжоўваюцца паняцці аховы і абароны. Ахова — гэта пастаянныя папераджальныя мерапрыемствы па захаванні аб'екта, «стража», «варта» (нашэнне навязак). Абарона — гэта тэрміновая, неадкладная акцыя па супрацьдзеянні актуальнай агрэсіі (каб, напрыклад, дзіця засталося здаровым, калі суседскія дзеці хварэюць). Меры супрацьдзеяння яшчэ больш узрастаюць, калі агрэсіўны пачатак блізка (здарыўся пажар). Тады арганізоўваецца барацьба з ім шляхам пазбаўлення — знішчэння, выдалення.

Калі папераджальныя дзеянні праводзяцца сістэматычна, «курсамі», на працягу пэўнага часу, то ствараецца сітуацыя рэгулярнага засцерагання. Спалучэнне засцерагання з абаронай або пазбаўленнем







фарміруе «апераджальную абарону», «апераджальнае знішчэнне», калі абаронныя ці знішчальныя мерапрыемствы выконваюцца загадзя, нашмат раней за з'яўленне небяспекі. У такіх абярэгах часта фігуруюць шкоднікі пасеваў (вераб'і, пустазелле, град) — будучыя носьбіты агрэсіўнага пачатку, якія кожнае лета знішчаюць ураджай. Іх трэба «абясшкодзіць» загадзя, г. зн. нанесці апераджальны ўдар.

*«Каб на льняным полі не было пустазелля, на Каляды і Новы год на дарогу выкідвалі смецце» [12].*

Усе пазначаныя віды актыўнасці суб'ектаў абярэгаў можна аб'яднаць пад назвай «аберагальныя магічна-рытуальныя дзеянні».

## ГРУПЫ АБЯРЭГАЎ

Выдзелена некалькі груп абярэгаў, якія ўтрымліваюць у рознай меры ўсе кампаненты. Назвы груп адпавядаюць іх прызначэнню.

**Група 0 — «спрыяльныя» абярэгі,** накіраваныя як на паляпшэнне існуючага стану аб'екта ў натуральных памерах, так і на прадухіленне адмоўных уплываў агрэсіўнага агента. Першая частка немагчыма без другой, уласна апатрапеічнай, якая нагадвае «ахоўныя» абярэгі.

Разгледзім «спрыяльныя» абярэгі паводле ўведзеных крытэрыяў:

1) агрэсія неактуальная, яе пагроза толькі мяркуецца, не фіксаваная да пэўнага часу і прасторы;

2) дзеянні выразна скіраваны на аб'ект;

3) рытуал значна апераджае па часе агрэсію;

4) абярэг здзяйсняецца ў полі аб'екта.

*«Крэйдай надпісваюць тры крыжыкі на верхніх дзвярных і аконных вушаках, на свірнах, хлявах, на вуллях, упэўненыя ў тым, што надпісаныя крыжыкі... захоўваюць у добрым стане ўсё жывое, што знаходзіцца па-за гэтымі крыжыкамі» [13].*

Каталікі ў такім выпадку пішуць літары К.М.В. (Каспар, Мільхіёр, Бальтазар).

**Група 1 — «папераджальныя» абярэгі,** куды ўваходзяць:

падгрупа 1.1 — «ахоўныя» абярэгі з наступнымі крытэрыямі:

1) агрэсія неактуальная (у абярэгах не гучыць непасрэдна, а толькі вынікае з кантэксту), агрэсіўны агент можа не фігураваць у канкрэтным выглядзе («каб не здарылася кепскага...»), пагроза агрэсіі не прымеркавана да пэўных часу і прасторы;

2) пераважная скіраванасць дзеянняў на аб'ект;

3) рытуал папярэднічае магчымым агрэсіўным дзеянням;

4) абярэг здзяйсняецца ў полі аб'екта.

*«Есць на полі такія гэгі (крэмені) з дзірачкамі, што як жывіна мае на шыі завешану, то яна надта памоцна ад рабакоў (чарвякоў) і не дапускае заразы» [14];*








**Тураўскі карагод.**
**Вёска Пагост (Жыткавіцкі раён)**

падгрупа 1.2 — «рэгулярна засцерагальныя» абярэгі, крытэрыямі якой з'яўляюцца:

1) агрэсія ўмоўна актуальная, але верагоднасць яе большая, чым у папярэдняй групе. Пазначаны прыкладныя тэрміны і ўмовы, калі агрэсія можа здзейсніцца. У запісах узгадваюцца часавыя рамкі магчымай агрэсіі, абярэгі прымеркаваныя да каляндарных дат, пэўных жыццёвых этапаў (хрэсьбіны, вяселле, провады ў войска) або фізіялагічных станаў аб'екта (цяжарнасць, месячныя цыклы), апатрапеічныя акты выконваюцца перыядычна (напрыклад, штогод). У абярэгах часта выкарыстоўваецца злучнік «калі», які азначае як умову, так і час, ад якога пачне дзейнічаць «пускавы механізм» абярэга;

2) прыкладна аднолькавая скіраванасць на аб'ект і супраць агрэсіўнага пачатку;

3) рытуал (нават па «знішчэнні» агрэсара) адстаўлены ў часе — мадэлюецца загадзя. Асабліва характэрным для дадзенай групы з'яўляецца «апераджальнае пазбаўленне»;

4) рытуал можа быць вынесены за прастору аб'екта.

*«Глухі мак свяцілі на Макавея і асыпалі хлеў, хату ад нябожчыкаў» [15].*

Або ў абрадзе Пахавання стралы, які выконваецца ў канцы вясны (на Вялікдзень, Юр'е, Ушэсце) пры аглядзе азімых пасеваў з мэтай засцерагчыся ад маланкі, захаваць ураджай і людзей ад стыхійнага бедства (навальніцы з градам, засухі);

падгрупа 1.3 — «забаронныя» абярэгі з крытэрыямі:

1) агрэсія ўмоўна актуальная: агрэсіўны персанаж знаходзіцца па-за тэрыторыяй аб'екта, здольны актывізоўвацца толькі пры ўмове парушэння аб'ектам прынятых правіл, за што прадугледжана непазбежнае пакаранне;

2) выразная скіраванасць на аб'ект;

3—4) рытуал заключаецца ў адмове ад дзеяння. Задача аб'екта — не патрапіць у поле агрэсара. Аб'ект часта выконвае ролю суб'екта. Яму ўласціва актыўная пазіцыя, у



**Пахаванне стралы.**
**Вёска Неглюбка (Веткаўскі раён)**







адрозненне ад іншых груп. Суб'ект абярэга мае выбар: рабіць ці не рабіць пэўнае дзеянне, ад якога залежыць яго лёс альбо лёс нашчадкаў, прыплоду (калі гаворка вядзецца пра жывёл). Агрэсар, наадварот, знаходзіцца ў нерухомым, патэнцыйна «выбуховым» стане. Супрацьдзеянне здзейсненай агрэсіі, якая ўжо адбылася, звычайна не прадугледжваецца або разглядаецца ў межах групы 3.

*«На Купала пастухам не пазваляюць пры чарадзе класці агонь, каб ведзьмы і чараўнікі не бралі жару і тым не рабілі ліха гавяду» [16].*

**Група 2 — «абаронныя» абярэгі**, крытэрыямі якой з'яўляюцца:

1) агрэсія актуальная: агрэсіўны пачатак знаходзіцца непасрэдна каля тэрыторыі аб'екта ў актыўным стане, што патрабуе тэрміновага, неадкладнага супрацьдзеяння;

2) пераважная скіраванасць супраць агрэсара;

3) рытуал выконваецца неадкладна пасля з'яўлення агрэсара;

4) абярэг здзяйсняецца на вонкавай мяжы аб'екта.

*«Як находзіць вялікая хмара, а хто-небудзь адчыніць комін да закурыць на прыпеку свянцонае зелле, то хмара паверне ўбок і дажджу не будзе» [17].*

**Група 3 — «пазбаўляльныя» абярэгі** з крытэрыямі:

1) агрэсія звышактуальная: агрэсіўны агент дзейнічае на тэрыторыі аб'екта, што ўяўляе непасрэдную небяспеку для існавання апошняга;

2) выразная скіраванасць супраць агрэсара;

3) рытуал адбываецца пасля ўваходу агрэсіўнага агента ў прастору аб'екта. Мадэлююцца пераважна дзеянні па знішчэнні, выдаленні агрэсара;

4) абярэг здзяйсняецца ў месцы ўкаранення агрэсіўнага агента, ва ўнутранай прасторы аб'екта.

*«Існаваў звычай выганяць душу памерлага, якая вярнулася ў дом: замяталі венікам пакой, дзе ляжаў нябожчык, размахвалі сякерай» [18].*







Як бачна, абярэгі груп 0 і 1 пераважна скіраваны на абераганне аб'екта, груп 2 і 3 — супраць агрэсіўнага пачатку. Агрэсія нарастае ад групы 0 да групы 3. Усе «ахоўныя» і «папераджальныя» абярэгі выконваюцца ў паслядоўнасці «рытуал — агрэсія», а «абаронныя» і «пазбаўляльныя» — наадварот: «агрэсія — рытуал». У групе 0 і падгрупе 1.1 абярэг здзяйсняецца ў полі аб'екта (г. зн. блізка да аб'екта), у падгрупе 1.2 можа быць вынесены за яго прастору, у падгрупе 1.3 — аб'ект імкнецца не патрапіць у поле агрэсара, у групе 2 — аберагальныя дзеянні выконваюцца на мяжы аб'екта, а ў групе 3 — у прасторы аб'екта.

Прааналізавана больш за дзве тысячы аберагальных тэкстаў, сярод якіх знойдзены такія, якія адначасова належаць да розных груп.

*«Асвячонай вадой гаспадар абпырсквае дом і ўсе каля яго прыбудовы, а крэйдай надпісвае тры крыжыкі на верхніх дзвярных і аконных вушаках, на свірнах, хлявах, на вуллях, упэўнены ў тым, што надпісаныя крыжыкі праганяюць «нячыстую сілу», засцерагаюць ад чараўніцтва і захоўваюць у добрым стане ўсё жывое, што знаходзіцца па-за гэтымі крыжыкамі... Рэшткі крэйды захоўваюцца як лячэбны сродак ад болю ў жываце» [19].*

Тут бачна, што намаляваныя знакі прызначаны апераджальна выдаляць агрэсара, ахоўваць аб'ект ад магчымых агрэсіўных захадаў, спрыяць яго захаванню ў добрым стане, могуць дапамагчы чалавеку пры непасрэдным болі. Гэта значыць, што ў адным тэксце спалучаюцца абярэгі груп 0, 1, 3.

Ёсць абярэгі, якія цяжка аднесці да якой-небудзь з выдзеленых груп. Так, у большасці абярэгаў «ад сурокаў» застаецца няясным, ці апатрапеічныя дзеянні выконваюць, каб папярэдзіць сурокі ці каб









сцішыць іх наступствы. У такіх выпадках можна рабіць пазначэнні кшталту: 0—1.1; 2—3. Сустракаюцца хібы запісаў, зробленых даследчыкамі, дзе не пададзены мэта абярэга, або носьбіт небяспекі, або нават аб'ект, што не дазваляе безагаворачна аднесці такія абярэгі да пэўнай групы.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ АБЯРЭГАЎ

Вызначэнне мэты абярэга з'яўляецца вельмі важным для разумення яго сутнасці.

Відавочнымі, непасрэднымі з'яўляюцца сітуацыйныя мэты абярэгаў: «каб не баяцца грому», «каб засцерагчыся ад дамавіка», «каб спыніць дождж». Яны накіроўваюць апатрапеічную актыўнасць людзей на абераганне пэўнага аб'екта — дзіцяці, маладой, дому, каровы, жыта і г.д.

Мэтамі абярэгаў выдзеленых груп з'яўляюцца:

у групе 0 — спрыянне натуральнаму існаванню і развіццю аб'екта;

у групе 1 — захаванне наяўнага стану аб'екта;

у групе 2 — абарона аб'екта ад непасрэднай агрэсіі;

у групе 3 — пазбаўленне ад агрэсара: знішчэнне, выдаленне і г.д.

У кожнай групе магічна-рытуальнае дзеянне адбываецца згодна з формуламі:

«каб было..., трэба рабіць...» (група 0);

«каб не было ..., трэба рабіць ...» ці «...не рабіць» (група 1);

«каб абараніцца ад..., трэба рабіць» (група 2);

«каб пазбавіцца ад..., трэба рабіць...» (група 3).

Абярэгі з улікам мэт, адпаведных класіфікаваным групам, адначасова ўяўляюць





Аб'ект Агрэсар

Аб'ект Агрэсар

Аб'ект Агрэсар

Аб'ект Агрэсар

Аб'ект Агрэсар

Аб'ект Агрэсар

*Мал. 2.* **Мадэлі абярэгаў з улікам прасторава-часавых дачыненняў іх кампанентаў**

сабой апатрапеічныя мадэлі, якія прадстаўлены на малюнку 2.

Агульнай мэтай усіх груп з'яўляецца забеспячэнне існавання і натуральнага развіцця аб'екта аберагання.

Асноўная мэта абярэгаў накіравана на захаванне жыцця, здароўя, працаздольнасці чалавека дзеля забеспячэння беспераппыннага існавання яго як біялагічнага віду. Можна меркаваць, што доўгае існаванне абярэгаў з часоў старажытнасці звязана з «жыццёвым» характарам базавай мэты (ад правільнага выканання рытуалаў нібыта залежыць само чалавечае жыццё, а значыць, і ўсё, што атачае чалавека). Аберагальныя дзеянні маюць на мэце ўзнаўленне раўнавагі і парадку ў свеце. Падобна на тое, што колькі будзе існаваць чалавек, столькі яго жыццё будзе суправаджацца абярэгамі ў выглядзе язычніцкіх, хрысціянскіх, спалучаных або іншых апатрапеічных дзеянняў.

Усе іншыя мэты (сітуацыйныя, адпаведныя класіфікаваным групам абярэгаў, а таксама мэты, накіраваныя на аберажэнне жыцця і здароўя жывёл, раслін, павышэнне іх прадукцыйнасці, захаванне маёмасці і забеспячэнне матэрыяльнага прыбытку) з'яўляюцца мэтамі падпарадкаванымі, другаснымі.

Відавочна, што ў абярэгах існуе пэўная іерархія мэт, сярод якіх працяг чалавечага роду з'яўляецца найбольш глыбіннай, базавай. Такое разуменне мэт дае падставы для частковага ўключэння ў класіфікацыю, акрамя «прафілактычных» (гр. 1—2), таксама і іншых тэкстаў апатрапеічнага поля. У першую чаргу гэта кранае абярэгі найбольш спрэчнай 0-й групы з матывамі прадукцыйнасці, памнажэння, прыбытку, стымуляцыі натуральных працэсаў, забеспячэння дабрабыту. Абярэгі з крайне агульнай апатрапеічнай мэтай «каб нічога злога не было», «каб нішто злое нас не кранула» могуць уключаць у сябе адначасова і аберагальную, і прадукавальную функцыі.

З улікам мэтавай іерархіі пашыраецца клас тэкстаў з апатрапеічным значэннем і абгрунтоўваецца ўвядзенне паняццяў абярэга ў вузкім і шырокім сэнсах.





## ПАНЯЦЦЕ АБЯРЭГА. БЛІЗКІЯ ДА АБЯРЭГАЎ ФОРМЫ

З класіфікацыі бачна, што «сапраўднымі», у «чыстым выглядзе» могуць лічыцца абярэгі груп 1 і 2, «прафілактычныя», накіраваныя на прадухіленне агрэсіі. На тэрыторыі аб'екта яшчэ няма агрэсіўнага агента, і прадпрымаюцца дзеянні, каб не дапусціць яго на гэтую тэрыторыю. Гэта ўласна абярэгі, якія прызнаюцца ўсімі, падлягаюць пад наступнае вызначэнне:

**Абярэг** (у вузкім сэнсе) — сімвалічная магічна-рытуальная дзейнасць, сродак з сімвалічным значэннем, накіраваныя, паводле народных уяўленняў, на прадухіленне агрэсіі, якая пагражае існаванню або нармальнаму функцыянаванню аб'екта.

«Памежныя» тэксты можна часткова дадаць да класа абярэгаў не толькі зыходзячы з іх базавай мэты. Яны ў рознай ступені могуць утрымліваць асноўныя кампаненты абярэга: аб'ект, агрэсара, магічна-рытуальныя дзеянні, іх суб'ектаў і сродкі. Да «памежных» часткова адносяцца тэксты прадукавальнай магіі — «спрыяльныя», а таксама «пазбаўляльныя».

У «спрыяльных» абярэгах пагроза агрэсіі ўяўная, яна прадстаўлена ў завуаляваным выглядзе. Але небяспека маецца на ўвазе, мяркуецца верагоднасць узнікнення неспрыяльных абставін, якія маглі б перашкодзіць існаванню і натуральнаму развіццю аб'екта, патрэбны клопат пра тое, «каб усё было добра», «каб добра расло», «каб добра







гадавалася», «каб добра захоўвалася». Ставіцца задача стварыць такія ўмовы, якія б не дазвалялі носьбіту агрэсіі нават здалёк наблізіцца да аб'екта, бо толькі тады можа быць «усё добра». Гэтым як бы прадухіляецца «кепскі» варыянт («каб не было зло-га», «каб нічога не перашкодзіла»). Пра магчымасць неспрыяльнага развіцця падзей людзі ведалі зыходзячы са свайго асабістага і калектыўнага досведу. У гэтую групу могуць быць уключаны абярэгі з мэтай стымулявання і памнажэння існуючага ў натуральных памерах.

Паказальна, што фармулёўка «каб было» вельмі часта падаецца ў адных і тых самых абярэгах разам з фармулёўкай «каб не было», што таксама сведчыць пра іх блізкасць. Абярэгі групы 0 адрозніваюцца ад найбліжэйшай да яе падгрупы 1.1 пастаноўкай мэты «каб было» ці нават «каб было, як мае быць, у найлепшым выглядзе». Гэта з'яўляецца імкненнем людзей не да ідэалізацыі наяўнага стану, а да рэальнай, дасягальнай дасканаласці аб'екта. Так, ідэю «каб выклікаць дождж» можна перафармуляваць «каб не было засухі».

Бывае, што фармулёўка матыву не супадае з сапраўдным прызначэннем прадпісанняў і мае розныя інтэрпрэтацыі. Так, некаторыя абярэгі «для выклікання дажджу» могуць мець на мэце апладненне, запачаткаванне новага жыцця. Тады яны мусяць быць аднесены да «спрыяльных». Другая частка азначае неабходнасць прыняцця тэрміновых мер «ад засухі», дзе пагроза існаванню аб'екта відавочна актуальная, з магчымасцю гібелі аб'екта. У гэтым выпадку абярэгі будуць аднесены да «пазбаўляльных».

Што да забарон, табу, то частку з іх можна аднесці да класа абярэгаў. У забаронах рытуальнае дзеянне ўвасабляецца ў яго









забароне. Адмова ад дзеяння — таксама акт. Рытуалы маўчання, прадпісанні не глядзець на нешта ёсць не што іншае, як табу, але іх безагаворачна адносяць да абярэгаў. Своеасаблівасцю забарон з'яўляецца тое, што ў іх аб'ект часта адыгрывае ролю суб'екта (пад табу падпадаюць дзеянні асобы, пра якую праяўляецца клопат). Група адметная таксама адсутнасцю матэрыяльных сродкаў. Але тое самае назіраецца ў некаторых тыповых абярэгах, дзе выконваецца дзеянне: маўчанне, маленне, укленчанне і г.д. Усе абярэгі прадугледжваюць «пакаранне» ў выпадку невыканання прадпісанняў, але пры парушэнні забарон гэтыя меры найбольш жорсткія і непазбежныя, уключна з найвышэйшай — смерцю або знішчэннем аб'екта.

Прывядзём прыклад забароны-абярэга, у якім пададзены мэта абярэга і яго альтэрнатыва: чаму нельга «няправільна» паступаць:

*«Калі ў гадавое свята нясеш дровы на руцэ, не трэба ніколі кідаць, трэба пакласці ціхенька, каб не стукала, каб громам не біла, трэба ціхенька дровы класці» [20].*

Якія забароны могуць лічыцца абярэгамі? Толькі тыя, якія ўтрымліваюць усе структурныя кампаненты. Часта пры гэтым вызначальным становіцца наяўнасць агрэсіўнага агента. У большасці забарон агрэсіўны персанаж падаецца напрасткі:

*«Купацца ранняй вясной нельга, бо схопіць хіндзя; яна, вядома, сядзіць на дне і ловіць тых, хто купаецца» [21].*

Аднак не ўсе забароны можна далучыць да катэгорыі абярэгаў:

*«Стараюцца на Каляды не разбіваць чаго-небудзь з посуду, каб наогул посуд не біўся ўвесь год» [22].*

У вышэйназваным прыкладзе не называецца носьбіт небяспекі.







Забароны, якія адпавядаюць вызначаным умовам, лічыліся вельмі моцнымі абярэгамі. Нездарма іх аб'ектам часта з'яўляецца цяжарная жанчына, жывёла, ад якой чакаецца прыплод, зерне раслін, матэрыял для будаўніцтва дома — г. зн. усё, што дае пачатак новаму.

Асноўная група «прафілактычных» абярэгаў, а таксама абярэгі памежных груп, якія можна разглядаць як тэксты апатрапеічнага поля, складаюць абярэгі ў шырокім сэнсе паняцця.

**Абярэг** (у шырокім сэнсе) — сімвалічная магічна-рытуальная дзейнасць, сродак з сімвалічным значэннем, накіраваныя, паводле народных уяўленняў, на забеспячэнне існавання, натуральнага развіцця аб'екта аберагання.

## РОЗНІЦА ПАМІЖ АБЯРЭГАМІ І ІНШЫМІ ФАЛЬКЛОРНЫМІ З'ЯВАМІ

Каб лепш зразумець, што такое абярэг, неабходна апісаць блізкія да яго фальклорныя феномены. Павер'і, лячэбная і прадукавальная магія, прывароты, адвароты часта бываюць вельмі падобнымі на абярэгі.

Шмат у чым павер'і нагадваюць абярэг (ёсць аб'ект, можа існаваць пагроза і г.д.), але ў павер'ях няма асноўнага кампанента — магічна-рытуальнага дзеяння, якое б «уплывала» на зыход падзей.

*«На старым (месяцы. — Заўвага аўт.) — самае лепшае даваць дзецям на глісты і наогул прымаць сродкі для знішчэння шкоднікаў, насякомых і чарвякоў на агародзе» [23].*

Вельмі блізкая да абярэгаў група лячэбнай магіі, што амаль адпавядае вызначанай

намі катэгорыі «пазбаўляльных» абярэгаў. Адметнасцю абярэгаў гэтай групы з'яўляецца ператварэнне пагрозы ў рэальную агрэсію і наяўнасць «злачыннай дзейнасці» агрэсіўнага пачатку непасрэдна на тэрыторыі аб'екта (хвароба ў чалавека, пустазелле на гародзе, пажар у доме). У «пазбаўляльных» абярэгах прадстаўлены як жывыя, так і нежывыя, прадметныя, аб'екты, тады як аб'ектам лячэбнай магіі з'яўляюцца амаль выключна людзі. Лячэбная магія прадугледжвае ўздзеянне хутчэй на праявы, наступствы хвароб і траўм, а абярэгі скіраваны на змаганне з агрэсіўным агентам. Прысутнасць апошняга ў лячэбнай магіі неабавязковая.

Перад замовай, каб зацягваўся рубец на скуры, спачатку трэба прачытаць малітву «Отча наш», затым:

*«Святая Прачыста, святая Мікола-матухна Хрыстова, прошу я вас і Господа Бога, поможыце Ольге ў зацягванні раны, моліце і говорыце, і по косцях не ходзіце, і косцей не ломіце. Гора не запускаце і доброга здороўя даваце. Господзі, міленькі, помогі, Олі рану зацягні (Паўтарыць 2 разы. — Аўт.). Другім разочком, божым часочком, божою часіною, божою годзіною. Святая Прачыста, святая Мікола-матухна Хрыстова, прошу я вас і Господа Бога поможыце Ольге ў зацягванні раны-шва, моліце і говорыце, і по косцях не ходзіце, і косцей не ломіце. Гора не запускаце і доброга здороўя даваце. Господзі, міленькі, помогі, Олі рану зацягні (Паўтарыць 3 разы. — Аўт.). Господзі, міленькі, прыступі, Олі шво зацягні (Паўтарыць 3 разы. — Аўт.). Во імя Отца і Сына і Святого Духа. Амінь».*

У канцы прачытаць малітву «Отча наш», тры разы падуць па сонцы і паплявацъ улева, на двор, сказаць:

*«Коб ёно ўсё здуло і коб у цебе было ўсё чысто»* (УЗ*, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на).

* УЗ — тут і далей уласныя запісы аўтара.

Найвялікшую складанасць пры адмежаванні ўяўляе прадукавальная магія (наданне аб'екту новых якасцей). У адрозненне ад «спрыяльнай» магіі, якая накіравана супраць агрэсіі (хаця і ўяўнай), у «чыста прадукавальнай» небяспека нават не мяркуецца.

Прадукавальная магія ўтрымлівае такія самыя кампаненты, як у абярэгах: аб'ект, магічна-рытуальнае дзеянне, суб'ект, сродкі. Але мэта прадукавальных дзеянняў прынцыпова іншая. Калі мэтай абярэгаў групы 0 з'яўляецца спрыянне натуральным працэсам аб'екта, то прызначэнне прадукавальнай магіі — надаць такія якасці аб'екту, якіх ён не меў дагэтуль, каб дасягнуць перавагі над іншымі падобнымі аб'ектамі.

*«Калі выводзяць з хаты маладога вала на першую работу, ...рогі абвязваюць чырвонай жычкай. Тады вол хутка зразумее работу» [24].*

На Вялікдзень пры вяртанні з царквы тыя, хто прыехаў туды на конях, стараюцца апярэдзіць адзін аднаго.

*«Калі я пераганю другіх, то мой конь будзе крэпак цэлы год і будзе пераганяць усіх суседніх» [25].*

У некаторых вонкава падобных на абярэгі прыкладах апісаны адмысловыя дзеянні, якія не спрыялі дабру, а былі на карысць злодзеям.

*«Кожны знакаміты злодзей мае пры сабе свечку з нутранога сала («дору») чалавека, асабіста ім забітага. Ён запальвае гэтую свечку і, хаваючы яе пад накрыўкаю, тройчы абыходзіць уночы вакол дома; гэтым ён настолькі замацоўвае ў жыхароў сон, што яны не могуць прачнуцца нават ад гарматнага стрэлу» [26].*

Амаральнымі ў падобных тэкстах з'яўляюцца як мэта, так і сродкі, што несумяшчальна з ідэяй абярэгаў.

Для ўсіх абярэгаў характэрныя рэальнасць, натуральнасць, абмежаванасць пачуццём неабходнай дастатковасці. Наступныя прыклады нельга аднесці да тэкстаў











апатрапеічнага поля таму, што ў іх апісваюцца дзеянні, мэты якіх ненатуральныя, фантастычныя, а сродкі негуманныя, вычварныя.

*«Чарадзейную моц паляўнічай зброі надаюць і іншым чынам: прымушаюць чорную змяю запаўзці ў рулю набітай стрэльбы («загнаць гадзюку») і, як толькі гэта ўдасца — страляюць. Пасля такой аперацыі адлегласць для стрэльбы ўжо не існуе, а галоўнае — яна не баіцца чараў» [27].*

*«Калі пасля трапнага стрэлу звярына нейкі час, а то і даволі доўга жыве, гэта значыць, «стрэльба жывіць». Каб пазбавіцца гэтага недахопу, трэба ўпаляваць чайку, вырваць у яе з правае нагі ўсе кіпцюры і па адным пакласці іх за адкалупаную на асінах кару. Як толькі праз нейкі час адно з гэтых дрэў ссохне, трэба дастаць кіпцюр — той, якім чайка забівала рыбу, і пакласці яго пад рулю так, каб не выпаў. Стрэльба з такім абярогам будзе забіваць звярыну на месцы, нягледзячы на адлегласць» [28].*

Да прываротаў, адваротаў адносіцца тое, дзе магічныя дзеянні выконваюцца з мэтай маніпуляцый з іншымі аб'ектамі. У наступных прыкладах адсутнічаюць дзеянні агрэсіўнага персанажа.

*«Суравой ніткаю, працягнутай з дапамогаю іголкі праз дзвюх жаб, дакрануцца намечанай асобы» [29].*

*«На вяселлі ці ў часе іншай якой забавы дзяўчаты, жадаючы ўберагчыся ад назойлівасці хлопцаў, уторкваюць у падол іголку са зламаным вушкам» [30].*

Часта ў згаданых тэкстах ужываюцца брутальныя, жорсткія, агідныя метады і сродкі.

*«Дабаўляюць патаемна ў гарэлку ці ў страву крыху вады пасля змытага поту пад пахамі, ці пасля мыцця зваляннай кашулі падчас месячных выдзяленняў, ці таксама даюць з'есці трохі валасоў, астрыжаных пад пахаю, альбо яблык ці абаранак, нейкі час патрыманыя пад пахаю» [31].*









У адваротах не адзначаецца, што для аб'екта існуе пагроза жыццю, здароўю і працаздольнасці. Іх мэта не адпавядае базавай — забеспячэнню бесперапыннага існавання чалавека як біялагічнага віду. У адваротах часта гучаць словы «пашкодзіць шлюбу», «разлучыць», «разладзіць шчасце», якія называюцца «чортавай справай».

Наадварот, прыкладам маральнасці, гуманнасці абярэгаў можа быць наступны:

*«Вядомыя прадпісанні перакідваць венік праз страху хаты, каб аблегчыць агонію таму, хто паміраў» [32].*

У абярэгах часам сустракаюцца жорсткія дзеянні, але яны заўсёды вымушаныя, ніколі не пагаршаюць стану іншых аб'ектаў і найчасцей толькі мадэлююцца. Напрыклад, ахвярапрынашэнні з забойствам жывёл сустракаліся ў абярэгах выключна рэдка, абмяжоўваючыся птушкамі і грызунамі. Тэма забойства прадстаўлена як сродак неабходнай абароны ад ворага, што дазвалялі прававыя нормы ва ўсе часы.

Зло ў абярэгах вельмі рэдка праецыравалася на сабе падобных: перанос яго адбываўся найчасцей на нежывыя прадметы. Лічылася, што венік мог «прымаць» на сябе хваробу:

*«Ад вроков веніком злева поводзіт матка і веніка быстро з хаты выкідае» [33].*

Чалавек, галоўны аб'ект абярэгаў, не мог выступаць у якасці агрэсара ў дачыненні да самога сябе. Грамадства выракалася самагубцаў: не дазвалялася хаваць іх разам з іншымі памерлымі на могілках. Самагубцы прыраўноўваліся да агрэсараў. Існавала ўяўленне пра тое, што калі «нячыстых» — памерлых ненатуральнай смерцю — хаваюць на могілках, то гэта можа выклікаць прыродныя катаклізмы: адсутнасць дажджу, неўраджай, мор і г.д.

Знойдзены абярэгі, у якіх выратаванне аб'екта дасягаецца быццам бы шляхам пагаршэння ўмоў існавання іншых. На

першы погляд можна падумаць, што яны амаральныя: каб уратавацца ад ліхаманкі, «кідаюць каля дарогі кашулю; хто яе возьме і апране на сябе, на таго пяройдзе ліхаманка». Тут дзеянні не накіраваны супраць канкрэтных людзей. Ім даецца выбар: браць ці не браць чужыя рэчы. Можна меркаваць, што ў згаданым прыкладзе прысутнічае элемент выхавання (хто возьме чужое — выклікае на сябе бяду) і з дапамогай такіх «правакацый» з падазронымі рэчамі ўкараняўся прынцып недатыкальнасці да ўласнасці іншай асобы.





Беларуская даследчыца Т. В. Валодзіна прыводзіць прыклад, які быццам дэманструе жорсткасць людзей да сябе падобных. Ён з'яўляецца вельмі цікавым для аналізу. На Палессі да гэтага часу фіксуецца забарона сустракацца разам дзвюм мацяркам з немаўляткамі, бо гэта непазбежна прывядзе да хваробы аднаго з іх. Каб пазбегнуць гэтага, кожная стараецца падняць сваё дзіця вышэй або сказаць што-небудзь крыўднае ў адрас іншай. На думку даследчыцы, папярэджанне хваробы свайго дзіцяці адбываецца за кошт свядомага шкоднага ўздзеяння на сустрэчнага малога. Трэба адзначыць, што абярэг тут складаецца з дзвюх частак: забароны і барацьбы з наступствамі яе парушэння. Спачатку гаворыцца аб дрэнных наступствах пры парушэнні забароны (жорсткія меры ў дачыненні да аб'ектаў абярэга — маленькіх дзяцей). У прыведзеным прыкладзе апісваецца сітуацыя, якая, на думку палешукоў, з'яўляецца вельмі небяспечнай. Дзве жанчыны з немаўлятамі ў выніку сустрэчы ўяўляюць сабой люстрана сіметрычную пару, у якой адно з дзяцей па правілах абавязкова павінна захварэць. Узгадаем у сувязі з гэтым забарону падносіць дзіця, што не мае аднаго году, да люстэрка, якое лічылася пераходнай зонай на той свет.

Люстраная сіметрыя ў абярэгах — гэта не аднолькавасць, а супрацьлегласць, прыналежнасць да іншага свету. У прыведзеным прыкладзе кожная з жанчын успрымае другую і яе дзіця не як падобных да сябе, а як небяспечных двайнікоў з «таго свету», агрэсараў, якія ўяўляюць непасрэдную небяспеку для яе малога. Таму дзеянні жанчын падпарадкоўваюцца не жаданню нанесці шкоду такому самаму аб'екту, а выратаваць сваё дзіця шляхам выштурхоўвання яго ўверх з прасторы іншасвету, якую ўносіць агрэсіўны агент. Моўны складнік цалкам адпавядае гэтым дзеянням і ўзмацняе іх.

Такім чынам, аберагальныя дзеянні заўжды рабіліся з пажаданнем дабра аб'екту абярэга, бо ў самім яго прызначэнні першапачаткова ўтрымліваецца станоўчае, прыхільнае стаўленне да аб'екта. Цалкам натуральна, што чалавек жадае дабра самому сабе, сваім блізкім, свойскай жывёле, карысным для яго раслінам, маёмасці альбо набытым рэчам, прадуктам сваёй працы ці працы іншых людзей. Метады і сродкі дасягнення мэты не ўваходзілі ў супярэчнасць з сацыяльнымі нормамі, былі заўсёды станоўчыя, маральныя. Яны вызначаюць духоўна-этычны характар абярэга, што адпавядае мэце захавання як асобнага чалавека, так і ўсяго грамадства.

## АГУЛЬНАЕ Ў ЗАМОВАХ І АБЯРЭГАХ

Знакаміты славіст М. І. Талстой лічыў, што любы тэкст мае тры коды свайго выражэння: вербальны, прадметны і дзейны. На гэтай падставе і аберагальныя тэксты можна падзяліць на вербальныя (замовы), прадметныя (амулеты, талісманы) і дзейныя (рытуалы, абрады).

Замовы, паводле Г. А. Барташэвіч, уяўляюць сабой празаічныя (часам рытмізаваныя) творы формульнага характару (або слоўныя формулы), якім прыпісвалася сіла магічнага ўздзеяння. Часта яны падаюцца пад назвай абярэгаў, а ў саміх замовах падкрэсліваецца засцерагальная функцыя. Даследчыца рускіх замоў Т. М. Тарасава сцвярджае, што частка іх носіць ахоўны, аберагальны характар і накіравана на прадухіленне непажаданых наступстваў падзей ці злых чараў. Гэтыя замовы з'яўляюцца своеасаблівымі абярэгамі, «славеснымі талісманамі», якія па сваім магічным дзеянні не адрозніваюцца ад матэрыяльных.

Як невербальныя, так і вербальныя абярэгі можна аднесці да магічна-рытуальнай дзейнасці. У дачыненні да замоў рытуал заключаецца ў прамаўленні тэксту, якому надаецца выразная паэтычна-фальклорная форма. «Замова — перш за ўсё рытуал і толькі потым — слова», — лічыць К. А. Багданаў [34].

Бывае, што ў замове даецца апісанне дзеяння:

*«Іду ў лес, бяру хлеб і соль і нясу лясному хазяіну, Кляпяке і Астраке, і падзі ад мяне, няшчасны, на мхі, на балота, на гнілую калоду. Там табе пасьцель паслана, ізгалоўе высокае, пярына пуховая; там табе спаць, а майго не відаць. Не я цябе ганю, гоніць цябе Хрыстос і святая Лука, гоняць цябе огнем, пламенем, жалезным прутом» [35].*

Таму дзяленне абярэгаў на вербальныя, дзейныя і прадметныя ў некаторай ступені ўмоўнае. Да таго ж гэтыя тры формы часта спалучаюцца.

Аднак не ўсе формы вербальнай магіі, як і рытуальна-прадметнай, можна аднесці да класа абярэгаў. У замовах, якія з'яўляюцца абярэгамі, павінны быць усе апатрапеічныя кампаненты. Прывядзём прыклад замовы, якая не з'яўляецца абярэгам:

*«Госпадзі Божа, багаславі і, царыца, пасабі. На кітаі-моры ляжыць камень; з-пад таго камня выходзіла красная дзявіца з залатымі ключамі, і атмыкала ружжо, і пазваляла біць не на жывое, а на мёртвае, і на векі вяком, амін» [36].*

Гэты прыклад не ўтрымлівае такога кампанента, як агрэсіўны агент.

Такім чынам, вербальныя абярэгі складаюць сіметрычную невербальным сістэму, але з тымі асаблівасцямі, якія задае моўны кампанент. Нягледзячы на рознасць форм, вербальнае і невербальнае ў абярэгах уяўляюць два бакі аднаго феномена, маюць сутнасную аснову — магічны рытуал.

## ГРУПЫ ЗАМОЎ-АБЯРЭГАЎ

Навукоўцамі прапаноўваліся падзелы замоў паводле мэт, хвароб, супраць якіх замовы выкарыстоўваюцца, па формах, па ступені прысутнасці хрысціянскага элемента, па накіраванасці на ўжо напатканыя хваробы ці спыненне злога ўздзеяння з боку людзей або жывёл.

Сістэматызацыю беларускіх замоў выканала беларуская даследчыца Г. А. Барташэвіч. Найбольш прыдатнай для карыстання аўтар лічыць сістэматызацыю паводле прызначэння (ад злых духаў і шкодных істот, прыродных з'яў: ад перуна, дамавога, хлеўніка, лесавіка, ведзьмы, чараўнікоў, залому, нячыстай сілы, русалкі, порчы; замовы, якія выкарыстоўваліся пры першым выгане скаціны; ахоўныя замовы ад звяроў). Другая вялікая група ўключае замовы ад хвароб.











Створаная намі класіфікацыя дастаткова ўніверсальная, паказвае сваю прыдатнасць для падзелу як невербальных, так і вербальных абярэгаў. Выяўлены замовы, якія могуць быць аднесены да выдзеленых груп:

**1) спрыяльныя.**

На ўраджай:

*«Жыта часць, сеяць табе час. На сам сабою, Госпад Бог мой са мною» [37];*

**2) папераджальныя**, куды ўваходзяць а х о ў н ы я.

Ад нячыстай сілы:

*«Станаўлюся я, раба божыя, і загаваруся і замаўляюся ад чараўніка. Станаўлюся на медзяным тазу, закрываюся залатым тазам, абгараджываюся зялезным тынам, замыкаюся трыдзевяць замкамі, трыдзевяць ключамі, і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка і чараўніцы, і ад разлушніка і ад разлушніцы. Палажу я тэя ключы ў божжым храмі на прэстолі; няхай етыя мае ключы ляжаць нярушыма на прэстолі ў Божжым храмі. Ляжыць белы камень на гарэ Сіяньскай. Як таго белага каменя злы ўраг ня ўгрызнець, — і раба Божжага злым помыслам сваім ні ва векі вякоў ня ўвоўмець, і на ета ўрэмя і на ўсякі час. Амін, амін, амін» [38],*

р э г у л я р н а з а с ц е р а г а л ь н ы я.

Калі першы раз выганялі карову ў поле:

*«Святы Юрый, пастар Господні, прыедзь на сівым кані, у залатым сядле. Вазьмі залатыя трубы і зайграй. Пакліч ваўкоў і ваўчыц, вазьмі залатыя замкі, замкні ім губы і зубы, каб яны адзін з адным хадзілі, адзін аднаго любілі. А ты, пастух, калёнаю сцяною загарадзі. Амінь» [39];*

**3) абаронныя.**

Замова ад пажару:

*«Ходзіць Алёна па полю, каменне збірае, колле забівае, далей пажару не пускае [40];*

**4) пазбаўляльныя.**

*«Первым разам, добрым часам, зорачка-мамачка, вячэрняя зарніца, пасватаемся з табою, пабратаемся. Ёсць у цябе сыночак Данііл, а ў мяне раб Божы (імя). Вазьміце крыксы, плаксы, варыксы, суроцы, калючыя, балючыя, нясіце на сухі мох. На калючыя грушы, яблыні, прыткніце за сінія воды, дзе пціца не лятае, скот не ходзіць, дзеўкі не співаюць, там спаліце іх і попел па ветру разнясіце. Ад гэтага часочка не сама сабою, а гадавыя празнічкі са мною. Госпаду Богу памалюся, Мацеры Господняй пакланюся. Я не сваім хукам, Господнім духам, прылюбі, Госпадзі, дух мой і помач дай. Хто цябе радзіў, той і адхадзіў. Будзь здароў (імя). Пасля «Отча наш» яшчэ прачытаць. Амінь» [41].*

Замоў з а б а р о н н а г а тыпу намі не знойдзена, верагодна таму, што адмова ад маўлення супярэчыць іх вербальнай сутнасці.

Замовы з'яўляюцца найбольш даследаванай фалькларыстамі формай абярэгаў, таму ўвага была нададзена не аналізаванаму раней вербальнаму кампаненту ў складзе абярэгаў.

## АБЯРЭГІ З МОЎНЫМ СКЛАДНІКАМ

Абярэгі з вербальным кампанентам складаюць прыкладна дзясятую частку ўсіх даследаваных тэкстаў. Моўны складнік найбольш часта «з'яўляўся» ў шматаб'ектных (універсальных) абярэгах — каля 37%. На другім месцы стаяць абярэгі чалавека — амаль 10%, бо маўленне ўласціва толькі чалавеку, з'яўляецца яго спецыфічнай функцыяй. Пры гэтым абярэгаў з моўнымі праявамі найбольш зафіксавана ў групе пазбаўляльных абярэгаў, дзе чалавеку пагражала жыццёвая небяспека. Вербальны кампанент у абярэгах жывёл складаў крыху больш за 6%, раслін — 5,7%. Найменш «прамаўлялі» пры абераганні маёмасці — 2,5%. Сказанае сведчыць пра тое, што словам уздзейнічалі пераважна там, дзе аб'ектамі выступалі прадстаўнікі жывога свету, перш за ўсё носьбіт мовы — чалавек.

Вербальны кампанент вывучаных абярэгаў праяўляўся:

• кароткімі замоўнымі тэкстамі:

*«Памагчы ад сурокаў можа першы ці апошні з народжаных у сям'і дзяцей, выцершы суручанага соллю і прыгаворваючы пры гэтым: «Соль табе ў вочы, галаўню ў зубы, палена ў калена, штоб я не балела» [42];*

• малітвамі:

*«У тых нешчаслівых выпадках, калі адзін за адным ідуць «скіды» ці калі дзеці паміраюць неўзабаве пасля нараджэння, бацькі карыстаюцца такім сродкам. Выбраўшы непрыкметны дзень (пасля сарака дзён ад няшчасця), яны не працуюць, трымаюць пост, «туляюцца» ад сямейнікаў. А з надыходам ночы цішком выпраўляюцца да загадзя нагледжанага імі ў полі, ля дарогі ці на могілках паваленага крыжа, падымаюць яго і, прытрымліваючы ў стаячым становішчы, чытаюць па тры разы «Ойча наш» і «Багародзіцу», пасля чаго муж і жонка абнімаюцца і цалуюцца, «аблапіўшы» крыж, і асцярожна кладуць яго на месца ці ўкопваюць туды, дзе ён стаяў» [43].*

У некаторых выпадках малітва магла быць любой.

Пры хваробах касцей:

*«Мак свецяць, ды нітка чырвона, свечкі свецяць, ды ніточку завяжуць. Свянцоную ніточку... Которая посвечана, царкоўная, да Божыя слова́»* (УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на);

• заклінаннямі, непасрэднымі зваротамі да звышнатуральных сіл — багоў, святых, дэманічных істот:

*«Напярэдадні св. Яна... у лён уторкваюць кляновую галінку са словамі: «Як дзярэва клён, дай нам, Божа, лён!» Потым, уваткнуўшы ў кутку нівы, дзе пасаджаная канюшына, асінавую галінку, кажуць: «Густа, як асіна, расці, канюшына!» Потым: «Як вецейкі ў бяроз, столькі зёран дай, авёс!» і г. д. Кожная такая ніўка ўжо абароненая ад усіх нягодаў» [44];*

• прыгаворамі, клішаванымі формуламі — тэкстамі для рытуальнага прамаўлення:

*«Каб адвучыць Кадука ездзіць на тэй жывёле, дык трэба гальнік (галень — спрацаваны венік) абрабіць у самы горшы бруд ды біць тым гальнікам па хрыбце тую жывёліну і прамаўляць: «Які госць, такая і чэсць» [45];*

• запрашэннямі:

*«Мароз, мароз, ідзі куццю есці! Улетку не бывай, а ў зіму прабывай, бо мы будзем цябе біці жалезнымі пугамі!» Гэта ён паўтарае тры разы» [46];*









• прывітаннямі:

*«У Палессі для адварочвання градавай хмары яе сустракалі прывітаннем: «Сардэчна запрашаем!» [47].*

Часта запісы абярэгаў уключалі ў сябе прадпісанні для моўнай дзейнасці.

*«Калі на Русальным тыдні ці яшчэ калі хоча чалавек засцерагчыся ад русалак, то перад тым, як легчы спаць, ён павінен памаліцца і нажом правесці вакол сябе настолькі далёка, каб русалка рукою не здолела яго дастаць» [48].*

Вербальны кампанент, які выражаўся замовамі, малітвамі, заклінаннямі, запрашэннямі, прывітаннямі, выступаў як частка больш ці менш разгорнутай дзеі ў абярагальным сцэнарыі.

Нярэдка дзеянні суб'екта абярэга каментаваліся.

Замова ад падвею:

*«Знахар абвівае нітку хвораму вакол галавы, шэпчучы: «Вяжу тваю галаву», — і завязвае канцы ніткі ў вузельчык на тым месцы, дзе яны сышліся... потым вяжуць жывот са словамі: «Вяжу твой жывот», далей такім самым чынам завязваюць хвораму грудзі, рукі і ногі. Усе гэтыя завязкі кідаюць у печ, у агонь, а хвораму прапануюць устаць ці падняць руку... Такое вязанне падвею паўтараецца некалькі разоў» [49].*

У некаторых абярэгах змест маўлення заставаўся нявызначаным, таму што сказанае мусіла захоўвацца ў таямніцы. Часцей за ўсё моўная дзейнасць называлася «шэптам».

*«Пры паяўленні крывацёку ў цяжарных найперш звяртаюцца да знахароў і шаптуноў, якія ці непасрэдна загаворваюць кроў, ці папярэдне нашэптваюць на хлеб, які і даюць есці цяжарнай... ...Здымаюць з хлебнай дзежкі абруч і праз яго праводзяць тры разы цяжарную, а ў Слуцкім павеце хворую, акрамя таго, абводзяць тры разы вакол стала... Нярэдка робяць так: бяруць доўгую суровую канапляную нітку, на абодвух канцах яе робяць па вузлу, нашэптваючы ў гэты час штосьці тры разы, пасля чаго стукаюць вузламі тры разы па далонях. Прыгатаванай такім чынам ніткай апярэзваюць жывот цяжарнай» [50].*

Замова-шэпт ад «зглазу»:

«...*Вышэптваю, выгаворваю з касцей, с палукасцей, з жыл і паўжыл, з буйной галавы, з карых вачэй, з румянага ліца, з гарачай крыві і з шчырага сэрца.* Падуць і плюнуць тры разы» [51].

## ФОРМЫ МОЎНАГА СКЛАДНІКА

Моўны кампанент абярэгаў быў прадстаўлены ў формах:

• маналогаў:

*«Калі гаспадар хоча, каб пацукі і мышы не псавалі збожжа, заязджаючы ў гумно, з першым возам збожжа ён павінен сказаць:*
*«У маём гумне пясок да каменне, а ўсялякая збожжа расце (ляжыць) па лясох да па верасох» [52];*

• дыялогаў:

*«Пасля заходу сонца маці становіцца з хворым дзіцём ля акна ў хаце, а другая, блізкая ёй жанчына, падыходзіць да таго самага акна звонку і пытае:*
*А ці не ёсць у вас начнэй дзяцёнык?*
*— Ёсць, ёсць! — адказвае маці.*
*— Усё ноччу не спіць!*
*— Няхай жа валей ён ідзець у тыя начніцы, айдзе дзеўкі і маладзіцы!*
*Пасля гэтых слоў абедзьве жанчыны дзьмухаюць над галавой у дзіцяці так, каб іх «дзьмухі» сутыкаліся» [53];*

• калектыўных прамоў, часта ў вершаванай ці блізкай да яе форме:

*«... Дзеці спыняюць дождж... харавым гуканнем:*

*А дожжынька, а баціньска,*
*Перастань, перастань —*
*Я паеду на Ірдань, на Ірдань*
*Богу маліцца,*
*Хрысту пакланіцца,*
*А ў Бога сірата*
*Раствараіць варата!» [54];*

• пісьмовых тэкстаў:





*«Каб назаўсёды засцерагчы вёску ад граду, трэба яе граніцы абараць парай чорных валоў-блізнят. Дзякуючы гэтаму спосабу, як лічыць народ, некаторыя сёлы з прадаўніх часоў абыходзяць градавыя буры. Іншыя раяць з той жа мэтаю на чатырох рагах граніц закапаць косці з велікоднага барана ці чаго-небудзь са свянцонага, прывезенага з іншай вёскі, нарэшце, закапаць запісаныя на лістках чатыры малітвы з Евангеля, чытаныя ў дзень Божага Цела» [55].*

Пісьмовая форма часцей характэрна для твораў, якія ўжываюцца ў якасці засцерагальнікаў, свайго роду амулетаў. Гэта могуць быць перапісаныя малітвы, часам звычайныя замовы-перасцярогі, месца знаходжання якіх залежыць ад мэты іх прымянення: за бажніцаю ў хаце, у гаспадарчым памяшканні над дзвярыма, у чалавека пры сабе. Бываюць моманты, калі паперка з запісаным тэкстам з'ядаецца або прыкладваецца да хворага месца» [56]. Таксама замовы-малітвы зашывалі ў гімнасцёрку таму, хто адыходзіў на вайну:

*«О, Маці Хрыстова, укрый мяне рызай святою ад неба да зямлі. І што пры мне ёсць, тое сахрані. Адгані, аднясі кулю ветрам. Ангел-ахоўнік, захоўвай маё цела і душу і накіруй мяне на шлях выратавання. Амінь» [57];*

- у складзе абрадавых песень. Падчас русальнага абраду ўдзельнікі выраблялі з саломы пудзіла русалкі, надзявалі вянкі і беглі ў поле. Пры гэтым спявалі:

*«Правяду я русалачку да бору,*
*А сама вярнуся дадому.*
*Штоб русалачка па жыту не хадзіла*
*Да нашага жыцечка не ламіла.*
*Наша жыцечка таненька,*
*А ў каласочку таўсценька...» [58];*

- абрадавых гульняў.

На Юр'е:

*Пастух вызначае, каму з хлопчыкаў-падпаскаў быць «зайцам», каму — «кульгавым», каму — «замком», а каму — «калодай», і расстаўляе іх усіх вакол статка. Пасля гэтага бярэ прыгатаваную яешню і ідзе з ёю да «зайца», пытаючы: «Заяц, заяц, ці горка асіна?» Той адказвае: «Горка!» — «Дай Бог, каб і наша скацінка для звяроў была горка!» Звяртаецца да «сляпога»: «Сляпы, а сляпы, ці бачыш ты?» «Сляпы» адказвае: «Не бачу!» — «Дай Бог, каб і нашу скацінку не бачыла звярынка!» Далей пытае ў «кульгавага»: «Кульгавы, а кульгавы, ці дойдзеш ты?» У адказ: «Не дайду!» — «Дай Бог, каб у звера не разамкнуліся зубы ля нашай скацінкі!» Нарэшце, пастух падыходзіць да «калоды»: «Калода, а калода, ці павернешся ты?» Тая кажа: «Не павярнуся». — «Дай Бог, каб і звер не павярнуўся да нашай скацінкі!»*

*Такім чынам пастух тры разы абыходзіць статак. Пасля ўсе ўдзельнікі гульні садзяцца і з'ядаюць яешню... [59].*

Мэтай маўлення ў час рытуалу была сімвалізацыя дзеяння, перавод яго на міфічны ўзровень. Так з дапамогай зваротаў у апатрапеічны сцэнарый уводзіліся міфічныя персанажы — суб'екты абярэгаў. Меркавалася, што дзякуючы маўленню абярэг становіцца больш эфектыўным. Моўны кампанент дазваляў унесці ў абярэг дадатковы сэнс больш высокага ўзроўню, які нясе ў сябе слова. У сваю чаргу, слова раскрывала сэнс абярэга.





## АБЯРЭГ ЯК СІСТЭМА

Абярэг — сістэма ўзаемазвязаных кампанентаў, якая функцыянуе як адзінае цэлае. Структурнымі кампанентамі абярэга з'яўляюцца аб'ект, агрэсар, магічна-рытуальнае аберагальнае дзеянне, яго суб'екты і сродкі. Кампаненты абярэгаў цесна звязаны ўнутранай логікай і не могуць існаваць адзін без аднаго.

Акрамя таго, у структуры абярэга ў цэлым і ў кожным яго кампаненце можна выдзеліць два ўзроўні: 1) рэальны і 2) міфічны, сімвалічны.

Р э а л ь н ы ў з р о в е н ь у абярэгах прадстаўлены:

1) рэальнымі прасторай і часам, у якіх яны функцыянуюць;

2) рэальным аб'ектам абярэгаў;

3) рэальнымі практычнымі актамі, якія мадэлююць супрацьдзеянне агрэсіі, маюць сімвалічны характар і падобны на звыклыя для людзей штодзённыя акцыі: працоўныя, фізіялагічныя, якія былі знаёмы людзям з асабістага ці агульнага досведу;

4) рэальнымі выканаўцамі рытуалаў;

5) матэрыяльнымі сродкамі абярэгаў — рэчывамі і рэчамі, што існуюць у прыродзе або зроблены людзьмі з прыродных матэрыялаў.

М і ф і ч н ы ў з р о в е н ь абярэгаў забяспечваецца:

1) міфічнымі прасторай і часам;

2) фантастычнымі персанажамі, у першую чаргу — агрэсарамі, якія ўносяць свой міфічны свет і задаюць «правілы гульні» для іншых удзельнікаў апатрапеічнага сцэнарыя;

3) магіяй апатрапеічных рытуалаў;

4) сімволікай кампанентаў абярэга і ўмовамі яго здзяйснення.

Кожны кампанент абярэга ў свядомасці людзей «страчвае рэальнасць» у рознай ступені. У найменшай меры гэтаму падвержаны аб'ект, у рэальным існаванні і развіцці якога зацікаўлены чалавек, дзеля якога здзяйсняецца абярэг.

На цалкам міфічным узроўні ў абярэгах могуць «дзейнічаць» агрэсіўныя агенты, якія уцягваюць у вымушаныя контрдзеянні суб'ектаў. Менавіта агрэсар і міфалагізуе ўсю аберагальную сітуацыю, бо для змагання з фантастычнымі істотамі, з тым, чаго насамрэч не існуе, не могуць быць здзейснены цалкам рэальныя акты і ўжыты матэрыяльныя сродкі. Ім абавязкова «надаюцца» пэўныя звыш'якасці, якія пераўзыходзяць рэальныя.

## ІНШЫЯ АБЕРАГАЛЬНЫЯ СІСТЭМЫ

Аберагальны кампанент уключае медыцынскую, юрыдычную, ваенную, спартыўную і педагагічную сістэмы. У іх агульныя складнікі: аб'ект, агрэсар, аберагальнае дзеянне, суб'екты і сродкі. Функцыянуюць гэтыя сістэмы таксама вельмі падобна: спрыяюць нармальнаму існаванню і развіццю аб'екта, ахоўваюць яго, засцерагаюць ад шкодных уплываў, уводзяць пэўныя забароны дзеля захавання аб'екта, абараняюць пры непасрэднай пагрозе агрэсіі, пазбаўляюць аб'ект ад уздзеяння агрэсіўнага агента.

Прынцыпы абярэгаў асабліва блізкія да прынцыпаў медыцыны: аздараўляльнага (адпавядае «спрыяльным» абярэгам), прафілактычнага («папераджальным», «абаронным»), лячэбнага («пазбаўляльным»). У адрозненне ад медыцынскай сістэмы тут не выяўлена рэабілітацыйнага прынцыпу. Барацьба з наступствамі агрэсіі, калі небяспекі ўжо няма, у абярэгах не прадугледжана. Абярэг існуе толькі да той пары, пакуль дзейнічае агрэсіўны агент. Рэабілітацыя — хутчэй сфера «чыста» лячэбнай і «рэабілітацыйнай» магіі, цалкам



скіраваная на аб'ект, дзе мэтай з'яўляецца ўздзеянне на сімптомы і наступствы захворванняў, узнаўленне парушаных функцый арганізма. Абярэгі ж накіраваны на ліквідацыю агрэсара.

Такім чынам, абярэг з апатрапеічным кампанентам падобны да іншых сістэм па сваёй структурнай і прынцыпавай арганізацыі. Але абярэг і вышэйпералічаныя сістэмы не звязаны. Самым істотным іх адрозненнем з'яўляецца тое, што абярэг мае двухузроўневую пабудову, у якую ўваходзіць міфічны пласт. Менавіта гэта забяспечвае самабытнасць і пэўную аўтаномнасць функцыянавання абярэга як сістэмы. Праз узроўні ўсталёўваюцца сувязі абярэга з тымі сістэмамі, з якімі ён звязаны генетычна, без якіх ён не можа існаваць. Як будзе паказана пры разглядзе структурных кампанентаў абярэга, сваім рэальным узроўнем ён звязаны з сістэмай каштоўнасцей тагачасных людзей, а таксама са старажытнай міфалагічнай сістэмай.

Між тым абярэг наўрад ці можна разглядаць як элемент або частку міфалагічнай сістэмы, бо:

1) ён мае, акрамя міфічнага, рэальны ўзровень існавання;

2) з'яўляецца формай не толькі духоўнай, але і мэтанакіраванай практычнай дзейнасці людзей.

У дасканалай распрацаванасці, прыналежнасці да ўніверсальна пабудаваных сістэм, мэтавай глыбіннасці, замацаванасці, дзякуючы магічнаму складніку, на падсвядомым узроўні, верагодна, і заключаецца прычына звышстойкасці абярэга.







Адметнасці сістэмы абярэга



скіраваная на аб'ект, дзе мэтай з'яўляецца ўздзеянне на сімптомы і наступствы захворванняў, узнаўленне парушаных функцый арганізма. Абярэгі ж накіраваны на ліквідацыю агрэсара.

Такім чынам, абярэг з апатрапеічным кампанентам падобны да іншых сістэм па сваёй структурнай і прынцыпавай арганізацыі. Але абярэг і вышэйпералічаныя сістэмы не звязаны. Самым істотным іх адрозненнем з'яўляецца тое, што абярэг мае двухузроўневую пабудову, у якую ўваходзіць міфічны пласт. Менавіта гэта забяспечвае самабытнасць і пэўную аўтаномнасць функцыянавання абярэга як сістэмы. Праз узроўні ўсталёўваюцца сувязі абярэга з тымі сістэмамі, з якімі ён звязаны генетычна, без якіх ён не можа існаваць. Як будзе паказана пры разглядзе структурных кампанентаў абярэга, сваім рэальным узроўнем ён звязаны з сістэмай каштоўнасцей тагачасных людзей, а таксама са старажытнай міфалагічнай сістэмай.

Між тым абярэг наўрад ці можна разглядаць як элемент або частку міфалагічнай сістэмы, бо:

1) ён мае, акрамя міфічнага, рэальны ўзровень існавання;

2) з'яўляецца формай не толькі духоўнай, але і мэтанакіраванай практычнай дзейнасці людзей.

У дасканалай распрацаванасці, прыналежнасці да ўніверсальна пабудаваных сістэм, мэтавай глыбіннасці, замацаванасці, дзякуючы магічнаму складніку, на падсвядомым узроўні, верагодна, і заключаецца прычына звышстойкасці абярэга.







Адметнасці сістэмы абярэга

## ПАДЗЕЛ АБЯРЭГАЎ ПАВОДЛЕ ІХ АБ'ЕКТАЎ

Абярэгі мелі вялікую значнасць у жыцці людзей тагачаснага насельніцтва Беларусі. Ва ўсе часы людзі зберагалі найбольш важнае для сябе. Разгляд аб'ектаў аберагальнага клопату дае магчымасць зразумець каштоўнасныя арыенціры нашых папярэднікаў. Менавіта на аб'ект накіроўваліся дзеянні чалавека дзеля забеспячэння свайго існавання і развіцця, калі гэтаму перашкаджаў небяспечны агент.

У абярэгах асноўнымі аб'ектамі з'яўляюцца людзі, жывёлы, маёмасць і расліны. У іх інтарэсах дзейнічаюць суб'екты абярэгаў — людзі, якія з «дапамогай» звышнатуральных сіл змагаюцца супраць агрэсіўнага агента. Апошнія, паводле апатрапеічнага сцэнарыя, імкнуцца нанесці шкоду аб'екту або знішчыць яго.

Згодна са старажытнымі ўяўленнямі чалавек прыйшоў з «таго свету» альбо створаны звышнатуральнымі сіламі. У параўнанні з іншымі кампанентамі аб'екты абярэгаў існуюць на больш рэальнай аснове.

Увага да аб'ектаў абярэгаў з боку людзей была нераўнамернай, што, безумоўна, з'яўляецца паказчыкам іх значнасці ў жыцці тагачаснага насельніцтва.

Існуе меркаванне, што старажытнымі людзьмі не вылучалася іерархія каштоўнасцей: чалавек — такая ж частка агульнага цэлага, як жывёла, расліна ці камень. Аднак пры разглядзе абярэгаў выяўлена: у тым, каго ці што трэба было аберагаць і ў якой ступені, сістэма каштоўнасцей старажытных людзей выступала вельмі яскрава і відавочна.

Апатрапеі чалавека стаяць на першым месцы (амаль 43%), на другім — група жывёл (26,5%), трэцяе месца займаюць абярэгі маёмасці — блізу 15%, абярэгі раслін складаюць 11,7%. Адносная нешматлікасць абярэгаў раслін можа тлумачыцца непрацяглым тэрмінам іх існавання ў сельскагаспадарчым цыкле і больш лёгкай магчымасцю іх узнаўлення. Найменшую групу прадстаўляюць універсальныя апатрапеі, якія маюць дачыненне да некалькіх аб'ектаў; яна складае 4,4%.

Як бачна, прыярытэтным аб'ектам беларускіх абярэгаў з'яўляецца сам чалавек. Асноўная іх частка закранала яго здароўе, ад якога ў першую чаргу залежала працаздольнасць і ўзнаўленне роду. Старажытныя людзі клапаціліся і пра астатнія аб'екты, іх якасць, захаванасць і своечасовае ўзнаўленне. Яны былі звязаны з традыцыйнымі працоўнымі заняткамі (жывёлагадоўляй, раслінаводствам, рамёствамі) і забяспечвалі яго існаванне.

## АБЯРЭГІ ЧАЛАВЕКА

Прадстаўленасць абярэгаў у розныя перыяды жыцця чалавека была неаднолькавай (мал. 3).

Пэўныя адрэзкі яго існавання ўсведамляліся як небяспечныя, якія патрабавалі аберагання. Аналіз паказаў, што надзвычай важнае значэнне надавалася эмбрыянальнаму перыяду развіцця чалавека. Існавала шмат забарон для цяжарнай жанчыны, парушэнні якіх маглі, на думку людзей, выклікаць сур'ёзныя негатыўныя наступствы для плода ў выглядзе цяжкіх калецтваў і гібелі.

*«Пераступаць цераз абруч і асабліва станавіцца ў сярэдзіну яго цяжарнай нельга, таму што дзіця будзе мець перацягнуты, нібы поясам, жывот» [60].*

*«На Палессі і некаторых іншых раёнах Беларусі, калі цяжарная вымушана была ісці на пахаванне, яна, каб не прычынілася благога, прывязвала да пояса чырвоную стужку ці павязвала галаву чырвонай хусткаю» [61].*










***Мал. 3.* Чалавек у якасці аб'екта абярэгаў у розныя перыяды жыцця**

Замова на захаванне плода:

*«Ішла святая Прачыстая з усімі святымі апосталамі, нясла залатыя замкі, срэбраныя ключы, замыкала рабы божыя жываты да пары» [62].*

Вельмі вялікая ўвага надавалася працэсу родаў, пры якіх жанчына павінна была прытрымлівацца пэўных прадпісанняў:

*«...у моманты вялікага болю ... тры разы водзяць вакол стала, а таксама раскладваюць на зямлі мужчынскія штаны, праз якія хворая павінна некалькі разоў пераступіць» [63].*

Замова на добрыя роды:

*«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай матцы пакланюся. Я, Госпадзі, з словам, ты, Госпадзі, з помаччу. Ясны месяц парою ўсходзіш, парою заходзіш. Раба божая Параска парою занялася, парою родзіш; прыдзя табе паследняе ўрэмя — адчыняны табе вароты» [64].*

Не менш значным быў перыяд ранняга дзяцінства. Шмат увагі надавалася працэдурам гігіенічнага плана, а таксама прадухіленню хвароб маленькіх дзяцей.

*«Пасля купання дзіцяці спачатку яго цалуюць, а потым сплёўваюць на ваду, каб адагнаць зло» [65].*

*«Каб дзіцёнка ніхто не сурочыў, трэба над люлькаю павесіць воўчы зуб, а таксама ўсяляк захоўваць яе ад паветру» [66],* бо лічылася, што вецер (навей, падвей) можа нагнаць хваробу.

Замова «ад нашніц, крыксаў»:

*«Крыксы, крыксы, дарую я вас хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам — даруйця майго дзіцяці дабрым здароўем і сном!» [67].*

Значнай падзеяй лічылася хрышчэнне немаўляці; дзіця да гэтага моманту прызнавалася «нячыстым». Пэўная колькасць абярэгаў прысвечана бяспецы падчас першага вывазу дзіцяці ў свет. Паводле сведчання М. Я. Нікіфароўскага, калі вязуць дзіця хрысціць і «праязджаюць першыя «ростанькі» (перакрыжаванне дарог), кумы выкідваюць тут адмыслова ўзятыя гліну і соль, каб дзіця не пужалася «зазеху» (сурокаў)» [68].

Далей у абярэгах клопат праяўляўся ў дачыненні да дзяцей без узроставага падзелу. Найвялікшая колькасць абярэгаў факусіравалася на забеспячэнні правільнага развіцця дзяцей, на барацьбе з дзіцячымі хваробамі, траўмамі.

> *«Павітуха пасля купання дзіцяці клала яго на кажух, разасланы на падлозе каля ганка ці каля печы, пераступала праз дзіця некалькі разоў, прыгаворваючы: «Каб вялікае расло, каб добра спала» [69].*
>
> *«Каб адратаваць дзіця ад начніц, маці ці другая якая жанчына, варуючыся ад другіх, прыносіць у новум вядры вады з трох калодзесяў ці з-пад млына і ставіць яе пад калыскаю; маці кідае ў тую воду нож, іголку і тры вугалькі. Калі гэта яна зробіць, хутка і бы ненарокам, так што ніхто не прыкмеціць, то дзіця адразу засне і начніцы мінуцца» [70].*
>
> *«Замест кашулі дзіцяці звычайна прыносяць кавалак каленкору ці простага палатна, у якім выразаюць пасярэдзіне дзірку на галаву; выразаны кавалак палатна хросныя бяруць з сабою, каб ... гэты кавалак служыў яму абярэгам ад падзення з дрэва» [71].*

Полавая прыналежнасць да прызыўнога і шлюбнага ўзросту не ўзгадвалася. Маладыя хлопцы і дзяўчаты выступалі звычайна не як аб'екты, а як суб'екты абярэгаў, як удзельнікі апатрапеічнага рытуалу. Знойдзена толькі невялікая колькасць абярэгаў, якія мелі дачыненне да хлопцаў-рэкрутаў:

> *«А ў Палессі пры праводзінах хлопца ў войска вілы ці ўхват пераварочвалі вастрыём уверх, каб ён пасняхова вярнуўся; у гэтай самай сітуацыі часам пераварочвалі стол, а іконы ў хаце паварочвалі да сцяны» [72].*

Калі хлопец знаходзіўся ў войску, прамаўлялася наступная замова:

> *«Памолімся Госпаду Богу, апосталу святому, кіеўскаму памочніку, Пятру і Паўлу за здароўе Сцяпана. Памагі, Гасподзь, сам Гасподзь, памілуй, ваенную службу яму адслужыці, і на сваю родзіну яму вараціцца, і з атцом, і з мацяраю яму павідацца. Спасі, Гасподзь, ад мяча і агня, ад вострае саблі, ад пулі-зладзейкі. Амінь» [73].*





Вясельныя абярэгі існавалі асобна для маладой і маладога. Паколькі вогнішча мае ачышчальнае і ахоўнае ад чараў значэнне, то

> *«...у беларусаў... малады і яго сябры па дарозе ў царкву пераскокваюць праз запаленае вогнішча» [74].*
>
> *«Каб ніхто не сурочыў і не «зачараваў», маладая бярэ з сабою галоўку цыбулі або часныку і носіць увесь час на вяселлі» [75].*

Толькі на кароткі час мужчыны і жанчыны як аб'екты ўзгадваліся ў тэкстах разам — калі яны маглі зачаць дзіця. Так, для засцерагання маладых ад чараў рэкамендавалася ўзяць

> *«...сцізорык і перанесці яго ўпоперак над маладымі, калі яны лягуць у шлюбную пасцель, нібыта штосьці разразаючы над імі, а потым пайсці ад іх. У момант выхаду з пакоя нож трымаць вастрыём уперад, самое ж вастрыё затым адламіць і кінуць у кузні ў горне, каб яно там перагарэла на дробны парашок» [76].*

Перыяды магчымага зачацця на працягу жыцця больш у абярэгах не ўзгадваліся, хаця праяўляўся няспынны клопат пра цяжарных.

Жанчына як аб'ект абярэгаў, акрамя часу ўступлення ў шлюб, праходзіла тры прыступкі, звязаныя з дзетароднай функцыяй: цяжарнасць, роды, вельмі кароткі пасляродавы перыяд. Пасля таго як дзіця падрасце, пра маці, паводле тэкстаў абярэ-



**Інтэр'ер жылля канца XIX — пачатку XX ст.**
**Сядзіба Акінчыцы (Стаўбцоўскі раён)**

гаў, клопату не праяўлялася. Не фігуравала жанчына ў абярэгах нават у якасці жонкі. Як аб'ект абярэгаў яна выступала толькі ў ролі працаўніцы. Мужчынскія і жаночыя заняткі пры гэтым не адасабляліся, акрамя жняярства, якое дэлегавалася жанчынам.

*«Каб падчас жніва не вывіхнуць рукі, жнеі звычайна перавязваюць правую руку ў суставе жычкай або ваўнянаю ніткай такога колеру, якой было перавязанае пасвянцонае зелле» [77].*

За гэтым выключэннем мужчыны і жанчыны, незалежна ад полу, разглядаліся ў тэкстах толькі як людзі, адметныя і карысныя тым, што яны з'яўляюцца працоўнай сілай. Таму найпершы клопат праяўляўся пра іх здароўе.

*«Гаючыя ўласцівасці, якімі надзялялася асвечаная вярба, выкарыстоўваліся ў народнай медыцыне. Так, гэтай вярбой пахлёствалі хворых, прыгаворваючы: «Не я б'ю — вярба б'е. Хвароба ў лес, здароўе ў косці» [78].*

Старыя людзі не выступалі ў якасці аб'ектаў абярэгаў магчыма таму, што былі непрацаздольнымі і не маглі выконваць рэпрадукцыйную функцыю. Затое старыя вельмі часта прыцягваліся да аберагальнага дзеяння як суб'екты.





**Моладзь у традыцыйных строях пачатку XX ст.**
**Вёска Лешня (Капыльскі раён)**

## АБЯРЭГІ СВОЙСКІХ ЖЫВЁЛ, МАЁМАСЦІ, РАСЛІН

Другімі па колькасці і распрацаванасці пасля прысвечаных чалавеку былі абярэгі жывёл. Сярод аб'ектаў абярэгаў узгадваюцца толькі свойскія жывёлы і іх патомства як крыніцы харчавання, вырабу рэчаў і як працоўная сіла, наяўная і патэнцыйная.

*«Каб гаўяда ніхто не зачараваў, яму даюць крошкі свянцонага, бо грэх і жывёлу забываць» [79].*

Пры выгане скаціны на пашу прамаўлялі замову:

*«Варота як адчыняюць, як тавар на пашу выганяюць, злому зверу рот замком замыкаюць, штоб ён вушамі не цягнуў і вачамі не глянуў, і рота не разяўляў, год да мае худобкі не прыступаў, дзень пад сонейкам, ноч пад месяцам, пад яснымі зарамі, пад гасподнімі славамі...» [80].*

Дзікія жывёлы выступалі ў тэкстах-запісах толькі ў якасці пагрозы свойскай жывёле, абярэгаў у дачыненні да іх не зафіксавана.

Трэцяе месца займалі абярэгі, прысвечаныя маёмасці. Аберагалі ў асноўным нерухомасць — хаты і пабудовы для ўтрымання скаціны, часцей за ўсё ад пажару.

*«Каб спыніць пашырэнне пажару, вакол ахопленай агнём пабудовы абносяць хлеб у рэшаце» [81].*

Замова ад пажару:

*«Аганёк, аганёк ад Госпада Бога, да не даў табе Бог раскошы ні гарэць, ні ўгарацца, вадой разліваца. І даў табе Бог так гарэць, як гасподняй свячэ. Табе, хароміна, дагараць, а ты, аганёк, лажысь спаць. Прыкрыў*



**Ручнік. Бавоўна, бранае ткацтва, вязанне кручком. Н. Казак.**
**Горад Ганцавічы (Брэсцкая вобл.)**





**Інтэр’ер жылля канца XIX — пачатку XX ст.**

**Сядзіба Смольня (Стаўбцоўскі раён)**

*аганёк Мікіта, Лука, трэцья Хрыстова рука» [82].*

Ад наступстваў пажару дапамагалі трохразовае аббяганне, абнясенне агню іконай, кіданне ў агонь велікоднага яйка і інш.

Клапаціліся таксама пра тое, каб зайздроснікі не сурочылі «работу». Такія заняткі, як ткацтва, паляванне, пчалярства, сяўба, жніво і іншыя, стваралі дабрабыт чалавека і маглі падвяргацца небяспецы чараў, сурокаў з боку нядобразычліўцаў.

*«Калі снавалі, навівалі ці ткалі, за пояс затыкалі нож, каб перасцерагчы работу ад сурокаў» [83].*

Пры сяўбе казалі наступнае:

*«Жыта часць, сеяць цябе час. На сам сабою, Госпад Бог мой са мною» [84].*

Наступнымі ў разгледжанай намі іерархіі былі «раслінныя» апатрапеі. Клопат праяўляўся толькі ў дачыненні да карысных раслін — крыніцы харчавання, сыравіны для вырабу рэчаў. У пераважнай частцы тэкстаў фігуравала жыта, значна менш — гароднiна і выключна рэдка — пладовыя дрэвы са шматгадовай вегетацыяй.

*«Калі ішоў дождж і з градам, то людзі выкідалі молаты і лапаты, тыя, што пяклі хлеб, у двор, штоб не ішоў град і не пабіў ім жыта» [85].*

*«Лён посеют, то несут деркача и утыкают у той лён, коб нихто не зрок» [86].*

Замова ад залому:

*«Прачыстую маць упрашаю, Суса Хрыста прынябеснага. Ідзець святая Ірдань, нікога не ўлякаецца — ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні каралёў, ні князёў; так не ўлякайся, ніўка (ці скацінка), ні чараўніц, ні чараўнікоў. Сус Хрыстос здзержыў небу і зямлю і нас судзержай, грэшных» [87].*

У якасці аб'ектаў абярэгаў не ўзгадваліся кветкі і нават лекавыя расліны.

## МЕЖЫ АБЕРАГАЛЬНАГА КЛОПАТУ

Не знойдзена абярэгаў незасвоенага навакольнага асяроддзя, да якога чалавек ставіўся пераважна як карыстальнік. Жывёлы, расліны, рэчы не разглядаліся як самакаштоўнасць, клопат пра іх праяўляўся з пункту гледжання задавальнення патрэб чалавека.

Далёка не на першы план выступала такая адарваная ад чыста матэрыяльных якасцей катэгорыя, як прыгажосць. Яна праяўлялася з пункту гледжання «функцыянальнасці» як суправаджэнне карысных якасцей (каб скаціна была гладкая, расліны тоўстыя, высокія і інш.). У старажытныя часы ў абрадавых дзеяннях прыгажосць хутчэй прыносілася ў ахвяру. Так, у абрадзе провадаў русалкі выбіралі найпрыгажэйшую маладую дзяўчыну, якую кідалі ў полі. Прыгожыя вышываныя вырабы таксама выкарыстоўваліся для ахвяраппрынашэнняў. Звычайна гэта былі ручнікі, паясы, якія пакідаліся у хляве, свірне, над куфрам і ў іншых месцах».

Па-за аберагальным клопатам пакінуты ўнутраны свет чалавека. Не надавалася належнай увагі яго духоўнаму развіццю, каштоўнасцям найвышэйшага парадку, якія не былі наўпрост звязаны з жыццёвымі патрэбамі людзей. Толькі зрэдку ў абярэгах ужывалася паняцце «на шчасце».

З аналізу абярэгаў вынікае пераважна матэрыяльны характар каштоўнасцей, прагматычнасць памкненняў людзей старажытных часоў.





## НЕБЯСПЕКА І АГРЭСІЯ

Сваёй запатрабаванасцю абярэгі абавязаны актыўнасці агрэсіўнага персанажа, які насамрэч існаваў у прыродзе і адлюстроўваўся ў свядомасці архаічных людзей даступным ім чынам. М. Ф. Сумцоў пісаў, што «старажытны чалавек цалкам быў пранізаны думкай аб прысутнасці ў свеце звышнатуральных істот, якія ўмешваліся ва ўсё зямное і чалавечае. ...Ва ўсіх падзеях жыцця трэба прасіць, маліць, заклікаць іх на дапамогу ці адмяжоўваць сябе ад іх умяшальніцтва, калі яно вядзе да бяды і гора» [88].

Агрэсары ў абярэгах — фантастычныя істоты, а таксама некаторыя людзі, якія пагражаюць існаванню ці натуральнаму развіццю аб'екта альбо разбуральна дзейнічаюць у дачыненні да яго. Агрэсіўныя персанажы ў абярэгах — тыя самыя, што і ў іншых формах народнай творчасці, але тут яны выконваюць свае спецыфічныя ролі. Наяўнасць агрэсара, які дзейнічае супраць аб'екта і выклікае адпаведнае з пункту гледжання архаічных людзей супрацьдзеянне, у значнай меры вызначае прыналежнасць пэўнага фальклорнага тэксту да класа абярэгаў.

Як адзначае А. Я. Леўкіеўская, у дачыненні да аб'екта існуе «небяспека». Пагрозу, небяспеку, як нешта патэнцыйнае, нерэалізаванае, можна толькі прадухіліць, а знішчыць немагчыма; знішчэнню падлягае агрэсіўны агент, ад якога зыходзіць небяспека. Больш адэкватным падаецца ўжыванне паняцця «агрэсія» для пазначэння працэсу, які ахоплівае дзеянні шкодных сіл. Магчымасць агрэсіўных актаў пазначана намі як пагроза агрэсіі, а рэалізацыя гэтай пагрозы — як уласна агрэсія. Паняцце «агрэсар» распаўсюджваецца не толькі на чалавека, жывёлападобныя персанажы, але і на прыродныя з'явы.

Агрэсіўны персанаж можа знаходзіцца на рознай адлегласці ад аб'екта, агрэсія — мець розную актуальнасць. Ад актыўнасці агрэсіўнага агента залежыць функцыянаванне ўсіх іншых кампанентаў абярэгаў, аб'ём і тэрміновасць мерапрыемстваў па супрацьдзеянні агрэсіі, колькасць суб'ектаў абярэга, моц сродкаў.

## АГРЭСІЎНЫЯ ПЕРСАНАЖЫ АБЯРЭГАЎ

Вядомая даследчыца беларускіх замоў Г. А. Барташэвіч канстатуе: «Па ўяўленнях першабытнага чалавека, носьбітам варожасці, носьбітамі шкаданоснай сілы можа быць усё, з чым ён сутыкаецца ў жыцці» [89]. У якасці асноўных агрэсіўных персанажаў у абярэгах выступалі:

1) для чалавека — людзі-нядобразычліўцы, прыродныя з'явы, хваробы, нячыстая сіла.

*«Як ячмень на воку, то трэба ўзяць коліва ячменю і абвесці тры разы окала воку, а потым, сказаўшы: «Ячмень на воку, урош прароку!», кінуць курыцы, а яна з'есць. Тагды ўсё і пройдзе» [90].*

У замове:

*«Айцец нябесны, Уладыка, Гасподзь Бог, Спасіцель наш. Сахрані раба божага (імя), сахрані нас, грэшных, сахрані маю сям'ю, адгані ад нас нячыстую сілу, пазбаў нас ад лукавага, не ўвядзі нас у спакусу, вольную ці нявольную, даруй нам цяжкія грахі, пазбаў нас ад хвароб, ад усялякіх напасцей, па міласці тваёй. Ад ламіны, ад скаціны, ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад чалавека злючага, пазбаў па міласці сваёй. Амінь» [91];*

2) для свойскай жывёлы (кароў, свіней, коней, а таксама птушак) — людзі-нядобразычліўцы, драпежныя жывёлы і птушкі, нячыстая сіла, хваробы.

*«Некаторыя гаспадыні з парады знахароў — каб засцерагчы ў гэтую ноч сваю скацінку ад ведзьмы — вешаюць над варотамі ў хляве перадвелікодную свечку, якая*











*як быццам мае сілу не пусціць ведзьму ў хлеў. Ведзьма са злосці згрызае ўсю свечку, але не можа зрабіць і самае дробнае шкоды» [92].*

Ілюстрацыяй таксама можа служыць наступны тэкст замовы, калі першы раз выганялі карову ў поле:

*«Святы Юрый, пастар Гасподні, прыедзь на сівым кані, у залатым сядле. Вазьмі залатыя трубы і зайграй. Пакліч ваўкоў і ваўчыц, вазьмі залатыя замкі, замкні ім губы і зубы, каб яны адзін з адным хадзілі, адзін аднаго любілі. А ты, пастух, калёнаю сцяною загарадзі. Амінь» [93];*

3) для маёмасці — атмасферныя з'явы, людзі-нядобразычліўцы, насякомыя, нячыстая сіла.

*«Ёсць звычай у час навальніцы запальваць грамнічную свечку, якую ставяць на покуці» [94].*

Замова для дома:

*«Ісус Хрыстос, Багародзіца, Святы Міхаіл-архангел, выратуйце рабу Божую ад усялякай хваробы, намоваў. Агарадзіце дом ад падкінутых, падпітых накрутаў і абломкаў. Адашліце, ангелы-ахоўнікі, усе нячыстыя сілы да чараўнікоў і чараўніц. Станьце, ангелы-ахоўнікі, сцяною ад нячыстай сілы, ліхіх людзей, варажбітоў і варажбітак і агарадзіце гэты дом рабы Божай. Амінь.*

Вымавіць тры разы запар перад сном і раніцай, калі толькі прачнуўся» [95];

4) для ўраджаю на полі, агародзе і ў сховішчах — атмасферныя з'явы: бура, навальніца, град, засуха, а таксама людзі-нядобразычліўцы, грызуны, птушкі, шкодныя насякомыя, пустазелле, нячыстая сіла.

*«На Серадапосце гаспадыні пякуць крыжы з цеста... "каб нячыстая сіла не паскудзіла". Адзін з такіх крыжоў павінен знаходзіцца ў сявеньцы ў час сяўбы» [96].*

*«Кароўка мая, я к табе іду і з хлебам, і з соллю, і з шчасцем, і з доляю. Я цяде засцерагаю ад ліхіх ведзьмаў, ад сільных вятроў, ад дробных дажджэй, я цябе ссылаю на буйныя вятры, на ніцыя лозы» [97];*

5) для ўніверсальных аб'ектаў — градавая хмара, гром, пошасць, паморак, смерць. Так,

*«...людзі вельмі рады, калі карова прывядзе блізнят-бычкоў... А калі на тых быках абараць вёску, то там не будзе ні пошасці, ні паморку» [98].*

Замова ад навальніцы, дажджу:

*«Туча, туча, ідзі бокам,*
*Апыніся над Глыбокім:*
*Там піро́жкі пякуць,*
*Табе крошкі дадуць*
*І цябе паджыдаюць» [99].*

Роля агрэсіўнага агента ў абярэгах зрэдку спалучаецца з роляй суб'екта («месячная матка», «той, хто напалохаў»), які сам прымае перасцярогі, каб не нанесці шкоды, або бярэ ўдзел у барацьбе з наступствамі міжволі нанесенага зла.

Агрэсіўныя дзеянні ў абярэгах падаюцца так, што часта цяжка аддзяліць агрэсара ад выніку яго дзейнасці. Так, частка абярэгаў накіравана канкрэтна супраць ведзьмы, дамавога, ваўка, каршуна, іншая — ад сурокаў, чараў, пакутаў, калецтваў, заломаў. Нярэдка замест узгадкі агрэсіўнага персанажа на самай справе фактычна ўказваецца спосаб перадачы злога: праз сурочлівыя позіркі, «находы», «наносы», нагаворы. Зло, на думку людзей, магло перадавацца пры побытавых кантактах, быццам інфекцыя, праз носьбітаў — пераносчыкаў агрэсіўнага пачатку. У запісах, напрыклад, фігуруе «месячная матка», якая і перадае «нанос», «наход».

Агрэсіўныя персанажы ў тэкстах праяўляюць сваю дзейнасць самастойна, актыўна, напрасткі (як, напрыклад, ведзьмы, русалкі) і — як выканаўцы волі гаспадароў, якія ініцыююць агрэсію (воўк, да якога д'ябал падводзіць цяля), або праз носьбітаў (згаданая вышэй «месячная матка»), на якіх «паразітуюць» агрэсары.

На думку нашых продкаў, хваробы на чалавека, жывёл і расліны «насылаюць» злыя сілы — д'яблы, ведзьмы, русалкі, дамавікі і такія іх іпастасі з выразнымі дэманалагічнымі ўласцівасцямі, як вецер, віхор і г.д.

Сярод агрэсараў-выканаўцаў у абярэгах фігуруюць: Мара́, сарока, ласка, якіх мог наслаць дамавік; хмара, насланая д'яблам; град, нaклiканы ведзьмай; чары, засуха, што зыходзяць ад чараўніка, і інш. Таму часта дастаткова было знішчыць выканаўцу, каб абясшкодзіць агрэсара-гаспадара. Напрыклад, паколькі нячыстая сіла можа «пераўвасобіцца» ў сароку, то старажытныя сяляне вешалі яе ў адрыне, дзеля аховы ад дамавіка. Такім чынам адбываецца знішчэнне ці нейтралізацыя ініцыятара агрэсіі.

*«Мара не пойдзе да скаціны, калі ў хляве вывешана забітая сарока» [100].*

Калі дамавік шкодзіў коням, то рабіліся наступныя дзеянні:

*«Часам сарока насылае дамавікоў, якія па начах ездзяць верхам на конях. Каб засцерагчыся ад гэтага, трэба забіць сароку і павесіць яе ў стайні над коньмі» [101].*

Малочная ведзьма можа хавацца ў поўсці сабакі і заслаць яго ў хлеў.

*«Як толькі такі падазроны сабака будзе заўважаны, трэба зайсці ў хлеў з заслонаю, на якую насыпаны асвечаны мак, замкнуць дзверы, каб сабака не выйшаў, і тры разы абысці вакол яго — ведзьма прырасце да сабакі навек» [102].*

## РЭАЛЬНАЕ/МІФІЧНАЕ Ў АГРЭСІЎНЫХ ПЕРСАНАЖАХ

Абярэгі выпрацоўваліся перш за ўсё ў адказ на тыя рэальныя з'явы, якія насамрэч прычынялі шкоду чалавеку і яго гаспадар-









цы. Але людзі, якія былі не ў сілах ацаніць сапраўдныя прычыны гэтых з'яў, падводзілі пад іх міфалагічную базу.

Агрэсар — адзіны з кампанентаў абярэгаў, у якім міфічны пачатак пераважае, з'яўляецца абавязковым і можа існаваць без рэальнай асновы. Агрэсіўны персанаж у апатрапеічным сцэнарыі выступае як правакатар, пускавы механізм апатрапеічнай сітуацыі. Агрэсар уносіць у сітуацыю свой дэструктыўны свет, да якога ён належыць, свае прастору і час, прымушае ўдзельнікаў абярэгаў дзейнічаць паводле сваіх законаў.

Персанажы, якія выступаюць у ролі агрэсараў, або цалкам фантастычныя вобразы (нячыстая сіла, хадзячыя нябожчыкі, чэрці, русалкі і г.д.), або напаўміфічныя (ведзьмы, чараўнікі, драпежныя звяры і птушкі, змеі, шкодныя насякомыя, прыродныя з'явы). Так, у замове супраць русалкі гаворыцца:

*«Вадзяніца, лесавіца, шальная дзявіца! Адвяжысь, адкацісь, у маём дварэ ня кажысь; табе тут ня век жыць, а нядзелю быць. Ступай у рэку глубокую, на асіну высокую. Асіна, трасіць, вадзяніца, уймісь. Я закон прынімаў, златой хрёст цалаваў; мне з табой не вадзіцца, не куміцца. Ступай у бор, у чашчу, к лясному хазяіну, ён табе ждаў, на мху пасьцелюшку слаў, муравой усцілаў, у ізгалоўіца калоду клаў; з ім табе спаць, а мяне хряшчонага табе ня відаць. Амінь» [103].*

Ад нячыстай сілы, нарадкі:

*«Вадзіца-царыца, красная дзявіца, нябесная пелясніца, божая стошніца і марськая пажарніца, — пасылаецца і памагаецца рабу божаму, і порч выганяецца із русага воласа, із бумажнага цела, рацівага серца, з усіх жыл, з усіх пажыл, са ўсіх сіл... Святы Юры-Ягоры і Мікола — скоры памошнік, і Міхайла — нябесны вайвода, саскачы з вышняга неба, сталяным мечам закалі ведзьму, роджаную і навучоную; каторая ззадзі даганяець, тую закалі, і каторая наперад забягаець, тую закалі, каторая збоку заглідаець, тую закалі...» [104].*

Нябожчык уяўляў сабой міфічны персанаж з выключна моцным магічным уплывам на ўсё зямное і выразнымі агрэсіўнымі тэндэнцыямі. Гэтым тлумачыцца значнасць рытуалу пахавання ў абрадавай дзейнасці старажытных людзей, дзе нябожчыкаў прадпісвалася адпраўляць «у апошні шлях» у адпаведнасці са складанай працэдурай, па-першае, каб той шлях стаў незваротным, па-другое, каб у далейшым атрымаць апякунства з боку памерлага. Мёртвы непахаваны чалавек уяўляў сабой небяспеку для ўсяго жывога, але найбольш — да яшчэ ненароджаных дзяцей, эмбрыёнаў у лоне маці. Сур'ёзнасць пагрозы падкрэслівалася забаронай знаходзіцца каля нябожчыка цяжарным жанчынам і жывёлам, бо гэта «магло выклікаць» смерць плода.

*«Цяжарная не павінна глядзець на нябожчыка, бо дзіця будзе заўсёды бледнае і вочы будуць нібыта заспаныя. Каб гэтаму перашкодзіць, цяжарная павінна, наведваючы нябожчыка, павязаць сабе галаву чырвонай хусткаю» [105].*

Зафіксавана вера людзей у хадзячых нябожчыкаў, якія могуць шкодзіць жывым, наносячы ўрон гаспадарцы. Верылі і ў тое, што нябожчыкі, а асабліва тапельцы, вісельнікі, прапойцы, «насылаюць» засухі, сцюжы і іншыя прыродныя катаклізмы.

*«Калі каму нябожчык сніцца, дык ён думае, што нябожчык з магілкі ўстае ды да яго прыходзе, а таму ён тую магілку, дзе пахаваны той нябожчык, макам-відуком абсыпае, каб нябожчык ня ўстаў» [106].*

Асаблівай «златворнай дзейнасцю» вызначаліся ведзьмы і чараўнікі. Панавала ўяўленне, што гэтыя напаўміфічныя істоты шкодзілі людзям, жывёлам, пасевам, выклікалі хваробы, траўмы, смерць. Па начах ведзьмы нібыта нападалі на ча-









лавека, шкодзілі парадзіхам, немаўлятам, круцілі з валасоў каўтуны. Народ верыў, што чараўнікі і ведзьмы могуць «наслаць» хваробы, бясплоддзе, сурокі, перадаваць чары праз напоі, ежу, розныя прадметы, ператвараць людзей у жывёл.

*«На Івана трэба на варотах хлявоў вешаць дзядоўнік і касу, каб чараўніца не магла пралезці ў хлеў: аб дзядоўнік абколецца, аб касу парэжацца» [107].*

*«Супраць наслання ведзьмаў і нячыстай сілы ўторкваюць пад вокнамі і дзвярыма галінкі дубкоў, рабіны, асіны, крапівы» [108].*

Ад суроку каровы складзена наступная замова:

*«На полі ігрушка, пад таею ігрушкай стаіць мая карова, пад ею — залатыя падкоўкі. Рожкамі адкаліся, залатымі падкоўкамі адсякайся, урокаў не пужайся, ведзьме не паддавайся» [109].*

Ролі агрэсіўных агентаў у абярэгах выконваюць як адмоўныя персанажы (д'ябал, чэрці, ведзьма, хадзячы нябожчык), так і вядомыя сваёй зменлівасцю ў сваіх праявах да людзей міфічныя істоты з дваістай сутнасцю (духі продкаў, дамавік, ёўнік, русалкі і г.д.). Апошнія, як лічылася, станавіліся небяспечнымі пры неналежным улагоджванні іх людзьмі. Напрыклад, існавала традыцыя шанавання продкаў. Ілюстрацыяй можа быць наступная замова:

*«Папрашу таго, кім кладбішча занімалі. Святкі святыя, старыя і малыя, блізкія і далёкія, свае і чужыя, хлеб-соль прымайце і здароўе надзяляйце» [110].*

Лічылася, што пры недастатковым шанаванні дзяды бязлітасна помсцілі нашчадкам.

Аб'ект мог стаць выпадковай ахвярай пры змаганні вышэйшых міфічных персанажаў з прадстаўнікамі іншасвету. Месцамі, у якіх мог схавацца нячысцік, былі: па-

лі капелюша, закасаны прыпол, паднятая спадніца, сам чалавек, пад якога можна залезці.

*«Небяспечна таксама, на думку народа, надзяваць у час навальніцы капялюш: палі ягоныя служаць зручным прытулкам д'яблу і, такім чынам, разам з д'яблам можа быць забіты і чалавек» [111].*

*«У час навальніцы вельмі небяспечна трымаць закасаны прыпол: маланка ўдарыць у чорта, які схаваўся ў «закас» [112].*

*«Як бура, то каб пярун у чалавека не ўдарыў, то найлепш сесці, бо тады ўжэ чорт пад чалавека не схаваецца» [113].*

## РАЗМЕРКАВАННЕ АГРЭСАРАЎ ПА СТУПЕНІ ІХ МІФІЧНАСЦІ

Агрэсіўныя агенты па ступені іх міфічнасці размеркаваны намі наступным чынам:

1) людзі: ворагі, злыя людзі, сурочлівыя людзі, чужы чалавек;

2) драпежныя жывёлы і птушкі: воўк, ласка, крумкач, каршун; шкодныя птушкі і расліны: вераб'і, пустазелле;

3) дробныя жывёлы і насякомыя: змеі, вужакі, жабы, тараканы, блохі, вошы, клапы, вусені, мошкі, краты, мышы, яшчаркі, чэрві, рабакі (глісты), шашаль;

4) прыродныя з'явы: хмара, грозная хмара, чорная градавая хмара, бура, раз'юшаная бура, навальніца, маланка, пярун, гром, грымоты, дождж, град, мароз, засуха;

5) напаўлюдзі, напаўфантастычныя істоты: агідная чараўніца, ведзьма, малочная ведзьма, вядзьмар, чараўнік, чорны чараўнік, чарадзей, ліхадзей;

6) духі хвароб або вынікі іх дзейнасці: ліхаманка, трасца, хіндзя, хіндзі (77 «цётак»), гарачка, пякотка, знос, заеды, грызь, начніцы, крыксы, спалохі, перапуд, спуд, пярэпалах, высыпка, болькі, нарывы, верад, прыпадкі, жаўтуха, халера, пошасць, мор, паморак і г. д.;

7) атмасферныя з'явы, якія выклікаюць хваробы: навей, падвей, злы вецер;

8) чалавека- і жывёлападобныя вобразы: чорт, д'ябал, русалка, прывід, нябожчык, хадзячы нябожчык, нябожчыкчарадзей, непрытомнік, вупыр, ваўкалак, тапелец, Мара́, смерць, Каровіна смерць, Моравая панна, Нядоля, Хут;

9) нячыстая сіла без канкрэтнага вобразнага ўвасаблення: злое, нядобрае, ліхое, ліха, паганае.

Розніца паміж рэальнымі, напаўміфічнымі і міфічнымі агрэсіўнымі персанажамі дастаткова ўяўная. Цалкам рэальных агрэсіўных персанажаў абярэгаў увогуле не існуе. Сапраўдным шкоднікам надаюцца міфалагічныя характарыстыкі, якія перавышаюць іх рэальныя агрэсіўныя здольнасці. Лічылася, што ўсімі небяспечнымі падзеямі «кіруе» нячыстая сіла. Вецер быў не проста прыроднай з'явай, якая можа шкодзіць пасевам і чалавеку, воўк — не проста драпежнай жывёлай, пагрозай статку, мышы — не проста знішчальнікамі ўраджаю, а прадстаўнікамі і выканаўцамі загадаў тагасветных, нячыстых сіл.

Напрыклад, «навей» ці «падвей» — гэта благі вецер, які зыходзіць ад чорта ці чараўніка. Лічылася, што «навей» шкодзіць толькі пад адкрытым небам, «падвей» — толькі ў памяшканні.

*«Каб засцерагчыся ад злога ветру, трэба заўсёды мець пры сабе якую-небудзь жалезную рэч, напр., іголку, нож і г.д. Супраць вынікаў злога ветру выкарыстоўваюць дажджавую ваду, якая сплывае з крылаў ветрака; яе трэба піць, а таксама мыцца ёю» [114].*

Замова ад падвею:

*«На сінім моры ляжыць белы камянь, на тым камяні стаіць дуб на дванаццаць какатоў, на тых какатах сідзяць дванаццаць ангалоў, дзержаць яны па дванаццаць прутоў сталяных, адсякаюць, адбіваюць ад рабы Божыя ўсіх наглых урагоў і злыя ветры падвеі, буры злыя» [115].*











За многімі напаўміфічнымі істотамі стаяць цалкам міфічныя «гаспадары»: замоўшчыкі, натхняльнікі злачынстваў. Таму ў вобразах напаўміфічных персанажаў фантастычны складнік можна лічыць узмоцненым нават у параўнанні з тым, як гэта апісваецца ў абярэгах.

Нячыстая сіла існуе ў розных вобразах, пераўвасабляецца ў жывёл, прыродныя з'явы, рэчы:

*«Чым толькі пошасць ні скідаецца — то худою страшэннаю жанчынаю, то якім-небудзь жывёлам, якое ходзіць па зямлі. Толькі ёй не велена скідацца птахам, бо тагды б яна ўвесь свет загубіла, пералятаючы па паветры з вёскі да вёскі. Дак ёй велена хадзіць пешкі ці прасіцца, каб якім-небудзь ашуканствам уехаць у вёску. А тут людзі то абаруць вёску ці абчэрцяць яе смаляным з двух канцоў ожагам, а то на канцах вуліцы дзень і ноч кладуць агонь, да яшчэ не просты агонь, а той агонь, што выціраюць брускамі дзерава, палажыўшы адзін з іх на парозе ў цэркві. Ніяк няможна пагануй пошасці пераскочыць цераз баразну ці цераз абчэрчаную мяжу. Сунецца яна пралезці па вуліцы, дак куды там — святы агонь пячэ, бы ў горне» [116].*

*«Падчас буры выконваюць розныя маніпуляцыі супраць д'ябла, нават катá выкідваюць з хаты, бо хаця, адрэзаўшы ў яго кончык хваста, адсеклі нібыта і д'ябла, які сядзеў у ім у вобразе вужа, усё роўна дзеля большага спакою лепш ката выкінуць» [117].*

У абярэгах сустракаюцца згадкі пра агрэсіўных персанажаў (ваўка, каршуна, насякомых), якія асацыіруюцца са смеццем — матэрыяльным аналагам нячыстай сілы:

*«...захоўваецца звычай раніцою на Каляды вымятаць хату, а смецце выносіць далёка за межы сваёй гаспадаркі, каб ваўкаўё не падыходзіла да хлява. На першую куццю маці кажа: «Донька, устанем да ранку, падмяці хату і вынесі далёка за гарод смецце, каб воўк да хлява не прыйшоў». Панясу на балота і выкіну» [118].*

Напярэдадні Чыстага чацвярга

*«...трэба вымесці сад і скласці смецце ў адну кучу, а ў чацвер яе спаліць перад усходам сонца. Тады ніводнага вусеня не будзе на дрэвах у садзе» [119].*

Сярод агрэсіўных персанажаў ёсць і людзі, але ступень іх міфалагізацыі значна вышэйшая, чым, напрыклад, сярод суб'ектаў абярэгаў. Суб'екты абавязкова ўтрымліваюць рэальны складнік. Наадварот, шкодны пачатак, які ўвасабляе сабой агрэсара, мог дзейнічаць незалежна ад яго фізічнага носьбіта. Так, сурочлівае вока распаўсюджвае свой шкодны ўплыў на ўсё, на што кіне погляд; такое дзеянне вока не залежыць нават ад волі яго гаспадара.

З іншага боку, фантазія старажытных беларусаў не была нястрымнай, бо яе вызначалі і абмяжоўвалі матэрыяльныя



інтарэсы. Пры абавязковым міфічным складніку суадносіны частаты найменняў напаўміфічных і міфічных агрэсараў у абярэгах былі прыкладна ўраўнаважанымі (48 і 52% адпаведна). Цікава, што «чыста» міфічныя агрэсіўныя персанажы ў абярэгах колькасна дамінавалі над напаўміфічнымі толькі ў абярэгах чалавека (77%), асабліва ў «пазбаўляльных» тэкстах (85%) і ў такой самай групе абярэгаў жывёл (61%). Да прычын эксцэсаў з іншымі аб'ектамі архаічны чалавек ставіўся, відаць, больш крытычна — у абярэгах часцей фігуравалі напаўміфічныя агрэсары (рэальныя шкоднікі, якім прыпісваліся фантастычныя рысы).

## ВЕРА ЛЮДЗЕЙ У МАГІЮ РЫТУАЛАЎ

Акцыянальная частка апатрапеяў — гэта магічны рытуал. Ён уяўляе сабой сімвалічнае дзеянне або іх комплекс, накіраваныя на супрацьдзеянне агрэсіі ў дачыненні да аб'екта абярэга. Магічна-рытуальнае аберагальнае дзеянне з'яўляецца асноўнай часткай, стрыжнем усяго абярэга.

Рытуалы можна падзяліць на:

1) рытуалы з акрэсленым у часе пачаткам, але без згадак пра сканчэнне дзеяння. Яны разлічаны на доўгі тэрмін выканання. Сюды адносяцца рытуалы з нашэннем амулетаў (напрыклад, «на здароўе»), усталяваннем камянёў, крыжоў у знакавых месцах для прадухілення неакрэсленай бяды, прымацаваннем тканых вырабаў;

2) рытуалы «планавыя», сістэматычныя, дзе вынік часовы, разлічаны на акрэслены, «небяспечны» тэрмін, або рытуал і яго чаканы эфект разведзены ў часе. Перапынак між абрадамі, як правіла, бывае роўны году, а сезон, калі здзяйсняецца гэтае аберагальнае дзеянне, супадае з больш ці менш рэзкай зменай пораў году;

3) рытуалы сітуацыйныя, якія разгортваюцца хутка, неадкладна; вынік ад іх чакаецца непасрэдна пасля або ў час рытуалу.

Аберагальныя дзеянні здзяйсняюцца з абсалютнай верай выканаўцаў у іх эфектыўнасць, а таксама перакананнем у непазбежнасць пакарання ў выпадку невыканання абярэга. Існуюць меркаванні, што падчас рытуальных дзеянняў узнаўляліся правобразы і паўтараліся падзеі міфічных часоў. У гэтай веры, якая моцна ўкаранілася ў падсвядомасць людзей, верагодна, знаходзіцца галоўная прычына таго, што абярэгі заставаліся амаль нязменнымі на працягу стагоддзяў.

Людзі верылі і ў існаванне звышнатуральных сіл, якія, з аднаго боку, здзяйсняюць агрэсіўныя захады супраць аб'ектаў (напрыклад, упэўненасць, што дамавік ці іншыя істоты шкодзяць коням, прымушала змагацца з імі), з іншага боку, іншасветныя сілы, выкліканыя магіяй, дапамагаюць суб'ектам аберагальнага дзеяння адолець агрэсіўнага агента і аберагчы аб'ект (напрыклад, заклік дзядоў-продкаў для спрыяння роду).





Рытуалы, якія выконваліся з дапамогай «добрых» сіл, мелі сакральны характар. Яны ўвасабляліся ў акцыях ачышчэння ў шырокім сэнсе, асвячэння і ахвярапрынашэння. Напрыклад, хрышчэнскай вадой апырсквалі поле перад сяўбой, абыдзённік навязвалі да царкоўнага абраза і ахвяравалі царкве.

У рытуалах другога тыпу, да якіх прыцягваліся тагасветныя сілы, прымянялася тактыка змагання з праявамі іншасвету яго ж метадамі і сродкамі. Дзеля гэтага выконваліся акты, якія нагадвалі «няправільныя» дзеянні выхадцаў з «таго» свету: язда на мятле, качарзе, распрананне ў неадпаведных месцах, хадзьба задам наперад, дзеянні левай рукой ці ў адваротны бок і г.д. Мэтай такіх дзеянняў было ўзмацніць роднасць са звышнатуральнымі сіламі, надаць магічную моц рытуалам.

*«Каб пазбавіцца ад асоту, які глушыць каноплі, некаторыя сяляне на хрышчэнскую каляду на качарзе аб'язджаюць агарод» [120].*

*«Пры абворванні вёскі з мэтаю выгнання "каровінай смерці" жанчыны, узброеныя качэргамі і чапёламі, білі ў пячныя заслонкі і патэльні» [121].*

## РЭАЛЬНАЯ АСНОВА АБЕРАГАЛЬНЫХ ДЗЕЯННЯЎ

Як і іншыя кампаненты абярэга, магічна-рытуальныя дзеянні пабудаваны на рэальнай аснове. Яна прадстаўлена дзейнасцю, што адбываецца ў рэальных прасторы і часе.







**Пахаванне стралы.**
**Вёска Стаўбун (Веткаўскі раён)**

Нават з сённяшняга пункту гледжання гэтыя дзеянні часткова могуць лічыцца мэтазгоднымі. Так, шляхам абмывання насамрэч здзяйснялася ачышчэнне, абкурваннем, спальваннем ці выкідваннем смецця — абясшкоджванне прасторы існавання аб'екта. Такія дзеянні нагадваюць паўсядзённыя ўчынкі людзей. Здзяйсняючы іх, чалавек зыходзіў са свайго рэальнага практычнага досведу.

Калі не зважаць на сімвалізм, які ўкладаўся ў аберагальныя рытуалы, можна канстатаваць перавагу ў іх звычайных штодзённых практычных акцый: кідання, закопвання, сяўбы, мыцця, выцірання, прыняцця ежы, піцця, язды, спальвання, вешання, вымятання, пераварочвання, пераступання і г.д.

## СІМВОЛІКА РЫТУАЛЬНЫХ ДЗЕЯННЯЎ

З дапамогай магічна-рытуальнага дзеяння ўсё ж збольшага вялося не сапраўднае супрацьдзеянне агрэсіі, а рабілася яго мадэляванне. Апошняе выступала як заменнік сапраўднага змагання з-за яго немагчымасці ў часы старажытнасці, паколькі пра рэальныя прычыны розных з'яў людзям не хапала інфармацыі. З-за гэтага сітуацыя, як і ўвесь навакольны свет, міфалагізоўвалася. Напрыклад, старажытнаму чалавеку былі невядомы ўзбуджальнікі хвароб, таму ў народных уяўленнях ствараліся чалавека- і жывёлападобныя фантастычныя персанажы, якія нібыта шкодзілі здароўю людзей. Рэальнае змаганне з такімі істота-





**Карагод (Бярэзінскі раён )**

мі было немагчымым, і па гэтай прычыне супраць іх здзяйсняліся сімвалічныя акты (павярнуць сельскагаспадарчыя прылады — саху і барану — уверх зуб'ямі, каб адпалохаць сурочлівых людзей).

Сімвалічнасць магічнага дзеяння разам з умяшаннем у аберагальны працэс звышнатуральных сіл прадстаўляе міфічны ўзровень рытуалу. Часам сімвалічнасць дзеяння «залежыць» ад самой сітуацыі, якую стварае фантастычны персанаж:

> *«Каб пазбавіцца ад прывідаў, трэба вымавіць малітву ці проста ўдарыць прывід наводмаш правай рукой» [122].*

Пры здзяйсненні абярэгаў старажытны чалавек «узнаўляў» парушаны сусветны парадак.

Адпаведны класіфікаваным групам звышсэнс рытуалаў добра перадаюць дзеясловы, якімі ў тэкстах пазначаюцца дзеянні. Найменні гэтых дзеянняў у беларускай мове часта ўяўляюць сабой «ключы» да сэнсу самога рытуалу. Напрыклад, папераджальнае забіванне нячыстай сілы ўвасабляецца ў адпаведным дзеяслове ў наступным абярэгу:

> *«На Гомельшчыне бацька дзіцяці, ведаючы, што хутка будуць ісці жанчыны адведваць парадзіху і дзіця, у якасці магічнага абярэга забіваў у парог два цвікі» [123].*

Сэнс дзеясловаў мала залежыць ад канкрэтных сітуацый і ўвасаблення агрэсіўнага пачатку. Ён хутчэй адпавядае групавым мэтам аберагальных дзеянняў: спрыянню, папераджэнню (ахове, засце-





**Маладзіцы ў святочных уборах 1930-х гадоў.**
**Вёска Вялікае Падлессе (Ляхавіцкі раён)**

раганню, забароне), абароне, пазбаўленню. У любым выпадку, незалежна ад таго, хто выступае ў якасці агрэсіўнага персанажа, у «пазбаўляльных» абярэгах фігуруюць дзеясловы *забіць, рассячы, павесіць*, якія адлюстроўваюць актыўную, наступальную пазіцыю, рашучае змаганне з агрэсарам шляхам яго знішчэння. Створаная класіфікацыя абярэгаў дае магчымасць прадставіць рытуалы згодна з іх асноўным, «першасным» значэннем.

Цікава, што магічна-рытуальныя дзеянні і сродкі абярэгаў маюць шмат агульнага. Іх узаемнае перасячэнне адбываецца праз магічную сімволіку. Сімвалы нібыта адрываюцца ад сваёй прадметнай прыналежнасці і набываюць пэўную самастойнасць, увасабляючыся ў акцыях. Там, дзе рэч «знікае», з'яўляецца сімвал — кола (абворванне, абыход, акрэсліванне), крыж (жагнанне), магічныя лічбы (трохразовае дзеянне).

На форму і змест магічна-рытуальных дзеянняў уплываюць аб'ект абярэгаў і характэрныя рысы небяспечнага персанажа. Хату зручна вычышчаць, падмятаць, жывёл — карміць, прывязваць, расліны — паліваць, сеяць, нахіляць, чалавека — апранаць. Для ўплыву на агрэсара ў апошняга вылучаюць тое, з дапамогай чаго ён ажыццяўляе свае агрэсіўныя дзеянні, або знаходзяць яго «слабае месца». Так, ваўку замыкаюць пашчу; ведзьме, улічваючы яе чалавечае аблічча, робяць «апёкі» крапівой і кіпенем, колюць іголкамі, наносяць раны вострымі рэчамі; нячыстых істот (жаб, насякомых) вымятаюць.

## МАГІЧНЫЯ РЫТУАЛЫ Ў АБЯРЭГАХ ЧАЛАВЕКА

«Спрыяльныя» рытуалы, якія мелі дачыненне да чалавека, змяшчалі дзеянні, звязаныя з вадой, і выражаліся дзеясловамі *абліваць, пырскаць, мыцца*, а таксама *абсыпаць*.

«Ахоўныя» рытуалы абярэгаў чалавека ўяўлялі сабой найчасцей фіксацыю і былі прадстаўлены дзеясловамі *навязваць, навешваць, замацоўваць*, а таксама *насіць* (амулеты — расліны, хлеб, соль, ніткі, кольцы, ваўчыны зуб).

«Рэгулярна засцерагальныя» абярэгі чалавека ўключалі рытуалы, накіраваныя на прафілактыку верагоднай агрэсіі. Яны заключаліся ў кароткатэрміновым выкарыстанні амулетаў, разлічаным на «небяспечны» перыяд (насіць палын у Русальны тыдзень, падкладаць хлеб у пялюшкі дзіцяці ад злога духа на час дарогі ў храм на хрышчэнне) і ў «папераджальным знішчэнні» агрэсіўнага пачатку, што ўвасаблялася ў дзеясловах *хаваць, крамсаць, раздзіраць, адрываць, страляць, забіваць, вешаць, таптаць, скідваць, сплёўваць*. Частым у гэтай групе быў рытуал стварэння магічнай дугі: перакідванне веніка праз хату, дзе знаходзіцца безнадзейна хворы, працягванне дзіцяці пад пастаўленымі дугою сярпамі ці паміж ног.

«Забаронныя» абярэгі чалавека ўтрымлівалі дзеясловы, якія сэнсоўна перадавалі адмаўленне ад дзеяння: не выкідаць, не наступаць на абруч, каб папярэдзіць смерць, калецтвы чалавечага эмбрыёна; дзіцяці не глядзець скрозь сіта, каб не апынуцца на «тым» свеце; не крычаць, не праць, не біцца, г.зн. не ўзбуджаць моцных гукаў і не прадпрымаць актыўных дзеянняў, каб прадухіліць градабой.

Цікава прадстаўлены сімвалічныя аберагальныя дзеянні ў «абаронных» абярэгах чалавека. Гэтыя дзеянні праяўляліся зняважлівымі і пагрозлівымі актамі (напрыклад, складваць фігі, кулакі, пляваць, сціскаць зубы, дэманстратыўна паказваць азадак), манеўрамі ў выглядзе ўхілення ад барацьбы (схавацца, укрыцца, аддаліцца), фіктыўнага продажу дзіцяці, адцягвання ўвагі агрэсіўнага персанажа шляхам рассы-











**Вянкі для русалак.**
**Вёска Вялікі Бор (Хойніцкі раён)**

пання маку, зерня; таксама выражалі непасрэднае супрацьдзеянне агрэсару (праганяць, рваць, грызці, зразаць, закопваць).

«Пазбаўляльныя» абярэгі чалавека складалі найвялікшую колькасць сярод абярэгаў іншых аб'ектаў і выдзеленых груп. Непасрэднае змаганне з агрэсіўным агентам тут было прадстаўлена 212 найменнямі дзеянняў толькі па корані слова. Найчасцей сустракаліся дзеясловы, якімі пазначаліся маніпуляцыі з вадой (мыць, абліваць, піць), а таксама з агнём (абкурваць). Другімі па частаце былі маніпуляцыі з рэчамі, якімі непасрэдна апрацоўвалі хворае месца (прыкласці, намазаць, нацерці).

Адной з адметнасцей магічна-рытуальных дзеянняў гэтай групы было ўздзеянне словам у выглядзе замоў, малітваў, заклінанняў, прыгавораў, запрашэнняў, прывітанняў, прадпісанняў для моўнай дзейнасці.

У гэтай групе звяртае на сябе ўвагу вялікая колькасць дзеянняў, якія маюць значэнне перараджэння (прапускаць праз новую сарочку, праводзіць пад чым-небудзь, аддаваць і атрымоўваць назад); вяртання ў свой асяродак, да былога стану, узнаўлення (бегчы дадому, ісці дахаты, прыўзняцца, падняцца); люстрана-сіметрычныя рухі (пераварочваць, ставіць і вешаць дагары нагамі, станавіцца супраць, павярнуцца спінаю, паварочваць назад, абводзіць супраць гадзіннікавай стрэлкі, прайсці задам наперад, апранаць каўняром назад, мяняць месцамі, хрысціць левай рукой, паводзіць злева);









вельмі часта — стварэнне магічнай дугі (перакідваць праз), якія колькасна дамінавалі нават над рытуаламі ўтварэння магічнага кола, нягледзячы на разнастайнасць апошніх (абсейваць, абкладаць, абвіваць, абмятаць, абыходзіць, абкручваць, абворваць, абводзіць, абносіць, апярэзваць).

Магічна-рытуальныя дзеянні, што маюць на мэце ліквідацыю і выдаленне носьбіта агрэсіі, былі надзвычай шырока прадстаўлены дзеясловамі *біць, стукаць, сплёўваць, змываць, выцірацъ, спальваць, ударацъ, выцягваць, зачапляць, даставаць, калоць, кідаць убок, забіваць, адсякаць, страляць, рассякаць, зарубаць, раздзірацъ, палохаць, вешаць, адпраўляць на могілкі, закопваць* і г.д.

Апатрапеічныя дзеянні ў «пазбаўляльных» рытуалах, дзе аб'ектам быў чалавек, вылучаліся максімальнай шматактнасцю (да 12 актаў у кожным), ралявой распрацаванасцю сцэнарыя, наяўнасцю маўлення.

## МАГІЧНЫЯ РЫТУАЛЫ Ў АБЯРЭГАХ СВОЙСКІХ ЖЫВЁЛ

У апатрапеічнай частцы «спрыяльных» абярэгаў жывёл найбольш часта сустракаўся дзеяслоў *скармліваць* (звычайна асвечаныя і купальскія зёлкі).

Група «ахоўных» абярэгаў жывёл была прадстаўлена актамі прымацоўвання амулетаў да аб'екта або месца яго знаходжання. Дзеянні выражаліся дзеясловамі *уплятаць* ніткі і стужкі ў грыво, хвост, *навязваць* на рогі, *прышываць* чырвоную жычку да вуздэчкі, вывешваць у хляве (напрыклад, мядзведжую поўсць).

Сярод «рэгулярна засцерагальных» рытуалаў, прысвечаных жывёлам, пераважалі





дзеянні з замыканнем пашчы ваўку, сімвалічнага прывязвання жывёлы, каб тая не згубілася (падкладаць фартух з поясам у вароты падчас першага выгану скаціны ў поле, перавязваць рогі); папераджальнага змагання з агрэсіўным персанажам: страляць, кідаць, утыкаць (сякеру ў сцяну хлява), дэманстратыўна яго вешаць; стварэння магічнага кола: абыходзіць статак, абсыпаць кругом (макам).

«Забаронныя» абярэгі жывёл уяўлялі сабой адмову іх гаспадароў ад пэўных дзеянняў (прасці, віць вяроўкі, намотваць ніткі ў клубок). Гэтыя забароны мелі на мэце прадухіліць калецтва і гібель прыплоду.

> *«Днём жа на Каляды не робяць той работы, якую звычайна робяць у любы іншы час. Так, нельга прасці, віць вяроўкі і ніткі, намотваць іх у клубок, круціць дзіркі, скручваць што-небудзь, звязваць, гнуць, плесці лапці або што-небудзь іншае, шыць, малаціць, калоць, шчапаць. І ўсё гэта таму, што такія работы маюць (паводле сялянскіх уяўленняў) шкодны ўплыў на прыплод дамашняй жывёлы: усё будзе нараджацца з крывымі нагамі, або сляпымі, або і яшчэ з якімі заганамі» [124].*

Першынства ў «абаронных» абярэгах жывёл мелі дзеясловы *заганяць, забіць*.

Спецыфічнымі для «пазбаўляльных» абярэгаў жывёл былі дзеянні, якія ўяўлялі сабой вымушанае забойства як крайнюю меру абароны ў барацьбе з агрэсіўным пачаткам (забіваць, закопваць жывым або мёртвым, вешаць забітых птушак і жывёл у хляве, каб правучыць агрэсіўнага агента і спыніць яго захады супраць аб'екта абярэга). Тыповымі для гэтай групы былі таксама дзеянні, накіраваныя на знішчэнне, запалохванне і выдаленне агрэсара: біць, сячы, спальваць, выкідаць, крычаць, шумець, праганяць.

## МАГІЧНЫЯ РЫТУАЛЫ Ў АБЯРЭГАХ МАЁМАСЦІ

У «спрыяльных» і «ахоўных» абярэгах маёмасці пераважалі звычайныя «мірныя» дзеянні, выражаныя дзеясловамі *класці, трымаць, аздабляць, маляваць, захоўваць, вітацца.*

«Рэгулярна засцерагальныя» абярэгі маёмасці найбольш часта ўтрымлівалі дзеясловы *чысціць, месці, церці*, якія маюць сэнс ачышчальнай прафілактыкі. Тое самае значэнне, але звязанае з вадой і агнём, выражалі словы *акрапляць, апырскваць, выліваць, запальваць, абкурваць.* Другімі па частаце былі дзеянні па стварэнні магічнага кола (абмесці, абвесці, абсяваць, абсыпаць).

«Забаронныя» абярэгі, што мелі дачыненне да маёмасці, найчасцей былі прадстаўлены дзеясловам *не пускаць* (не пускаць на пабудовы дрэвы, г.зн. не выкарыстоўваць у якасці будаўнічых матэрыялаў) , адмоўна памечаныя звышнатуральнымі сіламі (паваленыя ветрам, разбітыя перуном).

У групе «абаронных» абярэгаў маёмасці фігуравалі сімвалічныя жэсты (паказваць фігу ці азадак, пляваць), дзеянні па адбіцці атакі агрэсіўных персанажаў, дзе ў тэкстах пераважалі дзеясловы *спальваць* і

*выкідаць*, а таксама *біць, выганяць, вешаць* (сякеру, каб адстрашыць д'ябла), *хаваць*.

Рытуалы «пазбаўляльных» абярэгаў маёмасці ўтрымлівалі стварэнне магічнага кола (абносіць, абыходзіць, аббягаць, аб'язджаць); выдалення і знішчэння агрэсара (выкідаць, выносіць, выцягваць, закопваць, лавіць, разразаць, гнаць, забіваць); адцягвання яго ўвагі (уцякаць).

## МАГІЧНЫЯ РЫТУАЛЫ Ў АБЯРЭГАХ РАСЛІН

«Спрыяльныя» і «ахоўныя» абярэгі раслін былі прадстаўлены дзеясловамі, якія пазначалі звычайныя дзеянні, звязаныя з раслінаводствам (сеяць, сыпаць, садзіць, абліваць, апырскваць, выкопваць).

У падгрупе «рэгулярна засцерагальных» абярэгаў раслін са з'яўленнем «паўнавартаснага» агрэсара мела месца прыкладная раўнавага дзеянняў, датычных як да вырошчвання раслін, так і да барацьбы з агрэсіўным агентам. Разам з дзеясловамі *збіраць, паліваць, складаць, сеяць, араць, перабіраць* фігуравалі дзеясловы, якія пазначаюць метады ўздзеяння на носьбіта небяспекі (закопваць, хаваць, выкідаць, выносіць, выцягваць) і дзеянні па стварэнні магічнага кола (абыходзіць, аб'язджаць, абвязваць).

У «забаронных» абярэгах раслін фігуравалі дзеясловы з адмоўнымі фармуліроўкамі (не садзіць, не працаваць, не выкідаць).

Рытуалы ў групе «абаронных» абярэгаў раслін нагадвалі дзеянні, што арганізуюцца па камандзе трывогі (званіць у засланку, выкідаць хлебную лапату).



Адметнасцю рытуалаў «пазбаўляльнага» тыпу з'яўляюцца маніпуляцыі з хворымі, пашкоджанымі раслінамі. Гэтыя дзеянні выконваліся без дапамогі сродкаў. Ключавымі словамі ў абярэгах былі наступныя: вырываць, садзіць дагары нагамі. Змаганне з агрэсіўным пачаткам тут знайшло адлюстраванне ў дзеясловах, што азначаюць выдаленне з прасторы аб'екта (выкідаць, вывозіць, высыпаць), а таксама знішчэнне (закопваць, таптаць). У гэтай групе частым быў матыў ачышчэння прасторы аб'екта з дапамогай рытуалаў стварэння магічных кола і чатырохкутніка.





# АДМЕТНАСЦІ ВЫКАНАЎЦАЎ АБЯРЭГАЎ

Суб'екты — галоўныя дзейныя асобы апатрапеяў, якія аберагаюць аб'ект, супрацьстаяць агрэсіі, здзяйсняючы магічны рытуал. Яны выступаюць на баку аб'екта, займаюць актыўную пазіцыю ў дачыненні да звычайна пасіўнага кампанента апатрапеяў, з'яўляюцца яго ахоўнікамі, абаронцамі, а таксама знішчальнікамі агрэсіўнага агента. Назвы класіфікаваным групам абярэгаў нададзены паводле дзеянняў іх суб'ектаў. Пры выкананні апатрапеічных дзеянняў абавязковай з'яўляецца прысутнасць толькі суб'ектаў, паколькі рытуальнае дзеянне можа мадэлявацца паза тэрыторыяй аб'екта і ў час, калі з'яўленне агрэсара толькі прагназуецца.

У большасці абярэгаў суб'екты спецыяльна не называюцца, яны застаюцца як бы «за кадрам», мяркуюцца нібыта самі сабой. Маецца на ўвазе, што кожны зацікаўлены здольны выконваць аберагальныя дзеянні.

Замову ад ваўкоў прамаўляе сам уладальнік свойскай жывёлы:

*«Як тапару ў печы не лежаці, так шэраму зверу скаціну не відаці: здайся пнём і агнём» [125] .*

Многія гаспадыні карысталіся замовамі ў тых выпадках, калі такая дапамога выклікалася неэкстрэмальнымі падзеямі. Знаўцы такіх замоўных сродкаў не вылучаліся з агульнай сялянскай масы і не ўспрымаліся як носьбіты нейкіх незвычайных сіл.

Але ў некаторых абярэгах да рытуалу прыцягваюцца спецыяльныя асобы, якім надаюцца магічныя здольнасці.

Да катэгорыі спецыялістаў аберагальнай магіі належыць знахар, які валодаў сакральнымі ведамі і тэхнікай выканання рытуалаў, а таксама людзі, якія «знаюцца» з нячыстымі ў сілу прафесійнай неабходнасці — пчаляры, кавалі, паляўнічыя і інш.

*«Іду на хвоту ў чыстае поле чэраз парогі, крыжовыя дарогі, там звер у варотах» [126].*

Да гэтага спіса можна дадаць бабку-павітуху, якая з'яўлялася прадстаўніком «таго» свету, бо менавіта ад яго прымала нованароджанае дзіця.

Значную частку суб'ектаў абярэгаў складалі жанчыны, магічная сіла якіх захавалася ў абрадах і рытуалах, відаць, са старажытных часоў. Асобам жаночага полу прыпісваліся палярныя па сваім паходжанні магічныя здольнасці. Паводле адной з версій, яны мелі асаблівую «святасць» (незаганныя дзяўчаты, «бездакорныя ўдовы»), паводле другой — бліжэйшую сувязь з «тым» светам (у крытычныя перыяды «месячнага ачышчэння», цяжарнасці, пасля родаў). Прыклад абярэга, дзе выкарыстоўваецца дзявочая «чысціня», «незаганнасць»:

*«Каб халера не прабралася ў вёску, трэ яе абараць. А для гэтага трэба, каб маладыя дзяўчаты, паскідаўшы з сябе сарочкі, запрагліся ў соху да й абаралі вёску кругом» [127].*

Прывядзём тэкст замовы, што «запісана ад знахаркі, якая растлумачыла, што гэта замова «жаноцкая», г. зн. яна ўжываецца жанчынамі» [128].

Замова ад унутраных хвароб:

*«У цёмным лесі стаіць гара высокая, там растуць дубы вячыстыя; там стаіць цэрква свянцоная, там бяжыць вада цудоўная. Я ж тую ваду брала, балючае цела абмывала, піць давала, слаўцо вымаўляла: пайшла, немач, з цела вон! Калі ты трасца — ідзі ў балота; калі падвей ты — ідзі на вецер; калі ты рэзанка — зарэжся; калі ты суроцы — соль табе ў вочы; калі ты з пуду — сама спужайся. Пайшла, хіра, з цела вон!» [129].*

Лічылася, што падчас першай менструацыі дзяўчынка ў асаблівай ступені надзелена звышнатуральнай сілай, якая далёка не заўсёды з'яўляецца чымсці шкодным і апаганьваючым. Так, у абрадах абворвання









нявіннасць дзяўчат і працяглая «безграхоўнасць» удоў, старых і салдатак, г. зн. «чысціня» выканаўцаў рытуалу, служыла аберагальным сродкам. У абрадзе стварэння абыдзеннага ручніка ўдзельнічалі толькі падлеткі-дзяўчаты і сталыя жанчыны.

*«Каб прадухіліць падзеж жывёлы, у шэрагу мясцовасцей Беларусі і Расіі цяжарную жанчыну запрагалі ў плуг (саху) і абворвалі вёску» [130].*

У гэтым прыкладзе наадварот выкарыстоўвалася магічная моц, абумоўленая жаночай «нечысцінёю».

Дзейнымі асобамі ў рытуалах абворвання часта выступалі голыя ці ў адных белых сарочках і з распушчанымі валасамі жанчыны — менавіта так уяўлялі ведзьмаў (падабенства да нячыстай сілы). Дэманстрацыя аголенай жаночай натуры мела і пладаносны сэнс.

*«Каб урадзіла добра гародніна, капуста, агуркі і інш., 7 ліпеня, да ўсходу сонца, жанчыны, распусціўшы валасы, у адных кашулях аббягаюць тры разы грады і потым садзяцца сярод іх, завіваюць валасы вакол галавы і завязваюць хусткі» [131].*

Лічылася, што аберагальныя дзеянні будуць мець асаблівы эфект, калі іх выкананне даверыць блізнятам, якім надаваліся надзвычайныя здольнасці; адначасовае нараджэнне двух дзяцей у большасці культур лічыцца звышнатуральным. У міфах блізняты — носьбіты ўсяго карыснага і шкоднага, дабра і зла, асацыююцца з днём і ноччу, жыццём і смерцю.

*«Калі ў паселішчы ўзнікла якая-небудзь павальная хвароба, вёску абворваюць. Абворванне робяць як звычайна, але і сам араты павінен быць блізнюком, і валы яго — таксама, і саха павінна быць зробленая блізнюком; калі што-небудзь, хоць маленькая палачка, што адносіцца да сахі, будзе зробленая не блізнюком, усю справу трэба лічыць марнай. Калі гэтыя ўмовы выкананыя, араты-блізнюк у суправаджэнні шматлікіх сведкаў дакладна апоўначы выпраўляецца абворваць вёску» [132].*

## РЭАЛЬНЫЯ І МІФІЧНЫЯ СУБ'ЕКТЫ

Суб'ектаў абярэгаў можна падзяліць на рэальных і міфічных.

Рэальныя суб'екты абярэгаў — людзі, якія здзяйсняюць магічна-рытуальны акт. Іх пол, узрост, род заняткаў ці іншыя адметнасці пры гэтым не пазначаліся. Наяўнасць рэальных суб'ектаў у кожным рытуале з'яўляецца абавязковай. У адваротным выпадку здзяйсненне рытуалу ў актуальных прасторы і часе было б немагчыма, бо аберагальныя дзеянні, нават у сімвалічнай форме мадэлі, здольны былі выконваць толькі насамрэч існуючыя людзі. Фантастычныя істоты, зразумела, ніякіх рэальных дзеянняў рабіць не маглі; іх «прыцягвалі» да ролі суб'ектаў дзеля забеспячэння магічнасці рытуалу.

Часткова міфічнымі суб'ектамі з'яўляюцца рэальныя людзі з асобнымі міфічнымі рысамі ці часовымі іх праявамі (напрыклад, пазначаны ў тэкстах першы сустрэчны).

Дзеці вельмі рэдка выступалі ў якасці суб'ектаў абярэгаў, яны былі найважнейшымі іх аб'ектамі. Людзі маладога і сярэдняга веку маглі быць як аб'ектамі, так і суб'ектамі абярэгаў. Старыя людзі ніколі не былі аб'ектамі аберагальнага клопату, а выконвалі ролю суб'ектаў абярэгаў. Сярод іх выдзяляліся «прафесійныя» чараўнікі, прадстаўленыя напаўміфічнымі персанажамі — чараўнікамі, знахарамі, шаптунамі. У залежнасці ад сітуацыі яны былі то суб'ектамі абярэгаў, то здзяйснялі агрэсіўныя акты. Старыя людзі маглі быць не толькі заступнікамі, але і «наслаць» на няўдзячнага чалавека бяду, пошасць, хваробу і гора.

Можна канстатаваць нарастанне аб'ектнасці ў бок больш маладых людзей і суб'ектнасці — у бок людзей больш сталага веку. Адначасова ў выканаўцаў аберагальных дзеянняў адбываецца ўзмацненне міфічнага пачатку і магічных здольнасцей. Калі сярод дарослых людзей эпізадычную або нетрывалую сувязь з тагасветнымі сіламі «мелі» толькі некаторыя людзі пры пэўных умовах (у начны час, у святочныя і фіксаваныя даты, жанчыны з «месячным ачышчэннем»), то большасці старых людзей прыпісвалася дастаткова пастаянная магічная моц.





| Дзеці | дарослыя | старыя | міфічныя істоты |
|---|---|---|---|
| ← нарастанне аб'ектнасці | | нарастанне суб'ектнасці → | |

Памерлыя пасля пахавання «пераходзілі» ў іншы свет, прастору мёртвых, продкаў, якім прыпісваўся татальны ўплыў на жыццё людзей. Апошні мог быць як станоўчым, так і адмоўным. У першым выпадку продкі выступалі як найважнейшыя міфічныя суб'екты абярэгаў, у другім — выконвалі ролю агрэсіўных персанажаў. Прывядзём прыклад замовы, у якой звяртаюцца да продкаў па дапамогу:

*«Папрашу таго, кім кладбішча занімалі. Святкі-святыя, старыя і малыя, блізкія і далёкія, свае і чужыя, хлеб-соль прымайце і здароўе надзяляйце» [133].*

Міфічныя суб'екты — гэта духі, святыя, багі і г.д., да якіх звярталіся наўпрост або выклікалі на дапамогу праз пэўныя рытуалы. Цалкам міфічныя істоты надзяляліся пастаяннымі магічнымі здольнасцямі. Прытым магічная звышнатуральная сіла магла зыходзіць як ад добрых персанажаў, так і ад прадстаўнікоў антысвету.

Зварот да першых ажыццяўляўся:

1) непасрэдна ад суб'ектаў. Так, на Юр'е звярталіся да вышэйшых сіл:

*«Звычайна яшчэ да ўзыходу сонца гаспадар з настольнікам у руках абыходзіў поле і па вуглах яго закопваў косці ад велікоднага стала, прыгаворваючы: «Святы Божа і святы Ягорый! Захавайце ніўку ад граду» [134].*





**Выява пеўняў на ручніку.**
**Вёска Іванчыцы (Чэрвеньскі раён)**

*«Захварэла дзіця — у апошняй надзеі маці садзіцца за ручнік, нясе яго ў царкву, ахвяруе на абраз з вобразам заступніка, моліць аб дапамозе. Не родзіць ніва — можа, хоць Бог паможа. Ці Хрыстос, ці Ярыла. А то і абодва разам» [135];*

2) праз «рытуальна чыстых» асоб (дзяцей, незамужніх дзяўчат, удоў, хросных бацькоў, святароў, першых сустрэчных, тых, хто першымі нарадзіліся ў сям'і).

*«Перад тым як нясуць дзіця хрысціць, павітуха перадае хроснай маленькі вузельчык са збожжам, глінаю з печы і соллю, каб хросная выкінула вузельчык «на крыжовых дарогах» (раздарожжы). Гэта робіцца дзеля таго, каб «не было ліхой стрэчы» (дурнога вока)» [136].*

Прамых зваротаў у абярэгах да традыцыйна адмоўных міфічных суб'ектаў не было. Заклік адбываўся праз «рытуальна нячыстых» сувязных, напрыклад прадстаўніц жаночага полу, блізкасць якіх да нячыстай сілы часта падкрэслівалася антыпаводзінамі і атрыбутыкай «таго свету».

*«Усе дзяўчаты аднае сям'і тройчы аб'язджаюць вакол сваёй сялібы верхам на памяле — каб вераб'і напалохаліся і не рабілі шкоды ячменю, просу і каноплям» [137].*

Гэткім чынам асобы жаночага полу, якія лічыліся бліжэй да нячыстай сілы, чым мужчыны, станавіліся падобнымі на ведзьму, якая «ездзіць на памяле».

Акрамя людзей, у якасці суб'ектаў у абярэгах выступалі міфалагізаваныя татэмныя і свяшчэнныя жывёлы і птушкі, якіх належала «задобрываць», прыносіць ім ахвяры, каб дамагчыся іх апякунства, спрыяння ў канкрэтных справах. Сярод апошніх, напрыклад, узгадваўся певень:

*«Як запяе певень, то ўсе чэрці бягуць дадому, у пекла ці ў балота... Певень — як дамавік. Ён аберагае селяніна, сцеражэ жаночае шчасце. Певень — гэта пасыльны сонца. Ён нясе святло, шчасце, наступленне дня» [138].*

Певень «існуе» на мяжы цемры і святла, яго крык кладзе канец разгулу нячыстай сілы і абвяшчае пачатак дня.

## СТУПЕНІ МІФІЧНАСЦІ СУБ'ЕКТАЎ АБЯРЭГАЎ

Выканаўцам абярэгаў надавалася розная ступень магічных здольнасцей. Гэта залежала ад долі міфічнага кампанента ў іх вобразах. Паводле ступені рэальнасці/міфічнасці суб'екты, згаданыя ў абярэгах, можна размеркаваць наступным чынам:

1) звычайныя, нічым у тэкстах не адметныя людзі — сяляне, гаспадары, работнікі без спасылкі на пэўную прафесію, якія «атрымоўвалі» магічныя здольнасці дзякуючы самой аберагальнай сітуацыі;

2) члены сям'і, звязаныя кроўнымі сувязямі, і блізкія да сям'і асобы, якія мелі перавагу над іншымі асобамі дзякуючы зразумелай прыхільнасці да аб'екта;

3) людзі з часовымі магічнымі здольнасцямі, абумоўленымі фізіялагічным станам (жанчыны падчас месячных, цяжарныя); «адзначаныя» магічнай сімволікай (першы сустрэчны, тры дзяўчыны);

4) людзі, якім прыпісваліся больш пастаянныя магічныя здольнасці ў сувязі з узростам, полам, сямейным і сацыяльным статусам (дзіця да сямі гадоў, дзяўчаты, удовы, салдаткі, замужнія жанчыны, старыя мужчыны); з прафесійным заняткам (бабкі-павітухі, жнеі, звязаныя з сакральнасцю хлеба, пастухі як «пастары», стараста сяла);

5) удзельнікі хрысціянскіх абрадаў (хросныя бацькі, браты і сёстры), старшы ў хрысціянскай абшчыне (царкоўны стараста);

6) людзі, адзначаныя антыпаводзінамі (прыкмета прыналежнасці да антысвету);

7) адмыслоўцы рытуальнай магіі, «магічна выбраныя» (знахары, чараўнікі);

8) татэмныя і свяшчэнныя жывёлы;

9) апекуны мясцовасцей, д'ябал;

10) пасрэднікі кантактаў з Богам (святары);

11) святыя, багі.











**Гуканне вясны**

У аналіз уключаны толькі суб'екты, намінаваныя ў абярэгах. У спісы не браліся «суб'ектызаваныя» рэчы (іконы, ідалы, лялькі, адзенне суб'ектаў, як, напрыклад, кашуля блізкай сваячкі, мужчынскія чорныя штаны, шапка святара); апасродкавана пададзеныя суб'екты (напрыклад венік, які атаясамліваўся з дамавікам), рэчы, да якіх дакраналіся сакралізаваныя асобы (напрыклад асвячоны ксяндзом абрус). Гэта ўсё аднесена да сродкаў апатрапеяў, хаця можна меркаваць, што, дзякуючы анімізацыі ўсяго навакольнага, і рэчы ўяўляліся архаічным людзям паўнавартаснымі і актыўнымі ўдзельнікамі магічных рытуалаў.

Пры разглядзе суб'ектаў абярэгаў у выдзеленых групах (чалавек, жывёлы, маёмасць, расліны, універсальныя) назіраецца тэндэнцыя (некалькі менш выразная ў абярэгах раслін) да павелічэння міфічнага складніку.

## СІМВОЛІКА СУБ'ЕКТАЎ АБЯРЭГАЎ

Суб'екты абярэгаў часта маюць сімволіку, выражаную лічэбнікамі і лічбамі. Трое (хлопец і дзве дзяўчыны) запрагаліся ў саху ў рытуале абворвання сяла. Лічэбнік «першы» (сустрэчны, першынец па народжанні і г.д.) ужываецца ў дачыненні да чалавека, якому давяралі вядзенне рытуалу, і азначае чысціню, незаганнасць. «Другая» жанчына, якая дапамагае маці лячыць хворае дзіця, складае ёй пару, утвараючы сіметрычную звязку. Такім чынам дасягаецца міфалагізацыя ўдзельнікаў рытуалу. Тое можна сказаць і пра блізнятаў-аратых, жанчыну з суседкай, якія вядуць дыялог праз парог хаты (каб уратаваць дзіця ад начніц) і інш.

Магічную сілу суб'екты набывалі, калі ў абярэгах акцэнтавалася іх вялікая колькасць:





**Абрад «Намётка».**
**Вёска Папшыцы (Глыбоцкі раён)**

*«У час цяжкіх бедстваў, як, напрыклад, пад пагрозаю голаду, таксама як і пошасцяў на людзей і скаціну, цэлыя вёскі даюць зарок выткаць за адзін дзень «абыдзённік», г.зн. кавалак палатна з нітак ільну, спрадзеных у той самы дзень, і гэтае палатно вешаюць на вобраз Божай Маці» [139].*

*«Калі ў вёсцы пачынаецца мор скаціны... стараста склікае ўсіх жанчын і дзяўчат з сяла ў адну хату, тыя прыносяць па жмені льну і тут агульнымі намаганнямі прадуць, снуюць і ткуць за адзін дзень кавалак палатна сажні на дзве, на тры даўжынёю. У той жа час мужчыны крадуць дзе-небудзь застаўку ад млына і закопваюць яе на той дарозе, па якой ганяюць скаціну, засціла-юць гэтае месца «абудзёншчыкам» (г.зн. толькі што вытканым палатном) і праз яго пераганяюць статак. Пасля гэтага «абудзёншчык» аддаюць у царкву і просяць прычт адслужыць абедню» [140].*

## СУБ'ЕКТЫ АБЯРЭГАЎ ЧАЛАВЕКА

Выяўлены пэўныя адметнасці суб'ектаў абярэгаў у залежнасці ад груп і дачынення да розных аб'ектаў.

У «спрыяльных» абярэгах, датычных чалавека, у якасці суб'ектаў фігуравалі сваякі, маці, сястра, нявестка, свякроў, «пабочная жанчына», г. зн. якая не мае намеру нанесці шкоду, бабка-павітуха, муж радзіхі, кумы.

Рытуальныя дзеянні ў «ахоўных» абярэгах выконвалі звычайныя людзі.

У «рэгулярна засцерагальных» абярэгах значыліся: асобныя людзі; маці, бабуля; жнеі; жанчына з «месячным ачышчэннем»; певень; Святы Мікола, які ратуе тых, хто топіцца: багі, якім прысвячаецца малітва, каб дзіця не сурочылі ў час збораў у дарогу на хрышчэнне.





**Свята-конкурс «Млечны шлях ад рук бабулі».**
**Аграгарадок Семежава (Капыльскі раён)**

Адметнасцю падгрупы быў паслядоўны ўдзел у рытуалах некалькіх асоб: маці — дачкі — мужа («каб грому не баяліся»), маці — сына (абярэг на час службы ў войску), бабкі — маці — кумы, бацькі — хроснага, павітухі — хросных (падрыхтоўка дзіцяці да хрышчэння). Ажыццяўлялася таксама супольная дзейнасць суб'ектаў і аб'ектаў: цяжарнай і павітухі, бабкі і маці (у час родаў), усіх членаў сям'і (рытуальнае мыццё ў Чысты чацвер), сялян, моладзі (на святы).

Як бачым, фігуравалі пераважна людзі з часовымі міфічнымі рысамі, сямейнікі, памагатыя пры родах, удзельнікі шлюбнага абраду і абраду хрышчэння. І ўсё ж звышмоцны рэзерв ненатуральных сіл, дзякуючы планаваму характару змагання, выкарыстоўваўся менш.

Суб'екты «забаронных» абярэгаў, датычных чалавека, прадстаўлены выключна жанчынамі, перш за ўсё — цяжарнымі.

У «абаронных» абярэгах сярод суб'ектаў дзеянняў значыліся: гаспадыня; бацькі і іх сябар; малады хлопец, першы ў бацькоў; жабрак, які наступіў на след; выпадковы прахожы; радзіха, яе маці, бабка-павітуха; хросны бацька; жнеі, работнік, які рабіў труну (людзі «асобых» прафесійных заняткаў); чараўнік; апякун вёскі; Святы Ілля. Як бачна, спіс суб'ектаў пашырыўся новымі катэгорыямі напаўміфічных і міфічных персанажаў. Варта адзначыць і тое, што пры «абароне» аб'екта перавага аддавалася суб'ектам мужчынскага полу.

Суб'екты «пазбаўляльных» абярэгаў чалавека вызначаліся найбольшай паўнатой прадстаўленых у іх персанажаў. Звычайныя сяляне, гаспадары складалі мінімальную па колькасці групу. Часцей узгадваліся: муж, жонка, дзяўчаты сям'і, блізкая жанчына, маці, радзіха, блізкая сваячка, рытуальна «чыстая» жанчына, якая пакуль не мае дзяцей (колькасна найвялікшая катэгорыя);



**Удзельнікі вясельнага абраду.**
**Вёска Лелікава (Кобрынскі раён)**







старшы мужчына; хто першы ўбачыць, калі не бачыў раней; блізняты; двое; другі суб'ект, жанчыны і дзяўчаты з цэлай вёскі; кума разам з бабкай, хросныя брат і сястра; жнеі; бабка, баба-доктар, яе «памагалка», бабка і кума, маці і іншая кабета; знахарка, знахар, знахар і муж, знахарка і маці, шаптун; духі, што апякуюцца мужчынамі; поп, святар; святыя, Пярун, Божы Сын, Пан Езус, Божая Маці, багі, Бог.

Аналіз паказвае, што ў абярэгах чалавека было прадстаўлена найбольш шырокае кола суб'ектаў. Пры гэтым значнае месца адводзілася асобам, якія забяспечвалі роды, хрышчэнне і пазбаўленне ад хвароб.

## СУБ'ЕКТЫ АБЯРЭГАЎ СВОЙСКІХ ЖЫВЁЛ

У «спрыяльных» абярэгах, якія датычыліся жывёл, значыліся: гаспадар, гаспадыня, гаспадыні; сямейнікі; жанчыны, цяжарная жанчына; пастухі; бальшуха (маладуха), якая вярхом на чапяле ідзе даіць карову; святар. Суб'ектамі «ахоўных» абярэгаў былі: селянін, жыхары вёскі; усё сямейства; «не чужы, не ліхі, не чорны», г. зн. свой, добры, светлы чалавек; пасечнікі; мядзведнік з мядзведзем.

Спіс суб'ектаў «рэгулярна засцерагальных» абярэгаў жывёл складалі: гаспадыня, эканомка гаспадыні, гаспадар, сяляне, вяскоўцы; сямейнікі, «донька»/дачка, «матка»/маці; старшы сын; уся сям'я на чале з гаспадаром і гаспадыняй; жанчыны, дзяўчаты-падлеткі, старыя жанчыны; пастухі, конюхі на начлезе, аратаі; гаспадар, які а 12-й гадзіне ночы ідзе на могілкі; хатнія духі; святар. Падгрупу суб'ектаў «забаронных» абярэгаў, датычных жывёл, складалі: жанчыны (дапамагае досвед засцярог у час уласнай цяжарнасці); пастухі (сакралізаваная прафесія, звязаная з доглядам жывёл).





«Абарону» жывёл у абярэгах здзяйснялі: гаспадар, гаспадыня, людзі; цяжарная жанчына; знахар; д'ябал, «ідал», з дапамогай якога вярталася дадому згубленая скаціна; Святы Ягорый, Бог.

У якасці суб'ектаў «пазбаўляльных» абярэгаў жывёл выступалі: гаспадар, гаспадыня, сяляне, мужыкі; сын гаспадара; пары людзей: адна асоба і другая, два чалавекі, «аратаі-блізнюкі»; жанчыны, маладыя дзяўчаты і старыя бабы, «ратаі»/аратыя; стараста; мядзведнік з мядзведзем; Чур; святар.

Як бачна, у абярэгах жывёл прадстаўлены розныя катэгорыі суб'ектаў. Аберагальныя акцыі здзяйснялі перш за ўсё гаспадары і людзі сельскагаспадарчых і жывёлагадоўчых прафесій: пастухі, пчаляры, конюхі, аратыя, даяркі.

## СУБ'ЕКТЫ АБЯРЭГАЎ МАЁМАСЦІ

«Спрыяльныя» і «папераджальныя» абярэгі маёмасці надзвычай мала прадстаўлены спецыяльна названымі суб'ектамі. У «спрыяльных» абярэгах фігуравала толькі маці нявесты, а ў «рэгулярна засцерагальных» значыўся толькі гаспадар.

У «абаронных» абярэгах, датычных маёмасці, фігуравалі: гаспадыня; чалавек, які «нарадзіўся ў кашулі» (сакральна адзначаны, шчаслівы, адораны магічнай сілай ад нараджэння); усе сяляне (магічная моц вялікай колькасці, грамады); голая жанчына («рытуальна нячыстая» асоба, магічныя здольнасці якой узмоцнены антыпаводзінамі); боская воля, Бог.

Суб'ектамі «пазбаўляльных» абярэгаў маёмасці былі: маці; адзін з жыхароў вёскі; старая жанчына; адна з замужніх жанчын; царкоўны стараста; распранутыя асобы жаночага полу: голая жанчына з распушчанымі валасамі, голая дзяўчына ці маладуха; голыя непаўналетнія дзяўчаты; жнеі вярхом на качарзе; мядзведнік з мядзведзем (выкарыстанне сілы татэму).

У абярэгах маёмасці намінаваныя суб'екты былі задзейнічаны амаль выключна пры непасрэднай пагрозе або распачатай агрэсіі. Тут звяртае на сябе ўвагу канцэнтрацыя суб'ектаў з прыкметай «голы». Гэта наводзіць на думку пра дадатковае значэнне, якое прыўносіць прыметнік *голы* — чалавек, які нічога не мае. У такім выпадку задача суб'екта заключалася ў тым, каб «паказаць» носьбіту небяспекі, што ў гэтым месцы няма ніякай маёмасці, якую можна было б забраць і пашкодзіць.

## СУБ'ЕКТЫ АБЯРЭГАЎ РАСЛІН

У абярэгах «спрыяльнай» групы, прысвечаных раслінам, сярод суб'ектаў фігуравалі: селянін, гаспадар, гаспадыня, работнік, моладзь, сяляне/жыхары вёскі; «хто-небудзь з дамашніх»; нявестка ў першы год замужжа, «багата баб»; сейбіт, жняя; дзеці, жанчыны, дзяўчаты, «бабы»; жанчыны ў адных кашулях, якія распусцілі валасы, гаспадыня на качарзе, голая баба, сейбіт на качарзе; Майя.





**Ткачыха У. Віннік.**
**Горад Ганцавічы (Брэсцкая вобл.)**

У падгрупах «ахоўных» і «забаронных» абярэгаў раслін суб'екты рытуалаў спецыяльна не называліся.

Суб'ектамі «рэгулярна засцерагальных» абярэгаў раслін былі: гаспадары, сяляне; дзяўчаты, бабы з усяго сяла; усе дзяўчаты адной сям'і вярхом на памяле; «вялікі пакутнік Георгій, апякун пастухоў і пасеваў»; Святы Божа і Святы Ягорый, Бог.

З суб'ектаў групы «абаронных» абярэгаў раслін узгадваліся пераважна старыя людзі: дзед; самы стары са старэйшых.

У групе «пазбаўляльных» абярэгаў раслін называліся толькі гаспадары.

Суб'екты абярэгаў раслін фігуравалі найчасцей у абярэгах прафілактычнага характару. Сярод іх значыліся датычныя да раслінаводства сейбіт, жняя, апякун пасеваў. Цікавым з'яўляецца факт удзелу ў абярэгах, з аднаго боку, дзяцей, моладзі, з іншага боку, — старых людзей, дзядоў. Гэта магло выступаць сімвалізацыяй пачатку і канца жыццёвага цыкла, асабліва значнага для раслін.





## ПАДЗЕЛ СРОДКАЎ АБЯРЭГАЎ

У якасці інструмента для здзяйснення аберагальнага дзеяння выступаюць сродкі абярэгаў.

Аберагальныя сродкі падзелены на:

1) рэальныя, матэрыяльныя (рэчы, рэчывы);

2) рэальныя, матэрыяльныя з сімвалічным значэннем;

3) нематэрыяльныя, сімвалічныя (магічныя сімвалы).

«Чыста» матэрыяльныя сродкі дастаткова рэдка сустракаюцца ў беларускіх абярэгах. Яны абавязкова набываюць сімвалічнасць. Так адбываецца, напрыклад, пры змаганні з уяўнымі агрэсіўнымі персанажамі, калі іх «удзел» ператварае ўсю сітуацыю ў міфалагізаваную і надае сімвалічнасць усім кампанентам, акрамя аб'екта. Звычайна пераважаюць матэрыяльныя сродкі з выразна сімвалічным значэннем, але значнае месца ў абярэгах займае і «чыстая» сімволіка.

Менавіта ў сродках апатрапеяў рэальны і міфічны ўзроўні выяўляюцца найбольш відавочна.

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ СРОДКІ АБЯРЭГАЎ

Матэрыяльныя сродкі — найбольш відавочная, дэманстратыўная і, мабыць, таму найбольш даследаваная частка абярэгаў. У параўнанні з іншымі структурнымі кампанентамі сродкі абярэгаў (перш за ўсё матэрыяльныя), распаўсюджаныя на беларускіх і ўсходнеславянскіх тэрыторыях, апісаны найбольш падрабязна .

Існуе вельмі шмат абярэгаў, у якіх сродкі выходзяць на першы план і выкарыстоўваюцца дзякуючы свайму канкрэтнаму прызначэнню. Напярэдадні Купалы

*«...гаспадыня кладзе з вечара крапівупякучку на фортку — «штоб ведзьма пастрыкала морду, як будзе лезць» [141].*

У гэтым прыкладзе крапіва — рэальная расліна, якая з-за ўласцівай ёй пякучасці выкарыстоўваецца пры здзяйсненні рытуалу ў цалкам натуральным выглядзе, без прыпісвання ёй якіх-небудзь новых якасцей. Іншая справа, што сама аберагальная сітуацыя непазбежна надае матэрыяльным сродкам, як і ўсім іншым кампанентам абярэгаў, сімвалічнае значэнне. З'яўленне фантастычнага агрэсіўнага персанажа — ведзьмы — з'яўляецца тым фактарам, які міфалагізуе ўсю падзею і робіць немагчымым рэальнае супрацьдзеянне агрэсіі.

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ СРОДКІ АБЯРЭГАЎ З СІМВАЛІЧНЫМ ЗНАЧЭННЕМ

Шмат якім рэальным сродкам абярэгаў толькі часткова прадпісваецца выконваць адпаведную свайму прамому прызначэнню функцыю. А. Я. Леўкіеўская адзначае, што «...прадмет выступае як пучок якасцей, замацаваных за ім у традыцыі, і таму дэкларуе не сам сябе, а важныя ў дадзенай сітуацыі якасці, якімі ён валодае. Выкарыстанне прадмета ў якасці апатрапея зручна таму, што ён з'яўляецца рэчавым «канцэнтратам» неабходных апатрапеічных уласцівасцей і якасцей, канвенцыйна замацаваных у традыцыі, і таму зразумелым без дадатковых тлумачэнняў».

У матэрыяльныя аберагальныя сродкі дадаткова «ўносяцца» пэўныя звыш'якасці, неўласцівыя ім з пункту гледжання матэрыяльнай структуры. Значэнне сродка можа быць ніяк не звязана з ім самім, можа нават выходзіць за межы яго непасрэднага зместу. Напрыклад, вада —





фізічнае рэчыва з распушчальнай здольнасцю, якое дазваляе ачышчаць розныя прадметы. Але ў абярэгах ачышчэнне мае больш шырокае сімвалічнае значэнне — ачышчэнне ад «нячыстай сілы». Менавіта гэтая здольнасць вады перш за ўсё маецца на ўвазе ў абярэгах. Такім чынам, у гэтым матэрыяльным сродку суіснуюць рэальнае і нададзенае, сімвалічнае.

Акрамя больш прыватных, адпаведных сітуацыі сэнсаў, сімволіка рэчаў убірае ў сябе глыбінныя аспекты светабудовы, міфалагічнай карціны свету. Сітуацыйнае выкарыстанне свечкі бачна з наступнага прыкладу.

*«Свечку давалі хвораму ў рукі, і ён трымаў яе на працягу вымаўлення замовы. Яе запальвалі ў чырвоным куце (пад абразамі), на вакне («каб хвароба бачыла, куды ёй трэба ўцякаць, каб ёй дарога была асветлена»), хворага саджалі ў чырвоны кут і над ягонай галавой запальвалі свечку» [142].*

Незапаленую грамнічную свечку ў ноч на Івана Купалу вешалі на вушак у хлявах і на вароты двара, такім чынам замыкаючы ўваход ад чараўніцы.

*«Няма, бадай, ніводнага дома, дзе б ні вешалі ў гэтую пару грамніцы на варотах хлява; паўсюль агідная чараўніца згрызе іх, марна намагаючыся вызваліць уваход. Калі сама гаспадыня нядбалая, тады яе абачлівая эканомка павесіць грамніцу і не дазволіць, каб пякельная змяя высмоктвала малочных кароў. Калі б праз чыюсьці нядбайнасць гэта ўсё ж здарылася, карова цэлы год не будзе даіцца або будзе даваць малака зусім мала» [143].*

Але незалежна ад сітуацыі грамнічная свечка выступае як вытворнае адной з асноўных стыхій, як сімвал нябеснага агню.

Асвечаныя ў першы дзень перадвелікоднага тыдня — Вербную нядзелю — галінкі вярбы таксама мелі ў абярэгах шматфункцыянальнае прызначэнне. Яны выкарыстоўваліся ў розных выпадках.



*«Асвечанай вярбой выганялі скаціну ў Юр'еў дзень на выпас, а потым затыкалі вербачку пад дах дома з мэтай аберагчы скаціну ад хітрыкаў лешага, каб яна вярталася дамоў» [144].*

Таксама ў гэты дзень

*«...абыходзяць палі з асвячонай вярбой. Пасля ў пэўным месцы ўтыкаюць яе ў зямлю з той надзеяй, што гэтым абароняць (засцерагуць) ніву сваю ад граду» [145].*

*«Пры надыходзе навальніцы ці набліжэнні небяспечнай хмары вербны пучок ці ставіцца на падаконнік у бок навальніцы і хмары, ці выстаўляецца на знешнім баку акна, каб адагнаць навальніцу і хмару...» [146].*

Вярба выкарыстоўвалася для прафілактыкі захворванняў:

*«...у Вербную нядзелю асвячалі і, калі прыходзілі дадому, з'ядалі некалькі пупышак, каб перасцерагчы сябе ад усялякіх хвароб, а дзяцей з той жа мэтай лёганька сцябалі вярбой» [147].*

Вярба ў прыведзеных прыкладах, магчыма, сімвалізуе свяшчэннае дрэва. Так, існавала павер'е, што ў вярбу не ўдарае маланка.

## СІМВАЛІЧНЫЯ СРОДКІ АБЯРЭГАЎ

Матэрыяльныя сродкі — значны і вельмі паказальны кампанент абярэгаў, асабліва ў такой катэгорыі, як амулеты. Часта апатрапеі прадстаўлены выключна дзеяннем і ўвогуле не ўтрымліваюць прадметных сродкаў. Напрыклад, такімі з'яўляюцца рытуалы малення, жагнання, маўчання, акты з выражэннем пагрозы, знявагі. Наадварот, «нематэрыяльная» сімволіка, што ўвасабляецца ў магічных актах, — абавязковы атрыбут апатрапея.

Вельмі часта ў аберагальных рытуалах сімвалы як бы адрываюцца ад сваёй матэрыяльнай асновы і становяцца ўяўнымі. Да іх адносяцца магічныя сімвалы ў выглядзе геаметрычных фігур (кола, квадрата, крыжа і інш.), лічбаў (найчасцей — лічбы 3). Гэтая сімволіка злучае аберагальныя сродкі з магічнымі дзеяннямі, з'яўляецца іх агульным элементам і надае рытуалам дадатковы сэнс. У выніку дрэйфавання магічныя сімвалы могуць увасабляцца ва ўсіх кампанентах абярэга.

*«Маці, як прыйдзе з цэрквы, свечку прынясе дадому, запаліць і падсмалюе трошкі спераду, ззаду, справа і злева накрэст, шоб грому не баяліся; усіх падсмалюе і дае чы дочцы, чы мужыку і кажа: «Бяры і мяне падсмалюй» [148].*

*«Каб малако ў кароў само не выцякала, трэба карове абвязаць рогі чырвонаю жычкаю, а вымя абмыць халоднаю вадою, узятаю з трох калодзесяў, то як рукой зніме» [149].*

Пасля выраблення абыдзённіка

*«...дзве дзяўчыны трымаюць за канцы палатно над агнём, а ўсе жыхары вёскі пераходзяць праз агонь і пераносяць дзяцей і хворых» [150].*

Сімволіка з найвышэйшай ступенню абстрагаванасці ў беларускіх абярэгах найчасцей прадстаўлена магічнымі фігурамі кола, крыжа, квадрата і лічбамі 3, 1, 2, радзей — дугой, лічбай 9 і ў адзінкавых выпадках — лічбамі 13, 77.











**Пано «Сонейка».** Л. Лось (г. Мінск)

Магічныя сімвалы падаюцца ў тым парадку, у якім яны размеркаваліся ў тэкстах абярэгах па частаце.

## МАГІЧНЫЯ ФІГУРЫ

Магічнае («чароўнае») кола ў абярэгах мае значэнне акрэслення пэўнай зоны, узяцця яе пад ахову сакральнымі сіламі; адмежавання чужароднага; руху, жыцця, адзінства пачатку і канца; мноства, якое складаецца з адзінак. Цікавай падаецца сімволіка кола ў наступным тэксце:

*«Жанчына ў стане павінна сцерагціся, каб не пераступіць, а яшчэ гарэй, каб саўсім не наступіць на аглоблю, абруч, дугу ці што другое крывое, бо дзіця будзе гарбатае ці з крывымі нагамі. Як тоўстая жанчына стане ў сярэдзіну абруча, то яе дзіця будзе пэрацятае, бы аса» [151].*

Можна думаць, што ў гэтым выпадку кола і яго акцэнтаваны цэнтр (сімвал жыцця) — аналогія плода ў лоне маці.

Кола — найбольш дасканалая, эканомна пабудаваная, абсалютна сіметрычная фігура. Калі разглядаць агрэсію як замах на ўпарадкаванасць, гармонію свету, што можна ўявіць у выглядзе дэфармацыі кола, то аберагальны працэс будзе мець супрацьлеглы характар, сімвалам якога стане зварот да кола, яго аднаўленне.

Кола — геніяльная архаічная мадэль спалучэння прасторы і часу. Яна знойдзена народам у працэсе пазнання свету і нясе ў сабе такую ступень абстракцыі, што ніяк не выпадае гаварыць пра прымітыўнасць мыслення старажытных людзей. Народная думка, засноўваючыся на назіраннях за канкрэтнымі з'явамі, праявіла здольнасць да іх своеасаблівага асэнсавання і вылучэння агульнага філасофскага значэння.

Прывядзём прыклад замовы ад нячыстай сілы, нарадкі, спалучанай з акцыянальным абярэгам:



*«Госпаду Богу памалюся, маці Прачыстай пакланюся. Не сам сабою, Гасподзь са мною. Прачыста мамачка, стань нам на помач. Станаўлю раба божага на сярэбраным кругу, на залатом масту (абвесці шнурком або ніткай круг). Маць Прачыстая шаўковыя шнуры чапаець, шаўковымі шнурамі абводзіць, наперадзі жаркае сонца становіць, залатым храстом пабіваець, нячыстую сілу адбіваець. І святы Міхаіля-арханя, сталяным кап'ём пабіваеш, нячыстую сілу адбіваеш. Сам гасподзь Сус Хрыстос святым духам дыхаець, нячыстую сілу зганяець» [152].*

Магічная дуга ўяўляе сабой паўкола, якое, па-першае, нясе значэнне цэлага, па-другое, дзякуючы канфігурацыі «зводу нябеснага», увасабляе сабой вароты, праз якія ажыццяўляецца пераход у іншае жыццё, у сакральны свет. Яна ўтрымлівае значэнне перараджэння, ачышчэння. Рух чалавека праз яе (праход, прапаўзанне, апусканне, перанясенне) азначаў важныя змены ў жыцці, змену статусу.

*«Перад лячэннем ад суроцаў, гэтаксама як і ад «находу і наносу», карысна тройчы правесці дзіця праз конскі хамут, які пасля гэтага трэба надзець на каня» [153].*

Пры стварэнні абыдзённіка

*«...дзве дзяўчыны трымаюць за канцы палатно над агнём, а ўсе жыхары вёскі пераходзяць праз агонь і пераносяць дзяцей і хворых» [154].*

У замове-абярэгу ад варожых сіл пры выхадзе з хаты казалі наступнае:

*«Выхаджу я за варот, маць Прачыстая напярод, рызаю закрывае, ад усіх урагоў спасае, а я, раба божая (імя), іду, сонцам асвячуся, месяцам абгараджуся. Іду, раба божая (імя), нікога не баюся» [155].*

Або наўпрост у замове ад крывацёку:

*«Ішла святая Прачыстая матка Хрыстова гарою, нясла ваду дугою. Дуга, разагніся, вада, разалліся! Дуга разагнулась, вада разлілася, а ў раба божага кроў сунялася, печаной запяклася» [156].*

Магічны крыж фігураваў як сімвал перакрэсленай, недаступнай для пранікнення злога запаветнай прасторы, знак узяцця аб'екта пад асаблівы патранаж, уздзеяння на чужароднае.



**Касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі.**
**Вёска Зембін (Барысаўскі раён)**

Перад Вербнаю нядзеляю вечарам свецяць у царкве вярбу.

*«...увайшоўшы ў хату, выпальваюць там свечачкамі над дзвярамі ці на сволаку тры крыжы, каб загарадзіць нячыстай сіле заходзіць у хату» [157].*

Крыж мае і іншыя значэнні, напрыклад, увасабляе вобраз чалавека, дрэва. Слова «хрышчэнне» можа ўжывацца ў значэнні «мыццё, умыванне», што зноў вяртае да ідэі ачышчэння. Пасля хрысціянізацыі беларускіх зямель крыж сталі выкарыстоўваць у





абярэгах як свяшчэнны сімвал выратавання. Напрыклад, каб пазбавіцца ад дамавога, прамаўлялі наступную замову:

*«Госпаду Богу памолімся і матары Божай прыклонімся! Хрэст Хрыстоў у рабу божам (Паўлу), хрэст Хрыстоў і на Паўлу; храстом Хрыстовым бесяў адганяяць. Адступіцеся, бесі праклятыя, да ня дзелайця ні ядыныя ўрэды! Тут жывуць ангалы і архангалы, харувымы і сарахвымы і чатыры вангалістыя: Матвей і Марка, і Лука і Іван Баслоў, і раб божы Павял» [158].*

Магічны квадрат (прастакутнік) уяўляў сабой абмежаваную зону, арыентаваную на бакі свету, узятую пад ахову сакральнымі сіламі. Квадрат адлюстроўвае таксама чатыры бакі свету, чатыры пары году, дня, узросту чалавека, стыхіі, каардынаты (справа—злева, спераду—ззаду). Чатырохкутнік уяўляе сабой гарызантальную схему Сусветнага дрэва.

*«Каб вывесці асот і іншае пустазелле ў агародзе і на полі, трэба закапаць на чатырох канцах агарода і нівы свянцоныя косткі ад вялікоднага мяса» [159].*

*«На Серадапосце храсты пякуць і ядзяць па вуглам, каб сярэдзіна не балела, як жнуць»[160].*

*«Рыхтуючыся да пераезду ў новы дом, гаспадары прыходзяць у старое жыллё і, кланяючыся ва ўсе чатыры куткі хаты, гавораць: «Гаспадар-паночку! Пойдзем у новы дом, на багаты двор, на быццё, на багацце!» [161].*

Можна меркаваць і пра наяўнасць у абярэгах так званага «магічнага адрэзка», з дапамогай якога злучаліся дзве кропкі. Ад пошасці на двух

*«...канцах вуліцы дзень і ноч кладуць агонь, да яшчэ не просты агонь, а той агонь, што выціраюць брускамі дзерава, палажыўшы адзін з іх на парозе ў цэркві» [162].*

Не выключана і існаванне «магічнай кропкі» як пункта ў прасторы, дзе адбываецца магічны рытуал. У замове ад злых чараўнікоў магічная кропка фігуравала ў выглядзе цэнтра царквы і прастолу:

*«Госпадзі, Божа, блаславі рабу божаму вадзіцу браць. На моры на Сіяні, на гарэ Кіяні стаіць царква. Ніхто ў той царкве не бываець, акрамя Міхаіла-архангела — лістрапія гаспадняга. Пасярод яе стаіць прастол, на том прастоле на чатыры краі ляжыць чатыры храсты; пасярод яго ляжыць пшанічная праскура, гарыць яркая свяча, ляжыць кніга-евангелле. Міхаіл-архангел на абедню становіцца, кнігу-евангелле чытае, ведзьмакоў заклікае: што вы задумалі, загадалі, то ваша дзела не прыдзецца: як вам... у гэтай царкве не бываць, каля прастола не хадзіць і крыжоў не цалаваць... Святы кіеўскія, Антоній-Хвядосій, прашу вас помач к сабе. Святы ангелы, станьце на праве плячо і на левае, пачуйце малітву маю і данясіце яе словы да Госпада Бога» [163].*

Калі суб'ект здзяйсняў рытуал самнасам, гэта магло азначаць, што ён знаходзіцца ў цэнтры Сусвету.

## МАГІЧНЫЯ ЛІЧБЫ

Магічным фігурам у абярэгах адпавядаюць магічныя лічбы. У старадаўніх традыцыях яны маглі выкарыстоўвацца ў сітуацыях, якім надавалася сакральнае значэнне.

Магічная лічба 3 азначае «аптымальнае» мноства і ўвасабляецца ў траістасці суб'ектаў і сродкаў, патроенасці дзеянняў.

*«Каб, упершыню пакідаючы бацькоўскую хату, дзіця не патрапіла на благое вока, пасля купання бабка падкурвае малога свянцонымі зёлкамі (купальскімі) і кладзе на падлогу, а маці тройчы пераступае цераз яго і перадае куме» [164].*

*«І як куды ідзеце з дзіцем, ці як сама ідзеш, то цепэр нема такіх маек, хоць так о рубашэчкой тры разы ўцерыць дзіцятко»* (УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на).

Прыклад замовы-абярэга, дзе апісваецца трохразовае дзеянне, тры разы прамаўляецца частка тэксту, згадваюцца тры магічныя персанажы:

*«Як выганяюць тавар першы раз на пашу: От, к прымеру, я з вечора перад варотамі ховаю дубчык (вярбу) свечаны, замкнула замочка, поклала каменьчыка, поклала сякеру і бяру той дубчык, і тым дубчыкам тры разы свою корову трэба ўдарыць. І кажу: — Ідзі, пасіся, сцеражыся..., ні на каго ні заглядай (так 3 разы). А потым кажу: — Іду я дарогаю, сустрэчаю трох друзей: попа, война, чорта. Попу дала штаны, войту рукава, а чорту пералогі. А ты, мая Мурка, усё патапчы пад ногі, ідзі пасіся...» [165].*





Лічба 3 уяўляецца дасканалай, ідэальнай мадэллю любога працэсу, які складаецца з узнікнення, развіцця і заняпаду. У прасторавым выражэнні — трохкутніку — у тэкстах абярэгаў яна не сустракаецца, можна думаць, з прычыны недастатковай духоўнай спеласці грамадства язычніцкіх часоў, бо трохкутнік — знак трыадзінства (Цела — Душа — Дух). Душа ў дахрысціянскіх поглядах мела вульгарна-матэрыяльнае ўвасабленне, а клопату пра духоўнае жыццё ў найвышэйшым сэнсе, як было паказана пры аналізе каштоўнасных аспектаў абярэгаў, у тэкстах не выяўлялася.

Магічная лічба 4 фігуравала ў абярэгах як цыфравы аналаг квадрата, число прасторы і часу. Так, велікодная ежа захоўвалася да Юр'я, калі

*«...да ўзыходу сонца, кожны гаспадар ...бярэ з сабой пасвечанае яйка, соль, косці ад велікоднай ежы і вуглі з дамашняга вогнішча. Усё гэта закопвае ў полі з чатырох бакоў, каб засцерагчы яго ад... «заломаў», якія могуць зрабіць ведзьмы» [166].*

У наступным прыкладзе замовы нават пералічваюцца чатыры вуглы засвоенай прасторы:

*«Госпаду Богу помолюся, святой Парачыстай Божай маці поклонюся. Я словамі, Бог з помаччу. У мяне ў хляве ў адном кутку пэрэн стоіць, у другом вода верэсціць, у трэцім огонь горыць, у чацвёртом сыр, масло стоіць. Не йдзі, моя Мурка, дзе пэрэн стоіць, не йдзі, дзе вода верэсціць,*

*не йдзі, дзе сыр, масло стоіць. Да йдзі лугамі, да йдзі берагамі, да травы з'ядай, да воды співай. Да не йдзі, моя Мурка, дзе пэрэн стоіць, да йдзі, дзе тры пані стоіць, тры кубкі ляжыць. Там оні стоялі, моей Муркі ўрокі выговоралі» [167].*

Магічная лічба 2 азначала не проста пару, не толькі тоеснасць, дваістасць, сувязь, але і люстраную сіметрыю. Нагадаем пра ролю гэтай лічбы ў сістэме проціпастаўленняў (дабро—зло, верх—ніз, права—лева, сваё—чужое і г.д.).

Замова ад пярэпалаху:

*«...маці, сеўшы на парог, хворае дзіця садзіць на калені, а над яго галавой паднімае аберуч заслонку ад хлебнай печы, такім чынам, каб закопчаны бок быў павернуты ўверх. Другая ж кабета, набраўшы на сіта трохі попелу, прасявае яго на тую заслонку. У час гэтага прасявання маці хворага дзіцяці тройчы пытае:*

*— Што ты сееш?*

*А прасяваўшая адказвае:*

*— Пярэпалахі!*

*— Сей жа добра, каб не было ніколі,— гаворыць матка.*

*Такія дзеянні робяць тройчы, на захадзе, на ўсходзе і зноў на захадзе сонца. Пасля ўсяго прасеяны попел ссыпаюць у новы гаршчок і праз гэтае самае сіта ўліваюць трохі вады, затым робяць з гэтага галкі, якімі паціраюць хвораму дзіцяці жывот і грудзі» [168].*

У пададзеным прыкладзе сіта ўяўляе сабой мяжу паміж люстрана сіметрычнымі гэтым і «тым» светам. У апошні і адпраўляюць «пярэпалахі». Эфект магічных рытуальных дзеянняў лічыўся ўзмоцненым, калі іх давяралі блізнятам:

*«Каб халера або так якая зараза не марыла людзей, то трэба, каб граніцу вёскі абаралі блізнякі блізнячымі валамі» [169].*

У замове ад гадзюкі, вужакі, сліўня ёсць унікальны пачатак, дзе зварот пачаргова ідзе да двух суб'ектаў:

*«Дзве зары-зарніцы, родныя сястрыцы, станьця на помач святому Юр'ю-Ягор'ю, святому ангалу Міхайлу...» [170].*

Часта замовы прамаўляліся без старонніх людзей, г. зн. прысутнічалі толькі аб'ект замоўных дзеянняў і знахар.

Знойдзена замова з магічным лічэбнікам другі:

*«...Другім разам, господнім часам Прашу госпада Бога, Бог з дапамогай... мяне (рабу божую) выручаць, а смерць замаўляць» [171].*

Магічная лічба 1 асацыіравалася з космасам у яго першапачатковым стане, калі ён апісваецца як цэлае, супрацьпастаўленне хаосу. Гэтая лічба, напрыклад, магла мець увасабленне ў здзяйсненні рытуалу ў адзіноце, сам-насам, згодна з патрабаваннем, якое часта гучала ў абярэгах.

Магічны лічэбнік *першы* выступаў як сімвал першапачатковасці, навізны, чысціні рытуалаў, суб'ектаў, сродкаў, акалічнасцей самой сітуацыі, асаблівай сакральнасці, якая, паводле народных уяўленняў, мела месца ў першы дзень стварэння свету. Пацверджаннем могуць служыць неаднаразовыя пачаткі замоў: «Першым разам — Божым часам».

Замова ад суроку:

*«Першым разам, господнім часам. Ішоў Бог Сус Хрыстос цераз залаты мост. Масьніца праламілася — у раба божага Сямёнькі ўрокі адваліліся» [172].*

Вызначальнымі рысамі першага з'яўляюцца сакральнасць, прыналежнасць багам. Першым аб'ектам часта прыпісваліся магічныя здольнасці. У абярэгах узгадваліся: першая раса для ўмывання; першы вывад дзіцяці ў свет; першы, хто ўбачыць праявы хваробы; першынец па нараджэнні; першы выган скаціны на выпас, калі з'яўлялася першая раса; сажай ад першага дымку малявалі кола; вядро для рытуалаў пры родах, хлебная лапата, дзяжа, дровы для караваю павінны былі быць новымі і інш. Прыклад замовы, што прамаўлялася пры выгане скаціны на выпас першы раз:

*«Первым разам, лепшым часам паганю я сваю скацінку, рыжую (або іншая масць)*







*шарсцінку, на шырокую даліну, на зялёную траву. Там сядзеў дзед касаты, касатая баба, маю кароўку ўляклі і малака прыбаўлялі, вымца стужылі, а ваду ўлажылі. Туды ішла Дуня, плакала-рыдала і мацер Божую гукала. Чула-пачула мацер Божая: — Чаго ты, Дуня, рыдаеш, мне надакучаеш? Я сама вазьму гэтую скацінку, паганю на шырокую далінку, на зялёную траву, а там я яе напасу і ў сінім моры напаю, і вам разганю гасподнюю благадаць, укладу крэпкага тварагу і жоўтага масла, і смятаны. Амінь» [173].*

Магічная лічба 9 — трохразова «ўзмоцненая» лічба 3, закліканая павысіць эфект уздзеяння. Так,

*«...у Вербную нядзелю, калі выйдуць з царквы, кожны з'ядае па дзевяць пупышак з вярбы, якія называюцца «авечкамі», каб не балелі зубы і не было ліхаманкі» [174].*

У наступным прыкладзе замовы падкрэсліваецца блізкасць лічбаў 3 і 9:

*На моры, на кіяне стаіць дуб на тры і дзевяць какатоў, пад тым дубам зрублена на шэсць вуглоў хата (бо авін). Святы цар Зосім стаіць на вугле святою сваею праваю нагою, угаль аціскаець, агонь унімаець, вецер занімаець, ні пол (полымя), ні іскраў не распускаець: ні па крышах, ні па ўсіх маіх связах. Сам Ісус Хрыстос окала этага агня ходзіць і абчырчываець, і агонь унімаець, ні пол, ні іскр не распускаець. Святы Ілля прарок надзеляшчы па сіняму мору ходзіць і святою сваёю праваю рукою ваду разгарнываець, ваду чэрпываець, на агонь узліваець і агонь пагашаець. Амінь» [175].*

Магічная лічба 12 — трохразова «ўзмоцненая» лічба 4 магла асацыіравацца з дванаццаццю апосталамі:

*«У Вялікую суботу ўночы дванаццаць сялянскіх дзяўчат надзяваюць белыя кашулі, бяруць саху і праводзяць ёю баразну вакол усяго сяла з малітваю: «Да ўваскрэсне Бог». Гэтым, паводле павер'я сялян, адыдзе ўсё нядобрае на цэлы год» [176].*

А таксама ў замове-абярэгу ад ліхаманкі:



**Ручнікі. 2010-я гг. Л. Кавалёва.**
**Вёска Неглюбка (Веткаўскі раён)**







*шарсцінку, на шырокую даліну, на зялёную траву. Там сядзеў дзед касаты, касатая баба, маю кароўку ўляклі і малака прыбаўлялі, вымца стужылі, а ваду ўлажылі. Туды ішла Дуня, плакала-рыдала і мацер Божую гукала. Чула-пачула мацер Божая: — Чаго ты, Дуня, рыдаеш, мне надакучаеш? Я сама вазьму гэтую скацінку, паганю на шырокую далінку, на зялёную траву, а там я яе напасу і ў сінім моры напаю, і вам разганю гасподнюю благадаць, укладу крэпкага тварагу і жоўтага масла, і смятаны. Амінь» [173].*

Магічная лічба 9 — трохразова «ўзмоцненая» лічба 3, закліканая павысіць эфект уздзеяння. Так,

*«...у Вербную нядзелю, калі выйдуць з царквы, кожны з'ядае па дзевяць пупышак з вярбы, якія называюцца «авечкамі», каб не балелі зубы і не было ліхаманкі» [174].*

У наступным прыкладзе замовы падкрэсліваецца блізкасць лічбаў 3 і 9:

*На моры, на кіяне стаіць дуб на тры і дзевяць какатоў, пад тым дубам зрублена на шэсць вуглоў хата (бо авін). Святы цар Зосім стаіць на вугле святою сваею праваю нагою, угаль аціскаець, агонь унімаець, вецер занімаець, ні пол (полымя), ні іскраў не распускаець: ні па крышах, ні па ўсіх маіх связах. Сам Ісус Хрыстос окала этага агня ходзіць і абчырчываець, і агонь унімаець, ні пол, ні іскр не распускаець. Святы Ілля прарок надзеляшчы па сіняму мору ходзіць і святою сваёю праваю рукою ваду разгарнываець, ваду чэрпываець, на агонь узліваець і агонь пагашаець. Амінь» [175].*

Магічная лічба 12 — трохразова «ўзмоцненая» лічба 4 магла асацыіравацца з дванаццаццю апосталамі:

*«У Вялікую суботу ўночы дванаццаць сялянскіх дзяўчат надзяваюць белыя кашулі, бяруць саху і праводзяць ёю баразну вакол усяго сяла з малітваю: «Да ўваскрэсне Бог». Гэтым, паводле павер'я сялян, адыдзе ўсё нядобрае на цэлы год» [176].*

А таксама ў замове-абярэгу ад ліхаманкі:



**Ручнікі. 2010-я гг. Л. Кавалёва.**
**Вёска Неглюбка (Веткаўскі раён)**









*«На святой гарэ,*
*На Сінаі,*
*Там стаяўшы*
*Дванаццаць апосталаў,*
*І кала іх шло*
*Дванаццаць сястрыц дзявіц.*
*Святэй Ісіман у іх*
*І спрашываець:*
*— Куды вы ідзеця?*
*Святэй жа ў іх*
*Спрашываець Маісей,*
*Святэй жа ў іх*
*Спрашываець Сімiон,*
*Святэй жа ў іх*
*Спрашываець Кузьма —*
*І спрашываець у іх*
*Святэй Міхаіл,*
*І спрашываець у іх*
*Святэй Пётр,*
*І спрашываець у іх*
*Святэй Андрыян,*
*І спрашываець у іх*
*Святэй Кірык,*
*І спрашываець у іх*
*Усе дванаццаць Іваныў,*
*І ўсем яны атвяшчалі:*
*— Ідзем мы*
*У хрысціянскую веру*
*Біць-калаціць.*
*К смерці вараціць,*
*Штоб он страдаў-скарбеў,*
*Да смерцію умір...» [177].*

Толькі адзін раз у абярэгах сустрэлася лічба 13: каб вылечыцца ад вогніка, трэба было

*«...трынаццаць разоў аббегчы вакол хаты» [178].*

Значэнне гэтага рытуалу, відавочна, было звязана з пазбаўленнем ад агрэсіўнага агента з дапамогай нячыстай сілы, бо 13 — «чортаў тузін», лічба, належная іншасвету.

Лічба 77, паколькі ўяўляе сабой падвоеную сямёрку, што лічыцца «шчаслівай», мусіла забяспечыць удвая ўдалы вынік справы.

*«Ліхаманак семдзесят сем, і, каб пазбавіцца ад іх, бяруць семдзесят сем зярнят проса, ідуць да вады і, павярнуўшыся спінаю, кідаюць гэтыя зярняты праз галаву назад са словамі: «Цёткі хіндзі, вас семдзесят сем, наце плату вам усім!» [179].*

Прыклад замовы:

*«Вас хіндзяў семдзесят сем. Прыйдзіце, я есці дам усем. Паю віном, гадую кіслым малаком, адпраўлю на векі вяком, загараджаю жалезным платом, б'ю драцяным кнутом. Б'ю, убіваю, дарогу паказваю. Няхай перастануць па сялах па людзях хадзіць. Вам па ніцых лозах хадзіць. На ніцыя лозы, на быстрыя воды, на крутыя горы. Дзе голасу не слыхаць, там вам, хіндзям, прападаць» [180].*

Але тое, што лічба 77 належыць і агрэсіўнаму персанажу, наводзіць на думку, што чаканае «шчасце» дасягаецца не без дапамогі нячыстай сілы.

## СРОДКІ Ў АБЯРЭГАХ ЧАЛАВЕКА, СВОЙСКІХ ЖЫВЁЛ, РАСЛІН, МАЁМАСЦІ

У межах «спрыяльных» абярэгаў сярод частых значылася вада, зерне, ахвярная ежа, ручнік. Найбольшая колькасць сродкаў з «аплаадняльнай», «пладаноснай» семантыкай (нагавіцы, спадніца, фартух, вузлы, палка) і самы шырокі набор магічных знакаў (кола, лічбы 3, 1, 2) мела месца ў абярэгах жывёл.

У «папераджальна-ахоўных» абярэгах узгадваліся разнастайныя навязкі, рэчы з труны нябожчыка, сімвалічны крыж, хрысціянская атрыбутыка (прадметныя крыжы, іконы, а таксама архітэктурныя фігуры-вільчакі і сонечныя знакі на будынках).

У «рэгулярна засцерагальных» абярэгах часта сустракаліся вострыя жалезныя прадметы (у першую чаргу — нож, сякера), магічны лічэбнік *першы*, кола і расліны, крыж.

«Забаронныя» абярэгі выдзяляліся перавагай магічнага кола, часта з акцэнтаван-

нем цэнтра, а таксама прадметаў круглай і шаравіднай формы (абручоў, абадоў, клубкоў нітак), гародніны (буракоў, капусты), якія ў дадзеных тэкстах сімвалізавалі цяжарнасць, аплодненасць.

У «абаронных» абярэгах дамінавалі зняважлівыя і пагрозлівыя сімвалічныя фігуры з пальцаў і кісцяў рук (фігі, кулакі), спляваная сліна; нож, сякера, расчлянёныя жывёлы ў якасці дэманстрацыі, «папярэджання» агрэсіўнага персанажа; хлебная лапата, асвечаныя расліны, вугаль, магічнае кола, абыдзённік.

У групе «пазбаўляльных» абярэгаў звяртае на сябе ўвагу найбольш частае сярод усіх апатрапеяў спалучэнне ў адным тэксце кола і лічбы 3. Адчуванне сур'ёзнасці пагрозы для аб'екта вымушала выкарыстоўваць найбольш эфектыўныя сродкі і ўзмацняць рытуальныя дзеянні іх трохразовасцю. У абярэгах чалавека гэтай групы магічная лічба 3 была найбольш частая ў параўнанні з выяўленай ва ўсіх іншых групах абярэгаў. Толькі ў «пазбаўляльных» абярэгах чалавека сустрэліся магічныя лічбы 77 і 13.

Калі разглядаць суадносіны матэрыяльных і сімвалічных сродкаў, то можна адзначыць агульную тэндэнцыю да змены вядучага месца ў рэйтынгу матэрыяльных сродкаў на карысць сімвалічных па меры пераходу ад «спрыяльных» да «пазбаўленных» абярэгаў. Асабліва выразна гэтая тэндэнцыя праяўлялася ў дачыненні да абярэгаў чалавека.

У групе «спрыяльных» абярэгаў найчасцейшымі былі сродкі прадметна-матэрыяльнага характару (першым сярод іх быў ручнік). Ва ўсіх «папераджальна-ахоўных» абярэгах матэрыяльныя і сімвалічныя сродкі (сярод найбольш частых) былі прадстаўленыя прыкладна аднолькава: навязкі і магічнае кола, нож і магічны лічэбнік *першы* ў падгрупе «рэгулярна засцерагальных», адзенне і кола — у «забаронных». У «абаронных» і «пазбаўляльных» абярэгах чалавека сімвалічныя сродкі значна пераважалі (кола і сімволіка, што ўвасаблялася ў зняважлівых і пагрозлівых дзеяннях і позах, — у групе «абаронных», лічба 3 і кола — у «пазбаўляльных»).

Такім чынам, па меры пераходу ад «спрыяльных» да «пазбаўляльных» абярэгаў можна пазначыць узрастанне моцы матэрыяльных сродкаў, іх прыдатнасці да тэрміновых актаў супраць агрэсіўнага пачатку і павелічэнне ролі сімвалічных сродкаў абярэгаў.





## ПАНЯЦЦІ ПРАСТОРЫ І ЧАСУ Ў МІФАЛОГІІ

Здзяйсненне абярэга — важная падзея ў жыцці чалавека старажытных часоў, звязаная з яго жыццёвай патрэбай забяспечыць існаванне і жыццядзейнасць самога сябе, а таксама патрэбных аб'ектаў. Акалічнасці, у якіх адбывалася аберагальнае дзеянне, мелі, як лічылася, выключнае значэнне для паспяховага яго здзяйснення. Аналіз акалічнасцей падаецца ў сістэме прасторава-часавых каардынат. Разгледзім прастору і час здзяйснення магічных рытуалаў не як вонкавае суправаджэнне, а як сутнасную аснову арганізацыі абярэгаў.

Сітуацыі, у якіх здзяйсняецца абярэг, прадстаўлены рэальнай і міфічнай прасторай і часам. Дзеянні чалавека арыентаваны як на рэальныя, так і на міфалагічныя час і прастору. Рэальны ўзровень абярэгаў складаюць прастора і час, у якіх існуюць аб'екты і рэалізуецца апатрапеічная актыўнасць людзей. Міфічны ўзровень забяспечваецца ўяўнымі прасторай і часам, у якіх мяркуецца актыўнасць міфічных, уяўных персанажаў (перш за ўсё — агрэсіўных).

Міфічныя прастора і час — гэта сакральныя прастора і час дзейнасці першапродкаў. Міфічны час — цыклічны, завершаны, а прастора — дасканала структуравана (для параўнання, рэальны, будзённы час мае лінейнае цячэнне, а рэальная, будзённая прастора вызначаецца неструктураванасцю).

Згодна з архаічнымі ўяўленнямі сакральнае мела статус абсалютнай рэальнасці, ісціннасці, а жыццёвае бытаванне людзей і іншых аб'ектаў прызнавалася нерэальным. Безумоўна, каб прасачыць ход думак тагачасных людзей, вельмі важна разгледзець з'яву вачыма яе сучаснікаў, так, як яе разумелі першабытныя людзі.

Паняцці міфічнай прасторы і міфічнага часу звычайна звязваюць з паняццямі першаіснасці, касмагенезу, г. зн. з уяўленнямі пра першатворную чысціню, сакральнасць; пры гэтым не адмаўляюць, што існуюць дурная, благая прастора (прастора тагасвету), крывы, няправільны, выродлівы час (час тагасвету).

Разгледзім, што ўяўляюць сабой прастора і час у абярэгах, усведамляючы, што разгляд іх паасобку будзе ў пэўнай ступені штучным, паколькі прастора і час складаюць непарыўнае адзінства.

Прастору магічна-рытуальных дзеянняў такім самым чынам, як і кампаненты абярэга, можна падзяліць на рэальную і міфічную.

Р э а л ь н а я — гэта прастора, якую займаюць самі людзі і іншыя аб'екты абярэгаў (індывідуальная, найбліжэйшая да чалавека і засвоеная ім жыццёвая прастора). Галоўнымі месцамі знаходжання аб'ектаў абярэгаў былі: чалавека — дом, сядзібныя пабудовы, храм, поле, двор, агарод, дарога; свойскіх жывёл і птушак — хлеў, стайня, двор; рэчаў — хата, іншыя пабудовы; раслін — поле, агарод. Рэальная прастора прадстаўлена наземным светам жывых і апрыёры лічылася «чыстай», але падлеглай пранікненню туды нячыстай сілы.

М і ф і ч н а я прастора абярэгаў была прадстаўлена дзвюма сферамі:

1) сакральнай, ідэальнай;

2) дэрэалізаванай, скажонай.

Абедзве мелі свае праявы ў рэальным свеце.

## САКРАЛЬНАЯ, ІДЭАЛЬНАЯ ПРАСТОРА АБЯРЭГАЎ

Сакральная, ідэальная прастора — гэта прастора верхняга, нябеснага свету багоў, дзе ўсё ўяўлялася ідэальна зладжаным. На зямлі яна прадстаўлена аб'ектамі з першапачаткова высокім сакральным статусам: месцамі здзяйснення хрысціянскіх рыту-









**Прасніца. 1924.**

**Вёска Ратайчыцы (Камянецкі раён)**

алаў — храмамі; выканаўцамі хрысціянскіх рытуалаў — святарамі; хрысціянскай атрыбутыкай — крыжамі, абразамі, асвечанай вадой і інш.

Блізка да згаданых аб'ектаў стаялі выканаўцы рытуалаў і сродкі больш прыземленага парадку з набытай сакральнасцю: напрыклад, пастух, які параўноўваецца з пастырам; залатыя рэчы, паколькі золата сімвалізуе святло, святасць; стол як «прастол божы» і «божая далонь»; хлеб як «дар божы»; ручнік, сакральнасць якога ўзмоцнена сімволікай чырвонага колеру; певень — вястун набліжэння светлавога дня і інш.

Да цалкам сакральных адносяцца магічныя сімвалы, прадстаўленыя абсалютна сіметрычнымі, г. зн. у найвышэйшай ступені ўпарадкаванымі геаметрычнымі фігурамі — колам, крыжом, квадратам і г.д., якія ўяўляюць сабой мадэлі ідэальнай прасторы. Ёсць падставы меркаваць, што ўвесь сакральны свет уяўляўся беларусам сіметрычна пабудаваным, бо сіметрыя тоесная гармоніі, упарадкаванасці. З дапамогай сакральных элементаў (у тым ліку, магічных сімвалаў) у абярэгах выпраўляюцца скажэнні рэчаіснасці, выкліканыя дзеяннямі агрэсіўнага агента.

«Чыстую» частку прасторы абярэгаў фарміравалі перш за ўсё шматлікія сакралізаваныя прадметы. Сакралізацыя рэчаў магла адбывацца, напрыклад, у працэсеператварэння «дзікіх», неапрацаваных раслін у палатно або хлеб — важнейшыя складнікі культурнага свету. Узгадаем, што створаны за вельмі кароткі час абыдзённік сімвалізуе першаснасць, навізну, бездакорную чысціню. Сакральны характар гэтых тэкстаў вызначаецца самім фактам ператварэння прыродных элементаў у культурны, упарадкаваны, «касмічны» стан, што, па сутнасці, з'яўляецца мадэляваннем космасу.

З дапамогай сакральных рэчаў адбывалася «ачышчэнне» прасторы, забруджанай агрэсіўным персанажам.

> *«Каб не даць ведзьме магчымасці выдаіць кароў, сяляне карыстаюцца рознымі сродкамі. Напярэдадні Івана Купалы жанчыны «свяцяць» хлеў святой вадой, абкурваюць вакол кароў асвечанымі на Івана Купала травамі, б'юць іх вярбой» [181].*
>
> Замова для каровы:
>
> *«Як ідзеш даіць карову, трэба гаварыць: «Добры дзень, карова, чорная (белая) шарсцінка. Іду да цябе са святой вадой, а ты да мяне са святой расой. Вадою цябе падмываю, злога ворага не дапускаю, ні гаспадаровага, ні гаспадынінага, ні чараўнікова, ні чараўнічынага, ні блудлівага, ні блудніковага...» [182].*

Да сакральных рэчаў можна дадаць аберагальныя сродкі, паходжанне якіх звязана з сакральнымі датамі: грамнічная свечка, чацвярговая соль, велікодная асвечаная ежа і інш.

Прастора абярэгаў рабілася больш станоўчай таксама дзякуючы дзеянням сакралізаваных суб'ектаў, якія характарызаваліся сексуальнай чысцінёй, незаганнасцю (маленькія дзяўчаткі, старыя жанчыны, салдаткі, удовы, першыя дочкі ў сям'і), што падкрэслівалася і іх белым (г. зн. чыстым, новым) адзеннем. Пры стварэнні абыдзённіка

> *«...найстарэйшая з вясковых жанчын з самай малодшай дзяўчынкаю абыходзіць усе хаты і «калядуіць лён», беручы яго з кожнай душы па столькі, колькі можна заняць трыма пальцамі. Пры гэтым яна прызначае з гэтага дома неабходных работніц, якімі павінны быць удовы і малалетнія дзяўчынкі, пераважна першыя дочкі» [183].*

Рухі, як вядома, разгортваюцца не толькі ў часе, але і ў прасторы. Гэта значыць, што рытуальныя дзеянні таксама фарміруюць сакральную прастору абярэгаў. У частцы абярэгаў рухі станавіліся «правільнымі» — здзяйсняліся правымі часткамі цела.









**Ручнік. Лён, бранае ткацтва, вышыўка, вязанне кручком. Т. Міснікава.**
**Горад Гарадок (Віцебская вобл.)**

*«Стаць правай нагой на парог хлява — значыць зусім абяссіліць д'ябла, зрабіць яго для сябе бясшкодным» [184].*

Сакральнасць дзеянняў узмацнялася акцэнтаваннем правізны, як, напрыклад, у замове ад суроку:

*«Ішла маць Божая Прачыстая па калінавым масту, вяла Ісуса Хрыста за правую руку, масьнічка праламілась, ад раб божый ад Маруты (імя) ўсё ліха адвалілась. Хто ўрок, таму скула ўбок. Перад рабам божым, перад Марутай, сам Ісус Хрыстос, сама маць Бугуродзіца Прачыстая» [185].*

Правільнымі лічыліся і рухі па стрэлцы гадзінніка:

*«...калі ставяць свечку за выратаванне сябе, то абводзяць ёю вакол галавы «па сонцу» тры разы» [186].*

Канцэптуальна рух па колу (у адрозненне ад лінейнага) паказвае як сакральны характар дзеяння ў цэлым, так і суб'екта дзеяння.

Знамянальна, што ў забаронах прастора набывае сакральнасць дзякуючы адмове ад звычайных, штодзённых дзеянняў. Як лічылася, у час каляндарных свят сакральная прастора непасрэдна праецыруецца на зямлю. Таму забарону працаваць у гэтыя дні можна трактаваць як імкненне захаваць чысціню прасторы шляхам забеспячэння яе недатыкальнасці.

*«...засцерагаючыся ад граду, нічога не робяць на чацвёрты дзень пасля... нараджэння Хрыста (28 снежня)» [187].*

Сакральная прастора фігуравала ў забаронах у выглядзе сіметрычных фігур: кола, шара або прадметаў, якія іх сімвалізуюць (сімвалічнага німба, кавалка палатна круглай формы, кола ад вазка, абруча, гародніны — «галовак» капусты, буракоў).

Дзеля забеспячэння ўмоў рытуальнай чысціні, гэта значыць — чысціні прасторы, у якой адбываецца аберагальнае магічнае дзеянне, выкарыстоўвалі такія прыёмы, як маўчанне (незабруджванне гукавай прасторы). «Маўчанне — адзін са сродкаў



**Крыж-ідал.**
**Вёска Хваенск (Жыткавіцкі раён)**

пазбегнуць нежаданых кантактаў, у тым ліку славесных, якія могуць аказаць неспрыяльны ўплыў на зыход прадпрыемства, нежаданне фізічных кантактаў са староннім чалавекам, які можа стаць вольным або міжвольным шкоднікам» [188]. Да з'явы таго самага плана можна аднесці выкананне рытуалаў употай, без сведкаў, незаўважна для чужых вачэй (незабруджванне візуальнай прасторы). Лічылася, што «поспех справы» залежыць у тым ліку і ад таго, убачыць хто-небудзь здзяйсняльніка абярэга або не.

Звычайным людзям, іх дзеянням, прадметам пазітыўныя звыш'якасці прысвойваліся дзякуючы сакральнасці месца і часу здзяйснення абярэга. Найбольшую ступень сакральнасці выяўляла прастора тых «спрыяльных» абярэгаў, дзе яна суіснавала з рэальнай.











Сакралізаваная прастора, у якой здзяйсняліся абярэгі, была прадстаўлена звычайнымі месцамі, надзеленымі рысамі свяшчэннага. Сярод іх, напрыклад, фігуравала покуць.

*«Спяшаецца Зося на ніву з іконай, з хлебам-соллю і з грамнічнай свечкай. Прывіталася з ніўкай, перахрысцілася і аджала тры жмені. Гэтыя жмені яна перавязала ў маленькі снапок і будзе захоўваць за абразамі на покуці, каб зберагчы хатку ад усялякага ліха» [189].*

Са станоўчымі характарыстыкамі звязваліся верх, пярэдняя і правая часткі прасторы.

*«Ад гразы наверх на сенцы клалі перавернутую лапатку, што хлеб у печ садзяць, і перавернутую скавараду» [190].*

*«Ад вогніка перад хворым ставяць міску з чыстай вадою і побач кладуць тры халодныя вугалі. Хворы ўважліва глядзіць у ваду, а «лекар» торкае іголкаю ў першы вугаль і са словамі: «Вогнік вадзянэй! Вогнік ветранэй! Вогнік агнянэй! Вылазь на вугаль!» тройчы абводзіць вакол галавы хворага вугалем і страсае яго ў ваду. Гэтаксама робяць і з астатнімі вуглямі, пасля чаго хворы карыстаецца той вадою і для знешніх і для ўнутраных патрэбаў» [191].*

*«Калі аруць валамі, то да сахі падводзяць таго вала, якога будуць запрагаць з правага боку. Калі валы запрэжаныя, араты з вядром вады і загорнутым у абрус боханам хлеба тры разы абыходзіць вакол валоў і сахі, дае валам нюхаць хлеб і ваду і гаворыць: «Тады з'ясцё і сап'яцё, як заробіцця» [192].*

Са сказанага вынікае, што сакральная прастора выступае ў абярэгах у якасці прасторы-абаронцы. Яна выяўляла сваю прыхільнасць да свету жывых. Часам пра гэта ў абярэгах гаварылася напрасткі. Напрыклад, хавацца ад маланкі рэкамендавалася ў бяспечныя месцы, якія кантраляваліся найвышэйшай воляй і былі недасягальнымі для злых сіл.

*«Як пан Езус па зямлі хадзіў, то не раз, бывала, гарэшкамі жывіцца, таму чорт ніколі не хаваецца пад ляшчыну і пярун у яе не б'е» [193].*

## МЕЖЫ ПАМІЖ ПРАСТОРАМІ

Чалавек выдзяляў сябе, хату, свой маленькі свет як засвоеную прастору. Вельмі выразныя межы, якія лічыліся пераходнымі пунктамі, «усталёўваліся» паміж сваім і чужым, варожым, агрэсіўным асяроддзем (прычым, трэба адзначыць, што супрацьпастаўленне *свой — чужы* мае розныя інтэрпрэтацыі: чалавечы — нечалавечы, звярыны, чароўны; засвоены — незасвоены; прыналежны гэтаму свету — тагасветны і інш.). Таму месцам рэалізацыі абярэгаў часта бываюць розныя межы: вокны, дзверы, пячныя трубы, парогі, вароты, платы, перакрыжаванні дарог і г.д.

*«Бёрда кладуць ля парога ў хляве, калі першы раз выганяюць скаціну ў поле, і тая павінна праходзіць праз яго» [194].*

На скрыжаваннях дарог, пасярэдзіне вёскі, у яе пачатку на ўездзе ці ў канцы на выездзе, каля могілак, на абочыне дарогі або на тым месцы, дзе «бачылі прывід», ставіліся крыжы.

*«Як кумы едуць цераз растанцы, то яны дзеля прыліку сыплюць соль, каб засыпаць вочы ліхому» [195].*

Дарога і ў замовах падкрэслівалася як небяспечнае месца, дзе аб'ектам патрабуюцца дадатковыя аберагальныя меры:

*«Прачыста святая, твая ручка залатая. З медзянага пальчыка спусці, а мне дарожку прайсці пусці» [196].*

Згодна з уяўленнямі, межы паміж светам жывых і мёртвых «адчыняліся» ў надзвычайных сітуацыях. «Падчас пахавання, калі нябожчыка вязуць на могілкі, трэба маўчаць, паколькі ў гэты момант «дарога адкрыта на той свет» і не існуе звычайнай мяжы між тым і гэтым светам, а значыць — неабходна адасобіцца, адмежавацца маўчаннем» [197].



Такім чынам, у абярэгах мае месца вельмі выразны падзел на «сваю» і «чужую» прастору. «Чужая» прастора не належыць рэальнаму свету.

*«Калі насоўваецца грозная хмара, кажуць закляцце: «Ідзіце, хмары, на татарскія горы, у нас вады досыць, носяць вёдрамі, разліваюць цэбрамі». Тут трэба перахрысціць хмару» [198].*

Міфічныя «татарскія горы» выступаюць у абярэгу як «чужая» прастора, куды належала адсылаць недарэчнага ў гэтым свеце агрэсіўнага агента.

Замова ад ліхой долі:

*«Каціся клубком, доля злая, нядобрая, разлучніца, кумышніца. Каціся, не цягніся, ля парога не круціся, за ганак не чапляйся, на варотах не вісні. Сабачча, ласунова, варонняя дапамога, каціся да парога!» [199].*

Цікава, што межы паміж сакральным і рэальным светам пазначаліся ў абярэгах даволі рэдка. У гэтай спаянасці прыхаваны глыбокі сэнс: людзі імкнуліся пака-









заць сваю з'яднанасць з нябеснымі сіламі, прыхільнасць да іх, адкрытасць бязмежнаму дабру. Рэальны свет абярэгаў цягнецца да сакральнага, разам яны ўступаюць у супрацьдзеянні з тагасветам.

## СКАЖОНАЯ ПРАСТОРА АБЯРЭГАЎ

Прастора дэрэалізаванага, скажонага свету часцей за ўсё падаецца як хаатычная, спустошаная, неакрэсленая, неструктураваная, падуладная «начному парадку».

*«Падзіўкі мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, хлапечыя, ідзіце, падзіўкі, у мохавае балота, ідзіце туды, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее, дзе людзі не бываюць. Як кустом не кусіцца, так жа табе, божая, Кірылу болей не відаці» [200].*

Замагільнае жыццё з'яўляецца копіяйнегатывам жыцця на зямлі. Міфічную прастору іншасвету складалі звязаныя з ёй кампаненты абярэгаў, перш за ўсё агрэсіўныя персанажы — прадстаўнікі хаосу, «нячыстага» свету, якія, як лічылася, уплываюць на ўсё, з чым уваходзяць у судакрананне.

Сярод знакавых месцаў, якія мелі дачыненне да прасторы іншасвету, у абярэгах фігуравалі сутарэнні, падпечча, запечны кут, месца пад ложкам і інш. Бадай, самай набліжанай да іншасвету наземнай прасторай былі могілкі.

*«Гаспадар таго дома, куды панадзіўся хадзіць мярцвяк, абсыпае дарогу ад самага дома да могілак макам, сыпле макам і вакол магілы — толькі не звычайным, а самасеем і абавязкова асвечаным, бо чараўнікі баяцца маку» [201].*





Паверхня вады, сіта ўяўляліся месцамі непасрэднага кантакту з валадарствам мёртвых.

*«Госпадзі Божа, благаславі, святая Маці Прачыстая, дапамажы і на помачы падбяжы, ад непазбежнай смерці ўратуй-дапамажы. Ішлі тры дзявіцы дарогаю, неслі платочак, у том платочку тры ўзялкі. У адным сухута-ліха, а ў другом — прападак, у трэцім — сама смерць. Ах вы, красныя дзявіцы, вынімайце вы етага раба божага чалавека, гэтую боль з касцей і з машчэй, і з жыл, і з пажыл, і з буйной галавы і беражы гэтага маладца ад гэтага гора, і ўкіньце вы ў сіняе мора і штоб яно век не выныравала і яму не ўплывала-не пагражала, ад смерці вернай яго ўратавала» [202].*

На думку старажытных людзей, не пажадана было глядзецца ў люстра цяжарным жанчынам, а дзяцей да аднаго года забаранялася падносіць да яго. Падчас «крызісных» сітуацый — смерці альбо родаў — люстэрка завешвалі, бо лічылася, што можа адбыцца пранікненне тагасвету ў рэальны свет людзей.

Іншасвет у абярэгах уяўляўся як люстрана-сіметрычны да рэальнага. «Тагасветнымі» лічыліся ніжняя, левая, задняя часткі, ценявыя месцы ў прасторы.

*«Калі дзіця не спіць, то яго мучае «начніца». Трэба тады ўзяць некалькі чарапкоў з разбітага чыгунка, выпаліць іх добра ў печы і пакласці на цэлыя суткі пад парог. Потым пад калыску ставяць гліняную пасудзіну з вадою, у якую кідаюць тыя чарапкі, іголкі, шыла, вострыя кавалкі жалеза і ўсё вострае. З такога чыгунка даводзіцца часам чуць піск» [203].*





Каб нейтралізаваць уздзеянне нячыстай сілы, рэкамендавалася плюнуць праз левае плячо туды, дзе меркавалася месца яе знаходжання. Напрыклад, у замове ад суроку гаворыцца:

*«Госпаду Богу памалюся, маць Прачыстай пакланюся. Святая маць Прачыстая, ліцо чыстае, стань на помач і ад уроку і ад прыгавору. На раба божага на такога-та дуну, на нявернага, на праклятага плюну (дунуць на хворага і плюнуць на левы бок). Сам жа Госпадзі станя на помач і дасць час добры, гадзіну добрую» [204].*

Існавала шмат абярэгаў ад хадзячых нябожчыкаў, напрыклад:

*«У месячную ноч на магіле трэба прыбіць асінавым калком цень сваёй левай нагі» [205].*

Цікава, што пазабаковасць у іканапісных выявах пазначаецца пераменаю правага і левага. Левую частку прасторы выкарыстоўвалі ў барацьбе супраць праяў «таго» свету.

*«Калі бярэменна ўгледзела сабача вяселле, то дзіця на сёмы дзень пасля нараджэння дастане шчэпінаў (сціскание сківвіц). Каб пазбегнуць гэтага, перад хрэсьбінамі (бо пасля хрэсьбінаў ужо нішто не дапаможа), як толькі дзіця засне, маці трэ яму шчокі то сваёй касою, то жычкаю (чырвонаю), накручанаю на вялікі палец левай рукі. Грызе таксама часнок і пах яго дзьмухае дзіцяці ў рот» [206].*

Люстраная сіметрыя праяўлялася ў рытуалах антырухамі: адгонны і адваротны сэнс мае рух наадварот, задам наперад.

*«У час вячэрняга прыпадку (ліхаманкі) хворы як найхутчэй ідзе да царквы і тройчы аббягае вакол яе, потым кладзе на царкоўны ганак якую-небудзь манету і ідзе дадому задам наперад. Папраўка будзе больш хуткая і поўная, калі хворы пазбег сустрэчаў і не азірнуўся назад» [207].*

Пры такім руху пярэдняя і задняя часткі індывідуальнай прасторы мяняюцца месцамі. У Чысты чацвер выраблялі «ніткі-адвароткі»:

*«Жанчыны прадуць у гэты дзень некалькі нітак з воўны ці льну, але ў адваротны бок. Ніткі гэтыя вельмі дапамагаюць ад ламоты, і хворыя на раматус перавязваюць імі рукі і ногі» [208].*

Сімволіка «таго» свету вельмі часта ўвасаблялася ў абярэгах рытуаламі пераварочвання.

*«Падчас навальніцы ў хаце трэба было перавярнуць увесь посуд...» [209].*

Пры хваробах карэнняў капусты каліва вырываюць

*«...і ў тое месца садзяць яго ўжо лістом уніз» [210].*

Існаваў наступны абярэг ад памерлага чараўніка, ведзьмы, двудушніка, вупыра і г.д.: людзі раскопвалі магілу для таго, каб перавярнуць нябожчыка (тварам уніз, галавой у той бок, дзе былі ногі). Перавернутыя аб'екты ўвасаблялі кантакт з іншасветам, дапамогу якога выклікалі для абярэгу ад хмары:

*«Град як ідзе... выносілі з дома хлебную лапату; ставілі каля парога, ручкай уніз, запальвалі грамнічую свечку» [211].*

Для лячэння бяссонніцы ў дзяцей:

*«Калі хто сурочыць дзіця, трэба прынесці вады з калодзезя ўвечары; колькі набярэцца ў пасудзіну (не трэба адліваць), наліць у гаршчок і даць тры разы закіпець; потым трэба ўзяць міску, паставіць яе пад калыску і пакласці вакол яе ключ, грабянец, шчотку, нож і тры верацёны. Потым міскаю пераварочваюць гаршчок з гатаванай вадою і гэтак пакідаюць на цэлую ноч» [212].*

У абярэгах выкарыстоўвалася таксама вывернутае адзенне:

*«Звычайна першай хросных сустракала бабка-павітуха, апранутая ў аўчынны кажух з чорных бараноў, вывернуты аўчынай наверх» [213];*

*«Як молоду прывязуць, то на лівы бок вывочваюць кожух, свякроў встрэчае нявесту ў кóжуху» (УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна).*



Элементы тагасвету найбольш відавочна прадстаўлены рэчамі, якія мелі дачыненне да рытуалу пахавання.

*«Пры пераходзе на новае месца жыхарства, гаспадар у 12 г. ночы ідзе на могілкі і бярэ чарапок ад гаршкоў, якімі абмываюць нябожчыкаў, насыпае ў яго зямлі са свежай магілы, і ідзе дамоў, і дома абсыпае гэтай зямлёй вакол двара без малітвы, каб вялася скаціна, а чарапок адносіць назад на могілкі» [214].*

*«Капялюш, які застаўся ад нябожчыка, вешалі на жардзіну ў полі, каб вераб'і не псавалі жыта» [215].*

Прастора іншасвету і пераходныя месцы ўяўляліся як небяспечная прастора: у іх «існуюць» ці блізка знаходзяцца злыя, нячыстыя сілы. Так, падкінутая пасудзіна з вадой з-пад мерцвяка, на думку людзей, магла выклікаць паморак у вёсцы.

*«Кілька лет таму ў Верашчаках хадзіла па цэлай вёсцы ўсяляка хвароба, так што ў кожнай хаце людзі ўміралі. Раптам сціхла хвароба ў Верашчаках, а пачалі хварэць і ўміраць у Сабалькох, і на тую саму хваробу. Анно знаходзяць пад вуглом гаршчок з якімісь памыямі, так усе пачалі казаць, што няйначай, як гэта верашчацкія людзі, абмыўшы мярца, прынеслі і паставілі ў воду, каб да Сабалькоў перайшла ўся хвароба. Так што, робячы, аднае ночы сабраліся з цэлай вёскі жанкі і дзяўчата да аднае хаты, напралі, аснавалі і выткалі ручніка і тае самае ночы завесілі на крыж, і Бог даў, хвароба ўспакоілася» [216].*

У час навальніцы небяспечным для людзей лічылася станавіцца пад дрэвам, класціся ў полі на мяжы, знаходзіцца каля свойскіх жывёл чорнай масці, таму што там нібыта хаваюцца чэрці, якіх пера-



**Святы калодзеж (Полацкі раён)**

следуе Пярун. Забаранялася наступаць на тое месца, дзе круцілі качаргой, вілкамі, патэльняй, інакш пачнецца хвароба скуры. У забаронах як выключна небяспечнае месца фігураваў «залом» у жыце, нібыта зроблены чараўнікам або ведзьмай.

*«Сіла ў залома настолькі вялікая, што той, хто з ёю сустрэнецца, пакутуе ад доўгіх хваробаў, пераважна — ад ламоты ў касцях; цяжарныя скідваюць; у жняі, што неасцярожна зрэзала залом, аднімаюцца рукі на столькі год, колькі было закручаных і заламаных сцяблінаў. Ужытыя ў ежу чалавекам і жывёламі зерне і салома ад заломаў даводзяць да пакутлівай смерці, у тым ліку нават мышэй і дробных птушак» [217].*

Такім чынам, небяспечная прастора часта набывала выразна агрэсіўныя якасці і выступала ў абярэгах як самастойная сіла, прастора-агрэсар.

Яна магла знаходзіцца за межамі аб'екта абярэгаў (чыстая прастора ўнутры, забруджаная звонку). Напрыклад, перад вяселлем, калі маладая мыецца, апранае новую бялізну, сукенку і вэлюм, яна павінна шаптаць такія словы:

*«Я святою вадою умываюся, золатам уціраюся, а сонейкам адзяваюся, а месяцам падпяражуся, зоркамі зашпілюся і нікога не баюся...» [218].*

Абруч, сімвал кола, у забаронах нібыта стрымлівае знешнюю злую сілу. Пры парушэнні кругавой мяжы гэтая сіла «можа ўварвацца» ўнутр і знішчыць жывое.

*«Кожны пастух абавязкова павінен насіць у кішэні «абыдзённік» (кавалак палатна, вытканы калектыўна жанчынамі сяла на працягу дня — ад усходу да заходу сонца; выконваў функцыю абярэга) і штодзённа аббягаць з ім зранку вакол статка тройчы: тады воўк не падыдзе» [219].*

У выпадку пранікнення агрэсіўнай прасторы ў аб'ект яе заключалі ў магічнае кола, чатырохкутнік і г.д. Акрэсленнем кола часта лакалізоўвалі хваробы, тым самым «спыняючы» іх распаўсюджанне (чыстая прастора звонку, забруджаная — унутры).

*«Вогнік лечаць так: завуць такога чалавека, хто першы радзіўся ад свае маткі, каб ён, як першы раз убачыць у таго хворага вогнік, да абчарціў яго трэйка кіпцем мезенага пальца на левай руцэ, то вогнік раптам высахне да й загіне» [220].*





У наступным прыкладзе замовы дзеянне мадэлюецца па-за прасторай аб'екта.

*«Як етаму дрэву на корані не стаяць, залатым веццем не махаць, птушачкам не сядзець, гняздзечкі ня віць, дзетак ня выводзіць, — раба твая божая, — так етаму зубішчу ў році ня быць: ні бакавэй, ні вісакавэй, ні ніжні, ні вісучы (гаварыць, абвёўшы пальцам сучок у сцены)» [221].*

Прыналежным атмасферы «таго» свету было гукавое суправаджэнне рытуалаў: шум, крыкі, біццё па жалезных прадметах:

*«Маладыя дзяўчаты запрагаліся ў саху, а старыя бабы бралі ў рукі патэльні, косы і іншыя брынклівыя прадметы і, раздзеўшыся дагала, з гучным крыкам, віскам, шумам, трэскам абводзілі баразну вакол вёскі. Увесь гэты шум меў, напэўна, на мэце напалохаць моравую панну і выгнаць яе з сяла, калі яна ў ім засела; а баразна — гэта своеасаблівае «чуранне», зварот да Чура, каб ён не пускаў хваробу праз мяжу ўладанняў свайго роду. Народ верыць, што праз такую мяжу мор не пяройдзе. Усім загадзя паведамляюць пра гэта. Мужчыны не павінны ўдзельнічаць, а калі нехта з іх трапіцца на дарозе, яго забіваюць да паўсмерці» [222].*

Выказваецца меркаванне, што абворванне вёскі з шумам і звонам — ачышчальны рытуал, а абворванне ў маўчанні — папераджальны. Існуе і іншая думка, што маўчанне паказвае на прыналежнасць іншасвету, бо маўленне ўласціва толькі людзям. Напэўна, трэба адрозніваць маўчанне як акт, які сімвалізуе блізкасць іншасвету, і адмову ад маўлення дзеля захавання чысціні прасторы.





Лічылася небяспечным прымаць з аўдыёпрасторы тагасвету гукавыя сігналы, якія маглі б стварыць люстраную сіметрыю.

*«Потопленники, они уночи пужають людей. Там у нас малады чалавек утапіўся, дак уночы гукае. И никогда не отгукивайся, бо приде» [223].*

Своеасаблівае, парадаксальнае становішча паўстае ў абярэгах у выніку дзейнасці суб'ектаў, чыё паходжанне звязана з іншасветам (чараўнікі, русалкі, дамавікі, хлеўнікі, ёўнікі і інш.). Выступаючы, з аднаго боку, ад імя цёмных сіл, яны ўносяць у сітуацыю ўласцівую ім прастору падземнага свету. З іншага боку, іх заахвочваюць або прымушаюць абараняць інтарэсы аб'екта, ажыццявіць супрацьдзеянне ў дачыненні да той самай прасторы, з якой яны выйшлі. Сказанае з'яўляецца адным з магчымых тлумачэнняў дваякага «стаўлення» такіх персанажаў у дачыненні да аб'ектаў абярэгаў.

Тое самае можна сказаць і пра іншыя кампаненты абярэгаў (дзеянні, сродкі), звязаныя з тагасветнай прасторай, якія адначасова і належалі да яе, і выступалі яе праціўнікамі. Напрыклад, лічылася, што асінавае дрэва мае такую сілу, што «нечысць» баіцца яе, як крыжа. Прадстаўнікі антысвету могуць выступаць у абярэгах як тыповыя агрэсіўныя персанажы і як яго знішчальнікі. У замове ад зубнога болю:

*«Месячка, месячка! Стаіш ты высока, відзіш ты далёка. Быў ты на том свеці і на этам, відзеў ты людзей жывых і мёртвых. Не баляць у мёртвых людзей ні зубы, ні дзясны, ні поддзясны, ні шчэкі, ні зашчэкі, ні пашчыкі; і штоб у цябе, Васіля, не балелі зубы» [224].*

У такіх выпадках прастора іншасвету вымушана дзейнічае на самаліквідацыю, праяўляючы тым самым неўласцівыя ёй якасці абаронцы аб'екта.







## РЭАЛЬНЫ І МІФІЧНЫ ЧАС АБЯРЭГАЎ

Час абярэгаў можна падзяліць на рэальны і міфічны.

Р э а л ь н ы — звычайны, актуальны час, у якім існуюць аб'екты і рэалізуюць аберагальную актыўнасць людзі. У адрозненні ад іншых магічных рытуалаў, у абярэгах рэальны час не акцэнтуецца. Ён фігуруе як мэта, якой імкнуцца дасягнуць людзі, г. зн. узнавіць парушаную рэальнасць.

У супрацьлегласць рэальнаму міфічны час адыгрывае ў апатрапеях надзвычай важную і, можна сказаць, актыўную ролю. М і ф і ч н ы — гэта час, у якім дзейнічаюць:

1) суб'екты з дапамогай звышнатуральных сіл (прыналежных сакральнаму і дэрэалізаванаму свету);

2) агрэсіўныя агенты, якія ў абярэгах прадстаўляюць іншасвет.

У свядомасці людзей міфічны час актуалізуецца:

- у каляндарныя святы;
- у найбольш значныя перыяды і моманты жыцця чалавека (нараджэння, хрышчэння, шлюбу, смерці);
- у пачатку і сканчэнні якой-небудзь важнай для чалавека дзейнасці (закладкі новага дома, адбыцця ў дарогу, першага выгану скаціны на выпас, засевак, зажынак, дажынак і інш.);
- падчас прыродных катаклізмаў (навальніцы, буры, засухі і інш.);
- пры здарэннях, што адбываюцца з самімі аб'ектамі абярэгаў (хваробах, няшчасных выпадках, нападах драпежнікаў, неўзыходзе пасеваў, пажарах і інш.).

## САКРАЛЬНЫ, ІДЭАЛЬНЫ ЧАС АБЯРЭГАЎ

Сакральны, ідэальны час фігуруе ў «спрыяльных» абярэгах, дзе сітуацыя патрабуе хутчэй удасканалення, развіцця аб'екта, чым карэкцыі. Як і ў выпадку з сакральнай прасторай, мае месца цесная





сувязь сакральнага часу з рэальным і малая аддзеленасць ад яго.

Святло, светлавы дзень — неабходная ўмова існавання рэальных жывых аб'ектаў і адначасова — атрыбут сакральнасці. Аберагальныя магічныя дзеянні выконваліся, «як узнімецца сонейка», «да заходу сонца», пачатку нараджэння месяца, калі нячыстыя сілы, у разуменні людзей, мелі мінімальную актыўнасць.

*«Першым разам, добрым часам, ранняю зарою, добраю парою. Зоры-заранiцы, божыя памачніцы...» [225].*

Лічылася, што аберагальныя сродкі ў светлы час шматразова павышалі сваю эфектыўнасць.

*«У купальскую ноч сушылі ля печы сабраную ўдзень папараць, крышылі яе і высыпалі на досвітку ўпоперак выгану: якая карова не пераступіць папараці і вернецца дадому — па ёй пазнаеш ведзьму» [226].*

У замове ад ляку, упуду, сцені:

*«Упуд-упудзішча, выгаварываю я цябе з буйной галавы, з русага воласа, з руцівага сэрца, з жыл, з пажылак, з касьцей, з пакасьцей, з сустаў, з суставак, з раба божага Іванькі. Святы Светлы дзянёчак, стань на помач! ...Упуд-упудзішча, высылаю я цябе на мха, на балоты, на гнілыя калоды, на белыя камення, на ракітавыя карэння» [227].*

Сакральны час абярэгаў успрымаўся больш кароткім, спрэсаваным у параўнанні з рэальным. Вельмі паказальнымі з'яўляюцца тут часавыя рамкі стварэння абыдзённіка, калі складаны і працяглы звычайна працэс уціскаецца ў крайне абмежаваныя рамкі.

У абярэгах сакральнае выступае на баку рэальнага ў звязцы супраць іншасвету.

## СКАЖОНЫ ЧАС АБЯРЭГАЎ

У апошнія гады павялічылася цікавасць да даследаванняў часу, прыналежнага іншасвету (антычасу). Ён анулюе законы



звычайнага часу, яго звычайна атаясамліваюць з хаосам, нашэсцем памерлых.

У беларускіх абярэгах час іншасвету фігуруе як дэрэалізаваны, скажоны і перш за ўсё асацыіруецца з начным часам сутак. Старажытныя славяне верылі, што ноч — гэта час, калі валадарыць смерць, таму ў цемры можна сустрэць памерлых. Каб выгнаць хлеўніка, выконвалі наступныя апатрапеічныя дзеянні.

*«У ноч на маладзік бітую пугу трэба навязаць на асінавае пугаўё, а перад варотамі паставіць жароўню з асінавым жарам» [228].*

*«Калі не вярнулася з пашы якая-небудзь скаціна і засталася да ночы не адшуканая, на ноч утыркаюць у хлеўны касяк нож, лязом угору» [229].*

Калі лячэннем займаўся знахар, г. зн. чалавек, надзелены магічнымі здольнасцямі, то, выкарыстоўваючы сувязі са звышнатуральнымі сіламі, ён выконваў аберагальны рытуал пасля заходу сонца, уначы, пры святле лучыны.

Таксама, як і ў дачыненні да прасторы, у народных уяўленнях існаваў выразны

падзел часу. Надзвычай распаўсюджанымі ў розных культурах з'яўляюцца ўяўленні, што ёсць «свой», належны чалавеку час — дзённы, да заходу сонца, і «чужы», небяспечны, падуладны нячыстай сіле — прыцемкі, ноч да першых пеўняў. Пры разглядзе замоў бачна, што ўсё звязанае з днём успрымаецца як «сваё», добрае, а з ноччу — як «чужое», кепскае.

*«Ляк-пераляк, выходзь воласам з сініх жыл, з гаручай крыві, з жоўтай касці, з белага цела, з буйнай галавы, з русых валос, з сініх вачэй. Табе не стаяць, жывата не пушыць, сэрца не таміць, галавы не кружыць, вачэй не туманіць. Усякія агнявіцы, расавіцы, спугі, перапугі, лякі, пералякі, прыгаворы, калдунства, чарадзейства, ідзіце прэч за цёмнай ноччу. Ва векі вякоў. Амінь» [230].*

У даволі распаўсюджаныя табу на здзяйсненне самага разнастайнага роду прадпрыемстваў у апошнюю квадру месяца ўкладзена сімволіка канца, сканчэння.

На першы погляд выглядае парадаксальным, што значная частка аберагальных дзеянняў выконвалася не ўдзень, а ўначы. Па-першае, нярэдка была неабходнасць у неадкладным супрацьдзеянні агрэсіўным сілам, пік актыўнасці якіх прыходзіўся на цёмны час сутак. Па-другое, час іншасвету, як і прастора, прыцягваўся тут для выканання неўласцівай яму аберагальнай ролі.

Можна думаць, што час антысвету ўяўляўся старажытным людзям бягучым наадварот. У аберагальных актах суб'екты здзяйснялі рухі, арганізаваныя ў зваротнай паслядоўнасці, дзейнасць характарызавалася антыпаводзінамі, супрацьлеглымі прынятым у грамадстве, пра што гаварылася пры разглядзе магічна-рытуальных дзеянняў. Такія прыёмы выкарыстоўваліся для змагання з агрэсіўным персанажам, які прадстаўляе час тагасвету.

Цікава, што арганізацыя рухаў і псіхічных працэсаў наадварот, насамрэч вядомая з рэальнай клінічнай практыкі, суправаджаецца парушэннем паводзін чалавека, фізічнай і разумовай дэградацыяй, бо адхіленні ад нормы ствараюць хаос.

Атрыбутамі іншасвету часта лічыліся перакручаныя вакол сваёй восі прадметы. Так, забаранялася браць на будаўніцтва хаты перакручанае на 360 градусаў бервяно, якое прайшло поўны колазваротны цыкл, дзе пачатак супадае з канцом.

*«Трэба сцерагчыся, каб на хату не трапілася такое бервяно, якое пакруцілася вакол сонца. Бо ў новай хаце хутка будзе смерць» [231].*

Каб унікнуць няшчасця, часта рабіліся зваротныя дзеянні. Напрыклад, забаранялася круціць капялюш на руцэ, бо верылі, што гэта выклікае галаўны боль; калі забарона парушалася, «адкручвалі» капялюш у адваротны бок.

## ДАТЫ НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА Ў АБЯРЭГАХ

Выключна важнае значэнне ў абярэгах надавалася датам народнага календара. Каляндарны час мог быць станоўчым і адмоўным, спрыяльным і неспрыяльным для чалавека і іншых аб'ектаў. У абярэгах характарыстыкі станоўчага і адмоўнага каляндарнага часу істотна адрозніваюцца з-за прыналежнасці да дыяметральна супрацьлеглых светаў. Так, сярод сакралізаваных дат, калі пануе свет і чысціня, узгадваецца Макавей (першы Спас).

*«Паўсюды адбываецца хросны ход на ваду — «вадзяная адправа» і асвячаюцца садовыя кветкі і некаторыя агародныя расліны: морква, сланечнік і мак. Асвечаным макам потым абсыпаюць хлявы, а кветкі кідаюць у ваду, дзе купаюць хворых дзяцей. У гэты дзень абавязковай стравою лічацца пірагі з макам ці з морквою» [232].*

Са станоўчай ацэнкай звязваўся дзень Агаф'і, калі прыносілі асвячаць хлеб з соллю. Хлеб навязвалі на рогі карове ад сурокаў.











**Гуканне вясны**

На Вадохрышча гаспадар *«...абыходзіў кожную жывёлу з абразом. Старэйшы сын акрапляў скаціну асвечанай вадой. У канцы абраду гаспадар крыжападобна перакідваў сякеру праз скаціну... Дасканалыя дзеянні мусілі былі абараніць скаціну ад хваробы» [233].*

На самую, бадай, сакральную дату — Нараджэнне Хрыстова не выкідвалі на сметнік старога веніка. Гэта рабілася, каб забяспечыць захаванасць пасеваў ад вераб'ёў. Аднак у гэтай забароне прасочваецца і больш глыбінная ідэя аднаўлення свету, і стары венік, калі яго не забрудзіць нячыстай прасторай, «ператвараецца» ў раслінны сімвал жывога, магчыма нават Свяшчэннага дрэва.

У значныя перыяды і даты народнага календара дэманічны свет «імкнуўся перашкодзіць» нябесным сілам і пачынаў праяўляць сваю надзвычайную агрэсіўнасць. Змаганне дабра са злом абвастралася на Каляды, Масленіцу, Благавешчанне, у Чысты чацвер, Юр'еў дзень, Сёмуху, Русальны тыдзень, на Купалле, Узвіжанне і інш.

У традыцыях індаеўрапейцаў, і ў прыватнасці беларусаў, фігуравалі святы, якія супадалі з зімовым і летнім сонцаваротам. Лічылася, што тагасветныя сілы падчас такіх свят могуць уплываць на жыццё людзей. П. В. Шэйн згадваў, што пачынаючы з Купалля ўвесь тыдзень ведзьма і нагогул «злая сіла» могуць асабліва моцна шкодзіць людзям і жывёле, урываючыся праз вокны, дзверы і ўсялякія адтуліны ў хаты і хлявы. Нават калядны перыяд лічыўся небяспечным, «нячыстым», «паганым» часам, звязаным з уяўленнямі аб прыходзе з таго свету душ памерлых і аб перыядзе разгулу

нячыстай сілы. Амаль усе святы выяўляюць сувязі з ідэяй «прыходу» пазабаковых гасцей.

Сезонны характар мелі многія з такіх насланняў, як хваробы, духі якіх актывізоўваліся ў асобныя перыяды і дні. Напрыклад, ліхаманка (малярыя), па народных павер'ях, выходзіць з зямлі двойчы на год — увесну і ўвосень. Існавалі павер'і аб вясеннім «адмыканні» зямлі на Звеставанне ці ў Юр'еў дзень, калі выходзяць птушкі, насякомыя і іншая «нечысць», і аб асеннім «замыканні» зямлі на Узвіжанне, калі яны зноў перасяляюцца ў міфічную краіну ці на «той» свет.

Ранневеснавы час уяўляўся як здольны выклікаць да жыцця праявы «таго» свету, выяўляць ва ўсім існым другі, цёмны бок жыцця, а таксама парушаць натуральны ход рэчаў і ўносіць у жыццё хаос і дысгармонію. Гэты час яўна набывае агрэсіўныя якасці і выступае антаганістам чалавека. У памежны час нібыта адбываецца «распад свету».

Пераломныя моманты жыцця чалавека: нараджэнне — хрышчэнне — шлюб (за выключэннем часу смерці, які толькі ў адным тэксце падвергся абераганню) — з'яўляюцца этапамі здзяйснення праграмы міфарытуальнага сцэнарыя, які адпавядае этапам стварэння свету. Азначаныя перыяды выступалі ў абярэгах як найбольш падлеглыя ўплыву нячыстай сілы і яе скажонага свету.

Лічылася, што чалавеку ў вышэйназваныя перыяды было патрэбна асабліва заступніцтва звышнатуральных сіл. Вялікая частка абярэгаў чалавека прысвечана гэтым лёсавызначальным падзеям.

*«У бацькавы нагавіцы прымалі навародка, калі раней у сям'і паміралі немаўляты» [234].*

*«Каб уберагчы маладую ад чараў пры выездзе ад шлюбу, абвязваюць яе ваўнянай зялёнаю ніткай, да канца якой прывязваюць загорнутыя ў анучку крошку хлеба, драбок солі і часныку» [235].*

Важнае значэнне надавалася пачатку якой-небудзь справы, які прыроўніваецца да нараджэння: пачатак будаўніцтва дома, сяўбы, сумеснага жыцця маладых і г.д. У гэты час небяспека чараў найбольшая.

Такім чынам, пры разглядзе часу абярэгаў назіраліся тыя самыя тэндэнцыі, што і пры аналізе прасторы. Сакральны час, у сілу сваёй спрыяльнасці да чалавека і неабходных яму аб'ектаў, праяўляў аберагальныя рысы. Так, у замове ад крывацёку гаворыцца:

*«Першым разам, добрым часам, стань, Госпадзі, на помач, а таксама святыя сяточкі, гадавыя празнічкі. Ішлі тры браты, тры Кандраты, неслі па сякеры сіні камень рассякаць, рабу божаму Мікалаю крыві не пускаць. Датуль ты хадзіў, буяў, пакуль раба божая Марыя прыступіла, лёгкім духам ухадзіла і ўгаварыла сваімі словамі, а Гасподзь сваімі думамі. Любі мой лёгкі дух. Ху!» [236].*

Час іншасвету, калі ён выступаў як час, у якім рэалізоўваў сваю шкодную актыўнасць агрэсіўны персанаж, набываў свае агрэсіўныя якасці. Калі ж ён уяўляўся як час, у якім дзейнічаюць суб'екты абярэгаў з дапамогай цёмных сіл (уначы, выконваючы дзеянні ў зваротнай паслядоўнасці), то ён выступаў у спецыфічнай ролі абаронцы аб'екта.





## АБЯРЭГІ І БУДОВА СВЕТУ

Акрамя перажывання існуючай рэчаіснасці як актуальнай, старажытныя людзі ўспрымалі прастору і час абярэгаў складзенымі з двух дыяметральна процілеглых утварэнняў:

1) чыстае, сакральнае, ідэальнае, гарманічнае, упарадкаванае, мірнае, бяспечнае, бязгрэшнае, правае, станоўчае, добрае, звязанае са светам багоў;

2) нячыстае, заганнае, дэфармаванае, дысгарманічнае, агрэсіўнае, небяспечнае, грахоўнае, левае, адмоўнае, ніжняе, звязанае з сіламі зла, прыналежнае свету мёртвых, хаатычнае, скажонае.

Рэальныя прастора і час падвяргаюцца змяненням як з боку тагасвету, так і сакральнага свету. У іх дзейнічаюць у розных прапорцыях рэальныя, ідэальныя і дэрэалізаваныя прастора і час, якія складаюць адпаведныя ім тры светы.

Абярэгі арганізацыйна паўтараюць трохузроўневую пабудову свету. У іх выяўлены тры сферы, якія адпавядаюць пластам гэтай пабудовы: рэальная — сярэдняму, зямному свету жывых; ідэальная, сакральная — верхняму, нябеснаму свету багоў; дэрэалізаваная, скажоная — ніжняму, падземнаму свету памерлых.

## ПРАСТОРАВА-ЧАСАВЫЯ ЎЗОРЫ АБЯРЭГАЎ

Па меры ўзмацнення актуальнасці агрэсіі адбываецца пераразмеркаванне суадносін рэальнага, ідэальнага і дэрэалізаванага, што адпавядае прасторава-часавым мадэлям «спрыяння», «аховы», «рэгулярнага засцерагання», «забароны», «абароны» і «пазбаўлення».

У «спрыяльных» абярэгах, дзе ўплыў агрэсіўнага агента на сітуацыю мінімальны, першапачаткова маюць месца рэальныя прастора і час. Але нават такога нязначнага ўплыву з боку агрэсара аказваецца дастаткова, каб выклікаць актыўнасць суб’ектаў, дзейнасць якіх накіравана на дасягненне ідэальнага стану.

У выніку спалучэння рэальных прасторы і часу з ідэальнымі ўсё, што задзейнічана ў гэтай сітуацыі, набывае станоўчыя, ідэалізаваныя рысы і якасці. У амаль «чыстых» прасторы і часе ўжываюцца пераважна сакралізаваныя сродкі і падкрэслена «правільныя» дзеянні. Апошнія здзяйсняюцца вельмі прыхільнымі да аб’екта рэальнымі суб’ектамі, міфалагізацыя якіх адбываецца толькі часткова: у абярэгах найчасцей фігуруюць сямейнікі і хросныя бацькі, зрэдку — святары.

Пры накладанні сакралізаваных прасторы і часу на рэальныя як бы здзяйсняецца іх набліжэнне да ідэальнага стану (ідэалізацыя). Аб’ект атрымоўвае магчымасць удасканалення, не адрываючыся пры тым ад рэальнасці. Гэтым, дарэчы, «спрыяльныя» абярэгі адрозніваюцца ад прадукавальнай магіі, дзе аб’ект набывае звыш’якасці за кошт адрыву ад рэальнасці, яго дзеянні не залежаць ад актуальнасці агрэсіі і самі падзеі адбываюцца зусім у іншай, не аберагальнай, сістэме.

У «ахоўных» абярэгах, нягледзячы на сцэнарый абярэга з улікам магчымасці агрэсіі, рытуалы яшчэ выконваюцца ў светлы час, звычайнымі людзьмі, у звыклай паслядоўнасці рухаў, з дапамогай «рытуальна чыстых» прадметаў: крыжа, велікоднай ежы, асвечаных раслін, чырвонай ніткі, золата. Але тут ужо з'яўляюцца першыя выразныя прыкметы ўздзеяння на сітуацыю агрэсіўнага пачатку і яго свету. Адчуванне небяспекі прымушае людзей паклапаціцца пра сродкі іншага плана — больш «агрэсіўныя», сярод якіх, напрыклад, фігуруюць нож, іголка, воўчы зуб, зубы мерцвяка, часнок. З'яўляюцца і сродкі антысвету ў выглядзе рэчаў нябожчыка. Упершыню «заяўляе» пра сябе «левая» прастора: на-









прыклад, іголку стараюцца прымацаваць з адваротнага боку вопраткі.

У «рэгулярна засцерагальных» абярэгах міфічны час набывае асаблівую значнасць, паколькі ён надзяляецца самастойнай роляй зачыншчыка і рухавіка міфалагізацыі сітуацыі і ўвядзення ў сцэнарый звышнатуральных сіл. Актуалізуецца як сакральны час, так і час, прыналежны іншасвету (а разам з імі і адпаведныя прасторы). На Вадохрышча

> *«...выконваўся таксама абрад «запісвання Каляды», мэтай якога была засцярога дома, усёй гаспадаркі ад уздзеяння нячыстай сілы. Дзеля гэтага гаспадар, выняўшы з печы гаршчок з куццёю, ставіў у ім зроблены з лучыны крыж, які на другі дзень апускаўся ў ваду — у раку ці студню. Вечарам гаспадар, узяўшы першы блінец ці верх куцці, абыходзіў усе свае будынкі і маляваў на сценах крыжы крэйдай» [237].*

З прыведзенага прыкладу бачна, што дзеля недапушчэння забруджвання рэальных прасторы і часу суб'екты абярэгаў мусілі праяўляць значную актыўнасць.

У «забаронных» абярэгах складваецца своеасаблівая сітуацыя: толькі ў іх рэальныя прастора і час сакралізуюцца пры адмове суб'ектаў ад дзеяння. Рэальныя прастора і час у гэтым выпадку існуюць як альтэрнатыва антысвету, бо адначасовае суіснаванне з ім тут немагчыма. Мяркуецца больш ці менш працяглае панаванне сакральнай, ідэальнай прасторы (напрыклад унутры кола-абруча), сакральнага, ідэальнага часу (у каляндарныя святы), што не патрабуе ніякіх змен сітуацыі, паколькі яна мяркуецца дасканалай. Якраз актыўнасць суб'ектаў небяспечна тым, што можа прывесці да дэфармацыі ідэальных прасторы і часу. Ва ўсіх іншых групах



**Велікодныя яйкі. 2012 г. А. Лайзан.**
**Горад Вілейка (Мінская вобл.)**



скажэнні прасторы і часу, якія ўносіць агрэсіўны персанаж, выпраўляюцца актыўнасцю суб'ектаў.

Пры парушэнні забарон прадугледжваецца выключна сур'ёзнае пакаранне ў выглядзе наступу антыпрасторы і антычасу ў іх крайніх праявах. Дзеля прадухілення вынікаў парушэння забарон выкарыстоўваліся метады актыўнага засцерагання. На Благавешчанне

> *«...можна толькі варыць, і лічыцца вялікім грэхам што-небудзь пячы. Таму на гэтае свята не пякуць ні хлеба, ні пірагоў, а падрыхтоўваюць усё раней. А калі даведаюцца, што якая-небудзь гаспадыня раніцаю пякла што-небудзь, то паважаныя жанчыны, сабраўшыся з усёй вёскі, выводзяць віноўную на вуліцу ў адной кашулі і абліваюць яе вадою. Робяць гэта дзеля таго, каб дагадзіць Богу, каб ён дараваў грэх і не паслаў на ўсю вёску градабой» [238].*

Як бачна, у «папераджальных» абрэгах выяўляецца паступовае ўзмацненне ролі агрэсіўнага пачатку, які ўносіць у сітуацыю свае міфічныя прастору і час. У адказ узмацняецца супрацьдзеянне агрэсіі (у тым ліку ў выглядзе адмовы ад дзейнасці) з боку суб'ектаў абярэгаў, сувязь прасторы і часу з рэальнасцю паступова паслабляецца. Усё больш прыцягваюцца магічныя сілы міфічных персанажаў. Адны з іх прадстаўляюць сакральную прастору і час, другія выступаюць як выхадцы з іншасвету. У выніку адбываецца пакрокавае выцясненне рэальных прасторы і часу. Апрыёрна чыстыя прастора і час у спрыяльных абярэгах паступова набываюць рысы тагасвету ў папераджальных абярэгах. Усё часцей згадваюцца перыяды каляндарнага часу, звязаныя з разгулам нячыстай сілы, цёмны час сутак, акцэнтуюцца левая, задняя і ніжняя часткі прасторы, ценявыя месцы, усё больш выкарыстоўваюцца прадметы, якія сімвалізуюць іншасвет. Людзі, якія знаходзяцца, як яны думаюць, у такіх «вывернутых», «вычварных» абставінах, пачынаюць дзейнічаць паводле правіл тагасвету,

што праяўляецца ў іх незвычайным выглядзе і антыпаводзінах. Яны апранаюцца ў вывернутае адзенне, здзяйсняюць антырухі, пераварочваюць розныя рэчы. Гэта значыць, што ўдзельнікі рытуалаў усё больш перажываюць прастору і час, у якіх яны знаходзяцца, як належную не рэальнаму, сапраўднаму свету, а антысвету, дзе пануе нячыстая сіла.

Калі агрэсіўны пачатак з яго прасторай і часам ушчыльную знаходзіцца каля аб'екта, як у «абаронных» абярэгах, доля рэальнага мінімізуецца. Блізкасць агрэсара змушае суб'ектаў да нязвыклых паводзін, ужывання нетрадыцыйных сродкаў, што сведчыць пра ўспрыманне сітуацыі як «парушанай», «нерэальнай». Тыповыя сакральныя сродкі і метады ўжываюцца ўсё радзей.

У «пазбаўляльных» абярэгах у выніку таго, што агрэсіўны агент знаходзіцца ў межах аб'екта і кіруе сітуацыяй, яе дэрэалізацыя дасягае найвышэйшай ступені. Амаль цалкам пануе антыпрастора і антычас, якія навязваюць свае законы для кампанентаў абярэга. Рытуалы здзяйсняюцца ў цемры, на тэрыторыях, блізкіх да тагасвету, асобамі, звязанымі з «тым» светам, якія «знаюцца» з нячыстай сілай, шляхам антыпаводзін, з дапамогай рэчаў антысвету. Ужываюцца моцныя, агрэсіўныя, часам жорсткія сродкі. Прастора і час успрымаюцца як моцна скажоныя: калі да традыцыйна сакральных сродкаў прад'яўляюцца звышпатрабаванні абсалютнай чысціні, як, напрыклад, пры стварэнні абыдзённіка, то нават гэтага становіцца недастаткова — далейшы рытуал выконваюць ужо з дапамогай іншасвету (уначы, з удзелам раз'юшаных жанчын, якія сваімі паводзінамі самі нагадваюць агрэсара ў вобразе смерці).

## КАМПАНЕНТЫ АБЯРЭГАЎ У ПРАСТОРЫ І ЧАСЕ

Можна сцвярджаць, што прасторава-часавыя характарыстыкі свету, у якім здзяйсняюцца абярэгі, залежаць ад ступені набліжанасці агрэсіўнага пачатку да аб'екта, наступствам чаго з'яўляецца дэрэалізацыя сітуацыі розных ступеняў: у «спрыяльных» абярэгах яе можна пазначыць як нязначную, у «папераджальных» — як нізкую або сярэднюю, у «абаронных» — як высокую, у «пазбаўляльных» — як вельмі высокую.

Прадстаўленыя мадэлі выяўляюць слаістасць будовы трох асноўных мадэляў беларускіх абярэгаў (як і ўсяго свету). Варта ўзгадаць уяўленні пра шматпавярховы свет, якія распаўсюджаны ў розных культурах. Будова такога свету складаецца з 5, 7, 9 ярусаў, дзе толькі сярэдні зямны ярус застаецца нерасшчэпленым.

У залежнасці ад ступені рэальнасці/міфічнасці прасторы і часу абярэгаў у адныя і тыя самыя кампаненты (магічна-рытуальныя дзеянні, суб'екты, сродкі) укладаецца розны, нават супрацьлеглы, сэнс. Напрыклад, голы чалавек у «спрыяльных» або «ахоўных» абярэгах — сімвал першатворнай чысціні, адкрытасці свету, а ў «пазбаўляльных» — прыклад антыпаводзін, выкліку нячыстай сіле, прыпадабнення да яе. Розны сэнс нясе вывернуты кажух: у першай з пазначаных груп ён фігуруе як сімвал плоднасці, дабрабыту, можа несці эратычную сімволіку, а ў другой — як зверападобны з-за сваёй вывернутасці, калматасці, атрыбут іншасвету.

Можна казаць, што адзін і той самы элемент, змешчаны ў розныя прасторава-часавыя ўмовы, дзейнічае адпаведна той сітуацыі, якая вызначаецца гэтымі прасторай і часам. У залежнасці ад пэўнага часу і пэўнага месца прадметы могуць выкарыстоўвацца не па сваім звычайным прызначэнні. Гэта датычыцца нават нека-











торых звышмоцных сродкаў, якія парадаксальным чынам пачынаюць спалучаць у сабе як надзвычайную чысціню, сакральнасць, так і памечанасць іншасветам.

Нязменна «чыстымі», не зважаючы на актуальнасць агрэсіі, застаюцца толькі элементы, звязаныя з хрысціянскім культам: людзі з сакральным статусам (святары), хрышчоныя дзеці, асвечаныя прадметы, культавыя месцы (храм, алтар, прастора за «царскімі варотамі»), рэчы (асвечаныя рэчы, крыж) і інш.

## ПРЫКЛАДЫ ЗМЕНЫ СЭНСУ КАМПАНЕНТАЎ АБЯРЭГАЎ

Ведаючы суадносіны ідэальнага, рэальнага і дэрэалізаванага, можна прагназаваць значэнне дзеянняў, суб'ектаў і сродкаў абярэгаў у канкрэтных сітуацыях. Як мяняецца значэнне кампанентаў абярэгаў у залежнасці ад класіфікаваных груп, бачна на прыкладах магічна-рытуальнага дзеяння (стварэння магічнага кола), суб'екта (з прыкметай «голы») і аберагальнага сродку (кажуха).

**Магічнае кола.**

*«Сабраліся ж бабы да шлях аралі, ну багата баб сабярэцца, давайце плуга... ета не то што шлях — круга сяла абарацъ тры разы ж ецім плугам прайці. Запрагуць ужэ баб, а тыя ідуць да паганяюць: ей, арыма; а адна плуг дзяржыць, а труйку баб запражэ, а тыя ўжэ ідуць да смотраць. Так ета. I круга сяла тры разы. Тады дош пуйдзе» [239].*

Гэта прыклад стварэння магічнага кола дзеля стымуляцыі прыродных працэсаў.

*«Калі хоч, коб не ўраклі харошага каня, то ... уздзечку абвярці жычкаю (чырвонай стужкаю)» [240].*

У дадзеным абярэгу кола, якое атрымліваецца ў выніку абкручвання, мае ахоўнае значэнне.

*«Купіўшы нейкую жывёліну, гаспадар, перад тым як завесці яе ў свой хлеў, павінен узяць вядро вады, тройчы абысці вакол худобы і за трэцім разам, зайшоўшы ззаду, выліць ёй на хрыбет усю ваду. Народ тут лічыць, што гэта адзін з найлепшых сродкаў ад благіх вынікаў, якія звычайна бываюць праз шкадаванне папярэдняга гаспадара» [241].*

У гэтым тэксце кола ствараецца дзеля засцерагання аб'екта ад негатыўных уплываў, характэрных для сітуацыі куплі-продажу.

*«У пінскім Палессі з сярпом абыходзілі вакол хаты, каб перасцерагчы яе ад пранікнення хадзячага нябожчыка» [242].*

Гэта варыянт кругавой «абароны» аб'екта ад агрэсіўнага персанажа — прадстаўніка свету памёрлых.

*«Пажар тушаць, тройчы аббягаючы вакол пабудовы, пасля чаго ўцякаюць у чыстае поле» [243].*

У гэтым абярэгу магічнае кола ствараецца з мэтай утаймавання агрэсіўнага агента і яго выдалення з тэрыторыі аб'екта.

**«Голы».**

*«Каб завіваліся вялікія, дужыя качаны, на Купалле, яшчэ да ўзыходу сонца, баба распранаецца дагала і робіць вакол каліва вялікае кола» [244].*

Тут прыметнік *голы* ўвасабляе не антыпаводзіны, уласцівыя антысвету, а эратычную сімволіку з мэтай дасягнуць апладнення.

*«Калі здарыцца пажар, дык трэба, каб жанчына, зусім голая, з распушчанымі валасамі, наўкола аббегла гаручыя будынкі ды й пабегла на поле» [245].*

Прыклад падабенства да нячыстай сілы, адцягванне ўвагі агрэсіўнага агента на сябе і вывядзенне апошняга з прасторы аб'екта.

**Кажух.**

*«Перад тым як увайсці першы раз у новую хату, на парог хаты сцелецца кажух воўнай наверх і па ім усім членам сям'і трэба ўпаўзаць у памяшканне, тады нібыта сям'я будзе жыць у новай хаце багата і шчасліва» [246].*

*«У кажуху цыбулю нада садзіць, каб бухматая была» [247].*

Прадпісанні накіраваны на забеспячэнне добрых умоў існавання аб'ектаў. Тут кажух выступае не як праява іншасвету, а значэнне мае яго калматасць (у значэнні «многа»).





«Падчас першых зімовых гулянак маладая пара выходзіць з хаты праз разасланы кажух поўсцю ўверх, каб абясшкодзіць сябе ад рознай нечаканай бяды. За гэтымі абарончымі дзеяннямі ўгадваецца арыентацыя на тое, што негатыўныя праявы «таго» свету можна пераадолець з дапамогаю прадметаў, якія да яго належаць» [248]. Акцэнтуецца вывернутасць кажуха, яго належнасць іншасвету.

Пры цяжкіх родах выконваліся дзеянні, якія сімвалізавалі сувязь парадзіхі з тым светам. У асабліва цяжкіх выпадках

*«...жанчыну ўкладвалі на кажух з чорных бараноў і прымушалі мужа пераступіць цераз яе» [249].*

Сімвалічнае пераадоленне зла, увасобленага ў чорным кажуху — атрыбуце іншасвету.

## ПРЫНЦЫПЫ І КІРУНКІ АБЕРАГАЛЬНАГА ЎЗДЗЕЯННЯ

Абярэгі выконваюцца згодна з двума прынцыпамі, якія аналагічныя медыцынскім. Трэба думаць, што яны ўласцівы ўсім аберагальным сістэмам. Адна частка абярэгаў асноўваецца на прынцыпе ўплыву на зло супрацьлеглым, дабром (алапатычны прынцып), г. зн. сакральнымі элементамі ўздзейнічаюць на праявы антысвету. У замове ад сурокаў дзяцей гавораць:

*«Первым разам, лепшым часам, Прыстрэчэ, добры чалавеча, ясен месяц, яснае сонца, ясныя зарніцы, усяму свету памашніцы. Увесь свет асвятляюць, няхай таму памагаюць. Я словам, Бог с помашчу.*
Паўтарыць дзевяць разоў» [250].





Дзеянне сакральных кампанентаў у тагасветных, агрэсіўных прасторы і часе адрозніваецца ад іх выкарыстання ва ўмовах «спрыяння» аб'екту.

У скажоных прасторы і часе сакральныя элементы дзейнічаюць у кірунку набліжэння да рэальнага шляхам прыўнясення святла, дабра. Сярод суб'ектаў тут фігуруюць персанажы, якія валодаюць моцнай сакральнай магічнай сілай, якая дасягае найвышэйшай, боскай. Гэта дае аб'екту перспектыву на далейшае развіццё, удасканаленне, узнаўленне. Прычым узнаўленне раней былога праяўляецца як ідэя стварэння космасу, страчанай раўнавагі.

Пры ўнясенні сакральных элементаў у рэальныя прастору і час (як у «спрыяльных» абярэгах) адбываецца набліжэнне да ідэальнага. Думаецца, што абярэгі як прадукт язычніцтва ўсё ж не валодалі патэнцыялам для ўдасканалення чалавека ў высокім сэнсе, бо не ахоплівалі яго духоўную сферу.

Другая частка абярэгаў заснавана на ўжыванні сродкаў і метадаў з арсенала самога агрэсіўнага пачатку. Суб'екты ў змененых, дэрэалізаваных прасторы і часе значна міфалагізуюцца і праяўляюць актыўнасць, больш уласцівую для «таго» свету. Набліжэнне да рэальнага адбываецца не прамым дзеяннем, а шляхам выкаранення дэфармацый, зробленых агрэсарам. На антысвет уздзейнічаюць яго элементамі, «цемрай на цемру», г. зн. падобнае выкараняецца падобным (гамеапатычны прынцып).

Прыклад замовы, каб дзіця ўначы спакойна спала:

*«На сіянскай гарэ стаіць дуб. На тым дубу дванаццаць какатоў, на тых какатах дванаццаць вараноў. Самі яны чорныя, вочы іх чорныя, дзюбкі іх чорныя, кохці іх чорныя, крыллі іх чорныя. Вачамі яны выглядалі, дзюбкамі яны выклявалі, когцямі яны выдзіралі, крыллямі яны вымяталі, Івану спакойны сон засыпалі. Ціхенька, лягенька спаць жадалі» [251].*

Па меры ўзмацнення скажэнняў прасторы і часу (ад «спрыяльных» да «пазбаўляльных») доля іншасветных элементаў у абярэгах узрастае.





## На шчасце, на поспех

*«Як Хрыстос быў малы, то ён іграў арэхамі, от затым і цяпер на Каляды ў кожнуй хаце ядзяць арэхі, а дзеці гуляюць з арэхамі ў цот і лішку. Арэхі цвітуць раненька на Хрэсцы. Калі хто знойдзе той цвет і будзе яго заўжды насіць з сабою, то яму ва ўсём будзе шанцаваць» [252].*

*«Знайшоўшы спарыша, трэба яго або на шыі насіць, або ў адзежу зашыць, то той чалавек заўсёды будзе шчаслівы» [253].*

*Хто носіць пры сабе двайны арэх — будзе шчаслівы [254].*

*«Як на Вадохрышча свецяць на Ярдані воду, то кругом ставяць маладыя ялінкі, каб закрыць святую воду ад усялякае нечысці, каторая, спужаўшыся, можа напашкудзіць» [255].*

*У м. Уселюб Навагрудскага пав., калі ставяць свечку за выратаванне сябе, то абводзяць ёю вакол галавы «па сонцу» тры разы [256].*

*На плячах, каб чары не дзейнічалі, лепш насіць штосьці металічнае, хоць бы гузік які. А часам тою вадою (якой абмывалі мерцвяка. — Заўвага склад.) і самі мыюцца, каб не прычапілася што-небудзь ліхое [257].*

## Дарога

*Выпраўляючыся ў чужую старану, беларус, які прытрымліваецца звычаяў продкаў, бярэ шчопаць роднай зямлі і, зашыўшы яе ў шматок палатна, вешае на грудзях: калі давядзецца памерці на чужыне, то яго прах усё ж будзе спачываць разам з роднай зямелькаю [258].*

*Якая б ні чакалася дарога, але для ўдачы трэба мець з сабою арэх-спарыш ад першага арэхавага збору [259].*

*«Ідучы ў вялікі свет, дзе шмат усялякіх людзей, добрых і ліхіх, трэба сарочку надзець на сябе навыварат, то не прыстануць ніякія ўрокі» [260].*

*«Каб у дарозе не трапілася ніякае прыгоды да шанцавала, трэба ў той час, як выходзіць з хаты, заткнуць комін, засланіць печ і прыставіць к ёй вілкі, качаргу, ожаг і другія хатнія шпрэнты» [261].*

Тым людзям, якія ідуць у далёкую дарогу, казалі:

*«Занясі вас господзі в цэлосці і в радосці, дай бог вам усе добра». Ішчэ таку прыказку: «Ангел-храніцель мой, ходзі со мной, ты ўперадзі, я позадзі. Сохрані господзі, зашчаці, господзі». Давала проскурку гэту, што на Паску бярэш. Яна добрая, гэта проскурка. Трэба сказаць: «Маю пры собі паску, кобы все малі на мэні ласку. А хто мае злёк, коб быў немы бы сцена»* [УЗ в. Ракітна Лунінецкага раёна].

*На вячэры з нагоды адпраўлення сына ў войска на стол клалі яго шапку, па сканчэнні застолля шапку хуценька выносілі ў сені, а адтуль кідалі да стала, дзе сядзеў «салдат», каб жыў-здароў вярнуўся [262].*

*На Палессі пры праводзінах хлопца ў армію вілкі ці чапялу пераварочвалі вастрыём угору, каб ён пасняхова вярнуўся. Часам пераварочвалі стол, а абразы ў хаце паварочвалі тварам да сцяны [263].*

*Каб не заблукаць у лесе, наказвалі з'есці велікоднае яйка разам з шалупіннем [264].*

*«Як куды ідзеце з дзіцем, ці як сама ідзеш, то цепэр нема такіх маек, хоць так о рубашэчкой тры разы ўцерыць дзіцятко»* [УЗ в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна].

## Провады ў войска

*«...ніткі-адвароткі, г. зн. ніткі асновы, якія пры запраўленні нітак ў бёрда не змяшчаюцца ў яго, аказваюцца лішнімі, ...падвязвалі на голае цела таму, хто ішоў на вайну ці ў войска, каб адвярнуць ад яго небяспеку» [265].*

*«У Палессі пры провадах хлопца ў войска вілы ці ўхват пераварочвалі вастрыём уверх, каб ён вярнуўся; у гэтай самай сітуацыі часам пераварочвалі стол, а іконы ў доме паварочвалі да сцяны» [266].*





## У перыяд цяжарнасці

*«(Цяжарная) усегда хадзіла ў фартуху, шчоб нэ зглазілі, шчоб і подумы не прыста-лі к юй» [267].*

*«Еслі бэрэменна жэншчына, ана даўжна насіць фартух, — не будзе прыстрэчный рэбёнак» [268].*

*На Палессі і некаторых іншых раёнах Беларусі, калі цяжарная вымушана была ісці на пахаванне, яна, каб не прычыніла-ся благога, прывязвала да пояса чырвоную стужку ці павязвала галаву чырвонай хусткаю [269].*

*Цяжарная не павінна глядзець на нябожчыка, бо дзіця будзе заўсёды бледнае і вочы будуць нібыта заспаныя. Каб гэтаму перашкодзіць, цяжарная павінна, наведваючы нябожчыка, павязаць сабе галаву чырвонай хусткаю [270].*

*Цікава, што, сустрэўшы цяжарную жанчыну, работнік (які рабіў труну. — Заўв. аўт.) кідае труну на дол і прымушае гэтую жанчыну тройчы абысці вакол труны спінаю да яе [271].*

*Цяжарная павінна насіць пры сабе заўсёды штосьці жалезнае, напрыклад іголку, нож і г.д., каб дзіця не мучылася з-за канвульсіяў «ад павею» («навею») [272].*

*Маладая жонка, каб лёгка нарадзіць здаровых і прыгожых дзяцей, павінна была захоўваць зерне з першага і апошняга каласоў, якія яна зжала ў час жніва [273].*

*«Калі бярэменна ўгледзела сабача вяселле, то дзіця на сёмы дзень пасля нараджэння дастане шчэпінаў (сціскание сківіц). Каб пазбегнуць гэтага, перад хрэсьбінамі (бо пасля хрэсьбінаў ужо нішто не дапаможа), як толькі дзіця засне, маці трэ яму шчокі то сваёй касою, то жычкаю (чырвонаю), накручанаю на вялікі палец левай рукі. Грызе таксама часнок і пах яго дзьмухае дзіцяці ў рот [274].*

*Каб нішто ліхое не падступілася да парадзіхі, на яе тройчы зверху ўніз надзявалі зняты з дзяжы абруч [275].*

*Пры паяўленні крывацёку ў цяжарных найперш звяртаюцца да знахароў і шаптуноў, якія ці непасрэдна загаворваюць кроў, ці папярэдне нашэптваюць на хлеб, які і даюць есці цяжарнай (Бабруйскі, Барысаўскі пав.). У Ленінскай воласці Мазырскага павета і ў Мінскім павеце здымаюць з хлебнай дзежкі абруч і праз яго праводзяць тры разы цяжарную, а ў Слуцкім павеце хворую, акрамя таго, абводзяць тры разы вакол стала...*

*Нярэдка робяць так: бяруць доўгую суровую канапляную нітку, на абодвух канцах яе робяць па вузлу, нашэптваючы ў гэты час штосьці тры разы, пасля чаго стукаюць вузламі тры разы па далонях. Прыгатаванай такім чынам ніткай апярэзваюць жывот цяжарнай [276].*

## Нараджэнне дзіцяці

*«Як жанчына ў полазе, ёй кладуць на пасцель нож і суровыя ніткі, каб яна пры родах доўга не мучылася.*

*Калі жанчына не рабіла ўсё як трэба, не сцераглася, як кажуць людзі, то ёй бывае вельмі цяжка раджаць. Тады бабы кажуць, што рады сапсаваліся, што тут іх трэба папpавіць; дзеля гэтага баба дае раджаніцы святое вады, націраe ёй жывот перуноваю стралою, падкурвае свентаянскім зеллем, а калі рады бываюць вельмі цяжкія, так што бабы нічога не парадзяць, то тагды просяць папа, каб ён адчыніў у цэркві царскія дзверы. Кажуць, што гэта памагае лепш ад усяго» [277].*

*Пры родах трымаюцца пэўных правілаў: жанчына не павінна класціся ў ложак, павінна нараджаць стоячы. У моманты вялікага болю яе тры разы водзяць вакол стала, а таксама раскладваюць на зямлі мужчынскія штаны, праз якія хворая павінна некалькі разоў пераступіць [278].*

*Каб спыніць крывацёк, абводзяць жывот парадзіхі чырвонай шарсцяной стужкаю, а пад ложак кідаюць вялікі кавалак жалеза [279].*

*Непасрэдна пасля родаў матка павінна дзіцяці тройчы пакрыць пяткаю рот, пасля чаго крывёю ад пупавіны малююць на ім*





*чатыры крыжы (на лбе, падбародку і шчоках), абносяць вакол нагі ад стала і тады толькі кладуць поруч з маткаю [280].*

*Язык, дзясны і вусны ў дзіцяці выціраюць жычкай (пераважна чырвонай, ваўнянай), каб ад паветра на іх не сталі «шчап'ы», што зробіць дзіця нямым на ўсё жыццё. Хто б ні выціраў — бабка ці маці — яны робяць гэта безыменным пальцам, абкручаным жычкаю [281].*

## Купанне, апрананне

*Перад купаннем добра ў ваду класці якуюнебудзь жалезную рэч, каб ахаваць дзіця ад урокаў [282].*

*Калі «месячнай матцы» даводзіцца купаць сваё дзіця, то, каб цельца не пакрылася высыпкай, маці павінна пакласці каля парога якую-небудзь жалезную рэч — нажніцы, нож, долата, цвік і інш., прычым найлепш, калі гэтыя рэчы без тронкаў і калодачак. На пакладзеную рэч маці тры разы «сплёхаваіць» вадою ад купання на самым пачатку і ў канцы купання [283].*

*Перад купаннем трэба ваду перахрысціць, а пасля купання пацалаваць дзіця тройчы, сплёўваючы штораз на ваду, каб «злое атагнаць».*

*Добра ў ваду класці якую-небудзь жалезную рэч, каб ахаваць дзіця ад урокаў [284].*

*Павітуха пасля першага купання клала дзіця на разасланы каля ганка кажух, пераступала праз яго некалькі разоў: «Каб вялікае расло, каб добра спала; як шуба касмата, будзь так багата» [285].*

*«Пакупаўшы, трэба паціснуць (дзіця) за нос, каб прыгажэй быў. Кутаюць дзяцёнка ў мужчынскую рубаху і завязуюць у рукаў хлебец, і соль, і жыта, каб рабёнку нічога злога не злучылася» [286].*

## Адведкі

*Якую-небудзь сваячку ці суседку месячнае ачышчэнне заспела ў дні «проведкаў», яна пераведвае «радзіху» толькі пасля «кста». Але і тады, каб не прынесці мацеры і дзіцяці «находа» (хваробы), яна прыходзіць амаль цішком, з уторкнутаю ў прыпол кашулі іголкаю [287].*

*На Гомельшчыне бацька дзіцяці, ведаючы, што хутка будуць ісці жанчыны адведваць парадзіху і дзіця, у якасці магічнага абярога забіваў у парог два цвікі [288].*





## Хрышчэнне

*Перад выпраўленнем у царкву маці паражоўвае зубчык часнаку з соллю і «хукаіць» на дзіця з усіх бакоў, каб яно не баялася «глазу». Хто-небудзь з сямейнікаў робіць тое самае, каб засцерагчы ад небяспекі маці [289].*

*Перад тым як нясуць дзіця хрысціць, павітуха перадае хроснай маленькі вузельчык са збожжам, глінаю з печы і соллю, каб хросная выкінула вузельчык «на крыжовых дарогах». Гэта робіцца дзеля таго, каб «не было ліхой стрэчы» (дурнога вока) [290].*

*Калі праязджаюць першыя «ростанькі» (перакрыжаванне дарог), кумы выкідваюць тут адмыслова ўзятыя гліну і соль, каб дзіця не пужалася «зазеху» (сурокаў) [291].*

*«Як кумы едуць цераз растанцы, то яны дзеля прыліку сыплюць соль, каб засыпаць вочы ліхому» [292].*

*У каго паміраюць дзеці, тыя просяць святара даць дзіцяці імя Адам ці Ева, каб яно доўга жыло, як прарадзіцелі нашы Адам і Ева, ці з той самай мэтаю запрашаюць у хросныя брата і сястру. Замест кашулі дзіцяці звычайна прыносяць кавалак каленкору ці простага палатна, у якім выразаюць пасярэдзіне дзірку на галаву; выразаны кавалак палатна хросныя бяруць з сабою, каб, калі дзіця вырасце, гэты кавалак служыў яму абярогам ад падзення з дрэва [293].*

*«Каб дзіця кахала сваю хату і пільнавалася яе, кума, як ахрышчонае дзіця, прынясе ў хату, абносіць тры разы кругом стаўпа печы, пахістае перад чалешнікамі і тагды аддае мацеры» [294].*

*Калі маці на нейкі час выходзіла з хаты, у якой заставалася ў калысцы малое дзіця,*



**Інтэр'ер жылля канца XIX — пачатку XX ст.**
**Сядзіба Акінчыцы (Стаўбцоўскі раён)**



*яна клала пад калыску венік, каб дзіця не змагла ўкрасці нячыстая сіла [295].*

## Збіранне да шлюбу

*Перад самым адпраўленнем «князя» да «княгіні» жаніхова маці надзявае вывернуты кажух, тройчы аббягае вакол запрэжанага воза і, спыніўшыся перад коньмі, лье ім у вочы піва ці квас: калі пры гэтым коні былі «рахманы» і толькі «лупалі вокамі», то нявестка будзе няўдалая і нядоўга пражыве [296].*

Перад вяселлем унучкі.
*«Шаптала ўрано. Од уроку я яе пошаптала, коб яе так напэрэд, уцерлася она подолком, вшпілілі мы шпылечкі малюпанькія. А во е што на ванцы плохо стане, то хто з родні е, то пошэпча зразу»* [УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна].

*Каб засцерагчыся ад магчымага чарадзейства па дарозе пад вянец, маці нявесты ці іншая блізкая сваячка завязвае ў анучку галоўку цыбулі ці часныку і кладзе нявесце ў кішэню [297].*

*«Княгіня», едучы да шлюбу, бярэ з сабою сушаныя грушы-дзічкі і кідае іх на кожную стрэчную дарогу ці сцежку — каб не было на яе «ўразак» ніякіх, каб нарыву ніякага не было, каб былі чыстыя маладыя [298].*

## Вяселле

*Каб уберагчы маладую ад чараў пры выездзе ад шлюбу, абвязваюць яе ваўнянай зялёнаю ніткай, да канца якой прывязваюць загор-*

*нутыя ў анучку крошку хлеба, драбок солі і часныку [299].*

*«Як молоду прывязуць, то на лівы бок выворочваюць кожух, свякроў встрэчае нявесту ў ко́жуху»* [УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна].

*Каб ніхто не сурочыў і не «зачараваў», маладая бярэ з сабою галоўку цыбулі ці часныку і носіць увесь час на вяселлі [300].*

*«Ідучы на банкет або свадзьбу, каб ніхто не ачараваў, трэба ўлажыць кашулю навыварат або хоць панчохі».*

*У Ваўкавыскім пав. лічыцца, што найлепш засцерагае ад чараў часнык, некалькі зубкоў якога, загорнутых у анучку, звычайна носяць за пазухаю [301].*

*«Нявесце праўда не нада после свадзьбы посуду мыць. Будуць обмываць людзі цябе ці обговарываць»* [УЗ, в. Ракітна Лунінецкага раёна].

## Ад сурокаў

*«Хрэсцы — гэта сярэдзіна Вялікага посту. На Хрэсцы гаспадыня пячэ на хлебе хрэшчык, соху, борану, серп і другія гаспадарчыя рэчы, да галушкі — жаваранкі... Гэтыя рэчы бываюць вельмі пажытэчны пры ўсялякіх здарэннях, напрыклад: як бывае вялікая навальніца або град, на пажары, пры паводцы, як з'явіцца пошасць ці паморак і інш. Гэтыя рэчы даюць спор, перасцерагаюць ад ліхога ці ад ліхіх людзей, адганяюць ведзьмаў, чараўнікоў і інш.»*

*«На Хрэсцы кожная гаспадыня ставіць дзяжу й пячэ хлеб. Яшчэ пакуль паліцца ў печы, гаспадыня бярэ з дзяжы камок цеста, расплескае яго на скавараду й ставіць у печ, каб спёкся скавароднік. Гэты скавароднік яна пакрамсае на кускі й дае дзецям, каб яны не баяліся ніякіх хвароб ва ўвесь год. Потым гаспадыня садзіць у печ хлеб, пры гэтым яна на кожную булачку ці бохан хлеба кладзе з цеста зроблены крыж. Калі гэтыя крыжы спякуцца, іх адрываюць ад булкі і называюць хрэшчыкамі. Хрэшчыкі кладуць за абразы, дзе яны ляжаць праз увесь год і служаць перасцярогаю ад хваробы, няшчасця, прыпадкаў і розных здарэнняў. Хрэшчыкі бяруць з сабою, як запасваюць гаўяда, каб яго не зачапіў звер, як заворваюць, засяваюць, зажынаюць ці дажынаюць, каб быў добры зраджай да спор. Часамі, апрыч хрэшчыкаў, пякуць на хрэсцы яшчэ борану, серп, коску або яшчэ што-небудзь іншае. Гэтыя рэчы таксама хаваюць за абразамі, але яны не так пажытэчны, як хрэшчыкі» [302].*





*Каб ніхто не сурочыў, «мужчыны завязвалі пояс кашулі на тры вузлы» [303].*

*Той, хто носіць у абутку хмель, можа не баяцца сурокаў [304].*

*«Як кросна снуем, берэм кусочек хлеба и вуголья, кладем рядом, шчоб не зглазили» [305].*

*Калі хто сурочыць дзіця, трэба прынесці вады з калодзезя ўвечары; колькі набярэцца ў пасудзіну (не трэба адліваць), наліць у гаршчок і даць тры разы закіпець; потым трэба ўзяць міску, паставіць яе пад калыску і пакласці вакол яе ключ, грабянец, шчотку, нож і тры верацёны. Потым міскаю пераварочваюць гаршчок з гатаванай вадою і гэтак пакідаюць на цэлую ноч [306].*

*Каб засцерагчы дзіця ад сурокаў, у дзіцячую калыску трэба было пакласці вугалёк, хлеб, соль, жалеза [307].*

*Каб дзіцёнка ніхто не сурочыў, трэба над люлькаю павесіць воўчы зуб, а таксама ўсяляк захоўваць яе ад паветру [308].*

*«Каб хто не ўрок, то трэба свенчану мяту пры сабе насіць» [309].*

*Супраць урокаў і інш. добра насіць пры сабе асвечаны мак — т. зв. «самасійны мак» ці «відук», а таксама асвечаны на Спаса (19 жніўня) ці на Спленне (28 жніўня) адкаснік [310].*

*Каб ліхія вочы дзіцяці не шкодзілі, то трэ зубок часныку на шыйцы павесіць [311].*

*Калі маці з дзіцём ідзе ў госці, завязвае ў кашулю трохі хлеба, солі і асвечаных зёлак, каб уберагчы яго ад уроку [312].*





**Свацця з караваем.**

**Вёска Лелікава (Кобрынскі раён)**

*«Каб не баяцца «ўроцы» якога-небудзь невялікага знахара, трэба выняць у мышаняці вочы, зашыць іх у торбачку і насіць на грудзёх» [313].*

*Калі дзеці хварэюць, калі на іх кепска хто паглядзіць, «трэба яку булаўку зашпільваць дзіцяці. У любу одзежыну альбо ў колясочку або ішчо»* [УЗ, в. Ракітна Лунінецкага раёна].

*Каб засцерагчыся ад урокаў, трэба: а) насіць на руках і нагах чырвоныя суконныя ніткі, завязаныя ў тры вузлы; б) у левым крысе адзежы насіць уторкнутую вастрыём угору іголку; в) насіць у нашыйнай хустцы стоўчаную соль з салітраю і г) пры сустрэчы з ненадзейным чалавекам трымаць пад крысом фігу [314].*

*«Калі хто дзіця здзівіць або пагляне, то найлепей, калі мацера абнясе соль свенчану наўкол дзіцяці і кіне ў агонь» [315].*

*Каб, упершыню пакідаючы бацькоўскую хату, дзіця не патрапіла на благое вока, пасля купання бабка падкурвае малога свянцонымі зёлкамі (купальскімі) і кладзе на падлогу, а маці тройчы пераступае цераз яго і перадае куме.*

*З той самай прычыны і асабліва калі дзеці не вядуцца, бабка падымае малое з падлогі і тройчы абносіць вакол стала; пасля кароткай малітвы перад «багамі» маці цалуе хлеб на стале, нахіляючы да яго цалавання і дзіця, якое перадае куме праз акно. Прымаючы дзіця, кума дае бабцы альбо матцы якую-небудзь «заставу» (рэштку), найчасцей — акраец хлеба, які атрымлівае назад, калі дзіця прывязуць ад «кста» [316].*

*На падлозе рассцілаюць вывернуты кажух, на які кладуць хворага. У хату пускаюць курэй. Тады баба-«доктар» бярэ жменю аўса і ходзіць вакол дзіцяці, рассыпаючы курам авёс і прыгаворваючы штосьці сама сабе. Пакуль куры дзяўбуць авёс, баба бярэ невялікі чарапок і кладзе туды шэрсць, выстрыжаную на кажуху ў чатырох месцах ля галавы дзіцяці, ля ног і па баках. Да гэтай поўсці дадаюць валасы з галавы хворага дзіцяці, выстрыжаныя таксама ў чатырох месцах: каля лба, з патыліцы і са скроняў. Пасля гэтага ў чарапок кладуць гарачыя вуглі. Валасы і поўсць пачынаюць курыцца. Дымам з чарапка падкурваюць хворае дзіця. Пасля «памагалка» пачынае мераць яго. Дзеля гэтага яна бярэ суровую нітку адпаведна росту дзіцяці ўдаўжыню і шырыню (з працягнутымі ў бакі рукамі) і пачынае мераць кожны сустаў, кожны раз завязваючы на нітцы вузел. Калі такім чынам змераюць усё цела, нітку скочваюць і, чытаючы замову, тры разы абносяць вакол галавы дзіцяці. Пасля гэтага нітку кладуць у невялікі кавалак мяккага хлеба і, завязаўшы ў анучку, нясуць «на ростынькі», дзе хлеб кідаюць ці кладуць на дрэва [317].*

*Калі ў выніку суроцаў у дзіцяці забаліць і стане цвёрды жывот альбо калі пачнецца «вольнасць» (слабасць), трэба апрануць яму кашульку навыварат, надзець на галаву вывернутую шапку і ў такім адзенні перанесці тры разы задам цераз дарогу. Заходзячы ў хату, трэба наліць у конаўку вады з трох розных месцаў, абнесці яе тры разы ў дзіцяці вакол галавы і выліць на парог ля трох розных дзвярэй.*

*Перад лячэннем ад суроцаў, гэтаксама як і ад «находу і наносу», карысна тройчы правесці дзіця праз конскі хамут, які пасля гэтага трэба надзець на каня [318].*

## Ад пярэпалаху

*У хаце перад парогам тройчы малююць нажом на доле кола, потым трэба правесці накрыж два дыяметры і, узяўшы на канцах іх накрыж трохі зямлі і дадаўшы трохі курынага памёту, а таксама льнянога насення, абкурыць ім хворага праз бёрда.*

*Хворага кладуць на дол, праводзяць вакол яго нажом тры разы кола, бяруць з чатырох месцаў накрыж (ля галавы, ног, левай і правай рукі) патроху зямлі, да якой дадаюць накрыж саскрабанага з чатырох рагоў стала ці акна дрэва і абкурваюць гэтым хворага.*









*Хворага ставяць тварам да сонца і на месцы ценю ад галавы бяруць трохі зямлі, якой хворага абкурваюць [319].*

*Ад пярэпалаху бралі накрыж мох з кутоў, зёлкі, трэсачку з качаргі і курылі дзіця знізу [320].*

*Дзевяць пруткоў ад веніка клалі ў калыску для аховы немаўляці ад пярэпалаху [321].*

*«Як дзяцёнак спужаецца, яго нада кружком венічкам абмесці, а тады венічак і шумку дзе ў вугол які выкінуць» [322].*

*«Як рабёнак спужаецца, кладуць яго на чорны кажух, выстрыгаюць накрыж поўсці тры разы і кураць яго» [323].*

*«Як дзіця злякаецца, надо проз ногі пронядь або проз стол проняць. Ну так гэта. Стоіць чоловек. Мужчына ці жанчына, обоі, я думаю. Проз ногі хай пробэгіць тры разы, то і пройдзе той ляк»* [УЗ, в. Ракітна Лунінецкага раёна].

*Заіканне можа ўзнікнуць ад перапуду ці ад удару па цемені. Пазбавіцца заікання можна: а) раптоўным перапудам, б) заўсёды носячы на грудзях мяшэчак з жоўтым пяском [324].*

## Ад розных хвароб

*«Навязкі» рознага выгляду шырока ўжываюцца ў Беларусі; напрыклад, чырвоная нітка, навязаная на руцэ, служыць засцерагальным талісманам; з гэтай жа мэтаю звязваюць на пальцах «сыраваю» (нябеленую) нітку; пры некаторых хваробах хворага падпяразваюць ядвабнай стужкай; зубы мерцвяка, павешаныя на шыі, засцерагаюць ад зубнога болю, жалезнае кальцо — ад ліхаманкі; золата — ад жаўтухі, дзягіль — ад халеры; чырвоная жычка, павязаная на жарабя, бароніць ад сурокаў [325].*

*Калі ў паселішчы ўзнікла якая-небудзь павальная хвароба, вёску абворваюць. Абворванне робяць як звычайна, але і сам араты павінен быць блізнюком, і валы яго — таксама, і саха павінна быць зробленая блізнюком; калі што-небудзь, хоць маленькая палачка, што адносіцца да сахі, будзе зробленая не блізнюком, усю справу трэба лічыць марнай. Калі гэтыя ўмовы выкананыя, араты-блізнюк у суправаджэнні шматлікіх сведкаў дакладна апоўначы выпраўляецца абворваць вёску. Правёўшы вакол яе баразну, араты, а з ім і ўсе прысутныя, вяртаюцца дадому [326].*

*Каб засцерагчыся ад розных заразных хваробаў, трэба:*

*Абараць вёску яшчэ ніколі не запраганым жарабцом, якога ўпершыню запрэглі ў саху з адным лемехам. Зрабіць гэта павінен малады хлопец, адзіны ў бацькоў. Часам хвароба (найчасцей халера) сама падказвае гэты сродак каму-небудзь з жыхароў у сне.*

*Засеяць вузкі шнур зямлі вакол вёскі макам-«цякуном» ці льняным насеннем. Нагул, «нячыстая моч» льнянога насення не трывае, а таму «на льняншчы» не бывае; калі дзе-небудзь агледзіць сабе месца, там дастаткова рассыпаць хоць жменю насення, і хвароба адразу ж адступіцца.*

*Абнесці вёску запаленай грамніцаю і на кожным з чатырох канцоў закапаць у зямлю з тае грамніцы патроху воску [327].*

*У Вербную нядзелю, калі выйдуць з царквы, кожны з'ядае па дзевяць пупышак з вярбы, якія называюцца «авечкамі», каб не балелі зубы і не было ліхаманкі [328].*

*У Чысты чацвер трэба ўзяць трохі льну, увязаць у «праліцу» і, сеўшы на куце, вывесці тры ніткі на верацяно; тры ніткі вывесці, сеўшы «ў судніку»; тры ніткі вывесці, сеўшы ў кутку, каля палатак. Выраблены такім чынам ніткі дапамагаюць ад усякай ламоты рук, ног і ад іншых хвароб. Хворыя месцы перавязваюць ніткаю тройчы, завязаўшы папярэдне на нітцы дзевяць вузлоў [329].*

*На перадвелікодным тыдні, у чацвер, які завецца «Чыстым», устаючы на досвітку, бяруць грабянец, надзяваюць на яго пятлю з ільну ці з «канапліны» і прадуць ніткі, якія зберагаюць цэлы год, называючы іх «чацвярговымі ніткамі». Гэтыя ніткі маюць перавагу перад праздзенымі ў іншы час*





і праваю рукою тым, бо нібыта лекуюць звіхі, пераломы і інш. (пашкоджаную частку цела перавязваюць гэтаю чацвярговаю ніткаю) [330].

Ад «сухога болю» (рэўматызму) абкручваюць хворую руку ці нагу вужовай скурай.

Ад таго ж націраюць хворыя месцы сокам печаных мухамораў [331].

Каб быць чыстым цэлы год, трэба ўстаць да ўсходу сонца і памыцца. З такой мэтаю мыюць у гэты час скаціну і асабліва коней. Пасля абедні свенцяць соль, якая, на думку беларуса, дапамагае ад «суроцаў» (ад благога вока). Акрамя солі свенцяць і ніткі, напрадзеныя ў гэты дзень да ўсходу сонца: «цэраз гэта яны атрымліваюць гаючую сілу ад розных хвароб, асабліва ад пухліны рук». Тыя, хто мучыцца ад кароcты, купаюцца ў гэты дзень, цвёрда перакананыя, што ад яе пазбавяцца [332].

Як пачне трэсці (ад ліхаманкі), трэба трынаццаць разоў аббегчы як мага хутчэй вакол хаты [333].

У час вячэрняга прыпадку (ліхаманкі) хворы як найхутчэй ідзе да царквы і тройчы аббягае вакол яе, потым кладзе на царкоўны ганак якую-небудзь манету і ідзе дадому задам наперад. Папраўка будзе больш хуткая і поўная, калі хворы пазбег сустрэчаў і не азірнуўся назад [334].

Выкідалі дзяжу і пры гэтым першым градам мазалі вочы, каб яны не балелі [335].

«Як на воку ячмень, трэба ўзяць дзевяць ячменных каліў, абвесці кожным кругом вока, пайсці к калодзісю да, не аглядаючыся, перакінуць іх цераз калодзісь, то ячмень і загіне» [336].

«Як ячмень на воку, то трэба ўзяць коліва ячменю і абвесці тры разы окала воку, а потым, сказаўшы: «Ячмень на воку, урош прароку!», кінуць курыцы, а яна з'есць. Тагды ўсё і пройдзе» [337].

Ад ячменю на воку трэба абвесці хворае месца тры разы залатым заручальным пярсцёнкам [338].



**На свяце-конкурсе ручніка і пояса «Млечны шлях ад рук бабулі».**
**Вёска Семежава (Капыльскі раён)**

Ад сухотаў. Хворы, сеўшы верхам на лапату, аб'язджае вакол падворка, а знахар верхам на мятле рухаецца следам, выклікаючы: «Сухоты-ліхоты, ідзіце за вароты». За трэцім разам абодва выязджаюць за браму. Гэтак паўтараецца штодня на працягу трох дзён [339].

Прафілактычны сродак ад халеры. Тры дзяўчыны з хлопцам на чале ідуць у лес, там высякаюць жордку, у якую хлопец іх запрагае і гоніць назад у вёску. Такім чынам абыходзяць вакол вёскі, на тым месцы, адкуль пачаўся іх паход, вычэсваюць з прыцягнутай жордкі крыж і ўкопваюць яго ў зямлю [340].







«Каб халера не прабралася ў вёску, трэ яе абараць. А для гэтага трэба, каб маладыя дзяўчаты, паскідаўшы з сябе сарочкі, запрагліся ў соху да й абаралі вёску кругом. Каб халера не прабіралася на вёску, трэба ўзяць апалены з двух канцоў ожах паміж ног да й аб'ехаць на ём кругом вёскі так, каб ачарціць на зямлі цэлы круг. Такі круг перасцярагае не толькі ад халеры, але й ад усялякае пошасці і ад паморку ці ўпадку гаўяда» [341].

«Каб халера або так якая зараза не марыла людзей, то трэба, каб граніцу вёскі абаралі блізнякі блізнячымі валамі» [342].

## Ад скураных хвароб

Калі на целе ёсць прышчы ці высыпка, трэба тройчы павадзіць па падлозе ля парога рукою крыж-накрыж абсыпаныя месцы.

Кароcту можна звесці гнілымі рыбнымі памыямі, якімі звычайна мыюць хворыя месцы перад усходам і пасля заходу сонца.

Лішаі, трэшчыны і наогул скураныя язвы ад ветру хутка праходзяць, калі іх памазаць аконным потам ці пенаю з распаленых у печы дроў. Гэта трэба рабіць мезенцам: спачатку тройчы намаляваць кружок на шкле ці на палене, а потым зрабіць тое самае вакол лішая.

Пры сустрэчы з незнаёмым чалавекам трэба прасіць, каб ён абвёў мезенцам вакол лішая тройчы і плюнуў у сярэдзіну такога круга: лішай прападзе праз тры дні [343].

Ад лішая добра памагае перуновая страла, трэба толькі праз яе дзірачку праліць дажджавое вады, тою каменнаю стралою пацерці лішай да змыць яго тою вадою [344].

«Вогнік» — нешта накшталт лішая ў дзяцей на падбародку. Ён з'яўляецца, згодна з павер'ем беларусаў, у тых дзяцей, якія плявалі на агонь. Хваробу гэтую лечаць так: хворы высаджвае галаву праз акно, хто-небудзь з хатніх абводзіць вакол яго галавы чырвонымі вугалямі і выкідвае іх на вуліцу [345].

Ад вогніка перад хворым ставяць міску з чыстай вадою і побач кладуць тры халодныя вугалі. Хворы ўважліва глядзіць у ваду, а «лекар» торкае іголкаю ў першы вугаль і са словамі: «Вогнік вадзянэй! Вогнік ветранэй! Вогнік агнянэй! Вылазь на вугаль!» тройчы абводзіць вакол галавы хворага вугалем і страсае яго ў ваду. Гэтаксама робяць і з астатнімі вуглямі, пасля чаго хворы карыстаецца той вадою і для знешніх і для ўнутраных патрэбаў [346].

«Калі я быў дзіцём, у мяне на твары з'явіўся вогнік (herpes); мае бацькі паклікалі знахара Чапялу. Ён прыходзіў да мяне тры разы ў часе заходу сонца, садзіў мяне тварам к печы і, запаліўшы пучок лучыны, нешта шэпчучы, абносіў лучыну навакол маёй галавы. У пакоі, апроч нас, ніхто не павінен быў быць» [347].

*«Вогнік лечаць так: перад хворым ставяць місу з чыстаю вадою, пускаюць на яе тры вуглі так, каб зверху яшчэ яны гарэлі. Хворы пазірае ў воду, дзе бачыць самога сябе. Тут хто-небудзь, а лепш, каб гэта быў першы ў свае маткі, бярэ з місы адзін вугаль і абводзіць ім кругом вогніка тры разы. Потым так з усімі. Тады хворы вогнікам гэтаю вадою ўмываецца тры дні раненька да сонейка» [348].*





*Язык і асабліва кончык яго свярбяць менавіта ў той час, калі недзе абгаворваюць, плямяць гонар. Каб пазбегнуць гэтага, карысна: а) завязаць тугі вузел на першым, што трапіць пад руку, — на хустцы, поясе, лапатнай аборы, каб і ў зласліўцаў завязаліся раты; б) зрабіць лёгкі ўкол іголкаю ў месца, якое свярбіць; в) пасыпаць тое месца соллю, перцам, тытунём, каб зло, якое рыхтуецца, перакінулася на ненавіснікаў [349].*

## Ад дзіцячых хвароб

*«Як маленькое дзіцятко завсегда ўсе знайце: вшпульвайце шпылечку. І як куды ідзеце з дзіцем, ці як сама ідзеш, то цепэр нема такіх маек, хоць так о рубашэчкой тры разы ўцерыць дзіцятко. Так усе ж по сонцу робіцца. А як яно моцно крычыць да плача, нада обязацельно шаптаць»* [УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна].

*Цішком ад усіх маці ці іншая блізкая да дзіцяці жанчына прыносіць у новым вядры вады з трох месцаў ці з-пад млынавага кола і ставіць яе пад калыску: маці кідае туды нож, іголку і «шчэці». Усё гэта робяць як мага хутчэй, без азірання назад і па баках. Калі дзіця пойдзе на папраўку, укінутыя ў ваду рэчы пакрыюцца праз ноч іржою. У адваротным выпадку дзіця хварэе не ад начніцаў [350].*

*Калі дзіця не спіць, то яго мучае «начніца». Трэба тады ўзяць некалькі чарапкоў з разбітага чыгунка, выпаліць іх добра ў печы і пакласці на цэлыя суткі пад парог. Потым пад калыску ставяць гліняную пасудзіну з вадою, у якую кідаюць тыя чарапкі, іголкі, шыла, вострыя кавалкі жалеза і ўсё вострае. З такога чыгунка даводзіцца часам чуць піск [351].*

*«Калі начніца да дзіцяці падпадзе, то трэба з брудных хустаў нарабіць лялек, папастаўляць на кожным акне па дзве-тры і сказаць: «Глядзеце, лялечкі, каб мой маленькі спаў!» — то і начніцы мінуцца» [352].*

*«Калі ў дзяцей у ваколіцы з'явіцца пошасная хвароба горла — шкарлятына, дзецям абвязваюць каля шыі чырвоную жычку як папераджальны сродак» [353].*

*Каб дзіця добра гадавалася, матка ахвяруе яго Богу. Нясе ў касцёл прызначаныя на ахвяру грошы, кавалак палатна, трохі льну. Гэтаю ахвяраю тройчы малююць кола вакол дзіцяці, потым накрываюць яго ёю і вешаюць або кладуць ахвяру на алтар. Такім чынам можна ахвяраваць Богу сябе альбо нейкую дарослую асобу [354].*

*Калі дзіця «накрычыць пуп», трэба прыкласці да яго і прывязаць дні на тры медны пятак ці іншую медную манету — знойдзеную ці ўзятую ў старца.*

*У тым самым выпадку трэба «закусіць пуп»; гэта робіцца ці да ўсходу, ці пасля заходу сонца. Звычайна старшы ў сям'і мужчына бярэ на рукі хворае дзіця і становіцца супраць самага вялікага сука ля сцяны. Гледзячы на сук, ён тройчы кусае дзіцячы пупок і гаворыць: «Ня грызь грызець, а я грызь грызу: не хадзі грызь па... (імя дзіцяці) касцях, а хадзі, грызь, па сухіх суках!» Пасля кожнага прыкусвання ён тройчы абводзіць вакол пупка мезенцем правай рукі і робіць тое самае з суком, дзьмухае на яго, а павярнуўшыся назад, за кожным разам сплёўвае на зямлю.*

*Вельмі дапамагае ад «грызі на пупі» аржаная мука, здабытая канцом нажа з-прамеж жорнаў. Маці сама калупае такую муку канцом нажа, падносіць і абкладвае ёю ўздуты пупок [355].*



## Пахаванне

*У Пінскім Палессі... калі ў сяле часта паміралі дзеці, павівальная бабка клала замок у труну памерламу дзіцяці, каб замкнуць смерць [356].*

*У Пінскім Палессі замкнуты замок клалі ў труну сваякі нябожчыка, каб у сям'і больш не было смерцяў [357].*

*На Палессі пояс (асабліва ад мужчынскіх штаноў)... прымацоўвалі на вароты ў час пахавання, каб набожчык не «павёў» за сабою гаспадарку [358].*

*«Калі мярца вязуць жарэбнаю кабылаю, то трэба яе аперазаць чырвонаю суконнаю ніткаю, бо або скіне жарабя, або хоць і ўпору, то нежывое мецьме» [359].*

*Як вада з сямі «Іярданей» (вада, узятая з сямі вадаёмаў на Вадохрышча) дапамагае пчалярам, так зямля ад сямі магіл з розных могільнікаў: а) аслабляе ў баязлівых страх перад нябожчыкамі; б) бароніць ад заразнага нябожчыка і хваробаў, не падпускае смерць да гэтага дома і в) дапамагае ў час паморка жывёлы — дзеля гэтага ізаляваную скаціну тройчы абсыпаюць магільнаю зямлёю [360].*

## Ад прывідаў

*У зайздросніка магільны насып абвальваецца ніжэй за бакі, прычым у розных месцах відаць вялікія і малыя норкі. Каб спыніць зайздросніка, трэба насыпаць у кожную норку трошкі маку. Натрапіўшы каля выхаду на мак, ён зоймецца зборам зярнятаў і забудзецца на людзей [361].*

*Існаваў звычай выганяць душу памерлага, якая вярнулася ў дом: зregister замяталі венікам пакой, дзе ляжаў нябожчык, размахвалі сякерай [362].*

*«Глухі мак свяцілі на Макавея і асыпалі хлеў, хату ад нябожчыкаў. І як на суд ішлі, то кругом сябе асыпалі» [363].*

*Гаспадар таго дома, куды панадзіўся хадзіць мярцвяк, абсыпае дарогу ад самага дома да могілак макам, сыпле макам і вакол магілы — толькі не звычайным, а самасеем і абавязкова асвечаным, бо чараўнікі баяцца маку.*

*Увечары запальваюць грамнічную свечку перад тым акном, паўз якое ходзіць мярцвяк [364].*

*Калі каму нябожчык сніцца, дык ён думае, што нябожчык з магілкі ўстае ды да яго прыходзе, а таму ён тую магілку, дзе пахаваны той нябожчык, макам-відуком абсыпае, каб нябожчык ня ўстаў» [365].*

*Каб прадухіліць дом ад хадзячага нябожчыка, попел з печы тройчы кідалі праз парог [366].*

*Каб нябожчык не прыходзіў у свой дом, вакол дома абводзілі круг вострым канцом касы, якую потым вешалі на дзвярах [367].*

*У Пінскім Палессі з сярпом абыходзілі вакол хаты, каб аберагчы яе ад пранікнення хадзячага нябожчыка [368].*

*Калі сніўся нябожчык, каб спыніць гэта, уторквалі нож у сярэдзіну дзяжы [369].*











*Каб спыніць з'яўленне ў доме хадзячага нябожчыка, трэба на працягу трох разоў клікаць яго па імені, адпраўляючы натуральную патрэбу [370].*

*Рэкамендацыі наконт паводзінаў у тых выпадках, калі нябожчык «хадзіў»: «Сядзі, яго жджы і свечку грамнічную палі. Як толькі ў хату ўвойдзець, сразу ці міску, ці чугун на свечку раз і надзень. Ні станіць пакойніка нідзе і больш ня прыйдзіць» [371].*

*Лапаць служыць у рытуалах, накіраваных на прадухіленне наведванняў нябожчыкам дома. Для таго патрабавалася запрэгчы ў лапаць чорнага трохгадовага пеўня і вазіць на ім на магілу зямлю з-пад печы (Лепельскі р-н). Адбываецца як бы паўторнае пахаванне, вяртанне на могілкі пэўнай неабходнай нябожчыку субстанцыі, якая, магчыма, вабіла яго да сябе [372].*

*Чалавек, які ходзіць пасля смерці, наводзіць жах на палешука большы за чорта. Кажуць, што «ад чорта есцека хрэст, а ад ліхога чалавека не адхрысцішся і не адмолішся, а што ж казаць за мерцвяка, як ён не толькі баіцца храста, да шчэ сам за ім прыйдзе? Тады хіба толькі Богу маліцца, да й годзі».*

*Здараецца, маці наведвае сваіх дзяцей ці бацька сына... але і яны не выклікаюць даверу, і наогул іх з'яўленне лічыцца непажаданым. Супраць такіх гасцей існуюць такія сродкі: у месячную ноч на магіле трэба прыбіць асінавым калком цень сваёй левай нагі; адкапаць памерлага і прыбіць асінавым колам; абсеяць макам магілу ці хату. Самы надзейны сродак — раптоўна ўдарыць вупыра зламанай у дарозе воссю ад воза. Шмат палешукоў захоўваюць яе як зброю супраць вупыроў [373].*
*Калі ад «непрытомніка» няма спакою, трэба раскапаць магілу, адсячы мерцвяку галаву і, праткнуўшы яе асінавым калом, пакласці між ног, так, каб нябожчык не мог, лежачы, дастаць яе сваімі рукамі; магілу ж трэба пасыпаць макам.*

*Ва ўсіх выпадках трывогі ад «непрытомнікаў» карысна стрэліць апоўначы ў акно са стрэльбы, заражанай асвечанай соллю [374].*

## Ад нячыстай сілы, ведзьмаў, чараў

*На сцянах дамоў і хлявоў малявалі крэйдай крыжы для засцярогі ад нячыстай сілы [375].*

*Велікодная і перадвелікодная асвечаная ў царкве ежа («свянцонае») надзялялася незвычайнымі, магічнымі ўласцівасцямі. Напрыклад, скарынкі ад пасхі ніколі не выкідвалі, а сушылі, таўклі і клалі ў гарэлку — гэта, па народнаму павер'ю, засцерагала ад уздзеяння ведзьмароў [376].*





*Праходзячы міма «ведзьмара» ці «ведзьмы», беларус, каб пазбегнуць чараў, складвае ў рукаве дулю і гаворыць: «Ражон табе ў горла, дзяркач у зубы, соль у вочы» [377].*

*«Як вядзьмар або ведзьма ўвойдзе ў хату, то нічога не адзываецца, але ўпярод хвігу зрабіць наводлег, каб ён не бачыў, то ўжэ тады ён не зашкодзіць нічога» [378].*

*Праклятым вельмі лёгка можа ўберагчыся ад пракляцця — трэба толькі паказаць яму фігу і сказаць: «Наадварот, да табе ў жывот!» [379].*

*Каб не прысталі ніякія чары, у сарочку зашываюць і носяць заўжды пры сабе «жывое срэбра ў маленькай бутэлечцы» [380].*

*Супраць наслання ведзьмаў і нячыстай сілы ўторкваюць пад вокнамі і дзвярыма галінкі дубкоў, рабіны, асіны, крапівы. Ля хат выстаўляюць на доўгіх шастах венікі і гэтымі венікамі ў першы дзень святаў (Калядаў, Вялікадня, Сёмухі) вымятаюць хату, каб не было ў хаце зарокаў на дзяцей [381].*

*На Купалу ў Спорава і Сіманавічах галоўным «ахоўным» сродкам служыла крапіва; яе ўторквалі ў дзверы, вокны хаты і хлява, пакідалі на парозе, «каб ведзьма папякла пальцы, як будзе лезці». У іншы час крапівой не карыстаюцца, а замест яе бяруць семя самасейнага льну (лушчык) і асвечаныя травы: чартапалох, баркун і «свінцян». Ва Усходнім Палессі, у Стадолічах, у купальскую ноч затыкалі ў шчыліны акрамя крапівы таксама галінкі шыпшыны, ажыны, клёна і асіны. У функцыі спораўскага лушчыка тут выступае мак-відук: ім абсыпаюць магілу знахара, абсыпаюць хату, каб «мярцвяк» не хадзіў, і хлеў — каб захаваць скаціну ад нячыстай сілы, і г.д. [382].*

*Асінавае дрэва, паводле вераванняў беларусаў, мае вялікую сілу, якая супрацьдзейнічае нячыстай сіле. Калі ў ноч на Купалу варыць у гаршку асінавыя дубчыкі, то «ведзьмары» і «ведзьмы», якія зрабілі шкоду, прыйдуць прасіцца, каб спыніць гэтую аперацыю, бо яна выклікае ў іх страшэнныя пакуты. Існуе павер'е, што паколькі на асіне павесіўся Іуда, які, прадаўшы Хрыста на смерць, зрабіў чарцям і наогул нячыстай сіле даволі шмат шкоды, то «нечысць» адступіла ад асіны і баіцца яе, як крыжа [383].*

*«Вербная нядзеля — за тыдзень да Вялікадня. У сыботу перад Вербнаю нядзеляю вечарам свецяць у цэркві вярбу. З гэтаю вярбою варочаюцца дамоў. Каго сустрэнуць або й так каго трапяць блізка, б'юць вярбою, прымаўляючы: «Не я б'ю, вярба б'е. За тыдзень вялікдзень. Будзь здароў ва ўвесь год, як зімовы лёд». Другія смехам кажуць: «як маёвы лёд». Так усе сякуць адно другога вярбою, шуткуюць, смяюцца. Іншыя нясуць з цэрквы запаленыя свечачкі. Тыя, увайшоўшы ў хату, выпальваюць тымі свечачкамі над дзвярамі ці на сволаку тры крыжы, каб загарадзіць нячыстай сіле заходзіць у хату» [384].*

*У Вялікую суботу ўночы дванаццаць сялянскіх дзяўчат надзяваюць белыя кашулі, бяруць саху і праводзяць ёю баразну вакол усяго сяла з малітваю: «Да ўваскрэсне Бог». Гэтым, паводле павер'я сялян, адыдзе ўсё нядобрае на цэлы год [385].*

*Жанчыны прадуць у гэты дзень некалькі нітак з воўны ці льну, але ў адваротны бок. Ніткі гэтыя вельмі дапамагаюць ад ламоты, і хворыя на раматус перавязваюць імі рукі і ногі. У царкве ў гэты дзень асвячаюць мак, соль і каровіна малако. Мак пасыпаюць у хлявах, маслам змазваюць вымя ў каровы, каб уберагчы ад ведзьмаў, а соль выкарыстоўваюць ад нячыстае сілы.*

*Каб не пусціць у двор нячыстае сілы, «раздзенецца жанчына голая і да ўсходу сонца абсявае ўвесь двор жытам знаружжа». Гэтаксама да ўсходу сонца перабіраюць цыбулю — тады яна на агародзе чыстая [386].*

*Напярэдадні Купалы кожны гаспадар вязе ці нясе выкапаную з коранем асіну і кладзе на вароты. У гэтую ноч ходзяць ведзьмы, якія баяцца толькі асінавага кала. З той жа прычыны гаспадыня кладзе з вечара крапіву-пякучку на фортку — «штоб ведзьма пастрыкала морду, як будзе лезць» [387].*

*Паўсюль у Гарадзенскай губерні вераць, што, пачынаючы з Купалля, увесь тыдзень ведзьма і наогул «злая сіла» можа асабліва моцна шкодзіць людзям і жывёле, урываючыся праз вокны, дзверы і ўсялякія адтуліны ў хаты і хлявы. З надыходам вечара, напярэдадні Купалы, гаспадыня рве як мага больш крапівы-жыгучкі і раскладвае яе на вокнах, вуглах, парогах і інш. маленькімі пучкамі — каб «злая сіла» і асабліва ведзьмы, залятаючы ў дом ці ў хлеў, апякаліся гэтай крапівою і хутчэй знікалі [388].*

*Увосень, калі звязуць усё з поля, калі ўсё багацце збярэцца ў хатах, адзін з гаспадароў запрагае каня ў барану і тройчы барануе вакол вёскі, каб зло не знайшло ў яе дарогу [389].*

## Ад русалак

*Палын выкарыстоўваўся на Русальным тыдні як абярэг ад русалак [390].*

*Каб пазбавіцца ад іх (русалак) у час нападу, трэба намаляваць на зямлі крыж, абвесці яго кругам і ў гэтым крузе стаяць. Русалкі тады не падступяцца; паходзяць, паходзяць вакол, а потым і схаваюцца [391].*

*Апошні дзень Сёмухі завецца Розыгры — у гэты дзень русалкі часта нападаюць на прахожых. Адзін раз русалкі напалі на селяніна, які ехаў на возе якраз у дзень, званы Розыгры. Селянін тройчы абвёў сябе сякераю і кінуў яе ў бок русалак, тады яны і зніклі.*

*Калі на Русальным тыдні ці яшчэ калі хоча чалавек засцерагчыся ад русалак, то перад тым як легчы спаць, ён павінен памаліцца і нажом правесці вакол сябе настолькі далёка, каб русалка рукою не здолела яго дастаць» [392].*

*Кожны прадбачлівы чалавек стараецца ў Русальны тыдзень абыходзіць мясціны, блізкія да вады. Калі трэба ўсё ж наведаць іх (каб знайсці згубленую жывёліну ці прынесці вады), ён прыхоплівае іголкі і булаўкі, старанна схаваныя ў адзенні і бялізне. Як толькі русалкі абступяць сваю ахвяру, трэба сходу ўкалоць адну ці дзве з іх: тады ўсе русалкі з віскам кінуцца ў ваду. Аднак наступны раз такі чалавек павінен баяцца іх помсты [393].*

## Ад дамавіка

*«У даўніцу вешалі ў кутках хлява ці канюшні разнастайныя абярогі: мядзведжую поўсць або мядзведжыя кіпцюры, галовы — для таго, каб скаціна... чужога вока і дамавікоў не баялася. Мядзведнікі, якія вадзіліся даўней мядзведзяў, прапаноўвалі гаспадарам паскубці мішку і пакарыстацца ягонай поўсцю, а ўзамен выпрошвалі ў гаспадароў сабе і мішку пачастунак: мёду і хлеба» [394].*

*«Праз кажух пераганялі каня не любімай дамавіком масці. На Загавіны клалі кажух поўсцю наверх, а на яго ставілі стравы дамавіку» [395].*

*«Каб абясшкодзіць дамавіка, застрэльваюць у першы дзень Калядаў ці ў дзень Новага года, да абедні, сароку або варону і, зачапіўшы вяровачкай за горла, вешаюць яе ў хляве. Некаторыя пякуць на поўню хлеб і ад першай булкі («бахонкі», «кулідкі») адразаюць акраец, соляць яго і ўночы ідуць з ім у хлеў, дзе гаспадар гаворыць: «Дамавік дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх коней і жалуй! І я буду цябе любіць і жалаваць!» Пасля гэтага хлеб кладуць дзе-небудзь пад страхой» [396].*

*«Калі трэба задобрыць пераборлівага памагатага, заклікаць яго да міласэрнасці ў час нейкай дамашняй бяды, яму робяць так званыя «адносы» (акрайчык хлеба з соллю ў анучцы). «Аднос» клалі ў паветку, пад варо-*









*ты, у якую-небудзь невялічкую нішу ў печы. «Адносы» дамавікам рабіліся і ў некаторыя рэлігійныя святы» [397].*

*«Іншым разам гаспадар цягаў барану па двары і па хляве і сцёбаў па сценах голымі галінкамі, прымаўляючы: «Выйдзі, прышлы дамавы, і больш не хадзі». Галінкі хавалі пад навес, «каб ніхто не бачыў» [398].*

*«Пахавальны» венік, г. зн. венік, якім замяталі падлогу пасля вынасу памерлага з дому... давалі з'есці карове, каб яе не ганяў дамавік» [399].*

*«Вешаюць забітую сароку ў адрыне дзеля таго, каб не хадзіў дамавік і не пужаў карову» [400].*

*«Часам сарока насылае дамавікоў, якія па начах ездзяць верхам на конях. Каб засцерагчыся ад гэтага, трэба забіць сароку і павесіць яе ў стайні над коньмі» [401].*

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

### Карова

*Калі ёсць небяспека, што цельная карова «скіне», з'еўшы мышынае ці чмялінае гняздо, а таксама з іншае прычыны, цераз яе трэба перакінуць сякеру тройчы ў адзін і той жа бок [402].*

*Нельга нічога пазычаць з дома ў дзень ацёлу каровы, не паказваць надой малака іншым людзям; дзе-нідзе практыкуецца навязанае каровам павязак на шыю ці абнясенне іх соллю «ад урокаў» [403].*

*«Людзі вельмі рады, калі карова прывядзе блізнят-бычкоў. Такіх бычкоў гадуюць і сцерагуць, як дзяцей, бо калі яны вырастуць і на іх аруць поле, то там заўжды будзе добры зраджай і ніколі збожжа не паб'е град. А калі на тых быках абараць*





*вёску, то там не будзе ні пошасці, ні паморку» [404].*

*Першае малако, малодзіва, трэба праліць праз заручальны пярсцёнак гаспадыні: тады ніякімі чарамі нельга будзе адабраць у каровы малака [405].*

*Калі ластаўка пераляціць цераз карову, то ў той каровы ў час даення пакажацца замест малака кроў, і таму, каб засцерагчы ад гэтага, карову дояць цераз заручальны пярсцёнак [406].*

*«Каб цяля не рыкала і не білася без маткі, як яго адлучаюць, трэба яго трэйка абвесці кругом маткі і завязаць яму на шыю касмачок матчынае шэрсці, завязанае ў суровае палатно» [407].*

*Купіўшы нейкую жывёліну, гаспадар, перад тым як завесці яе ў свой хлеў, павінен узяць вядро вады, тройчы абысці вакол худобы і за трэцім разам, зайшоўшы ззаду, выліць ёй на хрыбет усю ваду. Народ тут лічыць, што гэта адзін з найлепшых сродкаў ад благіх вынікаў, якія звычайна бываюць праз шкадаванне папярэдняга гаспадара [408].*

*Калі даводзіцца навязваць цяля, то нельга класці яму на шыю пятлю ад вяроўкі: тады нячысціку лягчэй падвесці цяля да ваўка. Лепей зрабіць асобную лямку са старых гаспадаровых штаноў ці з гаспадынінай спадніцы, якая застаецца на шыі цяляці, пакуль не спарахнее [409].*

*Каб ваўкі шкоды не рабілі, трэба на Вялікдзень устаць вельмі рана, калі яшчэ ўсе спяць, і стрэліць альбо трэба пакласці на плот кабыліну галаву [410].*

## Першы выган у поле

*Выганяць скаціну ў поле ў першы раз трэба абавязкова асвечанай вярбою, і гэтую вярбу трэба ўторкнуць у хляве — каб злы дух не пашкодзіў скаціне [411].*

*Захаваную ад Вербніцы вярбу ўторкваюць у страху хлява дзеля таго, каб жывёла заўсёды своечасова вярталася дадому [412].*

*Пастуху, што выпраўляецца ў поле, даюць галінку асвечанае вярбы, якою ён абавязкова павінен тройчы сцебануць кожную жывёліну; гэтую галінку ён павінен прынесці дадому і ўторкнуць дзе-небудзь ля варот, але так, каб ніхто яе адтуль не мог дастаць. Тады жывёла не будзе заходзіць у чужыя двары [413].*

*Цэлы дзень пастух трымае вярбіну, якою выганялі скаціну з хлява, і, вярнуўшыся дадому, утыркае яе ў страху над дзвярыма хлява, каб нячысцікі не уваходзілі туды, а скаціна, пабачыўшы грозны дубец, ішла проста дадому. Пакуль доўжыцца пасьба, пастух павінен тры разы «выткнуць» вербінай усякую скацінку [414].*

*У Магілёўскай губерні, першы раз выганяючы скаціну ў поле, бяруць з сабой лусту хлеба і з ёю абыходзяць тройчы вакол коміна, гаворачы: «Як печ стаіць на месцы, так штоб і скаціна хадзіла на места!» — і аддаюць гэты хлеб есці скаціне і назіраюць, каб першы выган скаціны не прыпаў на тыя дні, у якія былі святы Раства Хрыстовага і Дабравешчання. Калі якая-небудзь неабазнаная кабета выганіць у гэты дзень скаціну не абуўшыся, пра яе кажуць, што яна ведзьма. Каб абясшкодзіць «ведзьму», пастух павінен яе балюча сцебануць пугай або выцяць палкаю. У гэты дзень добры пастух пасціць і не бярэ на пашу пугі [415].*

*Выганяючы першы раз жывёлу ў поле, гаспадыня клала ў вароты свой фартух і тры разы казала: «Як фартух беражэцца пояса, так ты беражыся пастуха» [416].*

*Перад першым выганам скаціны на пашу ля парога ў хляве кладуць: замок, нож, папругу, вывернуты кажух, хлеб, каб: а) скаціна была гладкая, як яйка; б) каб у непрыяцеля замкнуліся рукі, а ў звера пашча; в) каб скаціне была простая дарога дадому і г) каб яе напладзілася столькі, колькі ў кажуху шарсцінак. Скаціну выганяюць з хлява асвечанай вярбою і гоняць цераз пакладзеныя ля парога рэчы, пасля чаго пастух апранае кажух, падпярэзваецца папругаю, кладзе хлеб і яйка за пазуху, а замок падвешвае да дзвярэй хлява ці бярэ яго ў поле, дзе ўвесь час трымае ў кішэні. У некаторых мясцінах*





усе гэтыя рэчы застаюцца некранутымі да вяртання скаціны ў хлеў. Калі якая-небудзь жывёліна «расплюсніць» пакладзенае ля парога хлява яйка, то гэтую жывёліну воўк з'есць [417].

Калі гоняць першы раз скаціну ў поле, кладуць па абодва бакі парога ў аборы па яйку. Потым яйкі гэтыя ў дзень св. Юр'я нясуць у касцёл і кладуць на алтары [418].

«Пры выгане скаціны з хлява адбываецца такі абрад. Перад варотамі рассцілаецца кажух поўсцю дагары, а ў яго заварочваецца кавалак хлеба з яйкам. Жывёла выганяецца з хлява так, каб яна абавязкова прайшлася па кажуху. Усё гэта робіцца, каб усцерагчы яе ад звяроў і пошасцяў. Хлеб жа з яйкам аддаецца пастухам. Пастухі перакідваюць праз статак падараваныя ім гаспадарамі яйкі. Калі яны не разлятаюцца на кавалкі, уважаецца, што ўвесь статак будзе цэлы і ваўкі на яго не нападуць» [419].

На Юр'я, асвяціўшы скаціну, гаспадыня бярэ ніты, замыкае іх замком і закопвае перад парогам у хляве пад гной, прыгаворваючы: «Як етат замок замкнуўся, штобы так у звярэй замкнуліся губы і зубы»; пры гэтым гаспадыня выцінае сякераю па тым месцы, дзе ніты закапаныя. Праз гэты парог скаціну трэба выгнаць у поле. Робяць дзеля таго, каб драпежныя звяры не елі скаціну [420].

Калі першы раз гоняць скаціну ў поле, у варотах кладуць жалеза і ніты ад кроснаў і прыгаворваюць: «Як гадзюка ніта не разбярэ, так ад кароўкі малака не адбярэ. Як жалеза гадзюка не ўгрызе, так каб ведзьма маю кароўку не ўгрызнула» [421].

У дзень першага выгану жывёлы ў поле пад парог у хляве клалі навойчык ад кроснаў; калі карова пераступіць яго — ужо не адаб'ецца ад чарады, дзе б ні згубілася ў лесе — абавязкова прыйдзе дадому [422].

Бёрда кладуць ля парога ў хляве, калі першы раз выганяюць скаціну ў поле, і тая павінна праходзіць праз яго. Акрамя таго, у гэты час там кладуць навой (абрубак дрэва, на які навіваюць аснову, ці палатно) і яйка,







якое абавязкова аддаюць жабракам на малітву за «скацінку». Хоць цяпер авечкі і нават рагатую жывёлу выганяюць першы раз у поле трошкі раней, чым на Юр'я, аднак традыцыя патрабуе, каб у гэты дзень скаціну выганялі на «Юр'еву расу». Адметна, што «паміж Юр'еў», г. зн. між 23 красавіка новага стылю і 23 красавіка старога запасваць скаціну строга забараняецца (як і «між Благавешчын»). Строга забараняецца пераносіць з сяла ў сяло ў гэты час бёрда, каб воўк не душыў скаціны [423].

У Парэцкім павеце, выганяючы скаціну першы раз у поле на Юр'я, гаспадар і гаспадыня абыходзяць насельнікаў хлява з абразамі; потым у вароты хлява кладуць пояс, патэльню, сякеру, замок і касу і тады, абавязкова самі, выганяюць скаціну ў поле. Пры гэтым пояс азначае, што скаціна не будзе адыходзіць ад дому, як пояс не адыходзіць ад гаспадара; жалезныя рэчы азначаюць, што як жалеза нельга есці, так і скаціну не можа з'есці ніякі звер.

Выгнаўшы ў поле скаціну, кожная жанчына кідае на тое месца, дакуль яе гнала, свае дубчыкі і пачынае праз іх скакаць (не менш як 3—5 разоў), стараючыся падскочыць як мага вышэй. Адны кажуць, што гэта робіцца, каб скаціна заўсёды так скакала, г. зн. была заўсёды здаровая і вясёлая; другія кажуць — каб лён урадзіў лепшы [424].

Гаспадар выпускае на двор усю свойскую рагатую жывёлу, коней, авечак і свіней. Потым выцягвае ў хляве са страхі тры жмені саломы, зачэрпвае ў калодзежы поўнае вядро вады, абыходзіць з ім па сонцы вакол жывёлы, перакідвае цераз увесь статак камень, а вадой аблівае кожную жывёліну. Гэты абрад гаспадар паўтарае тройчы. Потым ён закопвае ля варот у зямлю замок, бязмен, сякеру і яйка і распальвае на гэтым месцы невялікае вогнішча, у якое кідае выцягнутую са страхі салому. Пасля гэтага ён перадае торбу пастуху, які, сцёбаючы пугаю, выганяе праз агонь усю скаціну з двара. Пераганяюць скаціну цераз агонь дзеля таго, каб асвяціць яе і засцерагчы ад

*нячыстае сілы і ліхіх людзей. Калі закапанае ў зямлю яйка акажацца цэлае — гэта добрая прыкмета: усё лета жывёла будзе цэлая і здаровая. Замок кладуць дзеля таго, каб замкнуць пашчы ваўкам і мядзведзям, бязмен — каб жывёла тлусцела і набірала вагу. Якое значэнне мае сякера, мне не маглі растлумачыць. Жывёлу абліваюць вадою, каб яна была чыстая, без лішаёў і болек і не баялася камароў, мошак, аваднёў. Выцягнутая са стрэх салома мае сілу цягнуць жывёлу дадому. Перакінутыя цераз статак камяні ахоўваюць яго ад звяроў і нячыстае сілы [425].*

*«Як запасваюць статак, цераз яго перакідаюць тры каменьчыкі, каб ваўкі говяда не ўкусілі, як не могуць укусіць камень; статак абносяць саломаю, выцягнутаю са страхі хлява, каб жыўёла цягнула да свайго двара; у варотах закопваюць у землю бязмен, замок, сякеру і курынае яйцо, а зверху прасцілаюць салому да й запальваюць яе. Говяда пераганяюць цераз той агонь, каб к худобе не прыстала ніякае ліха, ніякая хвароба. Калі яйцо говяда не разаб'е, то яно аб восень будзе ўсё цэла, вага яго будзе большая, ваўкі яго не зачэпяць, бо замок ім горла замкне. Сякера кладзецца дзеля таго, каб бараніць ею говяда ад нячыстае сілы да чарадзеяў» [426].*

*У дзень святога Юр'я, перад усходам сонца, плятуць ці ўюць з канопляў доўгія вяроўкі на шырыню брамы. Над тымі вяроўкамі знахар тройчы прамаўляе закляцце, якое гавораць, калі сякуць быдлят, што засталіся ў лесе. Пасля гэтае цырымоніі амулет набірае моц і ўсё лета ахоўвае жывёлу, якая пасецца ў лесе, ад ваўкоў пры ўмове, што статак прайшоў цераз тую працягнутую па зямлі вяроўку [427].*

*На першы выган скаціны ў поле пастухі і ўсе сямейнікі абавязкова абуваюцца: тады ваўкі не будуць падыходзіць да статка.*

*На той жа выган і на час пасьбы пастуху раяць трымаць за пазухаю першае яйка ад чорнай курыцы: тады ваўкі не будуць нападаць на скаціну [428].*

*Кожны пастух абавязкова павінен насіць у кішэні «абыдзённік» (кавалак палатна, вытканы калектыўна жанчынамі сяла на працягу дня — ад усходу да заходу сонца; выконваў функцыю абярэга) і штодзённа аббягаць з ім зранку вакол статка тройчы: тады воўк не падыдзе.*

*Воўк не кране скаціны, калі адшукаць і закапаць перад парогам хлява галаву зарэзанай ваўком жывёліны [429].*

*Каб адвучыць «унадзіўшага да хлеву» ваўка, трэба загнаць перад пралазам у зямлю асінавы кол і насадзіць на яго кола, з якога выпала спіца.*

*Воўк пойдзе з пэўнай мясцовасці, калі абнесці вакол яе і ўтыркнуць на шост галаву зарэзанага ім сабакі [430].*

*Калі выводзяць з хаты маладога вала на першую работу, выціраюць яму пераноссе жаночай кашуляй, каб ён не баяўся ўрокаў... [431].*

*Перад тым як запрагаць маладых валоў у саху, гаспадыня працягвае нітку між сваіх ног і ёю абвязвае рогі валам: яны нядоўга будуць упарціцца. Калі ж і пасля гэтага валы не запрагаюцца, што паказвае на ўрокі, — гаспадыня ўвязвае ім у канцы хвастоў іголкі: урокі неўзабаве адпадуць, і віноўніку іх, а таксама кожнаму «дзіваваўшаму» пачне калоць у вочы.*

*Калі маладыя валы, якія пачынаюць работу, спыняюцца ў той час, як на іх хтонебудзь дзівуецца, трэба ўваткнуць у саху «колічак» ад разбітага маланкаю дрэва: валы не паддадуцца ўрокам і пойдуць як належыць [432].*

## Калі скаціна заблукае ў лесе

*«Каб ваўкі не чапалі ў лесе гаўяда, гаспадар з самае вясны затыкае пад печчу нож ці якое-небудзь жалеза. Воўк тагды не зачэпіць гаўяда таго гаспадара, хіба ўжэ натрапіць не воўк, а ваўкалак» [433].*

*Калі якая-небудзь скаціна заблукае ў лесе, то заганяюць сякеру пад дзвярыма дома, лічачы, што пасля гэтага прапажа вернец-*









*ца, калі толькі не трапіць у зубы якому-небудзь драпежнаму зверу [434].*

*Калі не вярнулася з пашы якая-небудзь скаціна і засталася да ночы не адшуканая, на ноч утыркаюць у хлеўны касяк нож лязом угору. Калі раніцай лязо пакрыецца іржою, то згубленая скаціна ўжо не жывая. Другі нож утыркаюць у зямлю перад тым самым парогам і прыкрываюць гаршком, каб Бог прыкрыў ад небяспекі згубленую жывёліну [435].*

*Калі збяжыць з двара ці заблукае ў лесе карова, то, каб яе не з'еў воўк, трэба забіць у парог нож ці пакласці камень і накрыць гаршком, прыгаворваючы: «Мая кароўка, мая карміліца падворная, сядзі пад гаршком ад ваўка, а ты, воўк, глажы свае бака» [436].*

*Калі карова адстане ад статка і не прыйдзе на ноч дадому, [...] замыкаюць замок на той час, пакуль карова знойдзецца [437].*

*Калі скаціна не вернецца з пашы на ноч, то моляцца святому Ягор'ю, каб ён яе папільнаваў; потым ідуць да знахара і просяць яго «закладаць скот ад звера». Знахар бярэ ў гаспадара замок з ключом, пашэпча над ім, адмыкае ключом замок і кладзе яго на двары, дзе-небудзь паблізу, каб гаспадыня адразу ж магла знайсці; тады скаціна вяртаецца з пашы сама, з дапамогаю д'ябла, «ідала», як кажуць тут. Мне гаварыла адна набожная кабета: «Не люблю я таго; няхай лучча мой скот прападзе, як ён мне вернецца ад ідальскае сілы». Наогул, калі скаціна вяртаецца сама (пасля таго як лічылася згубленай, пераначаваўшы ў лесе), то тут перакананыя, што яе прыгнала нячыстая сіла. Калі скот мае стомлены выгляд, то кажуць: «Як ён яго, беднага, загнаў!» [438].*

*На Каляды кідалі ў печ кавалак жалеза і пакідалі яго там на цэлы год, каб ваўкі не чапалі скаціну [439].*

*«На перву куццю матка кажэ: «Донька, устанем дорану, падмяці хату і вынесі далёка за гарод смецце, коб воўк да хлява не прышоў». Панясу на балота і вынесу» [440].*

## Ад малочных ведзьмаў

*Каб чараўніца не адбірала малака ў кароў, стараюцца знайсці змяю напярэдадні Юр'я, сушаць яе, таўкуць і даюць есці каровам.*

*Альбо: шыюць мяшэчак з нябеленага палатна, адрэзанага з самага канца кавалка, кладуць туды асафетыду (ферула смярдзючая), часнык і соль, асвячоную на Вялікдзень, і завязваюць карове на шыі.*

*Альбо: на Купалле ўторкваюць у вароты аборы пучок крапівы [441].*

*На Івана трэба на варотах хлявоў вешаць дзядоўнік і касу, каб чараўніца не магла пралезці ў хлеў: аб дзядоўнік абколецца, аб касу парэжацца [442].*

*У Пінскім павеце, напярэдадні св. Іаана Хрысціцеля, жанчыны вешаюць па хлявах крапіву і вянкі з асвечаных траў. Каровам прывязваюць да рогаў крыху солі, хлеба і свечкі-«грамніцы». Усё гэта робіцца, каб аберагчы жывёлу ад мору і каб русалкі і ведзьмы не адбіралі ў кароў малако [443].*

*«Каб перасцярагчы кароў ад чараўнікоў, на Купала, калі ўсялякая погань мае вялікую сілу, тады каровам маёвым веццем абвязваюць рогі і свянцонаю крэйдаю робяць на лбе паміж рог тры крыжыкі. Такія ж крыжыкі робяць на варотах у хляве, а самыя вароты завальваюць заваллю і замыкаюць грамнічнаю свечкаю» [444].*

*Некаторыя гаспадыні з парады знахароў — каб засцерагчы ў гэтую ноч сваю скацінку ад ведзьмы — вешаюць над варотамі ў хляве перадвелікодную свечку, якая як быццам мае сілу не пусціць ведзьму ў хлеў. Ведзьма са злосці згрызае ўсю свечку, але не можа зрабіць і самае дробнае шкоды [445].*

*У ноч на Івана Купала, каб ведзьма не прыйшла ў хлеў і не адняла малака ў кароў, трэба ўторкнуць у хляве над дзвярыма перадвелікодную свечку і пучок крапівы. Адначасова трэба зняць у цяляці з шыі вяровачку, прынесці ў хату і пакласці сабе пад падушку — каб ведзьма не магла прывязаць цяля і выдаіць малако [446].*



*Каб уберагчы кароў, на Яна, калі ведзьмы маюць найбольшую сілу, над дзвярыма ў хляве вешаюць грамнічную свечку і асвечаныя травы: «Ведзьма баіцца святых рэчаў і не пасмее іці ў той хлеў, гдзе яны есць». А ў іншых месцах вешаюць ля дзвярэй добра навостраную касу — каб ведзьма, ідучы ў хлеў, разрэзала сабе галаву; на парозе хлява і ў сярэдзіне, а таксама на вокнах у хаце кладуць крапіву [447].*

*«На Купала пастухам не пазваляюць пры чарадзе класці агонь, каб ведзьмы і чараўнікі не бралі жару і тым не рабілі ліха гавяду. Каб усцерагчыся ад ведзьмы ці чараўнікоў на Купала, трэба хлеў, дзе стаяць каровы, абсеяць кругом макам і абсыпаць крапівою-жыжкаю. Ведзьма або чараўнік, каб увайсці ў хлеў, перш павінны сабраць макавыя зернетка, а як пачне ён іх збіраць, то папячэ аб крапіву свае пальцы і кіне турбавацца да й пойдзе міма шукаць другога говяда» [448].*

*Каб не даць ведзьме магчымасці выдаіць кароў, сяляне карыстаюцца рознымі сродкамі. Напярэдадні Івана Купалы жанчыны «свяцяць» хлеў святой вадой, абкурваюць вакол кароў асвечанымі на Івана Купала травамі, б'юць іх вярбой. Над дзвярыма ў хляве вешаюць серп і прымацоўваюць грамнічную свечку, на якой пасля ночы часам заўважаюць сляды зубоў. Месца перад дзвярыма ці варотамі хлява пасыпаюць крапівою, а ў сярэдзіне хлява вакол сцен сыплюць «відук» (гатунак маку) [449].*

*Прыносяць сабраную траву з песнямі дадому і, калі пастух прыгоніць чараду, частку травы даюць каровам звечара, частку пакідаюць на раніцу, а астатнюю раскідаюць па хляве. На ноч вешаюць на вароты ў хляве барану — «каб ведзьма ў пацёмках пабілася, як будзе лезці к каровам малако адбіраць», грамнічную свечку, касу — «каб абрэзалася», іголку і дзядоўнік — «каб пакалолася». Конюхі на начлег не ездзяць, а калі дзе і паедуць, то прывязваюць жарабкоў да свайго будана — іначай ведзьмы завалодаюць імі і паедуць на іх малако адбіраць, а*











адабраўшы, павязуць яго дадому і зусім жарабкоў за ноч замучаюць [450].

Калі ў купальскую ноч ведзьма лезе ў двор (звычайна пад вароты), гаспадар лёгка можа яе ўбачыць. Дзеля гэтага трэба зрабіць з асінавых аднагадовых дубцоў «барану», паставіць яе каля сцяны і схавацца за ёю. Тады гаспадар убачыць ведзьму, а яна яго за асінавай бараною ўбачыць не можа. Біць ведзьму трэба таксама асінавым калом і біць да крыві, але толькі адным ударам. Калі ўдарыць ведзьму некалькі разоў, тады першая рана зажыве, і ўдары ўжо не прынясуць ёй ніякае шкоды [451].

У купальскую ноч улада ведзьмаў дасягае апагею. У гэты час яны бегаюць па полі з дайніцаю і, страсаючы расу, адбіраюць такім чынам малако ў кароў; хлебнай лапатаю бяруць спор з жыта; у збожжы вяжуць завіткі і робяць заломы на ўраджай ці на жывёлу. Гаспадары стараюцца рознымі спосабамі засцерагчыся ад небяспекі: апырскваюць будынкі свянцонай вадою, уторкваюць у загоны на полі і ў дзверы аборы галінкі асіны. Вяртаючыся ад вогнішча, жанчыны збіраліся ў якой-небудзь хаце, клалі ў гарачую ваду цадзілку і варылі яе ўсю ноч з вераю, што гэта ведзьмінае сэрца варыцца, яе рукі баляць, і яна зусім хворая; сушылі ля печы сабраную ўдзень папараць, крышылі яе і высыпалі на досвітку ўпоперак выгану: якая карова не пераступіць папараці і вернецца дадому — па ёй пазнаеш ведзьму (сыплюць таксама асвечаны мак і насенне канапель) [452].

«Як гавяда зачараваны, то трэба ўзяць тую старую падкову, каторую гаспадар нашоў сам, палажыць яе ў гаршчок і варыць. Як пячэ кіпяток, так будзе пекці ў грудзях таго чараўніка, які зрабіў тое ліха.

*Ён не вытрымае і адступіцца ад говяда, а яно выздаравее.*

*Знойдзеная падкова, да яшчэ з цвікамі, перасцерагае гавяда ад чараў, трэба толькі тую падкову прыбіць у хляве к шулу» [453].*

*Малочная ведзьма часам засылае ў хлеў сабаку, у поўсці якога яна хаваецца. Як толькі такі падазроны сабака будзе заўважаны, трэба зайсці ў хлеў з заслонаю, на якую насыпаны асвечаны мак, замкнуць дзверы, каб сабака не выйшаў, і тры разы абысці вакол яго — ведзьма прырасце да сабакі навек [454].*

*Дзень 14 жніўня ў Гомельскім павеце завецца Макавей і Першы Спас. Паўсюды адбываецца хросны ход на ваду — «вадзяная адправа» і асвячаюцца садовыя кветкі і некаторыя агародныя расліны: морква, сланечнік і мак. Асвечаным макам потым абсыпаюць хлявы, а кветкі кідаюць у ваду, дзе купаюць хворых дзяцей [455].*

*У той час, калі жанчыны ў Чысты чацвер мнуць лён, каб сабраць кастрыцу дзеля выяўлення ведзьмы, самі ведзьмы таксама мнуць лён да ўсходу сонца і, голыя, сыплюць кастрыцу на вуліцы. Малако ад першай каровы, якая пройдзе на ведзьмінай кастрыцы (на Купалу), пераходзіць да ведзьмы [456].*

*Каб чалавечая зайздрасць не ўплывала на памяншэнне малака ў кароў, тутэйшыя жанчыны, даючы чужаніцы малако, кідаюць у яго шчопаць солі [457].*

*На Палессі ладанам і воскам абкурвалі купленую малочную пасудзіну, «каб спору хто не ўкраў» [458].*

*Каб малако ў кароў само не выцякала, трэба карове абвязаць рогі чырвонаю жычкаю, а вымя абмыць халоднаю вадою, узятаю з трох калодзесяў, то як рукой зніме.*

*Калі малако вельмі хутка адкіпае ды псуецца, трэба карове падкурыць вымя свентаянскім (купальскім) зеллем і кажаном» [459].*

*Каб ведзьма не адабрала ў каровы малака, трэба прасвідраваць ёй рог, заліць яго ртуццю, а адтуліну заляпіць воскам [460].*

*На Палессі люстэрка паўсюдна вешалі ў хляву, каб ласка ці дамавік не мучылі скаціну, а таксама каб адвярнуць ад скаціны «злое» вока і не дапусціць у хлеў ведзьму [461].*

*На Палессі пояс (асабліва ад мужчынскіх штаноў) прывязвалі на рогі карове, захоўваючы яе ад сурокаў [462].*

*Калі захварэе карова ці іншая жывёла, трэба было ўкрасці штаны суседа і гэтымі штанамі выцерці яе праз жывот і спіну тры разы. Пасля гэтага штаны не вярталі [463].*

*Іншы раз бяруць вяровачку, завязваюць на ёй вузельчыкі, вешаюць у пуні, таксама прыгаворваючы: «Вот еты вузялочак завязываю, штоб ніхто не падкрадаўся к маёй карові» [464].*

*Калі ў кагосьці не вядзецца жывёла (гэта звычайна прыпісваюць чарам), трэба выкапаць у аборы раўкі з кута ў кут, накрыж, і ў месца, дзе гэтыя раўкі сыдуцца, наліць ртуці. Вераць, што адразу моц чараў з такой сілаю вылятае, што ажно часам сцяну пераварочвае [465].*

*На Купалле скаціна вяртаецца з пашы, увенчаная кветкамі, якія застаюцца на ёй усю ноч. Назаўтра вянкі з гэтых кветак асвячаюцца ў царкве і захоўваюцца ў гаспадароў як засцерагальны сродак супраць хваробаў скаціны [466].*

*«Есць на полі такія гэгі (крэмені) з дзірачкамі, што як жывіна мае на шыі завешану, то яна надта памоцна ад рабакоў (чарвякоў) і не дапускае заразы» [467].*

## Конь

*Каб жарабя не з'елі ваўкі, трэба адразу пасля нараджэння працягнуць яго між двух калоў у плоце [468].*

*Часам сарока насылае дамавікоў, якія па начах ездзяць верхам на конях. Каб засцерагчыся ад гэтага, трэба забіць сароку і павесіць яе ў стайні над коньмі. А каб поўсць на конях не курчылася і каб зад каля хваста іх не непакоіў, трэба такім самым чынам выкарыстаць забітага крата [469].*











*Каб новы конь, на якога ў першы раз звычайна ўсе «дзівуюцца», не баяўся «глазу», трэба прывесіць на шыю мяшэчак з чацвярговаю соллю, куды пакласці тры зубкі часныку [470].*

*«Каб каню не шкодзілі ўрокі, то трэба кусочак жычкі (чырвонай тасёмкі) уплесці ў грыво альбо прышыць да ўздэчкі» [471].*

*«Калі мерцвяка завязуць на могілцы на валох ці конях, то потым іх абліваюць вадою, кашулю нябожчыка вешалі ў хляву, каб адвесці ліха ад скаціны [472].*

*«Каб гаўяда ніхто не зачараваў, яму даюць крошкі свянцонага, бо грэх і жывёлу забываць. Толькі коням свянцонага не даюць, бо коні не чыстая жывёла, коней затым і не ядзяць, што Бог іх пракляў за тое, што не схацелі везці Хрыста ў Егіпет, як ён яшчэ маленькі ўцякаў тады ад Ірада» [473].*

*Хлеўнік. Як толькі дазнаюцца, што ён завёўся, адразу ж стараюцца яго выжыць. Згодна з павер'ем, ён псуе скаціну: уначы ездзіць у стайні на конях, ад такой язды конь хутка худнее, слабее і, калі не пазбавіць яго ў час ад Хлеўніка, неўзабаве акалее [...] Самы лепшы сродак выгнаць Хлеўніка такі. Трэба звіць з «пасконі» (канаплі) пугу ў тры «стволкі», на канцы завязаць тры вузельчыкі; ад іх на адлегласці адной пядзі яшчэ тры, а праз пядзю — яшчэ тры. У ноч на маладзік бітую пугу трэба навязаць на асінавае пугаўё, а перад варотамі паставіць жароўню з асінавым жарам; вуглі могуць быць і іншыя, але асінавыя нібыта найлепшыя. Калі ўсё гэта гатова, трэба ўзяць карову ці кабылу за хвост і гнаць яе цераз хлеў да дзвярэй, сцябаючы наводмаш пугай і стараючыся перагнаць цераз жароўню. Гэтак трэба перагнаць усіх кароў і коней, прыгаворваючы: «Пашла, хіра (немач, хвароба, погань), на ўзвей вецер!» Калі на якой-небудзь жывёле і сядзеў Хлеўнік, то ад уздзеяння пугі з «пасконных» валокнаў, якая рассякае яго цела да крыві, ад агню, якога ён баіцца, і, нарэшце, ад замовы, якая мае*

*чароўную сілу, ён не адважыцца вярнуцца назад і пакіне статак у спакоі [474].*

*«Каб Чорт не ездзіў на каню, то трэба яго чалавечым памётам вышмараваць альбо лепш павесіць сароку забіту там, дзе конь стаіць, бо за памёт часам са злосці пераломіць ногу каню альбо праб'е чым каня».*

*...Каб д'ябла адстрашыць ад свае стайні, гаспадары звычайна вешаюць у ёй т. зв. «Стралу», г. зн. сякеру ці молат з каменнай эпохі, якія лічаць справай рук Бога [475].*

## Каза

*Калі воўк зарэжа казу, то, кажуць сяляне, галаву яе закопваюць у зямлю. Жыхары той вёскі, адкуль знікла каза, неўпрыкмет стараюцца знайсці яе галаву, каб на будучае засцерагчы сваю скаціну ад ваўкоў. Але тут трэба выканаць яшчэ некаторыя абрады: знайшоўшы галаву, да рагоў яе прывязваюць пояс; пояс гэты надзявае хто-небудзь з сялян, папярэдне пачапіўшы на яго замкнёны замок. У такім выглядзе селянін ідзе па мяжы земляў сваёй вёскі і цягне за сабою галаву. Абыйшоўшы межы, ён адвязвае галаву і выкідае яе, а сам ідзе дадому. Пасля гэтага, як лічыцца, ваўкі ўжо не будуць цягаць скаціну [476].*

## Ад паморку жывёлы

*«Чым толькі пошасць ні скідаецца — то худою страшэннаю жанчынаю, то якім-небудзь жывёлам, якое ходзіць па зямлі. Толькі ёй нявелена скідацца птахам, бо тагды б яна ўвесь свет загубіла, пералятаючы па паветры з вёскі да вёскі. Дак ей велена хадзіць пешкі ці прасіца, каб якім-небудзь ашуканствам уехаць у вёску. А тут людзі то абаруць вёску ці абчэрцяць яе смаляным з двух канцоў ожагам, а то на канцах вуліцы дзень і ноч кладуць агонь, да яшчэ не просты агонь, а той агонь, што выціраюць брускамі дзерава, палажыўшы адзін з іх на парозе ў цэркві. Ніяк няможна пагануй пошасці пераскочыць цераз баразну ці цераз абчэрчаную мяжу. Сунецца яна пралезці па вуліцы, дак куды там — святы агонь пячэ, бы ў горне» [477].*

*Каб пазбавіцца ад паморку, у былыя часы, як расказвалі старыя людзі, практыкавалі такі спосаб. Маладыя дзяўчаты запрагаліся ў саху, а старыя бабы бралі ў рукі патэльні, косы і іншыя брынклівыя прадметы і, раздзеўшыся дагала, з гучным крыкам, віскам, шумам, трэскам абводзілі баразну вакол вёскі. Увесь гэты шум меў, напэўна, на мэце напалохаць моравую панну і выгнаць яе з сяла, калі яна ў ім засела; а баразна — гэта своеасаблівае «чуранне», зварот да Чура, каб ён не пускаў хваробу праз мяжу ўладанняў свайго роду. Народ верыць, што праз такую мяжу мор не пяройдзе. Усім загадзя паведамляюць пра гэтае. Мужчыны не павінны ўдзельнічаць, а калі нехта з іх трапіцца на дарозе, яго забіваюць да паўсмерці [478].*

*Калі мясцовасці пагражае заразная хвароба, жыхары адной ці некалькіх суседніх вёсак карыстаюцца такім сродкам. Двух валоў-блізнят запрагаюць у саху, зробленую, калі магчыма, майстрам з блізнят. На кіраванне сахою і валамі выбіраюць таксама братоў-блізнят, з якіх адзін кіруе жывёлаю наперадзе, а другі правіць сахою. У суправаджэнні ўсіх жыхароў вёскі, не выключаючы немаўлят і ляжачых хворых, якіх здаровыя нясуць на руках, праводзяць баразну (часам тры) вакол вёскі, улетку — па зямлі, а ўзімку — па снезе. Гэта «балезная баразна» мае такую сілу, што праз яе цэлы год не пяройдзе не толькі заразная хвароба, але і звер [479].*

*«Як часамі бывае пошасць на людзей ці паморак на гавяда, то вёску абворваюць сахою, у каторую запрагаюць валоў ад аднае каровы; соху трымае брат, а валоў вядзе яго сястра, яшчэ дзеўчына. Ад гэтага пошасць ці паморак пакідаюць тую вёску» [480].*

*У час цяжкіх бедстваў, як, напрыклад, пад пагрозаю голаду, таксама як і пошасцяў на людзей і скаціну, цэлыя вёскі даюць зарок выткаць за адзін дзень «абыдзённік», г. зн. кавалак палатна з нітак ільну, спрадзеных у той самы дзень, і гэтае палатно вешаюць на вобраз Божай Маці [481].*







*Каб зараза не наведвалася, збіраюцца жанчыны і разам стараюцца за адну ноч спрасці і выткаць кавалак палатна, якое потым рассцілаюць на сцежцы. Альбо запальваюць вогнішча агнём, здабытым ад трэння сухога асінавага дрэва і потым праходзяць праз дым [482].*

*«Калі падаець ад халеры скаціна, то трэба выткаці ручніка, але так, каб за адну ноч кілька баб і напралі нітак, і выткалі із гэтых нітак гэтага ручніка. У тую ж ноч, як рассвітае, трэба чэраз той ручнік пераrнаці ўсю скаціну і таўды — або заўсім перастане падаці скаціні, або будзе падаці заўсім пакрысі» [483].*

*Калі ў вёсцы пачынаецца мор скаціны, гаспадары малююць на ўсіх варотах, праз якія праходзіць скаціна, вялікія крыжы «чыстым» дзёгцем (г. зн. выгнаным з бярозавай кары); потым тым жа дзёгцем мажуць ілбы ў жывёлы. Калі ж эпідэмія не спыняецца, староста склікае ўсіх жанчын і дзяўчат з сяла ў адну хату, тыя прыносяць па жмені льну і тут агульнымі намаганнямі прадуць, снуюць і ткуць за адзін дзень кавалак палатна сажні на дзве, на тры даўжынёю. У той жа час мужчыны крадуць дзе-небудзь застаўку ад млына і закопваюць яе на той дарозе, па якой ганяюць скаціну, засцілаюць гэтае месца «абудзёншчыкам» (г. зн. толькі што вытканым палатном) і праз яго пераганяюць статак. Пасля гэтага «абудзёншчык» аддаюць у царкву і просяць прычт адслужыць абедню [484].*

*Ад заразнай хваробы тчэцца «абыдзённік-ручнік». Найстарэйшая з вясковых жанчын з самай малодшай дзяўчынкаю абыходзіць усе хаты і «калядуіць лён», беручы яго з кожнай душы па стольки, колькі можна заняць трыма пальцамі. Пры гэтым яна прызначае з гэтага дома неабходных работніц, якімі павінны быць удовы і малалетнія дзяўчынкі, пераважна першыя дочкі. Збор ільну трэба закончыць да заходу сонца; пад той час усе работніцы «абыдзённіка» збіраюцца ў дамоўленае месца і пачынаюць працу, калі тухнуць апошнія промні сонца. Тут яны агульнымі сіламі робяць з ільном усё, да поўнага ператварэння яго ў ручнік, г. зн. трэплюць, чэшуць, пераганяюць, звіваюць у кудзелю, прадуць, снуюць, ткуць, беляць, мыюць, сушаць і качаюць. Да ўсходу сонца «абыдзённік» павінен быць гатовы. Да гэтага часу сюды збіраюцца ўсе жыхары вёскі і, несучы наперадзе «абыдзённік», абыходзяць вёску (часам тройчы). Пры гэтым самая малодшая з работніц нясе «абыдзённік» аберуч наперадзе, а самая старэйшая замыкае шэсце і, разматваючы клубок нітак, якія засталіся, адчапляе непарыўнаю ніткаю пройдзены круг. Вялікай удачаю лічыцца, калі ніткі хопіць у абрэз; менш удала, калі застанецца кавалак; зусім будзе блага, калі ніткі не хопіць — у гэтым разе пошасць можа з'явіцца праз адчынены ўваход. Пакладзеная такім чынам нітка захоўвае ўсю сілу баразны. Няма патрэбы дабаўляць, што шэсце ў абодвух выпадках адбываецца ў поўнай цішыні і парадку, парушальніку якіх пагражае смерць. Калі на абыход запрашаюць прычт, то «абыдзённік» навязваюць да царкоўнага вобраза і потым ахвяруюць царкве; у іншым выпадку яго завязваюць на дарожны крыж, пераважна на такі, дзе ёсць распяцце. Гэтае ахвяраванне трэба зрабіць да канца сутак, лічачы ад часу, калі пачалі «абыдзённік» [485].*

*«Шуткуе пошасць, каб каго абшукаць да як-небудзь прыплішчыцца ў вёску. Але хоць і прыплішчыцца да пачне там завіхацца, да ось зноў бяда — збяруцца бабы са ўсяе вёскі да ў адзін дзень напрадуць, аснуюць да й выткуць такое палатно ці рушнікі, што ім апяражуць усю царкву. Потым пасцелюць тое палатно на зямлі, а другі канец яго падымуць угору да ўсе сялом пройдуць самі да й прагоняць гаўяда, тады пошасць ужэ не можа тут даць рады і хутчэй пойдзе далей шукаць, дзе ёй лепш» [486].*

*У прызначаны дзень, да ўзыходу сонца, збіраюцца дзяўчаты з усяго сяла ў адну*





*хату, і кожная з іх прыносіць з сабою па жмені льну. Яны дружна, але ў глыбокім маўчанні пачынаюць працаваць: прадуць лён, снуюць аснову, ставяць кросны і ткуць палатно. Калі палатно гатова, усе жыхары выходзяць за вёску і абыходзяць вакол яе, прычым дзяўчаты, што ткалі палатно, нясуць яго над галавой з тужлівым спевам: аю-га! Калі зробяць поўны абыход, то на тым месцы, з якога выйшлі, раскладваюць невялікі агонь з трэсак ці лучынак, прынесеных з кожнага двара. Дзве дзяўчыны трымаюць за канцы палатно над агнём, а ўсе жыхары вёскі пераходзяць праз агонь і пераносяць дзяцей і хворых. Калі ўсе выканаюць гэту цырымонію — палатно спальваюць на тым самым агні. Усё гэта трэба зрабіць за адзін дзень, з узыходу і да заходу сонца [487].*

*Ануча, якой звязвалі нябожчыку ногі, ахоўвала скаціну ад падзяжу [488].*

## ПТУШКАГАДОЎЛЯ

*Курэй, якія рэдка несліся, працягвалі праз нагавіцы ці спадніцу [489].*

*«У Чысты чацвер штаны такія маленькія ткалі і на плот вешалі, каб каршун ціплят не хапаў» [490].*

*Каб куры не ішлі да суседа, трэба напярэдадні Калядаў аббегчы тройчы вакол хаты, кідаючы снежкамі [491].*

*Каб куры не сыходзілі з двара і не знікалі, трэба ў першы дзень Каляд пасыпаць у абруч зерня і пакарміць іх [492].*

*На Палессі здохлую курыцу закопвалі с замком на шыі каб іншыя куры не дохлі [493].*





## ПЧАЛЯРСТВА

*Каб раі не сыходзілі, закопваюць у пчальніку цвік з шыбеніцы [494].*

*«Чэрап лашадзіны вешалі на забор там, дзе пчолы. Казалі, каб (пчол) не зглазілі. А браці чэрап (трэба) не ў сваёй дзярэўні, а з-за граніцы — з другой дзярэўні» [495].*

## МАЁМАСЦЬ

### Будаўніцтва хаты. Улазіны

*«Закладаючы хаты або які будынак, добра пад усе чатыры вуглы падлажыць зелля свянцонага і вяночкаў, то злое не мецьме прыступу» [496].*

*На закладзінах дома пад усе чатыры яго вуглы трэба пакласці кавалачак ладану, свянцоныя зёлкі ці хвойныя галіны, каб засцерагчы дом ад перуноў... Разам з зёлкамі карысна пакласці па жмені першай мукі, змолатай на новым млыне ці ў новых жорнах. Калі ў такі дом калі-небудзь залезе злодзей, то ён не выйдзе адтуль, пакуль не выпусціць гаспадар [497].*

*Пры пабудове дома нож клалі пад пярэдні вугал вастрыём на захад, каб дому і жыхарам ніхто не змог наносіць зло, каб яно «ўкалолася» аб нож [498].*

*«Калі хату будуюць чужыя людзі, то ім годзяць як магуць, каб яны не ўдзеялі якога-небудзь ліха, бо ведама, што пры будове хаты варагі могуць залажыць чыю хочуць голаў: гаспадара, гаспадыні, каго-небудзь з сям'і, гавяда, або цыркуна, або прусака. На каго заложаць, той і загіне. А залажыць трэба, канешне, бо без таго загіне сам*

*цесля. Больш усяго закладваюць на голаў певуна і хутка бяруць яго і жывым закапваюць у зямлю на том мейсцы, дзе будзе печ у новуй хаце» [499].*

*Калі «вяршаць» хароміну, гаспадар перакідвае праз яе асвечанае яйка, якое адразу ж закопвае на месцы падзення: вецер не будзе здзіраць страхі [500].*

*Калі вершаць хату ці другую хароміну, то гаспадар перакідае цераз яе медзяную дзесятку, якую потым дае старцам ці на цэркаў. Як гэта зробіць гаспадар, то яго хароміна не будзе баяцца самага вялікага ветру або віхору [501].*

*«Як селяцца на новум месце, то яго напярод абворваюць валамі ад аднае каровы. Соху трымае брат, а валоў вядзе сястра. Гэта робяць, каб шчаслівілася на новум месце» [502].*

*Хрышчэнскаю вадою апырсквалі... новую хату перад засяленнем, труну перад тым, як пакласці ў яе нябожчыка [503].*

*Пры пераездзе ў новую хату гаспадыня, пакуль не ўзыйдзе сонца, аббягала вакол хаты голая, стукала ў вароты, каб павялічваліся «род і плод» [504].*

## Ад пажару

*Адзін з абразоў у час пажару абносяць вакол пажарышча і кідаюць у агонь асвечанае велікоднае яйка, якое некаторыя старыя жанчыны адмыслова захоўваюць дзеля такіх выпадкаў [505].*

*Калі абнесці вакол ахопленай полымем забудовы св. артас (вялікая прасфора з выяваю крыжа ці ўваскрасення Хрыстовага; у суботу на велікодным тыдні артас дзеляць і раздаюць вернікам як святыню, і ён ужываецца разам з хрышчэнскаю вадою перад пачаткам ежы) тройчы і кінуць яго ўбок, дзе няма забудовы, то вецер накіруе полымя ў той бок [506].*

*Калі дом загарыцца ад запаленай печы, адзін з яго жыхароў павінен распрануцца дагала і з кавалкам артоса ў руках абегчы тройчы вакол дома, усёй сялібы і нават вёскі, каб прадухіліць пашырэнне пажару [507].*

*Каб захаваць дом ці другую будыніну ад суседняга пажару, голая дзяўчына ці маладуха аббягае тройчы з поўным гладышом малака вакол ахопленага агнём збудавання і кідае гладыш у агонь: пасля гэтага полымя не пойдзе ўшыркі, а вузкім слупом стане падымацца ўгару [508].*

*Пажар аббягаюць вакол з бутэлькай свянцонай вады [509].*

*Калі абнесці вакол ахопленага агнём дома хлеб, то агонь не будзе далей пашырацца, толькі трэба, каб хлеб захацеў гэтага. Некаторыя, абнёсшы хлеб вакол дома, кідаюць яго ў агонь, лічачы, што тады пажар спыніцца. Гэты звычай нагадвае ахвяру агню; відаць, тут сіла не ў хлебе, як нам тлумачылі сяляне, а ў тым, каб задобрыць агонь [510].*

## Ад шкоднікаў

*Каб ачысціць дом ад шкоднікаў, трэба ў Чысты чацвер абліць вуглы вадою. Каб не вадзіліся блохі, не трэба паліць дзеркачы (старыя венікі); трэба таксама трымаць пад пасцеллю конскі капыт. Выносяць на двор да сонца ў Чысты чацвер чыстую дзяжу на стале. Напярэдадні трэба вымесці сад і скласці смецце ў адну кучу, а ў чацвер яе спаліць перад усходам сонца. Тады ніводнага вусеня не будзе на дрэвах у садзе [511].*

*Каб выгнаць з хаты ці папярэдзіць з'яўленне ў ёй шкоднікаў (блох, тараканаў і інш.), жанчыны ў гэты дзень раніцай да ўсходу сонца прымушаюць сваіх непаўналетніх дзяцей прабегчы голымі тройчы вакол хаты, але так, каб ніхто з чужых іх не бачыў [512].*

*Шкарлупінне (ад велікодных яек) трэба затыкаць у шчыліны бярвенняў у хаце, «каб не вадзіліся прусакі» [513].*

*«Зуб ад бараны затыкалі пад бэльку ці за печку, каб у хаце не было клапоў» [514].*









## Ратаванне ад буры, граду, грому

*Грамавымі стрэламі народ называе прылады каменнага веку пераважна неалітычнага перыяду, шліфаваныя. Там, дзе зрэдку сустракаюцца акамянеласці-белемніты, народ дае ім назву «перуновых стрэлаў». У іншых месцах іх завуць чортавымі пальцамі (прабег). У адных мясцовасцях іх захоўваюць у доме, каб адхіляць удары маланкі; у другіх, наадварот, думаюць, што перунова страла якраз і прыцягвае ў дом маланку [515].*

*Каб Бог адвярнуў грамавы ўдар ад дому ў час навальніцы, трэба пакласці на распаленае вуголле асвячонай солі і травы [516].*

*«У грымоты трэба курыць у хаце свянцоным падарожнікам, каб Бог сцярог ад прыпадку» [517].*

*«Падчас буры кідаюць на жар чартапалох, які ахоўвае дом ад удару перуна і нават паварочвае ў іншы бок раз'юшаную буру» [518].*

*Сярод розных засцерагальных сродкаў у час навальніцы чарнабыльнік трэба лічыць адным з надзейных. Таму ў кожным доме чарнабыльнік трымаюць на печы цэлы год, каб падпальваць яго ў хаце ў навальніцу. Вельмі важна мець хоць крыху асвечанага (24 чэрвеня ці 1 жніўня) чарнабыльніку [519].*

*Каб разагнаць навальнічныя хмары, кідаюць у агонь палын і звоняць [520].*

*Калі грыміць, то трэба ўкінуць у печ ільну, запаліць і пакурыць грамнічнаю свечкаю, потым выкінуць на двор хлебную лапату [521].*

*«Як находзіць вялікая хмара, а хто-небудзь адчыніць комін да закурыць на прыпеку свянцонае зелле, то хмара паверне ўбок і дажджу не будзе» [522].*

*Калі ўбачаць градавую хмару, адломваюць некалькі галінак асвечанай вярбы, бяруць разнастайныя травы, зелле, асвячонае на Іаана Хрысціцеля летась, на «Зельную» («Прачысту»); кідаюць усё гэта на гарачае вуголле: думаюць, што хмара пасля гэтага пройдзе без шкоды [523].*

*Пры надыходзе навальніцы ці набліжэнні небяспечнай хмары вербны пучок ці ставіцца на падаконнік у бок навальніцы і хмары, ці выстаўляецца на знешнім баку акна, каб адагнаць навальніцу і хмару... [524].*

*«Як грыміць — паставяць у хляве, у хаце на куці вербу» [525].*

*Каб разагнаць навальнічныя хмары... раздзіраюць сланечнік ці алешыну, і хмары разыходзяцца [526].*

*«У вялікую буру і грымоты трэба вынесці на падворак абрус, на каторым ксёндз свянцонае свянціў на Вялікдзень, і тым абрусам паражагнаць хмару на чатыры стораны света, то яна на чатыры часці расступіцца» [527].*

*«У нас такая ўстанова, што абруса велікоднага не мыюць да восені, пакуль грымоты не мінуцца» [528].*

*Косці ад мяса, асвячонага на Вялікдзень, збіраюцца з усёй стараннасцю: частку іх закопваюць у зямлю, на палях сваіх, з упэўненасцю, што яны засцерагуць засеяны хлеб ад граду, другую — захоўваюць у сябе, каб адводзіць буру: у час набліжэння хмары кідаюць косці ў агонь, сцвярджаюць, што гэта разганяе навальніцу [529].*

*Каб назаўсёды засцерагчы вёску ад граду, трэба яе граніцы абараць парай чорных валоў-блізнят. Дзякуючы гэтаму спосабу, як лічыць народ, некаторыя сёлы з прадаўніх часоў абыходзяць градавыя буры. Іншыя раяць з той жа мэтаю на чатырох рагах граніц закапаць косці з велікоднага барана ці чаго-небудзь са свянцонага, прывезенага з іншай вёскі; нарэшце, закапаць запісаныя на лістках чатыры малітвы з Евангелля, чытаныя ў дзень Божага Цела [530].*

*Калі градавая хмара навісае, тады выкідваюць на двор хлебную лапату — гэта значыць хлебам яе сустракаюць, бо баяцца [531].*





**Інтэр'ер жылля канца XIX — пачатку XX ст.**

**Сядзіба Смольня (Стаўбцоўскі раён)**





*Калі пачынаецца навальніца, трэба ўзяць і доўга трымаць у руках цэлы бохан ці ладную скібку хлеба, тады гром не кране чалавека, хоць і будзе грукатаць паблізу [532].*

*Калі ў час градавага дажджу вынесці з хаты на двор на хлебнай лапаце серабро, уціральнік і асвечаную вярбу, то град перастане, але дождж усё-такі будзе працягвацца [533].*

*«Ад гразы наверх на сенцы клалі перавернутую лапатку, што хлеб у печ садзяць, і перавернутую скавараду» [534].*

*Каб разагнаць хмары ці спыніць дождж, аб'язджаюць тры разы вакол дома на драўлянай лапаце [535].*

*«Як сыпане град, у нас выносяць хутчэй на двор дзяжу, лапату, а то века з дзяжы, а на яго кладуць вобраз святога Міколы. Другія хутчэй адтыкаюць комін да паляць на прыпеку свянцонае зелле мінушкі. Як толькі дымок падымецца ўгору, то град і сунімецца» [536].*

*Каб град не прыносіў урону, трэба вясной бабам з усяго сяла сабрацца ў адну хату і за ноч напрасці і выткаць ручнік, назаўтра аднесці яго ў царкву, асвяціць, затым павыцягваць з гэтага ручніка ўсе ніткі і апаясаць імі поле наўкола, тады Бог будзе захоўваць ад граду [537].*

*Падчас буры звычайна запальваюць асвечаную свечку перад абразом апекуна вёскі ці св. Іллі і чытаюць адпаведныя малітвы, але не з мэтаю непасрэдна адвесці перуна, а супраць д'ябла, які, уцякаючы ад перуновай стралы, можа схавацца ў хаце і падвесці гаспадара і сям'ю да згубы ў момант расправы Іллі з нячыстай сілаю... Небяспечна таксама думаць пра чорта... У часе буры няможна біцца, бо хаця Дамавік сядзіць у гэты час у склепе, аднак,*

*справакаваны, выйдзе са сховішча і, умяшаўшыся ў інтрыгі, не зважаючы на тое, што св. Ілля спагадліва ставіцца да яго, можа аказацца ўзятым на прыцэл, як звычайны д'ябал [538].*

*«Свяцяць свечкі на Стрэчанне. Паляць, коб граза не біла ў хату. Як ідзе така туча, запальваюць свечкі, моляцца богу. «Отча наш» моляцца, «Верую» моляцца»* [УЗ, в. Ракітна Лунінецкага раёна].

*«Як моцно грыміць, то запальваем у хаце свечку (Грамнічную. — Заўв. аўт.), коб бог послаў спасеніе, коб у хату нічого не зробылоса. Нада свечка коб у хаце была, як грыміць, то запальваемо. Як захварэў — то паляць свечку»* [УЗ, в. Ракітна Лунінецкага раёна].

*«На Устрэценье свечкі в цэркві паляць. То ў нас та свечка есць свенцона. Палім у хаце і робім крэсцікі свечкай. На дзвярах, зверху, на гэтай дошцы»* [УЗ, в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна].

*«Маці, як прыйдзе з цэрквы, свечку прынясе дадому, запаліць і падсмалюе трошкі спераду, ззаду, справа і злева накрэст, шоб грому не баяліся; усіх падсмалюе і дае чы дочцы, чы мужыку і кажа: бяры і мяне падсмалюй» [539].*

*Калі насоўваецца грозная хмара, кажуць закляцце: «Ідзіце, хмары, на татарскія горы, у нас вады досыць, носяць вёдрамі, разліваюць цэбрамі». Тут трэба перахрысціць хмару [540].*

*Каб пярун не ўдарыў у будыніну, карысна трымаць тут кавалачак разбітага маланкаю дрэва ці хоць трэсачку ад яго [541].*

*Каб спыніць дождж, чараўніца «вешала на двары гаршчок на тапарышчы, якое заганяла ў сцяну; ад гэтага хмары разыходзіліся» [542].*

*«Каб пярун не ўдарыў у будынкі, то найлепш дзе на страху борану завалачы, каб бусел гняздо залажыў» [543].*

*«Калісь не давалі пакойніка адкрытым везці, бо град будзе. Цяпер хаваюць адкрытым» [544].*

*Калі дзяўчына цяжарная ідзе пад вянец, то ў яе павінны кідаць камяні, а то будзе град [545].*

*Каб не баяцца грому, як толькі ён пачнецца, трэба пайсці ў лес і здзерці кару воўчага лыка і насіць яе пры сабе [546].*

*«Каб грымотаў не баяцца, то трэба есці цвілы хлеб» [547].*





*«Калі бура надходзіць з грымотамі, то трэба ўзяць таго кія, што разагналі вужа, як жабу нёс, перажагнаць хмару тым кіем, то пойдзе бокам альбо разаб'ецца на дзве палавіны» [548].*

*«Як перуны б'юць, то найбяспечней у лён схавацца або на льнішчу пастаяць» [549].*

*Каб адагнаць хмары, чараўніку трэба скінуць з сябе світку, вывернуць яе — і хмары адразу разыдуцца [550].*

*Каліна засцерагае ад перуна... Аздабленне святых абразоў галінкамі з цветам каліны ці з ягадамі, як і хаванне ягад у стагі, можа захаваць дом і сена [551].*

*Земляробы на Купалу забіваюць па вуглах сваіх палёў асінавыя калы, у верхні расшчэплены канец якіх зашчымліваюць камяні, — вераць, што гэтыя калы засцерагуць іх палі ад граду [552].*

## Ратаванне ад засухі

*«Сабраліся ж бабы да шлях аралі, ну багата баб сабярэцца, давайце плуга... ета не то што шлях — круга сяла абараць тры разы ж ецім плугам прайці. Запрагуць ужэ баб, а тыя ідуць да паганяюць: ей, арыма; а адна плуг дзяржыць, а труйку баб запражэ, а тыя ўжэ ідуць да смотраць. Так ета. І круга сяла тры разы. Тады дош пуйдзе» [553].*

*«Абворвалі... крэст, дак старыя бабы запрагаліся» [554].*

*Мак-відук (што сам насяецца). Калі часамі летам сталася вялікая суш, што доўга дажджу ня было, дык гаспадыні да ўсходу сонца сыплюць у студню мак-відук, каб дождж пайшоў [555].*













*«Ад засухі на магілу самазабойцы (які павесіўся) лілі ваду крыжам, але перад гэтым абыходзілі з іконай цэркву» [556].*

ЗЕМЛЯРОБСТВА

## На ворыве

*Калі аруць валамі, то да сахі падводзяць таго вала, якога будуць запрагаць з правага боку. Калі валы запрэжаныя, араты з вядром вады і загорнутым у абрус боханам хлеба тры разы абыходзіць вакол валоў і сахі, дае валам нюхаць хлеб і ваду і гаворыць: «Тады з'ясцё і сап'яцё, як заробіця». Хлеб і вада засцерагаюць ад нядобрых стрэч на шляху да нівы і назад [557].*

*На Серадапосце гаспадыні пякуць крыжы з цеста і кладуць іх у засекі з мукою і зернем, «каб нячыстая сіла не паскудзіла». Адзін з такіх крыжоў павінен знаходзіцца ў сявеньцы ў час сяўбы [558].*

*Сабраныя ад свянцонага косткі трэба закапаць у розных месцах аржаного поля перад світанкам Юр'евага дня — каб ведзьмары не рабілі ў жыце заломаў і «закрутней» ці каб гэтае чарадзейства не шкодзіла, калі застанецца незаўважаным [559].*

*Напярэдадні Св. Яна, адразу пасля паўдня, дзяўчаты з усяе вёскі збіраюцца на вуліцы і цягнуцца карагодам «на краскі», г. зн. па кветкі, каб асвячаць іх на вянкі. Вяртаюцца пад вечар з бярэмем кветак і галінкамі розных дрэў. Па адной такой галінцы ўторкваюць у кожны палетак, куток саду, нівы, прычым на кожны від раслін пасаджанага збожжа ёсць асобнае, толькі яму адпаведнае дрэва. Напрыклад, у лён уторкваюць кляновую галінку са словамі: «Як дзярэва клён, дай нам, Божа, лён!» Потым, уваткнуўшы ў кутку нівы, дзе пасаджаная канюшына, асінавую галінку, кажуць: «Густа, як асіна, расці, канюшына!» Потым: «Як вецейкі ў бяроз, стolькі зёран дай, авёс!» і г. д. Кожная такая ніўка ўжо абароненая ад усіх нягодаў [560].*

*Пасеяўшы каноплі, пераварочвалі саху і барану ўверх зубамі, каб раслінам не пашкодзіла ліхое вока [561].*

*Лён пасеюць, то нясуць дзеркача і ўторкваюць у той лён, каб ніхто не зрок [562].*

*Каб ведзьмы не пашкодзілі будучаму ўраджаю, не зрабілі заломаў, іншы раз у жыта кідалі галавешкі ад купальскага вогнішча [563].*

*Усе дзяўчаты аднае сям'і тройчы аб'язджаюць вакол сваёй сялібы верхам на па-*









*мяле — каб вераб'і напалохаліся і не рабілі шкоды ячменю, просу і каноплям [564].*

## На жніве

*«На Серадапосце храсты пякуць і ядзяць па вуглам, каб сярэдзіна не балела, як жнуць» [565].*

*«Каб у жанцоў не балелі рукі, зажынаючая жанчына абвязвае сваю правую руку чырвонаю ніткаю або жычкаю. Калі ж у каго з жанцоў забаліць рука, то той хутчэй абвязвае сабе руку чырвонаю ніткаю [566].*

*У жанцоў не будзе балець сярэдзіна, калі яны не будуць здымаць з сябе чырвонага паяска. От затым жанкі, як яны самі без мужчын жнуць жыта, то часта скідваюць з сябе і сарочку, а толькі застаўляюць паясок [567].*

*Каб не балела сярэдзіна, жанчына, як першы раз пойдзе жаць, робіць сабе пояс з перавясла да й падпярэзваецца так, каб каласы былі ззаду. Яшчэ лепш, калі тая жанчына раздзенецца, бы маці радзіла, да так і пажне дзень» [568].*

*«Калі сярэдзіна баліць з таго, што часта схіляецца, як, напрыклад, жанцы жнуць, як пяруць плацце або палотна, то трэ падперазацца чырвоным суконным поясам ці леташнім перавяслам, то сярэдзіна і перастане балець [569].*

*Калі ломіць руку, то яе трэ перавязаць жычкаю ці чырвонаю суконнаю ніткаю» [570].*

*Каб не балела спіна ў час жніва, жанчынам у Чысты чацвер трэба спрасці тры ніткі перад усходам сонца, седзячы на парозе хаты. У час зажынак гэтымі ніткамі трэба падперазацца [571].*

*«Як баліць рука зажаўшы, то найлепей абвінуць яе вужовым ліняннем, то перастане балець» [572].*

*Каб падчас жніва не вывіхнуць рукі, жнеі звычайна перавязваюць правую руку ў суставе жычкай або ваўнянаю ніткай такога колеру, якой было перавязанае пасвянцонае зелле [573].*

## На агародзе

*«Асот ды лебяда — чортава яда». Каб пазбавіцца ад асоту, які глушыць каноплі, некаторыя сяляне на хрышчэнскую каляду на качарзе аб'язджаюць агарод [574].*

















*мяле — каб вераб'і напалохаліся і не рабілі шкоды ячменю, просу і канопплям [564].*

## На жніве

*«На Серадапосце храсты пякуць і ядзяць па вуглам, каб сярэдзіна не балела, як жнуць» [565].*

*«Каб у жанцоў не балелі рукі, зажынаючая жанчына абвязвае сваю правую руку чырвонаю ніткаю або жычкаю. Калі ж у каго з жанцоў забаліць рука, то той хутчэй абвязвае сабе руку чырвонаю ніткаю [566].*

*У жанцоў не будзе балець сярэдзіна, калі яны не будуць здымаць з сябе чырвонага паяска. От затым жанкі, як яны самі без мужчын жнуць жыта, то часта скідваюць з сябе і сарочку, а толькі застаўляюць паясок [567].*

*Каб не балела сярэдзіна, жанчына, як першы раз пойдзе жаць, робіць сабе пояс з перавясла да й падпярэзваецца так, каб каласы былі ззаду. Яшчэ лепш, калі тая жанчына раздзенецца, бы маці радзіла, да так і пажне дзень» [568].*

*«Калі сярэдзіна баліць з таго, што часта схіляецца, як, напрыклад, жанцы жнуць, як перуць плацце або палотна, то трэ падперазацца чырвоным суконным поясам ці леташнім перавяслам, то сярэдзіна і перастане балець [569].*

*Калі ломіць руку, то яе трэ перавязаць жычкаю ці чырвонаю суконнаю ніткаю» [570].*

*Каб не балела спіна ў час жніва, жанчынам у Чысты чацвер трэба спрасці тры ніткі перад усходам сонца, седзячы на парозе хаты. У час зажынак гэтымі ніткамі трэба падперазацца [571].*

*«Як баліць рука зажаўшы, то найлепей абвінуць яе вужовым ліняннем, то перастане балець» [572].*

*Каб падчас жніва не вывіхнуць рукі, жнеі звычайна перавязваюць правую руку ў суставе жычкай або ваўнянаю ніткай такога колеру, якой было перавязанае пасвянцонае зелле [573].*

## На агародзе

*«Асот ды лебяда — чортава яда». Каб пазбавіцца ад асоту, які глушыць каноплі, некаторыя сяляне на хрышчэнскую каляду на качарзе аб'язджаюць агарод [574].*

Традыцыйныя беларускія абярэгі



*Каб вывесці асот і іншае пустазелле ў агародзе і на полі, трэба закапаць на чатырох канцах агарода і нівы свянцоныя косткі ад велікоднага мяса [575].*

*Каб у агародзе ўсё радзіла, вешае селянін на плоце конскі чэрап; калі ж яго няма паблізу, знаходзіць дзесьці і прыносіць. Ён павінен быць умясцільняю шчасця, якое, выходзячы з яе, спрыяе ўсёй сялібе [576].*

*Каноплі сеюць увечары, на заходзе сонца. Пасля сяўбы сейбіт у той вечар зусім не павінен працаваць, а калі будзе — каноплі ці зусім не ўзыйдуць, ці крыва будуць расці. Калі ён праз тры дні пасля сяўбы не бачыць парасткаў, то, каб дапамагчы гору, узяўшы качаргу, выходзіць з ёю да ўзыходу сонца ў поле і тры разы абʼязджае на ёй вакол палоскі з канаплямі [577].*

*Каб урадзіла добра гародніна, капуста, агуркі і інш., 7 ліпеня, да ўсходу сонца, жанчыны, распусціўшы валасы, у адных кашулях абягаюць тры разы грады і потым садзяцца сярод іх, завіваюць валасы вакол галавы і завязваюць хусткі [578].*

*Каб завіваліся вялікія, дужыя качаны, на Купалле, яшчэ да ўзыходу сонца, баба распранаецца дагала і робіць вакол каліва вялікае кола [579].*

*Калі ў капусты зʼявіцца хвароба карэння, якая завецца кілою, то, каб яна моцна не распаўсюджвалася, вырываюць хворае капуснае каліва і ў тое месца садзяць яго ўжо лістом уніз. Або такое каліва абносяць вакол агароджы і таксама садзяць [580].*



Гарадскі фальклор поўніцца разнастайнымі формамі. Жыццё ў мегаполісах абумоўлівае страту некаторых нагод для абярэгаў, напрыклад звязаных з раслінаводствам і жывёлагадоўляй. З'яўляюцца новыя, чыста гарадскія спосабы выканання аберагальных дзеянняў. Напрыклад, на дысплей мабільнага тэлефона змяшчаецца выява магічнай фігуры, якая нібыта «ахоўвае» ўладальніка тэлефона ад розных няшчасцяў. На лічбавыя фотаздымкі, змешчаныя ў Інтэрнэце, «прымацоўваюцца» знакі, выявы, каб адвярнуць сурокі тых, хто гэтыя фотаздымкі праглядае і г.д.

З'яўляюцца новыя абярэгі, якія «дапамагаюць» гараджаніну адчуваць сябе больш упэўнена ў крытычныя моманты. Сярод моладзі вельмі папулярныя разнастайныя тканыя навязкі, якія вырабляюцца самастойна або набываюцца дзеля засцерагання ад розных шкодных уплываў. Навязкі носяць на шыі, руках, прымацоўваюць да адзення, сумак, заплечнікаў.

Але нідзе, бадай, так не распаўсюджаны абярэгі, як у студэнцкім асяродку. Сітуацыя экзаменацыйнай сесіі, якая стварае значную напружанасць і стан няпэўнасці ў студэнтаў, садзейнічае актывізацыі магічнага мыслення і распрацоўкі рытуалаў.

Навучэнцы выконваюць разнастайныя дзеянні, якія дапамагаюць ім адаптоўвацца да навучальнага працэсу. Калі сувязь «*выканаў пэўныя дзеянні — атрымаў станоўчую адзнаку*» фіксуецца ў свядомасці, то рытуалы паўтараюцца кожны раз, каб зняць псіхалагічнае напружанне і адчуваць сябе больш упэўнена перад выпрабаваннем. Так аберагальныя дзеянні становяцца рэгулярнымі рытуаламі.

Студэнцкія абярэгі выяўляюць дакладную паэтапную распрацаванасць па меры набліжэння кульмінацыйнага моманту ўсяго навучання — экзамену. Час іх здзяйснення — задоўга да іспыту, напярэдадні іспыту, вечар перад іспытам, ноч перад іспытам, дома ўдзень перад самым іспытам, перад выхадам з дома на іспыт, падчас дарогі на іспыт, перад аўдыторыяй, у якой здаецца іспыт, пры ўваходзе ў аўдыторыю, перад выцягваннем білетаў, на іспыце, падчас іспыту, пасля іспыту, сесіі, пасля сканчэння навучальнай установы. Месцы выканання аберагальных дзеянняў — пакой, кухня, вокны, балконы, форткі, калідоры, прыбіральні, дарога на іспыт, каля дзвярэй аўдыторыі, дзе будзе адбывацца іспыт, сама аўдыторыя, месца, дзе ляжаць білеты, а таксама культавыя ўстановы (царква, касцёл). У выяўленым больш падрабязным падзеле паводле прасторы і часу заключаецца адметнасць студэнцкіх абярэгаў у параўнанні з традыцыйнымі.

Студэнцкія абярэгі цесна злучаны з прадукавальнай магіяй, варажбой, прыкметамі і павер'ямі. Яны часта падаюцца ў адных і тых самых тэкстах.

*Перад тым як выцягнуць білет, стаць на правую нагу, а цягнуць левай рукой. Пра сябе сказаць: «Цягні, мая рука, што ведае мая галава».*

Гаданні на будучую адзнаку і нумар білета выконваюцца на любым этапе.

*Для таго каб даведацца будучую адзнаку, скласці лічбы на нумары машыны, якая першай патрапіцца зранку на вочы.*

*Нумар білета пытацца ў цяжарнай жанчыны.*

Аб'ект студэнцкага абярэга — гэта сам студэнт, а таксама яго заліковая кніжка.

Агрэсіўны агент у студэнцкіх абярэгах не яўны, збольшага не мае канкрэтнага вобраза. Ім амаль заўсёды з'яўляецца сама небяспечная і малапрадказальная сітуацыя (час заліку, іспыту, сесіі, усяго навучання) і адпаведныя месцы. Бывае, што небяспечным уяўляецца выпадковы чалавек, сустрэчны, аднагрупнік, сваяк, як





у выпадку, калі ён зазірае ў залікоўку, размаўляе са студэнтам ці навучэнцам, г. зн. можа яго «сурочыць». Вельмі небяспечнай перад іспытам лічыцца сустрэча са зграяй варон — птушак, якія ў фальклоры лічацца прыналежнымі да «таго» свету.

Бадай, самым небяспечным у студэнцкіх абярэгах лічыцца месца перад сталом, дзе знаходзяцца білеты. Тут абярэгі выкарыстоўваюцца разам з гаданнямі, прыкметамі, якія «дапамагаюць» выбраць «свой» білет.

*Пабачыў білет — цягні той, які знаходзіцца злева ад яго.*

Цікава, што ніводзін інфармант не назваў выкладчыка ў якасці асобы, якая нясе небяспеку.

Суб'ектам аберагальнага дзеяння найчасцей выступае сам навучэнец або некалькі чалавек (напрыклад, пры выкліканні нячыстай сілы), зрэдку — цэлая група (як пры выраблені пояса), курс (пры спальванні ці выкідванні канспектаў). Часта аберагальныя дзеянні выконваюць блізкія сваякі студэнтаў, у пераважнай большасці жанчыны (маці, бабуля), якія ставяць за яго свечкі і падчас іспыту пераварочваюць крэслы або моляцца. Суб'ектамі з сакральным статусам, да якіх з'вяртаюцца па дапамогу, з'яўляюцца Бог, святыя, анёлы і звязаныя з іншасветам чорт, халява.

Сярод студэнцкіх ёсць такія абярэгі, якія вельмі нагадваюць традыцыйныя. У іх акцэнт надаецца сродку, які выкарыстоўваўся і ў іншых небяспечных сітуацыях. Так, часта ў тэкстах называлася хрысціянская атрыбутыка: крыж, свечкі. На адзенне студэнта прымацоўваецца шпілька, каб адпалохаць небяспеку. Тую самую семантыку маюць ножкі перакуленых крэслаў, якія нібыта ствараюць «рогі». У адным з абярэгаў быў выкарыстаны холад — прызнак «таго» свету (змяшчэнне заліковай кніжкі ў халадзільнік).

Некаторыя сродкі абярэгаў падкладаюцца ў залікоўку, напрыклад зерне, малыя грошы (рытуал змяшчэння 5 капеек у шкарпэтку пад пятку левай нагі знік з-за адсутнасці манет сярод сучасных грошай).

У студэнцкіх абярэгах ужываюцца як матэрыяльныя, так і сімвалічныя сродкі — у выглядзе магічных лічбаў. Называліся трохразовыя дзеянні, падкладанні ў заліковую кніжку *10* і *20* рублёў, *10* долараў, *першы*, хто сустрэнецца, *першы*, хто ўвойдзе ў аўдыторыю.

Магічна-рытуальныя аберагальныя дзеянні ўражваюць сваёй распрацаванасцю. Адны з іх выконваюцца з прыцягненнем сакральных сіл і сродкаў, другія звязаны з пазабаковым светам.

Значная група абярэгаў скіравана на ачышчэнне ў шырокім сэнсе слова. Так, навучэнцы перад здачай іспыту «прыцягваюць» чыстыя, светлыя сілы — мыюцца і апранаюць новыя рэчы (ачышчаюць сябе), прыбіраюць, не пакідаюць бруднага посуду, беспарадку: ставяць посуд на месца, засцілаюць ложак (ачышчаюць прастору).

Характэрнымі дзеяннямі з'яўляюцца маленне, жагнанне. Забараняецца заклікаць нячыстую сілу, дазваляецца звяртацца толькі да вышэйшых сакральных сіл — хрысціянскага Бога. Малітвы, замовы часта маюць акрэслены змест, але могуць прамаўляцца і ў адвольнай форме. Зместам тэксту з'яўляецца пажаданне наконт паспяховай здачы. Рухі ў такіх абярэгах часта здзяйсняюцца з правай нагі, правай рукі, што тлумачыцца жаданнем, каб усё было «правільна». Сыход на здачу ўпотайкі, не развітаўшыся, забарона спяваць, слухаць музыку паказвае на імкненне не забрудзіць гукам сакралізаваную прастору. Падобнай з'яўляецца забарона аддаваць свае рэчы аднагрупнікам, пра нешта запытвацца ў тых, хто здаў іспыт, каб захаваць сваю прастору чыстай ад староннiх людзей.

Заліковая кніжка мае недатыкальны статус: яе перавязваюць, хаваюць у пакеты, не адкрываюць падчас сесіі. Групавыя выкіданні тэхнічных прылад, слоікаў, спальванні канспектаў вельмі нагадваюць ачышчальныя рытуалы на Каляды, Чысты чацвер, Купалле і інш.

Вялікая група сабраных абярэгаў накіравана на ўступленне ў хаўрус з нячыстай сілай. Фіксаваліся звароты да яе дзеля спрыяння на экзамене:

> *У 12 ночы 3 разы крычаць на балконе: «Халява, прыйдзі!». Хутка закрыць залікоўку, перавязаць яе вяровачкай чырвонага колеру, пакласці ў лядоўню. Толькі выкладчык мае права развязаць вяровачкі.*

Часта ў абярэгах з прыцягненнем нячыстай сілы акцэнтуюцца левыя, ніжнія часткі цела і прасторы. Даваліся парады «стаць нячыстым» самому студэнту: не мыцца, не галіцца, не зразаць пазногцяў, не прыбіраць, не засцілаць ложка, наўмысна забруджваць пальцы, ствараць хаос, рабіць бясчынствы, наладжваць шабасы, г. зн. прыпадабняцца нячыстай сіле. Забараняецца апранаць новыя рэчы, адзенне трэба апранаць навыварат, здзяйсняюцца акты пераварочвання розных прадметаў.

Робяцца і розныя непрыстойныя дзеянні, напрыклад складванне фіг, прычым іх хаваюць за спіной, у кішэні, апускаюць долу. Цікавай падаецца парада, ідучы на здачу, пераскокваць лужыны, а не абыходзіць. Тут лужына з'яўляецца аналагам люстэрка, праз якое можна патрапіць у іншасвет. Пераскокнуць — г. зн. толькі крыху, без вялікай небяспекі спрычыніцца да «нячыстых» сіл.

Бывае, што сакральнае і іншасветнае ў студэнцкіх абярэгах спалучаецца: пры выбары білета стаяць на левай назе, а білет цягнуць правай рукой і г.д. Такія абярэгі сярод традыцыйных выкарыстоўваліся ў час найвялікшай небяспекі.

Адметнасцю студэнцкіх абярэгаў з'яўляецца адсутнасць «пазбаўляльных» рытуалаў, якія былі частымі сярод усіх знойдзеных тэкстаў.

Тэксты абярэгаў, што прыводзяцца ніжэй, з'яўляюцца ўласнымі запісамі аўтара. Былі апытаны студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, а таксама знаёмыя аўтара, якія скончылі іншыя ВНУ г. Мінска.

Першыя вынікі вывучэння студэнцкага фальклору паказваюць, што ў ім знаходзіць выражэнне сістэма старажытных уяўленняў і вераванняў, якая ўвасабляецца ў падобных да традыцыйных рытуальных дзеяннях. Большая частка магічных рытуалаў выконваецца студэнтамі ў напаўжартаўлівай форме і, зразумела, не павінна прымацца ўсур'ёз як кіраўніцтва да дзеяння.

### Заўсёды для студэнта

Нельга, каб чужыя людзі адкрывалі залікоўку на працягу пяці гадоў падчас сесіі, перад экзаменам.

Для таго каб нармальна, без праблем вучыцца і скончыць, трэба загнуць у канцы залікоўкі старонку, дзе будуць ставіцца адзнакі за дзяржаўныя іспыты, пасярэдзіне, напапалам. Не адкрываць загнутай старонкі да канца навучання.

### Задоўга да іспыту

Бабуля, мама студэнта ставяць свечкі ў царкве, касцёле ў дзень іспыту, перад усёй сесіяй, перад навучальным годам.

Каб паспяхова здаць, трэба маліцца, прасіць за сябе перад іконай св. Мікалая Цудатворца.

Усёй групай за 45 хвілін (на занятках, бо было такое заданне) вырабілі двухметровы пояс з паперы ў традыцыйных колерах: белых, чырвоных, чорных. Запэўнілі, што будуць браць на ўсе іспыты, залікі з мэтай, каб усе добра здавалі.







Не адкрываць залікоўкі да іспыту, першым гэта робіць выкладчык.

Падчас усёй сесіі адкрываць залікоўкі самому і бацькам нельга.

Не прыбіраць падчас сесіі.

### Напярэдадні іспыту

Свечкі ў царкве ставіць. Трэба рабіць і перад іспытам, і пасля.

Мыцца перад іспытам.

Не стрыгчы, не расчэсваць валасоў, не зразаць пазногцяў.

Перад іспытам не мыцца.

Не мыць галавы перад здачай.

Залікоўку перад іспытам класці ў маразілку. Не адкрываючы несці яе на іспыт.

Наліваць у празрыстыя шклянкі ваду да самых краёў. Калі наліваеш, казаць: «Госпадзі, дапамажы здаць!» Акуратна несці шклянкі да акна, праліваць ваду нельга, бо дрэнна здасі. Чым больш нальеш шклянак, тым лепш.

### Увечары перад іспытам

Бегаць 3 разы вакол свайго дома супраць гадзіннікавай стрэлкі.

Перавязаць 3 разы крыж-накрыж залікоўку стужкай. Пакласці пад сваю падушку.

### Ноч перад іспытам

На ноч перад іспытам паставіць 3 шклянкі вады на падаконнік. Нельга, каб нехта іх чапаў, пераварочваў. Калі шклянкі перавярнуць, то іспыт праваліцца.

У 12 ночы 3 разы крычаць у вакно: «Халява, прыйдзі!» Закрыць залікоўку, перавязаць яе ніткамі. Мець чым-небудзь запоўнены слоік. Калі хочаш вельмі высокі бал, то трэба ўзяць трохлітровы слоік, калі меншую адзнаку, то згадзіцца і паўлітра. Скінуць уніз. Закрыць акно, балкон, фортку.

У 12 ночы 3 разы крычаць на балконе: «Халява, прыйдзі!». Хутка закрыць залікоўку, перавязаць яе вяровачкай чырвонага колеру, пакласці ў лядоўню. Толькі выкладчык мае права развязаць вяровачкі.

Студэнты, звязаныя з тэхнічнымі спецыяльнасцямі, мусяць сканструяваць стары тэлевізар, камп'ютар ці любую іншую побытавую тэхніку. У 12 ночы 3 разы крычаць у акно: «Халява, прыйдзі!», пры гэтым выкінуць зробленае за акно.

Падручнік ці сшытак, па якім вучылі ўвечары, пакласці пад падушку на ноч, каб веды самі перацякалі ў галаву падчас сну.

### Дома ўдзень перад самым іспытам

Прычапіць зашпіленую шпільку з адваротнага боку швэдра, блузкі ці пінжака, як выходзіш на іспыт.

Класці ў залікоўку зерне.

Зранку перад іспытам не спяваць, не слухаць музыкі.

Перад іспытам трэба, каб сямейнікі і іншыя людзі жадалі ўдачы.

Нельга жадаць удачы, нельга казаць магічныя словы. Можна толькі: «З Богам!».

Перад выхадам на экзамен ці іншае цяжкое выпрабаванне трэба, каб хтосьці з дамашніх пажадаў: «Ні пораху, ні сінега!».

Як студэнт пайшоў на экзамен, сямейнікі наліваюць шклянку вады, ставяць яе на падаконнік і адчыняюць фортку.

Хоць адна рэч з тых, у якіх ідзеш на іспыт, павінна быць новаю.

Перад іспытам усю вопратку, абутак апранаць, абуваць з правай рукі, нагі.

Апранаць на іспыт адзенне, у якім шанцуе.

Змяняць адзенне, калі на папярэднім экзамене ў ім не пашанцавала.

Нельга пакідаць брудныя міскі, посуд на стале, абавязкова ўсё памыць, паставіць на месца.

Перад іспытам усё павінна быць у парадку. Ложак мусіць быць засцелены.



У любы адказны дзень пажадана (а перад іспытам абавязкова), калі што-небудзь забываеш у хаце і вяртаешся, каб узяць, паглядзець у люстэрка.

Класці 20 рублёў/ 10 рублёў/ 10 долараў у залікоўку, каб дрэннай адзнакі не было.

Сыходзіць з дома, каб ніхто не ведаў, не развітаўшыся, употай.

Нельга, каб казалі: «Шчасліва», «Ні пуха ні пяра». Ідэальна, каб нічога не казалі.

Для хлопцаў: не галіцца перад іспытам.

Не запраўляць ложак зранку перад іспытам.

Не выносіць смецця з хаты.

Не апранаць новага адзення.

Перад тым як выходзіць на іспыт, залік, падняць усе крэслы ў доме ножкамі ўгору.

За адну гадзіну да іспыту ўсе венікі, мяцёлкі дома перавярнуць, куртку ці пінжак апрануць наадварот, так пахадзіць. Адзенне апрануць на нармальны бок і ісці на іспыт.

### У дзень іспыту дома, па дарозе, на парозе аўдыторыі

У дзень экзамену трэба пераскокваць праз усе парогі, пачынаючы ад свайго дома да парога аўдыторыі.

### Перад выхадам з дома на іспыт

Як ідзеш на іспыт, бялізна мусіць быць чырвонага колеру.

На руку трэба надзяваць навязку чырвонага колеру.

Ладанам памазаць кісці, шыю.

Перад выхадам на экзамен студэнт у сваім пакоі мусіць перавярнуць усе крэслы, паставіць іх ножкамі ўверх, сядзеннямі на стол.

У сваім пакоі прасіць вышэйшыя сілы: «Дапамажыце здаць».

### Падчас дарогі на іспыт

Як выйшаў з хаты (у пад'ездзе, на вуліцы), пасядзець на карачках.

Даваць грошы цёткам, якія стаяць каля метро, каб яны за цябе маліліся. Цёткі звычайна запісваюць, як цябе клічуць і ў які час ты здаеш.

Калі ляціць зграя варон, як ідзеш на іспыт, трэба сесці (як згрупіравацца) і прытрымаць кішэні ці засунуць туды рукі, каб двойку не атрымаць.

Калі студэнт выйшаў на іспыт, то мама ці сястра, ці іншыя члены сям'і пераварочваюць венікі.

Перад іспытам не абыходзіць лужы, а пераскокваць.

Як ідзеш на іспыт, забараняецца размаўляць. Калі хтосьці спыніў, звярнуўся, то на іспыце будзе туга.

Нельга падчас дарогі на іспыт спатыкацца на левую нагу.

### Перад аўдыторыяй, у якой здаецца іспыт

Перад іспытам памаліцца.

Хрысціцца перад іспытам.

Нікому не аддаваць рэчы, з якімі ідзеш на іспыт, таму што ўдачу аддаеш. Даваць толькі пасля таго, як выйшаў.

Перад тым як зайсці на іспыт, сказаць: «Мядзведзі, воўкі, усе мелкія звяры, леўзвер к вам ідзе. Усім маім звярам — рычаць, а ўчыцелям перада мной — маўчаць».

Перад тым як увайсці ў аўдыторыю, дзе праводзіцца іспыт, нельга, каб залікоўка падала. А калі ўжо ўпала, трэба хутка на яе сесці, тры разы папляваць налева, левай рукой аб сябе абцерці, толькі тады ісці здаваць. (Тлумачэнне даецца ў наступным павер'і: «Раняць залікоўку нельга, бо выцягнеш дрэнны білет, будзе дрэнная адзнака»).

Нічога не запытвацца ў чалавека, які выйшаў. Не адказваць на пытанні аднагрупнікаў у чаканні здачы.

Перад аўдыторыяй на паперы малюецца падкова дугою ўніз. Неабходна, каб



першы чалавек, які заходзіць здаваць, пастаяў на гэтым аркушыку.

### Пры ўваходзе ў аўдыторыю

Трымаць фігу, калі ўваходзіш у аўдыторыю, дзе будзе здавацца іспыт.

З правай нагі ўваходзіць у аўдыторыю.

Заходзіць у аўдыторыю, дзе здаецца іспыт, з левай нагі, цягнуць білет левай рукой.

Калі адчыняеш дзверы, сказаць: «Ангел мой, ідзі са мной, ты ўперадзе, а я за табой!».

Калі на іспыце сядзіць камісія, як толькі ўвайшоў у аўдыторыю, трэба сказаць самому сабе: «Я прыйшоў/прыйшла да Вас са Святой Пасхай, а Вы будзьце ка мне з ласкай». Лепей тры разы. Абавязкова пасля гэтага павітацца.

Маленькі кавалак проскуркі, хлеба пакласці пад язык, моўчкі зайсці ў аўдыторыю. Калі пераступаеш парог — зглытнуць, у гэты час думаць пра нумар білета, які хочаш выцягнуць.

### Перад выцягваннем білетаў

Перад тым як цягнуць білет, перахрысціць вачыма ўсе білеты.

Скрыжаваць другі і трэці пальцы рукі падчас выбару білета.

### На іспыце. Падчас іспыту

Лаяць чалавека, які здае іспыт, не ўжываючы слова «дурань».

Падчас здачы экзамену хатнія павінны лаяць свайго студэнта, кажучы пры гэтым, што той нічога не ведае і не здасць.

На іспыце, кантрольнай патрымацца за сучок на парце і сказаць: «Чорт, чорт, памагі! Чорт, чорт, адвраці!».

Калі студэнт знаходзіцца на экзамене, сямейнікі ў гэты час на кухні пераварочваюць усе крэслы ножкамі ўгору.

Калі ў чалавека адказнае мерапрыемства, маці ў кішэні мусіць трымаць фігу.

Людзі, прыхільныя да навучэнца, мусяць трымаць кулакі падчас меркаванага іспыту.

### Пасля іспыту, сесіі

Пасля таго як здаў іспыт, падбіць нагой залікоўку.

Канспекты выкідаюцца з будынка ўніверсітэта пасля сесіі.

Адзначаць добрую здачу, весяліцца, пры гэтым выліць на залікоўку пару кропель спіртнога.

### Пасля сканчэння навучальнай установы

Студэнты калектыўна зносяць усе свае канспекты і паляць на вогнішчы, якое разводзяць у двары інтэрната, на пустыры, у лесе.

